паэтаў Беларусі: 28 жніўня – 75 гадоў Генадзю Бураўкіну, 30 верасня – 80 гадоў Нілу Гілевічу, 18 лістапада – 80 гадоў Анатолю Вярцінскаму. Я шчаслівы, што не толькі знаёмы з гэтымі магутнымі асобамі, але і ганаруся сяброўствам з імі. Перш-найперш яны асабліва блізкі мне сваёй адданасцю беларушчыне, як шчырыя змагары за беларускасць: родную мову, літаратуру, культуру, адукацыю, незалежную дэмакратычную краіну, росквіт беларускай зямлі і яе народа. Яны сапраўдныя адраджэнцы сучаснасці.

Жыццёвыя і ў значнай меры творчыя шляхі ўсіх трох паэтаў у галоўных момантах блізкія: дзеці вайны, якія пазналі жахі таго галоднага і жудаснага часу; з дзяцінства ўвабралі ў сябе ад народа і асабліва ад роднай маці ўсю прыгажосць беларускай мовы, народных песен і фальклору; з маленства адчулі вялікую асалоду ад яднання з ласкавай цудоўнай прыродай Беларусі; па заканчэнні журналісцкага ці філалагічнага факультэтаў БДУ трапілі ў шчыры беларускі асяродак сваіх таленавітых аднагодкаў-літаратараў і атрымалі падтрымку старэйшых калег і настаўнікаў; ступілі на разнастайныя шляхі літаратуры, журналістыкі, грамадскай і дзяржаўнай дзейнасці; па часе станаўлення належаць да так званых “шасцідзесятнікаў”; дасягнулі завоблачных вяршынь майстэрства ў літаратуры і перш-найперш у паэзіі.

Іх аб’ядноўвае надзвычайная таленавітасць у многіх напрамках дзейнасці, якая здзіўляе шырокай шматграннасцю. Безумоўна, галоўнае ў іх – найвышэйшае майстэрства ў прыгожым пісьменстве. І тут зноў разнастайнасць напрамкаў: на першым месцы высокая мастацкая паэзія (лірыка кахання, філасофская, грамадзянская, дзіцячая, сатыра і гумар, вершы і паэмы, а ў Н. Гілевіча – нават раман); празаічныя, драматургічныя і публіцыстычныя творы; літаратуразнаўчыя і крытычныя працы, эсэ і літаратурныя партрэты; мастацкія пераклады. Ва ўсёй іх творчасці прываблівае шчырасць, бескампраміснасць, гуманізм, барацьба з абыякавасцю. Усе іх творы прапушчаны праз сэрца. Многія іх вершы вельмі мілагучныя і таму сталі шырока вядомымі прыгожымі песнямі. Вялікую павагу выгукае дзейнасць нашых славутых паэтаў на пасадзе карэспандэнтаў, рэдактараў газет і часопісаў, высокіх грамадскіх і дзяржаўных асоб, што шырока вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Нягледзячы на такі, здавалася б, аналагічны шлях да вышынь творчасці, кожны з іх стаў самабытным творцам прыгожага пісьменства.

Я вельмі рады, што мне давялося на розных сцежках сутыкнуцца з гэтымі выдатнымі людзьмі і ўдзячны ім за тую цікавасць, якую яны мелі да жыцця і творчасці Гарэцкіх, аб чым я заўсёды з прыемнасцю памятаю.

Генадзь Бураўкін, калі быў галоўным рэдактарам часопіса “Маладосць”, вельмі спрыяў выданню падрыхтаваных Алесем Адамовічам пісем з фронту “На дваццаць другой вясне…” (№9, 1974) Леаніда Гарэцкага, сына Максіма Гарэцкага. Мне прыходзілася быць разам з Бураўкіным на многіх літаратурных і іншых сустрэчах, пасяджэннях, асабліва часта ў

Таварыстве беларускай мовы (у самыя цяжкія часы якога ён быў старшынёй), Рады інтэлігенцыі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і інш. Мяне заўсёды ўражвала яго актыўнасць, прынцыповасць, нераўнадушнасць, лагічасць і красамоўнасць выступленняў.

Яго вялікія арганізацыйныя здольнасці добра адчуў, калі я разам з ім, а таксама Рыгорам Барадуліным і Анатолем Грыцкевічам былі сустаршынямі Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда за незалежнасць (2000 г.). Тады, у канцы 90-х гадоў і на стыку стагоддзяў, была вялікая небяспека аб'яднання Беларусі і Расіі і поўнай страты суверэнітэту краіны. Была падпісана дэкларацыя, а затым і дагавор аб аб'яднанні Беларусі і Расіі ў Саюзную дзяржаву, гаспадар Беларусі вёў азартную барацьбу за "шапку Манамаха" ў Крамлі ў абмен на суверэнітэт сваёй краіны. Пазней ён гатоў быў правесці бартэрны гандаль абмена беларускай нацыянальнай валюты на пасаду віцэ-прэзідэнта Саюзнай дзяржавы: "Я предложил Борису Ельцину, чтобы он стал президентом Союза, я согласен занять пост вице-президента». У той час любы грамадзянін Беларусі, які быў супраць стварэння Саюзнай дзяржавы і за незалежнасць сваёй краіны, улады і ўся чыноўнічая вертыкаль лічылі яго "апазіцыянерам" і "ворагам народа". Таму арганізацыя Усебеларускага з'езда за незалежнасць патрабавала пэўнай смеласці і значных намаганняў. Тым больш, што перашкоды мы адчувалі не толькі ад афіцыйных структур, але і ад многіх кіраўнікоў апазіцыйных дэмакратычных партый, якіх, як гэта часта ўжо здаралася, мучылі амбіцыі. Галоўным маторам у нашым Аргкамітэце менавіта быў Генадзь Бураўкін, і таму з'езд атрымаўся паспяховым. Ён адкрываў і праводзіў першы дзень з'езда, а я рабіў асноўны даклад. Толькі значна пазней, калі Пуцін прапанаваў аб'яднанне шляхам далучэння да Расіі беларускіх абласцей, галоўны беларуска-расійскі і ўсеславянскі інтэгратар імгненна ператварыўся ў незалежніка і часта стаў гаварыць словамі дэмакратычных сілаў.

Ніл Гілевіч заўсёды вельмі прыхільна ставіўся да творчасці Максіма Гарэцкага і шмат разоў ўзгадваў яго як класіка беларускай літаратуры, надрукаваў два эсэ "Велічыня першага роду" і "Ён ведаў свой народ, як мала хто іншы"[8], прысвяціў верш "Дзе вы, дбайныя рупліўцы песень родных?" Тое ж можна сказаць і пра Гаўрылу Гарэцкага, якому Ніл Гілевіч да 80-годдзя таксама прысвяціў асобны вялікі верш "Акадэміку Г.І. Гарэцкаму". Ён выступаў на ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных юбілею Максіма Гарэцкага, на навуковай канферэнцыі да 100-годдзя Гаўрылы Гарэцкага, з прывітальнымі словамі на шэрагу Гарэцкіх чытанняў. Разам са мной ён абрэзаў чырвоную стужку на адкрыцці музея Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. У вельмі многіх з'ездах, нарадах, пасяджэннях мне прыйшлося ўдзельнічаць разам з Нілам Гілевічам і заўсёды яго прысутнасць прыдавала значнасць гэтым

8.Гілевіч Ніл, *Збор твораў*, Мінск 2009, т. 16, с. 224—232.

мерапрыемствам. Яго выступы былі аднымі з самых прыкметных, бо ён, як бліскучы прамоўца,  выступаў вельмі даходліва і пераканаўча.

Анатоль Вяцінскі выступіў з яскравай прамовай на 100-годдзе Гаўрылы Гарэцкага, якая затым была надрукавана пад назвай "Ён казаў Радзіме: "Я так любіў цябе, мая адзіная"[9]. Да майго 70-годдзя напісаў верш "Паходжанне прозвішча", а пазней "Чытаю Гарэцкіх"[10]. Анатоль Вярцінскі некалькі разоў удзельнічаў у Гарэцкіх чытаннях і выступаў з цёплым прывітальным словам. На многіх іншых мерапрыемствах, якія часткова ўзгадваў ужо раней, я ўважліва слухаў выступы Анатоля Вярцінскага, якія заўсёды ішлі ад сэрца, былі эмацыянальнымі і адгукаліся ўсхваляванымі слухачамі.

На апошніх XIX Гарэцкіх чытаннях (18 лютага 2011 г.) дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп пасля прывітальнага слова перадаў дырэктару Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіі Макарэвіч партрэт Максіма Гарэцкага, які выдавецтва па заказу Міністэрста адукацыі надрукавала для школ у пераліку класікаў беларускай літаратуры. Пазней, калі я завітаў да Ніла Гілевіча, убачыў у яго такога ж кшталту партрэт народнага паэта. Ён растлумачыў, што гэта яму перадалі з выдавецтва "Мастацкая літаратура". Нягледзячы на тое, што Ніл Гілевіч у нашых улад лічыцца ў шэрагу апальных, талент прабівае асфальт нядобразычліўства рэжыму, і чыноўнікі вымушаны прызнаць яго за жывога класіка. Тое ж тычыцца Генадзя Бураўкіна і Анатоля Вярцінскага. Усе тры выдатныя постаці – класікі беларускай літаратуры, якімі ганарыцца наша Бацькаўшчына.

*Чэрвень 2010 г. – травень 2011 г.*

---

9. Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. *Успаміны, артыкулы, дакументы*, "Тэхналогія", Мінск 2000.
10. Вярцінскі Анатоль, *Выбраныя творы*, "Кнігазбор", Мінск 2009.

Відушчаму як сумна споўдацца сярод сляпых,
“*О, зразумейце тольki,* – кажа, – й будзе прасвятленне!
*О, зразумейце тольki*, носьбітам якіх з’яўляецеся сіл, –
І шлях асветліцца, і знікнуць ўсе сумненні,
І дасца вам само, чым лёс вас надарыў!”

Апалон Майкаў, *Ф.І. Цютчаву* (1873)
(Пераклад Я.Ч.)



У 2011 годзе спаўняецца
80 гадоў **Нілу Гілевічу** і **Анатолю Вярцінскаму**,
75 гадоў **Генадзю Бураўкіну** –
вялікім падзвіжнікам
на ніве беларускага прыгожага пісьменства.

Прыміце самыя сардэчныя і шчырыя віншаванні
ад “белавежцаў”

# Анатоль Вярцінскі

## Ад чаго мой сум?

Не ад таго мой сум,
што я не таўстасум,
што, можа, ў нечым абыйшоў калега.
Не ў гэтым мае альфа і амега.
Не, іншага паходжання мой сум.
Не ад таго мой сум, што каралю не кум,
што не заўсёды з лёсам быў у згодзе
і што не аптыміст я па прыродзе...
Не, пэўна ўсё ж не ад таго мой сум.
Хутчэй за ўсё ён, мабыць, ад таго,
што больш нашмат нагодаў для яго,
чым для уцехі, чым для весялосці.
Не ладзіцца во шчасце штосьці
у люду беларускага майго.
Чужая сіла зноў тут правіць баль.
Трывога... Паняверка... Скруха...
І гэтак мала радаснага духа.
Да гэтага ж яшчэ, на жаль,
хварэем во, старэем во... Але.
Жанчыны нашыя цяжэй за нас хварэюць.
Жанчыны нашыя раней за нас старэюць,
і страху таго больш на іх чале.
А гэта ліха, смерцю што завем
і што, як тая злая зграя,
штодзень і ўсюды нас падсцерагае.
Пад знакам сваёй смертнасці жывем.
Не ад таго мой сум,
што я не таўстасум.
Як бачыце, ад іншага мой сум.

# Да пытання аб адпаведнасці

“Злуе і мучыць неадпаведнасть...”
*З ранейшых вершаў*

“ – Калі б вы сталі кіраўнікам Беларусі, што б вы зрабілі найперш?
– Увёў бы ў дзеянне закон Адпаведнасці, а сам вярнуўся б да таго, чым займаюся цяпер.”
*Адказ Алеся Разанава на пытанне анкеты*

Так, мучыць нас неадпаведнасць...
Багацце мрояў – явы беднасць,
бліскучасць формаў – зместу бледнасць,
дабра мінучасць – вечнасць зла,
святло надзей – няўхільнасць тла.

А колькі, бачыце, амбіцый
без адпаведных амуніцый,
ці гэтых вось, гатовых біцца,
каб першымі быць на жніве,
хоць там не сеялі, але.

Сумленню – вучыць несумленны,
а разуменню – дурань гэны,
што ў дураце сваёй нязменны.
А суддзі хто? Хто судзіць нас?
Ці не падсудныя якраз?

Жыццё дае урок за ўрокам,
а мы ідзем ўсё тым жа крокам,
шлях азіраем тым жа зрокам,
ніяк не можам у жыцці
ўсё тыя ж граблі абыйсці.

Цяпер вам, пэўна, зразумела,
чаму Разанаў гэтак смела,
бы муж дзяржаўны пробы спелай,
сказаў як пра заветны кон, –
пра Адпаведнасці закон...

## Што было напачатку

*Дыпціх*

1
Бывае: ледзьве-ледзьве ідзеш,
цяжар несучы жыццёвы.
Ды раптам дух перавядзеш
і зразумееш, што не ўпадзеш,
што поўнішся моцаю новай.
Бывае: не можаш узняць вачэй,
становіцца роспач нясцерпнай.
Але застогнеш – і стане лягчэй
і стане табе лепей.
Само сабою – ў выпадках тых –
напрошваецца выснова:
ратуюць нас стогн і ўздых,
калі бяссільнае слова.

2
Не слова ўсё ж напачатку было.
Ішло ўсё ў іншым парадку.
Уздых і стогн былі напачатку,
а з іх ужо потым слова расло.
За гукам гук, за складам склад
з’яўляліся, прарасталі словы,
словы-паняткі, словы-назовы...
І калі справа ідзе ў нас на лад –
мы радасна іх прамаўляць гатовы.
Ну а калі /глядзі вышэй/
табе не да слова, не да сказу, –
глыбока ўздыхнеш – і стане лягчэй,
застогнеш – і стане лепей адразу.

## Дзе?
*Пытанне да сясцёр*

> “– Скажы мне, скажы, Насця,
> што сталася з намі такое:
> дзе нашыя людзі прапалі,
> дзе згінулі нашы дзянёчкі,
> чаму ўсё навыварат, ніцма?”
>
> *З верша Яна Чыквіна “Размова с сястрою”*

Сёстры мае, маё вам вітанне!
А разам з ім і маё пытанне,
якое ўсё з галавы не йдзе:
“Дзе?”
Што, родныя, маю я на ўвазе?
Вёску нядаўна наведаў аказіяй.
І вось, калі адчынілі хатку,
не па сабе мне стала спачатку,
стала мне потым страшнавата:
холадна дужа сустрэла хата,
сустрэла такой пустатой-нематой,
нібы казала: “Няма мяне той...”

Так, гэта была сустрэча з пустэчай.
Ніводнай той рэчы, ніводнай той рэчы...
Дарэмна мой позірк блукаў з кута ў кут, –
нічога ўжо ён не знаходзіў тут.
Дарэмна мой позірк блукаў па хаце.
І затужыла душа па страце.
І думка забілася, як у бядзе:
“Дзе?”

Дзе той гладыш? Дзе кварта тая?
Дзе тая даёнка? – памяць пытае. –
Дзе тая кадзь, кадушка, кадка?
Дзе гаранец той? – не адказвала хатка. –
А той цабэрак? А тая дзежка?
А той куфэрак? А качарэжка?
Здаецца ж, былі яны кагадзе.
“Дзе?”

Куда дзяваліся – дзедава світа?
Лубка-сявенька? Рэшата-сіта?
Пытаюся, сёстры. Загадка гняце.
“Дзе?”

А тая іконка, пра нас што дбала,
з покуту строга на нас паглядала?
Нябачна яе ў цемнаце-пустаце.
“Дзе?”

Дзявалася дзе яно, усё тое,
лагоднае, роднае, святое,
жыццедайнае, жыватворнае,
незаменнае, непаўторнае?
Зляцела з ветрам? Сышло у нетры?
Растварылася ў паветры?
Было ды сплыло? А ў якой вадзе?
“Дзе?”

Скажы мне, Ліда, скажы мне Франя?
Што за планіда, за наканаванне?
Знаю, дзе зніклі дзянёчкі нашыя.
А вось дзе пажыткі тыя ўчарашнія?
Дзе скарб той хатні? Пытанне гняце.
“Дзе?”

# Ніл Гілевіч

## Дзённік: год 1997-ы

*1-га студзеня.* “Вось і яшчэ на год бліжэй...” Усю ноч глядзеў тэле — слухаў выдатных спевакоў Расіі. А па нашай праграме ўсё ішло проста бяздарна. А вечарам сёння ў “панараме” выпусцілі на экран — ад імя творчай інтэлігенцыі — двух песняроў вечнасці. Але ж і хітрыя хлопцы! Пры любой уладзе кароўку даіць будуць! Каб табе слова пра Беларусь і што яе чакае ў 1997-м!

*2-га студзеня.* Цэлы дзень рэдагаваў (па сутнасці, перапісваў нанава) артыкул “Да чаго і дзеля чаго вяртацца?” — апошні ў 1996-м, а можа — апошні палітычны артыкул наогул. Выкінуў усё, што датычыць эканомікі, пакінуў “незалежнасць, мову, гісторыю”.

Нешта са мной пачало нядобрае рабіцца. Як бы апусташаецца душа і з яе выходзіць хэнць жыць.

*3-га студзеня.* З ранку да ночы перадрукоўваў артыкул. Перачытаў. Усё адно шмат засталося эканамічна-сацыяльнага, пададзенага грубавата-фельетонна. Давядзецца скарачаць яшчэ. А пошта так і не прынесла віншаванняў ад тых, ад каго чакаў. Ні званкоў, ні пісем. Думаю, што гэта не так сабе. Не проста ад ляноты душэўнай.

*4-га студзеня.* Яшчэ ўчора пытаўся ў Ніны, ці не дарэмна я напісаў ліст расіянам — нешта ўзнікла сумненне. А сёння ў “ЛіМе” ён надрукаваны. Прачытаў разы чатыры — і супакоіўся. Не дарэмна! Я павінен быў яго напісаць! Павінен! Я не мог не напісаць яго! Хай ведаюць, што мы думаем пра іх красамоўныя заклікі да братэрства і іх рэальную палітыку.

Першы нумар “ЛіМа” падпісаны новым прозвішчам. А ўсё-такі агідна мне думаць пра гэту расправу над “ЛіМам” і над Гілём. Агідна!

Саюз пісьменнікаў за Беларусь не пастаяў. Балота! П’янае, гнілое

балота! Панаваць ад гэтага часу цалкам пачнуць хітранькія.

Кепска на душы, вельмі кепска! Усе сілы на зыходзе. Відаць, “зыходныя” будуць і вершы, якія ў гэтыя першыя дні Новага пачаў пісаць.

Дамовіўся з Сярэдзічам, што пасля Каляд, 8-га, артыкул перадам яму.

*9-га студзеня*. Учора артыкул “Да чаго і дзеля чаго вяртацца...” аддаў Сярэдзічу — сказаў: не пазней як праз тыдзень надрукуе. Пішу вершы. Будзе невялічкая нізка пра... каханне. Самы час, самы раз!.. А можа — і сапраўды “самы”?

*10-га студзеня*. Пазваніў А.Русецкі. Вельмі хваліў мой ліст расіянам (“дакладна, востра, смела, справядліва”, “як заўсёды”, “з вялікім захапленнем прачытаў” і г.д.). Раней за яго адазваліся толькі Быкаў і Бураўкін. Генадзь — не спецыяльна, а ў размове — тэлефоннай — аб іншым. Быкаў, як і я, упэўнены, што ні адна расійская газета, нават самая раздэмакратычная, майго ліста не надрукуе. Я гэта ведаю даўно: увесь іх дэмакратызм канчаецца ўраз, тут жа, як толькі даходзіць да пытання аб незалежнасці Беларусі, аб дзяржаўнасці беларускай мовы, аб яе дзяржаўным панаванні ў нас і інш.

Званіў Мікола, сказаў, што заходзіў, каб даць устаноўкі, новы рэдактар “ЛіМа”. Крывіўся і кісліўся, бо “там — рвут и мечут”, асабліва ад паэмы “пра эпідэмію курынага смеху”. “Гнать из ЛиМа немедленно! Гнать!” (Міколу). Паэму безагаворачна прыпісваюць мне, у тым ліку і Н-еў. (“Дык гэта ўсе ведаюць!..”)

Бедны Мікола! Ці надоўга яго хопіць, каб не зламацца наогул? Наконт паэмы... ён быў неасцярожны, рыхтуючы мой арыгінал да друку: забыў, што ў “ЛіМе” ёсць гэныя самыя.

*15-га студзеня*. Артыкул у “Народнай волі” надрукаваны. Яшчэ раз расставіў усе кропкі над “і” наконт нацыянальнай палітыкі Крамля ў мінулым (СССР — КПСС) і сёння, і наконт тых халуёў-нікчэмцаў з ліку беларусаў, якія гэтай палітыцы слугуюць.

У прэсе і ў эфіры — толькі і размоў, што пра пасланне Ельцына наконт паглыблення інтэграцыі паміж РФ і РБ і канкрэтна — аб агульным аб’ядноўчым рэферэндуме. Спяшаюцца, пачвары! Баяцца ўпусціць час! Ведаюць, што час працуе не на іх.

*19-га студзеня*. Пазаўчарашняя сустрэча Л. і К. у Гомелі выклікала вялікую злосць у Маскве. Загудзелі, як патрывожаныя восы. Пралічыўся наш “стратэг”. Даюць яму зразумець, што ты, гэта самае, не вельмі. А то пасадзім на месца. Цікава было б ведаць, што канкрэтна сказаў нашаму Кучма. Няўжо не “ўрэзаў”?

Наконт майго артыкула пазванілі ажно... тры чалавекі, з іх пісь-

меннік адзін — М. Матукоўскі. Можна падумаць, што самі мае калегі пішуць і друкуюць такія артыкулы кожны дзень.

*22 студзеня.* Ужо колькі дзён правяраю стужкі з запісамі народных песень — на прадмет высвятлення якасці, бо запісы пераважна 70-х гадоў. У свой час у мяне іх прасіла Акадэмія — не аддаў, спадзяваўся, што спаркуюся з якім кампазітарам і выдам вялікі том з нотамі сам. Як бачу сёння, спадзяванні былі дарэмныя. Давядзецца ўвесь гэты скарб (каля 150 стужак) перадаць цяпер. Дарэчы, колькі там усяго песень? Калі на кожнай 10 — то паўтары тысячы. Але ж ёсць і па 20, і па 30 на адной стужцы. Значыць, мінімум тысячы тры? Буду прасіць, каб выдалі асобным томам з паметкай "З фонду (ці з архіву) Н.Г.". Вядома ж, пасля таго, як гэты Н.Г.... Раней не зробяць. І праца не малая, і няма за што выдаваць.

Усе "жорсткія рамансы" і "гарадскія", "псеўданародныя" песні здымаю са стужак — для задумы перарабіць іх у "Песні прапашчага" — задумы, якая мучае мяне ўжо гады два.

*23-га студзеня.* Тыфозная газетная вош папоўзала на старонках "Знамя Юнасці" і напаскудзіла мне і майму брату. Данос Гэнаму — з патрабаваннем неадкладна выгнаць Гіля з "ЛіМа" наогул, а то, ці бач, у намесніках рэдактара застаўся. Але ж і вош! Божа літасцівы, і чаму Ты дапусціў, каб іх столькі напаўзло да нас!

*24-га студзеня.* Было кепска — дык наце вам лепш! Узурпатар замяніў Бельскага... Замяталіным! Увесь друк Беларусі аддадзены ў рукі расійскага палкоўніка, які нават чытаць па-беларуску не ўмее. Усякае пачварства бачыў на гэтай няшчаснае зямлі — такога, здаецца, яшчэ не было. І што ж нас чакае? Што чакае беларускую кнігу?

Сёння ўжо адзінаццаты дзень, як мяне колюць — па два ўколы на дзень. Для падмацавання матора. Не магу сказаць, каб я пачуўся лепш. Відаць, спазніўся. Задыхаюся. Спірае ў грудзёх, у бронхах так, што іншы раз здаецца: ну вось і ўсё, не адпусціць.

Парадавала медсястра: зайшла з маёй "Незалежнасцю" (каб даў аўтограф для дачкі-настаўніцы) і сказала, як яна і многія іншыя сёстры, урачы не прымаюць і ненавідзяць Гэнага. Але ўсе баяцца і таму маўчаць.

*25-га студзеня.* Бачыўся і трохі пагутарыў з Зуёнкам. Расказаў мне, як ужо цэлы месяц людзі ад Цюцянькова вядуць падкопы, каб адабраць у пісьменнікаў Дом літаратара. Кожны дзень прыходзіць нейкі тып і патрабуе дакументы на права валодаць асабняком, які падарыў Саюзу Урад пры Машэраве і па настойлівасці апошняга.

Няўжо яны і на гэта пойдуць — адбяруць у Саюза пісьменнікаў яго ўласную хату?

Сёння — прэзентацыя новага часопіса "Всемирная литература".

Якая ганьба! На рускай мове ў Беларусі нейкі “ўсесаюзны” (СНД-эўскі) часопіс! Ды — увесь з перадруку старых перакладаў, якія неаднойчы публікаваліся. Для каго і навошта? — розуму не прыкладу. Канкурэнт “Иностранке”? Смешна нават падумаць. І каму гэта прыйшло ў галаву — пры нашым жудкім фінансавым становішчы, калі катастрафічна скарачаецца выданне беларускіх кніг, часопісаў, газет.

Паказалі па тэле бліц-інтэрв’ю з Зуёнкам і Жуком — на прэзентацыі. Ах, хлопцы, хлопцы! Што ж вы робіце? Нават не выказалі здзіўлення, чаму “Всемирная литература” на рускай мове. А ўвогуле — чаго вы туды пайшлі? Не разумееце, што гэта абраза для ўсіх нас і подлае шкодніцтва супроць беларускай літаратуры і культуры? Ну хоць бы хворымі прыкінуліся! Ніхто не асудзіў бы, і ласку б не страцілі, калі за яе боязна.

*31-га студзеня*. З раніцы гадзіны дзве “прабалантэсіў” з даўнім балгарскім знаёмым Ст. Паптоневым (у Сафіі — Стэфчо). Нібыта абавязковая афіцыйная сустрэча, у Пасольстве. Нібыта для балгарскага друку (пабачым!). Падпісаў мне аж чатыры свае новыя кнігі: тры — прозы, адна — паэзія. Выйшлі ў самы апошні час. У прыватных выдавецтвах. Заўсёды здзіўляўся незвычайнай энергіі і прабіўной сіле гэтага балгарына. Без году 70 — а ўсё такі ж жвавы, рухавы і неўгамонны. За жыццё нашпурляў, мабыць, каля сотні кніжак.

Напярэдадні ўвесь вечар прасядзелі ў Найдзена; перабралі ў памяці ўсіх маіх, яшчэ жывых, балгарскіх пабрацімцаў. Ужо іх не так і шмат засталося. І цікавасць мая да іх лёсу і іх краіны ўжо зусім-зусім “не тая”. Можна сказаць, амаль ніякая. Сорак гадоў улялёшчыў (з 1956). І што? Адна гарката на душы.

*1-га лютага*. Правёў ці не апошнюю “сваю” Раду ТБМ. Можа, перадапошнюю... На 14 красавіка назначылі З’езд ТБМ, на якім я вызвалюся (нарэшце!) ад пасады старшыні Таварыства. Рада дала на гэта згоду. А прасветліны ў справах ТБМ — аніякай! І хто будзе старшынёй, і што будзе з “Нашым словам” — невядома. Асабліва трывожыць лёс “Нашага слова”. Не дай Бог спыніцца выданне! А ўсё ідзе да гэтага. Эх, было б хоць трохі здароўя і сілы — яшчэ пазмагаўся б! На жаль, на жаль!..

*14-га лютага*. Быў (з Брылём і Шаранговічам) у гасцях у М. Чарняўскага — з нагоды яго ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. Адзін з самых найтыповых беларусаў, дакладней — беларускіх інтэлігентаў. Перакананасці і ўпартасці — дай Божа, колькі! Але і памяркоўнасці і абачлівасці — таксама.

*20-га лютага*. Быў у Нацыянальнай бібліятэцы на спектаклі тэатра Дзягілевай “Зніч” па маім рамане ў вершах “Родныя дзеці”. Спектаклем назваць гэта цяжка, звычайная дэкламацыя. У выкананні таленавітага

артыста Міколы Лявончыка. Выступіў і аўтар. Уражанне, што слухачы чакалі менавіта яго: было шмат пытанняў, зусім пэўнага накірунку... Дзякаваць Богу!..

*27-га лютага*. Зноў спектакль “Любоў прасветлая” ў тэатры “Зніч” Дзягілевай. На гэты раз — у ДЛ. Народу — поўненька-шчыльненька, нават на прыстаўных крэслах. Значна лепш, чым у бібліятэцы, выступіў М. Лявончык. Цёзка А. Лявончык хораша граў на цымбалах. Добрае слова сказала Л. Рублеўская. Ну, а нарэшце — не менш гадзіны “працаваў” аўтар. Чытаў розных гадоў вершы, але пераважна найноўшыя, у тым ліку — злосныя, горкія, іранічныя. Было безліч запісак з залы. Позна вечарам пазваніў Коля і сказаў: “Я зноў перажыў пачуццё гонару за цябе. Толькі даў бы табе Бог здароўя!..”

*5-га сакавіка*. Доўгачаканы мой паэтычна-песенны вечар у музвучылішчы, арганізаваны А.А. Мурзічам, пры сардэчнай падтрымцы дырэкцыі, асабліва — завуча З.М. Такіх удалых, прыгожых, хвалюючых сустрэч, як гэта, было ў маім жыцці не так і багата. Навучэнцы пелі песні на мае вершы лепш, чым прафесіянальныя артысты. Вось з іх будуць прафесіяналы выдатныя. Якая таленавітая ідзе ў беларускую музыку моладзь і як ёй пашанцавала на выкладчыкаў! Было і маленькае застолле, дзе пераважала вясковая закуска старшыні калгаса з Гарадка А. Косарава, прысутнага таксама. Дарэчы, на вечары ў хоры выступіла ў якасці салісткі асірацелая ўнучка майго стрыечнага брата Генадзя — Насця Шаўцова.

*16-га сакавіка*. Радыё перадало вялікі кавалак з майго вечара ў музвучылішчы (запісала Галіна Шаблінская). Уяўляю, з якой “радасцю” начальства дало на гэту перадачу дазвол. Скора замяталіны пачнуць называць “ворагам народа”, і тады нават такія выхады ў эфір скончацца.

*19-га сакавіка*. Правёў сустрэчу з навучэнцамі і выкладчыкамі Алімпійскага вучылішча № 1. Прайшла не так, як восенню ў педвучылішчы, — трохі не тая публіка, але я баяўся, што будзе горш. Досыць сімпатычныя і інтэлігентныя маладыя людзі, слухалі з увагай і шчырай павагай, і нават пытанняў задалі некалькі...

*21-га сакавіка*. Нарэшце пабываў з “творчай справаздачай” у роднай Гайнаўскай школе.

Арганізаваў сустрэчу завуч школы У. Паплёўка, вельмі сімпатычны і перакананы беларус, бацька таго Іллі, што ў “Раніцы” надрукаваў ліст да мяне. Дзіўлюся, як дырэктар даў на гэту сустрэчу згоду. Каля 20 гадоў смеласці яму на гэта бракавала, каля 20 гадоў жылі ў Гайне, забыўшыся на земляка-паэта. Нават калі было прысвоена званне “народнага” — і не павіншавалі, і не запрасілі. Такой стала мая Лагойшчына — зямля Купалы

і Бядулі, Далэнгі-Хадакоўскага і братоў Тышкевічаў... Горка, горка, горка думаць мне пра ўсё гэта. Ну, а "справаздача" прайшла паспяхова. Спачатку даў урок чытання малышні, а затым — сустрэча са старшакласнікамі, настаўнікамі і інтэлігенцыяй Гайны. Было хораша, цёпла і светла ад сардэчнасці, утульна для душы кожнага прысутнага... Доўга фатаграфаваліся на ўспамін — з кожным класам паасобна. Быў і мой аднакурснік В. Несцяровіч — каб напісаць у раёнку аб сустрэчы.

Усё выдатна, але, але!.. Я ж бы мог кожны год прыязджаць на Лагойшчыну з такімі "справаздачамі". Камусьці было вельмі непажадана. "Не туды, не ў той бок думае наш зямляк!.."

*26-га сакавіка.* Было вельмі кепска Ніне, усю ноч мучылася, а раніцай выклікаў "хуткую". Відаць, ад атручэння разгулялася печань і падстраўнікавая залоза. Дзякаваць Богу, стала лепш.

*28-га сакавіка.* Яшчэ адна сустрэча — з настаўнікамі і вучнямі школ Мінскага раёна. У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, пасля прагляду імі выставы "І ўсё ж такі я веру". Госці Музея трохі спяшаліся на аўтобус і таму сустрэча прайшла ў хуткім тэмпе. Але кветак і падзяк было вельмі шмат. Зноў і зноў думаю: якія выдатныя ў нас ёсць выкладчыкі Роднага Слова і якіх слаўных патрыётаў гэтага слова яны выхоўваюць! Гледзячы на іх, верыш: будзем жыць!

*8-га красавіка.* Зноў "Зніч", зноў "Любоў прасветлая". На гэты раз — на базавай сцэне Тэатра, у касцёле Алены і Сымона, у цокалі (першы раз там быў). Слухачы — навучэнцы Педагагічнага ліцэя (педвучылішча № 2). Не ведаю, адкуль узяліся сілы, але і вершы чытаў і адказваў на пытанні — на ўздыме.

*9-га красавіка.* Аказваецца, у Мінску два вучылішча Алімпійскіх рэзерваў — Рэспубліканскае і Абласное. Сёння выступаў у другім, там беларускае слова вядзе завуч Ірына Іосіфаўна, відаць, вельмі добрая настаўніца, і вельмі сімпатычная беларусачка. Пасля майго выступлення дырэктар сказаў такое слова пра госця, што не дай Бог яго пачуў бы які-небудзь замяталін. А сказаў чалавек просты — і гэта асабліва радуе. Душа сказала!..

Пасля абеду глядзеў сябе самога ў перадачы пра Багдановіча — у сувязі з выхадам яго аднатомніка ў серыі "Беларускі кнігазбор", — як аўтар прадмовы. Скарыстаў рэдкую магчымасць падаць голас з экрана, і хоць трохі сказаў пра тое, чым была для Багдановіча Беларусь.

*12-га красавіка.* Адбыўся V з'езд ТБМ. Вызваліўся ад пасады старшыні, паколькі "дайшоў да ручкі". Лейцы ўзяў Бураўкін. Памажы яму, Божа! З'езд так шчыра і горача дзякаваў мне за восем гадоў працы, што

чуць не выбіў слязу з вока. А ў горле дык яна была — дакладна. Усё ж такі людзі ўсё разумеюць як трэба.

*18-га красавіка*. Хадзіў на пасяджэнне Рады “Бацькаўшчына”, двойчы браў слова. Размова ішла пра чарговы з’езд таварыства (у ліпені). Ці з’едуцца беларусы свету на З’езд — адзін Бог ведае. Так усё перамянілася ў жыцці! Відаць, з’езд будзе вельмі сціплы. Хацелі, каб я ўдзельнічаў у напісанні даклада для Дакладчыка. Давялося сказаць. што ніколі ў жыцці нікому дакладаў не пісаў, як і мне ніхто не памагаў пісаць таксама. Хацеў бы, кажу, з гэтым як-небудзь і дажыць да канца веку.

*19-га красавіка*. Глядзеў у Рускім тэатры спектакль па п’есе Дударава “У прыцемках” (“В сумерках”). Запрасіў аўтар. Спектакль глядзіцца і слухаецца, сучасны, актуальны, палітычна ангажаваны. Але чаму першая пастаноўка п’есы — на рускай мове? Помню, як сустрэліся мы з Б. Луцэнкам, і ён сказаў: узялі п’есу Дударава, будзем ставіць у арыгінале. Пытаю у А.А. “Чаму ж не паставілі?” — “Задавілі жывыя класікі сцэны”. “Не валодаем мовай так, каб яна гучала прыгожа”. “Адным словам — каб мову не пакрыўдзіць. З павагі да беларускага гледача і да яго мовы”. Дык нашто ж было абяцаць? Хай бы ўзялі п’есу купалаўцы!..

*22-га красавіка*. І зноў “Зніч”, і зноў “Любоў прасветлая”, і зноў нястомная Дзягілева і два Лявончыкі! У мінскай гімназіі № 1. У вялізнай зале (за сцэнай гудзелі халадзільнікі кухні). Гімназістаў процьма. Спачатку было адчуванне амаль правалу; асабліва, пакуль чытаў М.Л. (а ён быў стомлены і хворы). Але, на маё здзіўленне, столькі пасыпалася пытанняў-запісак, такая разгарнулася гаворка, ды палітычна актуальная, што ўрэшце я застаўся задаволены. Праўда, сабе сказаў: ну, усё! Баста! І надоўга. Вычарпаўся.

*23-га красавіка*. У хаце бяда і няспынны плач з галашэннямі. Ніна проста ўчарнела. Ліпе хацелі рабіць аперацыю, разрэзалі жывот, паглядзелі і зашылі: умешвацца ўжо няма сэнсу. “Звер” ужо з’еў усё. Страшна. Як гэта нечакана і якія ж мы, людзі, бездапаможныя!..

*30-га красавіка*. “Народная воля” апублікавала мой артыкул “Цынізм “апекуноў” і бяздумнасць прыстасаванцаў”. Першая палова яго — гэта першая палова майго даклада на З’ездзе ТБМ (агульнапалітычная, далей у дакладзе ішло пра сітуацыю ў таварыстве). Артыкул адрасаваны тым рускім, якія намагаюцца і нас зрабіць рускімі. Артыкул-водпаведзь. Артыкул-прысуд (мой, разумеецца). Паскрыгечуць зубамі браты-таварышы. Многія з іх усё яшчэ спадзяваліся... на нешта. А падстаў не было. Проста дрэнна, няўважліва мяне чыталі, кепска слухалі.

*4-га траўня.* Памёрла Ліпа. Усяго дзесяць дзён працягнула пасля "аперацыі". Дзесяць жахлівых дзён! Яна здагадалася, што аперацыі не было, усё зразумела, страшэнна пакутавала ад болю і... чакала. Ну і вось — усё. Хаваць — з-за святаў — будзем толькі 7-га, у сераду. Ніна — уся ў горкіх клопатах.

*7-га траўня.* Развіталіся з Ліпай. На памінках давялося мне "весці рэй". Усе ўніверсітэцкія яе знаёмыя бухгалтаркі гаварылі слёзна-шчыра — і над труной, і на памінках, усе яе вельмі паважалі і любілі.

Смерць Ліпы і мяне абрынула ў нейкую бездань — дзе і смутак, і боль, і страх. Зусім рэальны страх. Штось у душы надламалася. Гляджу на Ніну, на ўсё сваё жыццё — і агортвае мяне ўсяго Бог ведае што. Можа, і роспач. Ад усведамлення, што жыццё пражыта "не так".

*10-га траўня.* Ездзіў у "маёнтак", у сваё Наскае-Лупавінава. Пасадзіў дзве градкі бобу. Шчымлівая памяць вясковага маленства!..

*19-га траўня.* Быў на юбілейным вечары Г.А. Дзягілевай. На пачатку глядзелі яе мона-спектакль пра каханне Івана Луцкевіча і Ю. Дубейкаўскай. Малайчына Дзягілева! Знайшла сябе ў гэтым цяжкім жанры — тэатры аднаго акцёра, пра што і сказаў я ў сваім прывітальным слове. Можна было б сказаць і так: яе жанр — прапаганда павагі і любові да роднай беларускай мовы. Самааддана робіць яна гэта, з вялікім шчырым натхненнем.

*22-га траўня.* Заўтра — яшчэ адзін чорны, ганебны дзень нашай гісторыі: у Маскве палітычныя выжлятнікі падпішуць Статут Саюза Расіі і Беларусі. Запраданцы даводзяць сваю гнюсную справу да канца. Няшчасная краіна, няшчасны, выкляты Богам народ!

Як голас пратэсту і праклёну апублікаваў у "Народнай волі" "Травеньскую кантату 1997-га года". Думаю, што "Кантата" будзе мець розгалас.

Па абедзе быў у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры на адкрыцці выставы "Яны прайшлі па той вайне". Давялося сказаць і там невялікае слова.

*23-га траўня.* Статут Саюза падпісаны. Пусты, вядома, дэкларацыйны, тым не менш — яшчэ адзін крок да ліквідацыі незалежнай Беларусі зроблены.

Але ж і нягоднікі! Але ж і халуі! Божа прамілы, няўжо ты не пакараеш іх?!

"ЛіМ" апублікаваў маю архіактуальную камедыю "Ахрэм і Тодар". Цікава, ці зверне на яе ўвагу наша літаратурная брація?

*28-га траўня*. Розгалас ад “Кантаты” большы, чым я спадзяваўся. Было багата званкоў. Перадаюць мне газету, каб паставіў аўтограф. У Докшыцкім раёне перакаталі на ксераксе і распаўсюджваюць як лістоўку. Наладжваюць калектыўныя чытанні. Захапляюцца і зычаць аўтару здароўя.

*29-га траўня*. Першая паэтычная сустрэча ля помніка Купалу. Ініцыятары — БСДП (“НГ”) і ТБМ. Мяркуецца, што стануць традыцыйнымі. Народу было небагата (слабая рэклама, ды і холад сабачы). Прачытаў некалькі вершаў, у тым ліку — з “Травеньскай Кантаты”. Прынялі вельмі добра. Зразумеў, што “Кантату” многія ўжо чыталі. Падыходзілі, дзякавалі...

*2-га чэрвеня*. Дзень нараджэння Ніны. Шумнага застолля не будзе. Абыдземся самым сціплым варыянтам: толькі свае, найбліжэйшыя. Ніна яшчэ зусім не адышла ад перажытага, усё яшчэ плача і плача.

*14-га чэрвеня*. “Народная воля” апублікавала пяць вершаў. І зместам і духам — працяг “Травеньскай Кантаты”. Новае — удар па царкоўніках, якія ў нас выконваюць тую ж ролю, што і 150—100 гадоў таму.

А тым часам “падступаюць да горла” новыя вершы — відаць, для новай Кантаты.

*28-га чэрвеня*. Як гаварыў мой дзед: “Афул і з коптурам!” “Народная воля” змясціла яшчэ адну маю Кантату — “чэрвеньскую”. 7 вершаў. (У “Травеньскай” было 10.). Ды 5 асобна. Ды 5 у “ЛіМе”. 27 вершаў — за месяц з палавінай: і напісаў, і надрукаваў! Калі такое было? Аж нават няёмка трохі. Гэта — вельмі шмат. “Рвануў” — як Купала ў Акопах (не раўняючыся, вядома). Не астудзі, Божа!..

*29-га чэрвеня*. Азваўся Быкаў. Дужа хваліў мае вершы ў “Полымі” № 4. “Нейкі новы ўзыход у зеніт у цябе, — сказаў. — Як на другім дыханні... Ды такія чыстыя, светлыя, лірычныя...”. Кажа: “Браў “Полымя” з сабой у дарогу, у Германію, і ў вагоне чытаў...”

*2-га ліпеня*. Пазваніў Брыль, сказаў, што з цікавасцю прачытаў размову са мной у “ЛГ”. А я і не ведаў, што яна апублікавана (нарэшце! амаль праз паўгода!). Сказаў: “Невялікая публікацыя, бачна, што скарочана”.

*7-га ліпеня*. Забягаў З.Х. Санько, знялі ў рукапісе зборніка “Ёсць зямля” пытанні і каля дзесятка вершаў, якія нечым яму не да душы, а таксама паэму “Не хварэй!”, аб чым асабліва не шкадую. Не дазваляе аб’ём, запланаваны выдавецтвам (60 старонак друкаваных, брашурка). Ды

яшчэ і так Бог ведае, ці не сарвецца задума. Ці не спалохаюцца хлопцы. Тады, на сустрэчы, В. Багдановіч быў настроены аптымістычна...

Быкаў удружыў мне нумар "ЛГ" з маім матэр'ялам (у кіёсках я так і не знайшоў). Ну, вядома, скарацілі страшэнна, пакінулі бадай ці не адну чвэрць... Шкада! Хоць і пакінулі самае істотнае.

*8 ліпеня.* Хадзіў у бальніцу праведаць Конана. Не застаў: сусед сказаў, што пайшоў у бібліятэку, ён кожны дзень так робіць. Божа, падумаў, нават з бальніцы ўцякае на працу! Во ўжо дзе Чалавек-Працаўнік з вялікай літары! І інтэлігент. Але ж ёсць Бог. Выйшаў я з бальніцы на вуліцу, а насустрач — Конан! Трохі пагутарылі. Сказаў мне, што Званарова друкуе поўны тэкст размовы з Н.Г. у "Детской литературе".

*13-га ліпеня.* Самая чырвоная дата нашага сямейнага календара. 40 гадоў, як мы пажаніліся. Адсвяткавалі больш чым сціпла. На вячэры былі Сяргей, Таня, Юра, Ірына... І ўсё... Мілая, мілая Ніна! Я ўжо табе не аддзякую за ўсё, што Ты зрабіла для мяне за гэтыя сорак гадоў, — хіба Усявышні аддзякуе? І ўжо не вымалю ў Бога даравання за ўсе глупствы, што прычынялі табе боль. Усявышні, здаецца, дараваць не хоча. Бо адкуль жа зваліліся на мяне гэтыя хваробы, што даводзяць часам да роспачы?

І гэта ў той час, калі столькі хацелася б яшчэ напісаць. П'есы, п'есы, п'есы! Калі за іх вазьмуся, Божа?

"Полымя" дало рэкламу ў сёмы нумар на мае "Песні прапашчага". У пачатку жніўня я павінен іх здаць у рэдакцыю. Гэта будзе пачатак цэлай кнігі, калі хопіць духу. Хлопцы (Законнікаў і Пісьмянкоў) вельмі заінтрыгаваліся, калі я раскрыў ім усю задуму. А мне страшнавата, хоць тое, што ўжо наспявалася, здаецца, гучыць. Магчымасці "жанру" — сучаснага "гарадскога раманса" — бачу вельмі вялікія. У нас да гэтага песеннага фальклору яшчэ ніхто не дакранаўся. Вельмі рызыкоўная справа. Небяспека сарвацца ў прымітыў, у пародыю на "раманс". Упершыню — не пішу, а наспеўваю. Як бард.

*14 ліпеня.* Хадзілі з Г.Д. Карпенкам да Я. Будзінаса, у яго офіс — наконт выдання зборнічка маіх найноўшых публіцыстычных вершаў. Ідэя гэта належыць Г.Д. — прыйшла да яго, калі прачытаў у "Народнай волі" маю "Травеньскую Кантату". Ён жа знайшоў і фундатара, згоднага фінансаваць выданне. Я. Будзінас сустрэў ветліва, але спытаў: я буду выдаваць (а г. зн. браць усю адказнасць на сябе) ці толькі друкаваць, а выдаўцом-заказчыкам будзе нехта? Папрасілі яго знайсці такога выдаўца (з ліку тых, што самаліквідуюцца і ім "ужо не страшна") або быць і выдаўцом і друкаром самому (узяць адказнасць за выданне на сябе). Мяркуючы па тым, як доўга расказваў ён пра цяжкае жыццё фірмы, як яго заціскаюць і душаць падаткамі, дзесяткамі рэвізій і іншых праверак, я зразумеў, што спадзяванне наша марнае. Асабліва баіцца ён блізкай

перарэгістрацыі выдавецтваў. Адным словам, пачынаецца эпоха “пісання ў стол”, у прыскрынак.

*20-га ліпеня.* Быў на Лысай гары, у Яўгена Лецкі, на сустрэчы (застольнай) з амерыканскімі беларусамі. Былі таксама Шарэцкі, Шушкевіч і Бураўкін. Двойчы давялося ўзяць слова: “Расказвайце ў свеце праўду пра Беларусь!..”

Шарэцкі пахваліўся, што заканчвае публіцыстычную кнігу пра гістарычны шлях Беларусі. Заінтрыгаваў! А я ўсё не магу забыцца, як яшчэ зусім нядаўна, стаўшы спікерам, ён грымеў з трыбуны: “Нацыяналізму мы не дапусцім!”.

Туды і назад мы з Бураўкіным ехалі ў машыне Шушкевіча. За рулём быў гаспадар і цэлую гадзіну блукаў між дачамі, шукаючы пісьменніцкую Лысую гару. Хапіла досціпаў і смеху.

*26-га ліпеня.* Другі З’езд беларусаў свету адкрыў Р. Гарэцкі. Першым са словам прывітання выступіў В. Быкаў — коратка і... на гэты раз досыць фармальна, як дзеля адчэпкі. Пабыў ён толькі да перапынку, быў зусім не ў гуморы. Доўга гаварыў Б-н; далі слова для прывітання ад ТБМ, а на справе зрабіў садаклад аб становішчы мовы і Таварыства. Увогуле добра, але адным уразіў: “Паважаны А.Р., не падпісвайце вы паперкі, якія вам падсоўваюць саветнікі” і г.д. Карацей, цар — што трэба, а вось акружэнне ў яго дрэннае... Ах, як жа гэта знаёма мне! Яшчэ з тых часоў. Абавязкова — “закінуць наперад”, каб мець шлях да адступлення.

Я гаварыў другім пасля перапынку. Усё пра тое ж і вельмі катэгарычна. Ніякіх уступак ворагам беларушчыны і нашай дзяржаўнай незалежнасці!

Хораша — у гэтым жа духу — выступіў пасля мяне Іван Драч. Бліскуча і вельмі эмацыянальна гаварыў Аляксей Каўка. Гэтаксама — Юр. Хадыка. Былі і прамовы запрошаных канторай Л-кі (з Прыднястроўя, з Харкава). Настолькі антыбеларускія, што ў зале свісталі, крычалі, ляпалі — гналі прэч са сцэны. Бедны Гарэцкі з цяжкасцю супакойваў. Сам ён даклад зрабіў добры, з акцэнтам на гаротным становішчы беларускай мовы.

Вечарам з украінскімі гасцямі (Драч і Шакала) сабраліся ў сябра. Быў і Барадулін. Пасля якогась там кілішка, гаспадара “прарвала”. Аказваецца, іменна я заваліў яму пасля службы ў ААН кар’еру! Думаў, што ўдарыць — так люта крычаў на мяне. А я і думаць не дадумаўся б, што маю гэткую віну перад ім. Так і сказаў яму. Вечар быў сапсаваны канчаткова. Надакучыла за доўгія гады-дзесяцігоддзі бачыць яго пакуты з-за недасягнутай жыццёвай мэты і пры гэтым адплёўвацца ад бруду, якога я зусім не заслужыў. Так, я ніколі не браў да сэрца яго клопат пра кар’еру, думаў, для паэта наогул лепш без дзяржаўнай службы, сам вельмі пакутаваў у службовым ярме. Але іншым — не перашкаджаў.

*27-га ліпеня.* Закончыўся З'езд. Зноў выбраны ў Вялікую і Малую Раду "Бацькаўшчыны". У канцы дня пайшоў з украінцамі — дзеля іх — на вячэру, аб чым вельмі шкадую. Дзікае п'янства галодных людзей. І я сярод іх — на роўных. Агідна!

Паехалі ў гасцініцу і пасядзелі гадзіну там за пярцоўкай. У суме выйшла занадта.

*28-га ліпеня.* Сёння Гэны прымаў групу дэлегатаў З'езду — тых, што ўхваляюць яго палітыку, яго курс на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Тэлепанарама паказала яго прамову. Паабяцаў перакроіць "Бацькаўшчыну". І выдаў поўнаю мерай Нілу Гілевічу. Персанальна. Назваў "яркім прыкладам" паэта-палітыкана, які піша пасквілі на прэзідэнта, замест таго, каб... "Замест таго" — не можа, спісаўся, і наогул — бяздарны. Славіў Сталіна ў вершах. "Мы яшчэ разбярэмся, чаму такія ў падручніках, няма ім чаго там рабіць".

Вось такім абзавёўся я страшным крытыкам. Цяпер ужо зусім зразумела, што мяне чакае ў бліжэйшыя гады, як будуць выдавацца мае кнігі і як будзе падавацца публічна маё імя. Калі ўвогуле не здарыцца самага горшага. Ну, што ж, не з мяне пачалося. Хай драпежаць. Іншым я ўжо не стану. І маўчаць не збіраюся. Пакуль жывы і не выпала з рук пяро.

*29-га ліпеня.* Занёс Сярэдзічу сваю прамову на З'ездзе беларусаў свету. Хачу, каб ведалі маю сённяшнюю пазіцыю — нязменную! — і тыя, хто на З'ездзе не быў. Ніводзін жа сродак масавай інфармацыі і слова не сказаў, пра што гаварыў гэты раз Н.Г.

*2-га жніўня.* "Звязда" апублікавала маё кароценькае слоўца пра Янку Брыля. Вядома, пра гэтага майго старэйшага сябра я мог бы сказаць многа — і як пра пісьменніка, і як пра чалавека; абмежаванне вымушанае — прасілі не больш паўтары старонкі. Пра Брыля-пісьменніка паспрабаваў сказаць нешта істотнае, самае галоўнае.

*4-га жніўня.* Занёс у "Полымя" — па ранейшай дамоўленасці з Законнікавым — першыя 10 вершаў з кнігі "Песні прапашчага". У пакоі рэдактара заспеў В. Казько. Пасвяціў і яго ў сваю рызыкоўную задуму. Давялося некалькі рэчаў прачытаць-праспяваць уголас. Усе — і Законнікаў, і Казько, і Пісьмянкоў — ухвалілі і задуму і выкананне. (Казько: "Такога Гілевіча яшчэ не чытаў, гэта нешта новае...". І ўсё ж — вельмі-вельмі трывожна. Хоць нутром адчуваю — шлях верны.

*5-га жніўня.* Ездзілі з Р. Гарэцкім віншаваць Янку Брыля. У яго Крынічнае, дакладней — на яго хутар, каля Крынічнага. Былі з намі і Г.Р. з Н.І. Паехалі, на жаль, акружным шляхам, праз Мір, ад Турца ўвесь час перапытвалі дарогу і блукалі. Янка, хоць і моцна стомлены ўчарашнім

днём (госці з Мінску, з Карэліч, шумелі да поўначы), шчыра ўзрадаваўся нашаму прыезду. Колькі гадзін прабегла няўзнак у нязмушаных цікавых гутарках — спачатку ў двары пад векавою ліпай, а затым — у хаце. У кампаніі з Брылём не засумуеш. Дача яго не Бог ведае што — звычайная хата, адно што цагляная. У мансардзе — больш чым сціплы яго рабочы габінэт, да таго ж — цемнаваты; там і ложак, дзе ён адпачывае (увесь ніз у доме заняты дзяцьмі і ўнукамі). Ад кіраўніцтва дзяржавы віншавальную тэлеграму Брылю прыслаў Лінг, але Янка вельмі хвалюецца, каб не дай бог задумаў узнагародзіць яго Гэны. Сказаў, што падрыхтаваў — на такі выпадак — адкрыты ліст Гэнаму з тлумачэннем, чаму ён адмаўляецца ад ягонай ласкі. Я стараўся пераканаць Янку, што ён непакоіцца дарэмна: ніякай узнагароды яму не будзе: “Ты кепска ведаеш гэтых людзей. Іх нянавісць да беларускай інтэлігенцыі такая лютая, што не пакідае для розуму ні трохі месца, асляпляе іх канчаткова”. Бачна, што Янка не хацеў бы, каб дайшло да публічнага ліста. “Я не за сябе баюся, — сказаў, — а за дзяцей і ўнукаў”. Ну, так, за сябе і я ўжо не баюся, але і ў мяне ёсць сын, і ён ужо церпіць з-за бацькі. Успомнілася: калі В. Тарас прыпісаў мне атрыманне ласкі ад Гэнага — я тут жа абвергнуў гэта ў газеце.

Сёння “Народная воля” апублікавала маё выступленне на З’ездзе. Выдатна! Мне сядзець як мыш пад памялом нельга.

Па дарозе да Брыля, у машыне, Р. Гарэцкі расказаў падрабязна, як Гэны прымаў 28-га групу “беларусаў”. Кожнаму ўручыў гадзіннік “ад прэзідэнта РБ” і даў ім шыкоўны абед. А Гарэцкага на сустрэчы абразіў, сказаў: гэтыя гарэцкія, баршчэўскія і іншыя (дзіўна, што Р.Г. сцерпеў і не бразнуў дзвярыма! От ужо беларусы!).

*14-га жніўня*. Нейкія няплённыя дні! Ужо больш тыдня нічога не раблю, ні радка не напісаў. Адно трохі чытаю. Ночы бяссонныя, з-за чаго ўдзень непрацаздольны. Штодня езджу за “горад”, памагаю Ніне саліць агуркі. Буду лічыць, што гэта адпачынак.

*16-га жніўня*. Дзень прайшоў на Лагойшчыне, у Рудні, у летніку “Яднанне”, дырэктарам якога Я. Лецка. Ён і запрасіў, і арганізаваў сустрэчу дзяцей з маёй міласцю. Сам ён паехаў зусім хворы, атручаны грыбамі. За рулём быў мастак У. Крукоўскі, пасажырамі — Купава і Шатэрнік (у летніку іх дзеці). Вяла сустрэчу нястомная і ўсюдыісная Ан. Хатэнка — як заўсёды лірычна і ўзнёсла. Гадзіны дзве гаварыў, чытаў, ды яшчэ з гадзіну падпісваў кнігі (у асноўным “Талісман” і “На высокім алтары”).

*17-га жніўня*. Ці не прагучыць яшчэ адна “Кантата”? Нечакана папёрлі задумы новых іранічна-злосных і горкіх вершаў. А думаў, што ўжо ўсё — за вершы доўга не вазьмуся: выгаварыўся, адспавядаўся, памаўчу хаця б да восені.

*1-га верасня.* Сказаў слова і прачытаў верш перад школьнікамі на плошчы Коласа — у гонар Новага навучальнага года і Дня ведаў. Падпісаў колькі дзесяткаў кніг, у тым ліку Першы том Збору твораў. Думаў, дзеці самі куплялі, аж гэта іх узнагародзілі ў школе за выдатную вучобу. Былі Зуёнак і Далідовіч. Дадому прынёс вялізны ахапак кветак.

*6-га верасня.* Былі з Нінай на вячэры ў пасла Балгарыі Марка Ганчава, у Драздах, у кафэ. Толькі Ганчавы і мы. Даведаліся, што прыязджала Мінка Найдэнава, на астатак багажу (сам Найдэн, відаць, з крыўды на Марка і наогул — не паехаў). Мінка нам не пазваніла нават. Чаму? У нас — трыццаць пяць гадоў дружбы.

Гутаркі за сталом не адбылося. У мяне такі настрой, што на пабочныя, чужыя праблемы мяне не хапае — увесь у нашым беларускім горы.

А павінен быў я сёння быць у Клецку — у гонар Дня пісьменства і друку! Настойліва запрашалі — і я даў згоду. На вялікую сустрэчу ў Доме культуры. Ажно запрашалі людзі, якія не ведалі, што ўжо мяне запрашаць нельга, і галоўны клецкі вертыкальшчык сустрэчу адмяніў, аб чым і паведаміла мне ўчора Ядзвіга Пятроўна з БП СПБ. Так што — пачалося! У Лагойску “адчыталі” завуча з Гайны, што наладзіў сустрэчу са мной (у маёй роднай школе!), у Клецку адмянілі наогул. Няцяжка прадбачыць, што яшчэ мяне чакае, што яшчэ абрынецца на мяне (а то і на маю Ніну Іванаўну).

*10-га верасня.* Званіў Зм. Санько, каб я тэрмінова зрабіў анатацыю на зборнік “Ёсць зямля”. Зраблю, вядома, а вось калі зборнік выйдзе, і ці выйдзе ўвогуле, — не ведаю, дагэтуль пэўнасці няма.

З музея Я. Купалы запрасілі на вечарыну П. Панчанкі, падкрэслілі, што вельмі просіць сям’я Панчанкі, Зоя Кірылаўна. Гатоў бы з вялікай радасцю прыняць удзел у вечарыне, але ж яна назначана на 30.09. А хто ж будзе ў гэты дзень у мяне дома прымаць гасцей — у гонар дня нараджэння раба Божага Ніла?

*16-га верасня.* У сем раніцы выехаў у Зэльву — па просьбе Г.А. Дзягілевай, — вярнуўся ноччу. Адбыліся там, на Зэльвеншчыне, тры сустрэчы, — у Дзярэчынскай СШ, у Залацеўскай СШ, у раённым Доме культуры. У ДК Зэльвы прыйшло не больш як 30 чалавек. І ніводнага “вертыкальшчыка” вышэй за пасаду загадчыка аддзелам культуры. Гэта — на сустрэчу з Народным Паэтам Беларусі! Калі, у якія часы нешта падобнае магло быць? Бедная Дзягілева са сваім “Знічам” (вылеціць у трубу!), бедны Ніл Гілевіч, бедная Беларусь!

*17-га верасня.* У 12.00 быў на адкрыцці мемарыяльнай дошкі М. Танку на доме, у якім ён апошнія 19 гадоў жыў. У сцэнарыі было запісана, што дошку адкрываюць народны пісьменнік І.П. Шамякін і старшыня

СПБ В. Зуёнак. Прадстаўнік Мінскага ГВК так і аб’явіў. Аказалася — І.П. Шамякіна няма — спазніўся! Выйшла замінка. У натоўпе загукалі: “Ніл Гілевіч! Народны паэт Ніл Гілевіч!” Прадстаўнік падышоў да мікрафона і абвясціў: “Ніл Сымонавіч Гілевіч”. Так я быў “уганараваны” — адкрыў Дошку Максіму Танку. Пасля мне далі і слова, да якога я дома трохі і рыхтаваўся. Казаў пра Максіма Танка як пра вялікага паэта не толькі ў беларускім, але і еўрапейскім і нават у сусветным маштабе. Здавалася б — зусім у духу афіцыйнай ацэнкі. Аднак вечарам беларускае тэле, даўшы добрых мінут пяць на гэту ўрачыстасць, нават не паказала мяне — ні як я адкрываю Дошку, ні як я выступаю са словам пра Танка. І пасля гэтага будуць гаварыць пра адсутнасць гвалту над свабодай слова ў Беларусі.

Пасля адкрыцця Дошкі быў на сустрэчы з настаўнікамі г. Мінска ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Сустрэча аказалася на рэдкасць цікавай, слухалі як любімага чалавека, іншы раз нават са слязамі на вачах (калі чытаў вершы пра маму).

*19-га верасня*. Двайная радасць: у “ЛіМе” восем маіх вершаў, і ў заўтрашняй “Народнай волі”, якую ўжо мне далі ў рэдакцыі, — шэсць. Усе напісаны ў верасні. І гэта яшчэ не ўсё: некалькі вершаў у стадыі завяршэння, якія хачу прапанаваць “Звяздзе”. Даўно не было такога ўраджаю! Але што скажуць тыя, што прачытаюць?

*20-га верасня*. Быў на спектаклі па п’есе Аляксея Дударава “Князь Вітаўт”. Робіць моцнае ўражанне. Сказаў Дудараву: яшчэ пяць такіх п’ес — пяць такіх спектакляў — і беларусы будуць ведаць сваю дзяржаўную гісторыю у яе самых важных, вузлавых момантах. А гэта тое, чаго беларусам усё яшчэ страшэнна не хапае.

*30-га верасня*. “Звязда” дала чатыры вершы ў гонар маіх дзвюх шасцёрак (66!). Вельмі рад, што не памесціўся пяты (“Песня курдаў”), бо позна заўважыў, што ў яго тэкст трэба ўмешвацца, грубую рыфму выкідаць вон. На шчасце — не памесціўся, і цяпер я яго падшліфую.

Прыходзілі з Музея гісторыі беларускай літаратуры — Л.В. і З.Л. З кветкамі і цукеркамі. Заходзіў Матукоўскі. Пачаставаў і яго віном. Вельмі рэзка ён крытыкаваў В.Р. — за “убейства тэатра”. “Правільна ты ў свой час казаў мне: ён угробіў тэатр, які перастаў быць і нацыянальным і акадэмічным”. Так, я гэта казаў, і не раз, многім казаў, таму ж І.І. Ваш-чу яшчэ ў 1992 годзе. Ну і што? “А Васька слушает да ест”. Некаму вельмі трэба, каб Купалаўскі тэатр — наш нацыянальны гонар — быў угроблены. Матукоўскі забраў у мяне пераклад камедыі М. Эрдмана “Самазабойца”: мае намер дабіцца яе пастаноўкі ў тэатры. Варта было б! Дарэчы, як пачынаў Эрдман у 20-х, будучы зусім маладым (“Мандат”, “Самазабойца”), і да чаго пазней скаціўся (“Веселые ребята”, “Смелые люди” — яго сцэнарыі). Божа ты мой, што рабіла сталіншчына з

пісьменнікамі, з мастакамі!..

Вечарам было застолле. Адны свае — родзічы. Шмат пілі і елі. Было ўтульна і весела. На жаль, імяніннік па-ранейшаму сілы свае не разлічвае. Мог бы за пляменнікамі — як за камсамолам — і не гнацца.

*1-га кастрычніка*. Учора віншавальных званкоў мне было нашмат больш, чым я разлічваў. Апрача мінскіх, званілі сябры і знаёмыя з Докшыцаў, з Хойнікаў, з Маладзечна, з Кушлянаў, з Віцебску, з Жодзіна... Пазваніў і вельмі сардэчна павіншаваў (і вельмі пахваліў вершы!) Васіль Быкаў. Хораша пагаварылі. А вечарам прыйшлі Марка Ганчаў і Ан. Вярцінскі. Абодва з жонкамі. “Сустрэча прайшла ў шчырай сяброўскай атмасферы”, так, здаецца, пішуць у друку. Анатоль чытаў уголас мае апошнія вершы. Дзякую, дружа! Можа, і яшчэ што накрэмзаю.

*2-га кастрычніка*. Выступіў з віншавальным словам (па сутнасці — зусім не святочным) на ўрачыстым закрыцці конкурсу “Крыштальны журавель” (педагагічнае майстэрства настаўніка). Паказальны факт: 20 пераможцаў і сярод іх — ніводнага выкладчыка беларускай мовы і літаратуры. Па гэтых прадметах майстроў не знайшлі. Добра ж шукалі!

А 14-й ужо быў на геафаку БДУ — па просьбе Л.У. Хрышчановіч. Сустрэча са студэнтамі і выкладчыкамі. Цягнулася каля дзвюх гадзін. Было шмат сур’ёзных пытанняў. Студэнты дэкламавалі мае вершы. Уражанне самае добрае: будзем жыць! Моладзь (геафака!) настроена вельмі патрыятычна.

*4-га кастрычніка*. Закончыўся З’езд настаўнікаў. На душы — сумна і горка. Гэны цынічна заявіў, што Ш. сам не хоча пакідаць турму — і ў зале дружна зарагаталі і запляскалі. Настаўнікі!

Ніводнаму дзеячу беларускай культуры слова не далі. Ці былі яны ў зале наогул? Ніводнага патрыятычнага пісьменніка не запрасілі. Не патрэбны. Быў адно Бураўкін, але як кіраўнік ТБМ, і яму слова не далі, хоць і прасіў. Ні ў дакладзе, ні ў адной прамове пра беларускую літаратуру — ні слова. Пра галоўны прадмет маральна-эстэтычнага выхавання! Успомніў выдатнае слова Твардоўскага на з’ездзе настаўнікаў Расіі. Якія ж сілы стаяць у нас на чале асветы, адукацыі, культуры — і куды яны могуць завесці нашу няшчасную школу?

*8-га кастрычніка*. Юбілейны вечар Панчанкі (80). Пайшоў, канешне. Вялікая зала ДЛ перапоўнена. У асноўным — студэнцкая моладзь. Перад пачаткам сутыкнуўся з Бураўкіным. Аказваецца, ён вядучы вечара. Не прапанаваў мне выступіць, чым я быў вельмі здзіўлены. Ён жа чытаў мае артыкулы пра Панчанку, ведае пра нашы ўзаемаадносіны (асабліва пасля публікацыі лістоў П.Е. да мяне). Такой бяды, думаю, праглынём. Выступяць без мяне выдатныя паэты і пісьменнікі. Аж выступіў адзін

Аўрамчык. І ўсё! Ні Быкаў, ні Барадулін, ні Зуёнак, ні Вярцінскі, ні Сіпакоў... Тут я і не стрываў, і калі Бураўкін выйшаў закрываць вечар — сам папрасіў у залы слова. Папракнуў упачатку, што арганізатары вечара на мяне забыліся. Затым гаварыў пра чорныя сілы, супроць якіх усё жыццё змагаўся Панчанка, пра тое, што галоўны матыў яго паэзіі — Боль. Боль, боль і боль — ва ўсіх вершах ад сярэдзіны 50-х да канца яго жыцця. Амаль за кожным радком — Боль. І яго палымяны гнеў — таксама ў Болю. Зала ўспрыняла маё выступленне найлепшым чынам, з доўгімі авацыямі — аж вельмі няёмка было. І што ж? Вылез Бураўкін і даў мне адлуп: “Ніякіх чорных сіл у СП (?) няма, а ўсіх паэтаў у праграму вечара не ўставіш — ёсць законы жанру, кампазіцыі...” Так і сказаў. Аказваецца, бяздарны, абразлівы для памяці Панчанкі вечар, — па законах жанру! Аказваецца, я меў на ўвазе нейкія “чорныя сілы” ў СП! Ну, Бураўкін, ну маніпулятар! Пазнаю, пазнаю, цябе, таварышок!..

*10-га кастрычніка.* Кончыў перадрукоўваць п’есу “Паданне”, вычытаў і папрасіў пляменніка Сашу завезці ў Міністэрства культуры — сёння апошні дзень конкурсу. Праз гадзіну ўжо шкадаваў, што палез у гэту “кучамалу”. Як уявіў, колькі там прымае ўдзел маладых ваўкоў, у тым ліку таленавітых, зразумеў, што зрабіў, на ганьбу сівой галаве, глупства. Паквапіўся, што называецца. Калі ўжо рызыкаваць — дык трэба змайстраваць рэч адмысловую.

*13-га кастрычніка.* Цэлыя дзве гадзіны гутарыў, перасыпаючы “прозу” вершамі, са студэнтамі і выкладчыкамі педагагічнага каледжу. Уражанне ад аўдыторыі — самае лепшае. Ёсць беларуская моладзь, ёсць! Ёсць маладая нацыянальная інтэлігенцыя, будучыня нашай культуры! На зло ўсім нягоднікам-далакопам — будзем жыць!

А яшчэ думаў, вярнуўшыся дадому, пра тое, як шмат залежыць ад кіраўніцтва навучальнай установы, ад педагагічнага калектыву. Паздароў, Божа, цябе, Аркадзь Адамавіч, і тваіх паплечнікаў!

*14-га кастрычніка.* Ездзіў на магілы родных. Убачыў — і заплакаў. Божа, і чаму я пры іх жыцці так мала даражыў імі! Так мала ўдзяляў ім душы і сэрца!

Доўга сядзелі ў Ліны. Паміналі, пілі. Тым больш, што сёння Пакровы.

*15-га кастрычніка.* З 11-ці да 14-ці — на сустрэчы з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры ў БДМГБЛ-ы. Калі і адчуеш раптам, што хочацца жыць і што ёсць сэнс жыць — дык гэта ў такім выпадку, як сёння. Мілыя мае, дарагія мае, залатыя мае настаўнікі! Якое шчасце, што вас так многа — светлых, чыстых, сумленных, можа і наіўных, можа і празмерна рамантычных, але ж гэта сто разоў лепш, чым цынічныя прагматыкі.

*16-га кастрычніка*. Званіў Паўлаў У.А. з СП, сказаў, што 27-га пачнуцца Дні балгарскай літаратуры ў Беларусі, што прыедуць зноў Н. Вылчаў, Ст. Паптонеў... Божа прамілы! Добрыя гэта хлопцы, і хай жыве беларуска-балгарская дружба, — але што мне рабіць з сабою, са сваёй душой, якая ніколі ўжо не вернецца, не павернецца да майго балгарскага мінулага? Хоць бы быў жывы Андрэй Германаў, — можа б ён падказаў што мудрае?!

*17-га кастрычніка*. Хоць праз не магу, але ўсё ж схадзіў на спектакль Бялыніцкага народнага тэатра "Канвеер". Аўтар п'есы малады драматург Міхась Карпечанка, пастаноўшчык і выканаўца галоўнай ролі следчага — В.І. Ермаловіч. На маю думку — выдатны і вельмі патрэбны спектакль.

Пасля пастаноўкі трохі затрымаліся на вечарыне ў гонар сталічнай прэм'еры. Быў В.Ф. Карамазаў, які папрасіў мяне "не варушыць мінулае". Ды, здаецца, я і даўно забыў на тое. Быў і Я. Міклашэўскі, сказаў, што я пішу ўсё лепш і лепш. Дзякую, братачка! А С.І.Г. па дарозе дадому замучыў споведзямі аб сваіх крыўдах. У тым ліку на Вільтоўскага, які — яму "не даў, а сабе адхапіў". У які раз давялося спытаць: "А вы хацелі б тры гады з дня ў дзень даглядаць бездапаможную Т.М. Гаўрук, — дзеля яе дохлай хрушчоўскай дзвюхпакаёвачкі?" У які ўжо раз!..

Пасля спектакля былая ЗК, знаёмая Сяргея Грахоўскага, чытала мне мае вершы — па памяці: "...сцерпяць людзі нашы ўсё — апрача несправядлівасці". І на развітанне — ужо пасля вячэры — паўтарыла гэта ж. Дарэчы, гэты верш — "Нашы людзі" — апублікаваны яшчэ ў 1993 годзе ("Нар. газета"), я чамусьці не ўключыў ні ў зб. "На высокім алтары", ні ў "Талісман". Здаецца, і ў 2-гі том "Збору твораў". Ці не дарэмна?

*20-га кастрычніка*. Цэлы дзень на канферэнцыі "Публіцыстыка Янкі Купалы". Выступіў з дакладам "Пуб-ка Янкі Купалы і сучаснасць", які закончыў пісаць толькі ў тры гадзіны ночы. Бачыўся і трохі перакінуўся словамі з Кіпелем (у прыватнасці, наконт сучаснай "Нашай нівы", яе назвы; ён цалкам згодзен са мной, што гэта было неразумна, прэтэнцыёзна. Ведае ён і пра здзеклівыя адносіны "нашаніўцаў" да мяне). Зора Кіпель выказала мне сваё захапленне маімі публікацыямі ў абарону вольнай Беларусі і беларускай мовы. Ну, што ж, нарэшце пачынаюць адкрываць і разумець мяне Там, за акіянам. Падарыў Кіпелям першы том Збору твораў і "Любоў прасветлую", якой яны асабліва ўзрадаваліся. Кіпель яе ўжо чытаў.

*21-га кастрычніка*. Працяг Канферэнцыі. Выступіў у дыскусіі наконт: а) куміраў Купалы, б) хто выкінуў Гаруна з "ЛіМБела", в) наконт неадкрытых твораў Купалы і інш. Уражаны дакладамі маладых (Ус. Рагойша, Зм. Санюк) і маіх былых студэнтак (Л. Тарасюк, Г. Тычка).

Малайцы! Радуюся. І на душы трохі лягчэй робіцца. Не загінем!

*22-га кастрычніка.* Быў на вечарыне памяці А. Адамовіча. Добра гаварылі пра яго паплечнікі і вучні, асабліва В. Дашук. Пісьменнікаў у перапоўненай зале — 5-6, не болей. Ні Быкава, ні Барадуліна, ні Бураўкіна, ні Казько... Ну, Брыль — хворы, а астатнія?

Агульны тон прамоў: Адамовіч — вялікі, вялікі ва ўсіх іпастасях. Нават у той, што ён, апрача як крытыку (і то не ўсю) — па-беларуску не пісаў. Нават у тым, што памёр, спрачаючыся за маёмасць маскоўскага Літфонда, а не за Беларусь і беларускую мову. Зноў і зноў падкрэслівалі, што з Беларусі яго выгналі, але не кажуць: хто?.. Як на маё разуменне, дык гэта постаць трагічная. Рэдкі розум і крытычны талент, а да Беларусі — па -сапраўднаму, па самым вялікім рахунку — так і не дайшоў.

Вечарам з дому пазваніў Быкаву. Аказваецца, яму блага было, прыступ удушша, пайсці ў ДЛ, зразумела, не мог. Распытаў мяне пра вечарыну. Трохі пагаварылі пра "халеру ў Адэсе". Настрой у яго — ніякі.

*24-га кастрычніка.* Быў на юбілейнай урачыстасці Нацыянальнай Бібліятэкі. Узровень — зусім не адпаведны. Божа мой! 75 гадоў галоўнаму цэнтру Нацыянальнай Культуры — і нават ніводнай кінакамеры, каб хоць адзін кадр зрабіць для тэлепраграмы! Для гісторыі. І для тысяч-тысяч чытачоў, якія праз экран змаглі б адчуць дух Свята Культуры, дух урачыстасці, святло і веліч Кнігі. У гэтым факце — як у кроплі расы свет — уся культурная палітыка сённяшняй "вярхушкі".

Бачыўся (сядзелі побач) і трохі пагаварыў з Я. Вайтовічам. Ён усё яшчэ не траціць надзей, што мая кніжачка ў Літве выйдзе. Сказаў, нарабіла гвалту, даведаўшыся аб гэтым, нейкая Голубева — і ён спужаўся, і ўсё прытармазілася. Трэба вычакаць.

*25-га кастрычніка.* Ездзіў у Радашкавічы, на юбілей. Мітынг і ўсе відовішчы былі на плошчы. Змёрз — як цюцька. Выступаў — дрыжэла ўсё нутро і палясквалі зубы. Перадаў мясцовай бібліятэцы — у гонар юбілею — сем сваіх кніг, у тым ліку двухтомнік і "Любоў прасветлую". Пра мяне там не забыліся, помняць добра і запрашаюць прыязджаць. Бачыўся з Альб. Іос. Дабранскім, трохі расказаў, як ён "арганізоўваў" маю перамогу на выбарах — у 1990. Я гэта адчуў і зразумеў яшчэ тады.

*26-га кастрычніка.* Заходзіла Кл. Ів. Бараноўская, аднакурсніца. Жыве на Віцебшчыне. І яна пацвердзіла тое, аб чым ужо мне паведамілі многія настаўнікі і выкладчыкі ВНУ: Ніла Гілевіча з вучэбных праграм тэхнікума выкінулі! Як сказаў бы Брыль: дагаўкаўся. Ды і дэмакраты пастараліся: дохлую паэму пра Луку-прэзідэнта падпісалі прозвішчам Ведзьмака Лысагорскага, а паколькі гэта імя прыкладаюць да мяне, дык і гэту "паэму" аднеслі на мой рахунак, хаця яна зроблена зусім не на маім

узроўні, і мяне як паэта гэта абражае.

*27-га кастрычніка.* Спектакль “Не праклінай, што я люблю” ў Чырвоным касцёле. Гледачы — сябры Беларускай хаткі, дык атмасфера ў зале была самая цёплая. Пасля спектакля чытаў вершы. А пытанняў, што мяне здзівіла, амаль не было. Прысутнічалі С. Грахоўскі і М. Ермаловіч, абодва выступілі і прачыталі свае вершы, пра спектакль — толькі мімаходам. С.І. так і не набярэцца мужнасці паглядзець на мяне як на паэта іншымі вачыма — адно помніць, што ён старэйшы, што я быў “малады, кучаравы”. Пахваліў маю грамадзянскую пазіцыю, смеласць, актыўнасць і нават засцярог ад празмернай рызыкі (“са свайго горкага вопыту” — зазначыў).

Артыст Лявончык быў у выдатнай форме, і ўсё ж: як не супадаюць у многіх мясцінах яго і мае акцэнты, як па-іншаму многія-многія радкі “Дзяцей” вымаўляю я! Нічога не зробіш, у яго сваё прачытанне, на якое ён мае права.

*28-га кастрычніка.* Быў на сустрэчы з балгарамі — удзельнікамі Дзён балгарскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі. Пайшоў з цяжкім сэрцам, вярнуўся дадому яшчэ з цяжэйшым. Як жа гэта ўсё ў маім жыцці атрымалася? Як я мог так неразумна распарадзіцца сабою? Навошта мне яны — усе гэтыя людзі, калі бачу і ведаю, што яны на службе расійскай палітычнай паліцыі і працуюць дзеля свайго хлеба, што ўсе яны за Саюз і за ліквідацыю незалежнай Беларусі!..

*6-га лістапада.* Пазванілі з пасольства Турцыі: незадаволены маім вершам пра курдскіх патрыётаў, сказалі, што курдскія сепаратысты могуць скарыстаць яго ў антытурэцкіх мэтах.

Ну і ну! Яшчэ не хапала мне клопату! Патлумачыў, што гэта паэзія, што курды ў вершы — хутчэй метафара, бо верш нельга вырываць з кантэксту маёй палітычнай лірыкі ў абарону нашай свабоды, у абарону незалежнай Беларусі. Тым не менш, прыслалі мне брашуру пра курдскі экстрэмізм у Турцыі — каб ведаў і не пісаў абы-што!..

*13-га лістапада.* Быў на сустрэчы з настаўнікамі Міншчыны — у абласным ІПК. Наладзіў сустрэчу гарачы сябра беларускай літаратуры, стары мой знаёмы М.У. Грудзінскі. Як і заўсёды, размова была шчырая, даверлівая. Добрыя, мілыя людзі — беларускія настаўнікі. Вось толькі Бог долі не дае — ні ім, ні мне, ні ўсёй нашай няшчаснай Беларусі.

*17-га лістапада.* Хадзіў у МГБЛ на адкрыццё выставы П. Панчанкі. Давялося сказаць слова пра П.Е. (у кампаніі з Вярцінскім, Зуёнкам, Законнікавым). Выстава — удалася: цікавая і змястоўная (аўтары — Л. Макарэвіч і Р. Чысты, мастак). Добрую справу робіць Музей!..

*26-га лістапада.* Вёў вечар Я. Коласа ў ДЛ, прысвечаны 115-й гадавіне паэта. Сказаў і сам слова — не вельмі ўдалае, бо не сабраўся з думкамі. Перад гэтым цэлую гадзіну гаварыў для радыё пра Жэню Янішчыц, — так неразумна сумясціў на адзін вечар і тое і другое. Хіба пасля ўспамінаў пра мілую Аўгіньку я мог засяродзіцца душой і думкамі на нечым іншым?

*29-га лістапада.* Хадзіў на ўрачыстасць: "600 гадоў пасялення татараў на Беларусі". Лепш бы не хадзіў. Нават і з татарскага свята ў родным Мінску выйшаў апляваны, прыніжаны і абражаны! Божа прамілы, што ж гэта такое робіцца? У прэзідыум Вечара пасадзілі 10 чалавек — татары, рускія, украінец, яўрэй — і ніводнага беларуса! Амаль 2 гадзіны гаварылі прамоўцы, хвалілі другую Радзіму татараў Беларусь, дзякавалі беларускаму народу — і ніводнага слова беларускага! Ніводнага! У сталіцы дзяржавы! Гучала руская мова, татарская, турэцкая, польская — і ні слова беларускага!.. Нават лапаць з Іўя на "великом и могучем" выказаўся!.. Тры гады назад такога свінства не было б! Не пасмелі б! А сёння...

Назад вяртаўся з Гарэцкімі, зайшоў (пад вялікім націскам) да іх, смакавалі настойку (спецыялітэт Г.Р.), пілі чай. Добра пагутарылі. Быў і М.М.І. са Смаленска. Цікавы хлопец.

*5-га снежня.* Быў запрошаны на сёння: у Маладзечна на юбілей бібліятэкі, на Хельсінскі Камітэт у Мінску, на Раду "Бацькаўшчыны", — нідзе не змог быць па стану здароўя. Хваробы не адпускаюць. Проста ў роспачы.

Выйшаў № 10 "Полымя" з маімі "Песнямі прапашчага". Ці будуць успрыняты — адзін Бог ведае. Можа, і не будуць. Маладымі дык напэўна. Трэба ведаць "гэны" фальклор, а моладзь яго не ведае.

*6-га снежня.* Занёс у ЛіМ вершы, ажно 12, у тым ліку — сямірадкоўі. Апошнія ў гэтым годзе. Міколу вельмі спадабаліся. Б. Бур'ян высока ацаніў мае "Песні прапашчага", сказаў — эксперымент цікавы і ўдаўся, "хітры мужык" і "паэт-майстар" спалучыліся. Званіў Матукоўскі, таксама хваліў "Песні".

*12-га снежня.* Быў на вечары У. Содаля, у музеі Купалы, зачытаў ягоны ліст да мяне з лютага 1957 года, з Мурманска. Ліст вельмі ўразіў прысутных. У 19 гадоў хлопец страшна перажываў за лёс беларускай мовы, беларускай школы. І выказаў свой боль мне — тады яшчэ маладому паэту, аспіранту.

Ці не апошняе маё публічнае — пры людзях — выступленне? Не толькі ў гэтым годзе, а наогул. Здаецца, досыць. Усё! Ніякіх прамоў. Ніякіх сустрэч. "На гэта звалі" — як любіць гаварыць Ніна. Усё!..

Званілі — раніцай — з “Беларускай маладзёжнай”, выказаўся наконт візіту расійскіх пісьменнікаў, наколькі яго мэта (аб’яднанне Саюзаў) засмуціла мяне.

*17-га снежня.* Аддаў Н. Семашкевіч рукапіс Другога тома. Цалкам перакантаваць не атрымалася, давялося вярнуць “Родных дзяцей”; адным словам, пакінуць у ранейшай кампазіцыі, адно толькі вершы абарваць не 93-м, як было, а 92-м (1977—1992). Значыць, калі ўвогуле не з’ядуць (а небяспека зусім рэальная!), то ў том трэці ўвойдуць вершы і паэмы 1993—1998, у тым ліку кніга “Песні прапашчага”, паэмы “Не хварэй” і “Лодачкі” (над апошняй патроху працую).

Вечарам з пачуцця сімпатыі пайшоў на канцэрт барда А. Атаманава, хоць чуўся кепска. На жаль, узроўнем вечара расчараваны. Хлопец псуецца, пераймае горшае з сучаснай эстрады, танныя вульгарныя прыёмы пазабавіць публіку (“ну-ка носікам аб носік цярнёмся!”). А сур’ёзныя сучасныя песні не прагучалі (грамадска-палітычныя). Неблагі голас даў Бог, але, але!..

*19-га снежня.* “ЛіМ” апублікаваў маю падборку. Гэтым і закончыў свой паэтычны год. Сямейнікі, чыйму густу давяраю, ухвалілі. Што скажуць чытачы і сябры? — пабачым. Зрэшты, падборка тыпова мая, без нічога асаблівага.

*23-га снежня.* Сталі вядомыя вынікі конкурсу п’ес. Мне не дасталося нічога. Нават заахвочвальнай... Як і трэба было чакаць. Ну, нічога! Шкадую толькі, што ўдзельнічаў, што палез у гэты “рынак”.

*24-га снежня.* Атрымаў з Балгарыі пачак газеты “Български писател”. У газетах — маё выступленне ў СПБ на сустрэчы з балгарскай дэлегацыяй, інтэрв’ю і вершы “Сон”, “Мне столькі хочацца табе сказаць...” у перакладзе Алекавай... у вельмі ўдалым... Проста здзіўлены. Інтэрв’ю магло б быць больш змястоўным і сур’ёзным, асабліва першая палавіна. Гаварыў не для друку, для самой журналісткі.

У газетах — шмат цікавага з сучаснага літаратурнага жыцця Балгарыі, аб настроях пісьменнікаў, аб ідэалагічнай барацьбе (так, так!) у іх шэрагах. А імёны на старонках — у большасці знаёмыя. І фотаздымкі. Як усё-такі моцна ўроссся я ў балгарскую літаратуру!.. І ад гэтага яшчэ больш горка і сумна.

*27-га снежня.* Наткнуўся на том Ластоўскага. Доўга гартаў, чарнеючы ад гневу на катаў-забойцаў. Успомніў і вечар у яго гонар у ДЛ, на пачатку лістапада. Пакуль я гаварыў пра яго — з болем, з жалем, — разоў пяць мяне перабіваў дзікім дурным крыкам адзін паэт. К. Цвірка не вытрываў, падхапіўся, крыкнуў: “Правакатар! Прэч!”. Між іншым, даўно заўважана: ён крычыць толькі ў час маіх выступленняў, ператварае залу ў

балаган тады, калі я гавару або вяду вечарыну. Персанальна прыстаўлены?

Публіцы ў той раз я сказаў: “Бачыце: травілі, гналі пры жыцці, затравілі, знішчылі, паўвека хавалі ад людзей спадчыну, — мала! І мёртвага абражаюць, і мёртваму не даруюць! Вось што значыць у Беларусі любіць Беларусь і жадаць ёй свабоды!..”



На святкаванні 50-годдзя літаратурнага аб’яднання “Белавежа”. Беласток 29. 06. 2008 г.

# Генадзь Бураўкін

## З нядаўніх блакнотаў

***

Радзіма,
Бацькаўшчына,
Айчына,
Матчына песня,
Бацькоўскі кут
Праўдзе вучылі,
Ад страху лячылі,
Клікалі душы
На праведны суд.

Дзе б ні былі мы,
Стаяць за плячыма,
Як Усявышнім падораны цуд,
Радзіма,
Бацькаўшчына,
Айчына,
Матчына песня,
Бацькоўскі кут…

***

Так хачу я
Шчасліва
У былое вярнуцца,
Дзе над рэчкай вірлівай
Кладкі здрадліва гнуцца,
Дзе паводкай ліецца
Залатое калоссе,
Аб якое я сэрцам
Так салодка калоўся.

Згледжу я зухавата
Пасля лёгкай знямогі
І буслянку над хатай,
І сасну ля дарогі.

Быць не можа,
Каб нешта
Не магло перапасці –
Хоць часцінка,
Хоць рэшта
Незваротнага шчасця…

***

Ох, ужо гэтыя харызматыкі,
Самазаяўленыя пракокі,
Непаседлівыя,
Як мятлікі,
І балбатлівыя,
Як сарокі.

Усё яны бачаць,
Усё яны чуюць,
Усё прадугледжваюць наперад,
Дзе хто лайдачыць,
Хто з кім начуе,
Каго дагрызае зайздрасці верал.

Хоць мы і ведаем іх,
Як аблупленых,

Ды не спяшаемся гнаць ад парога.
Вось і дзяруцца,
Як жабы на купінах,
Так,
Што з-за іх не пачуеш нікога.

Не палітолагі,
Не матэматыкі –
За што ні бяруцца,
Даводзяць да ручкі...
А вось жа шыкуюць паўсюль
Харызматыкі,
Правінцыйныя недавучкі.

***

Вераб’і –
Птушыны пралетарыят –
Узнімалі гвалт яшчэ здалёку
І каля зацененых прысад,
І ў двары на самым санцапёку.

Хоць ім дворнік не крышыў пірог
І жыццё здавалася паганым,
Сапсаваць настрой ніхто не мог
Шэранькім вясёлым хуліганам…

І бывала ўзімку пад гурбой
Выпадала радаснае шчасце
У бурклівых тлустых галубоў
Скібку зачарсцвелую украсці.

Ну а зараз
Раніцай ці днём
(Нібы іх павымелі дарэшты)
Не відно іх сваркі пад вакном,
Не чутно іх валтузні ў застрэшшы.

І без іх
Мне вусцішна цяпер.
Чым іх так прывабіла замежжа –
Ці то крыўдаў не змаглі цярпець,
Ці то раптам не хапіла ежы?..

Не знаходжу ў апраўданне слоў,
Быццам бы мы вінаваты самі...
Я ў вас не пытаю пра арлоў.
Адкажыце мне,
Што з вераб'ямі?..

***

Радасцю сэрца заселена.
Божа,
Як хочацца жыць!
Зоркамі неба засеяна,
Шляхам чумацкім імжыць.

Вецер лагодаю дыхае.
Месяц над лесам плыве.
Сцежка надрэчная, ціхая
Грэецца ў цёмнай траве.

Лёгкім туманам атулены,
Спіць супакоены край...
Гэта і ёсць мой матулін,
Богам падораны рай...

***

Ці знойдзецца ў полі падкова,
Ці ляжа ў застоллі абрус,
Нястрымана,
Невыпадкова
Расце праз мяне Беларусь.

Галінкай у садзе вясновым,
Іскрынкай на ранняй расе,
Як заўтрашняй явы аснова,
Маё празарэнне расце.

Загадкамі сцежак расстайных
І споведнай цішай раллі
Я сам
Незваротна ўрастаю

У лёс маёй роднай зямлі.

Ні ўладай захмелены дзеяч,
Ні морак,
Ні злы землятрус
Ніколі ўжо нас не раздзеляць –
Мяне і маю Беларусь.

***

З дрэва жыцця адрывае лісты
Старасці нашай сівая завея.
Але заранка твая ружавее,
Што мне калісьці даверыла ты.

Пэўна,
Нікому яна не відна.
Ды для мяне
І ў паўзмроку вячэрнім
Хоць на хвілінку
Яна яшчэ верне
Мройлівы водсвет юнацкага дня.

Сіверу нам паддавацца зарана.
І не вярнуцца ніколі назад.
Калі не сонейка –
Хоць бы заранка
Хай саграе наш заснежаны сад…

***

У гайку цянютым,
За лагчынай,
Дзе шуміць бярэзнік малады,
Кожны дзень
Зязюля мне лічыла
Будучыя доўгія гады.

А сягоння ў прыдарожным гуле,
За суседняй вёскаю ў ляску
Я пачуў яе,

Маю зязюлю,
З голасным і радасным "ку-ку".

Я пазнаў яе напэўна –
Тая.
Дык чаму ж патрапіла сюды?
Можа быць,
Яна пералятае,
Каб і іншым палічыць гады…

***

Як прыйдзе час
У споведнай журбе
Агледзець строга ўвесь свой шлях жыццёвы,
Не засмучайся надта,
Што табе
Так і не выдаў лёс вянок лаўровы.

Падзякуй Богу,
Што ты ўсё ж паспеў
Адкрыць кахання незямныя тайны,
Пачуць
Вясновы салаўіны спеў
І жураўліны покліч развітальны,
Стварыў сям’ю,
І нарадзіў дзяцей,
І вырасціў на гэтым свеце грэшным,
Што з кожным годам робіцца люцей,
І яблыню, і грушу, і чарэшню.

Парадуйся,
Што ўнукаў ты заўжды
Не папракаў няўцямнаю сваволяй
І з дрэў сваіх
Салодкія плады
Сарваць яшчэ няспелымі дазволіў...

***

*Віктару Буракову*

Калі застанешся адзін на адзін,
Стаміўшыся ладзіць з людзьмі,
Да кніжнай паліцы сваёй падыдзі
І томік мой сціплы знайдзі.

Старонку забытую адгарні –
І, можа, ўсплывуць над імглой
Світанні дзяцінства,
Юнацтва агні
І сонца радзімы малой,
І, можа, душа ўстрапянецца на міг
Яшчэ не завялым лістком,
Згадаўшы
Сцяжынкі між вербаў крывых
І рэчку з рыпучым мастком.

І, можа, сагрэюць астаткам цяпла
Цябе перад вечнай зімой
І памяць,
Якая ад нас не ўцякла,
І томік разгорнуты мой...



Ягор Хлябіч, *Габелен Польскі пейзаж*

# Вольга Шынкарэнка

## Новы дзень

***

Насупіліся
Старыя дамы: побач
Новабудоўля.

***

Юнак растаптаў
Прыдарожную кветку.
Баліць старому.

***

Зразумелася:
Каханне – цярплівым дар
За сілу кахаць
Слабых, нецярплівых,
Ратунак любоўю іх.

***

Пад насмешкамі
Не схіляецца мова.
Выдасць здрадніка

То праз слоўка бабулі,
То дзядоў вымаўленне.

## Лета

Музыка чараў прыроды таемнай
Ціха гайдае, палоніць бязмежна.
У купальскіх травах і квецені
Смела гарачае лета купаецца,
Да скокаў гожых усіх далучаючы
І вызваляючы ад непатрэбнага
У адзенні, рухах, словапрасторы.

## Новы дзень

Першай рупіцца раніца свет павітаць,
Поўніць няспешна песняй лагоды
Яшчэ не пасвараныя душу і цела.
Сеюць наўкол шчыра і шчодра
Неба – святога блакіту святло,
Зямля – дзіўных фарбаў багацце,
Дождж – жыццяпарасткаў безліч.
Што ж, новы дзень пачынаецца.

# Валянціна Кукса

# К Н І Г А Ў К А

## I

Дзень-ноч… Ноч-дзень… Несупынна бяжыць час. Адлічвае дні, месяцы, гады. Іх становіцца ўсё больш і больш. І чым іх больш, тым хутчэй мінае час. Вольга адчувае гэта. Здаецца, зусім нядаўна была яе сямнаццатая вясна. Вольга шалела ад свежасці паветра, ад блізкіх зорак у мяккім небе – працягні руку і дакранешся да іх. Любіла ўставаць рана, яшчэ на досвітку і ісці за ваколіцу. Знарок шукала хрумсткія ільдзінкі веснавых лужын, наступала на іх абцасікам і лавіла вухам іх крохкі звон. Вясна спявала галасамі кнігаўкі на прырэчным балоце: Кій-гі! Кій-гі… Жалобна так, але з надзеяй.

І вось – сонца ўзыходзіць! Ружовае і вялікае. Умытае і спакойнае. Вольга ўсміхаецца. Працягвае да сонца рукі, прыплюшчвае вочы, крадком пазірае, як яно закочваецца ў яе далоні. Яна мацней плюшчыць вочы, і сонца рассыпаецца на яскравыя жывыя кропелькі. Яны зіхацяць у вільготных Воліных вейках.

– Ай-яй! Навыперадкі бягуць вёсны, – сама сабе шэпча Вольга. Цяпер яна не працягвае руку, каб дакрануцца да зорак. Яны чагосьці становяцца вышэй. І не чуецца мелодыя, калі пад абцас трапляе ільдзінка веснавой лужыны. Сёння… сёння сямнаццатая вясна яе шлюбу. Ці не ўсе сямнаццаць яна песціць надзею, крохкую, як крык кнігаўкі?

…Вольга акінула сваю постаць у люстэрку, паправіла валасы, злёгку даткнулася да скроняў, паўзіралася ў тоненькія маршчынкі каля вачэй, чорных і бліскучых. Па-за ёю ў люстры віднеліся дзверы ў яе з Юрам спальню. Цяжкія парт’еры варухнуліся: са спальні выйшаў Юры. Вольга адвярнулася.

– Ты не спазняешся? – спытаў.

– Не. Ужо выбягаю.

– За мной выйшла машына. Падвезці?

– Не, дзякуй. Я праз сад. Прайдуся… Будзь.

Не было дзяжурнага пацалунку ў шчаку. Развітальнага. Ужо даўно не было.

Вольга таропка збягае па лесвіцы, а за сцяной гудзе ліфт. Гуд абганяе яе, і Вольга чуе, як ляскаюць дзверцы аўтамабіля ў двары. Неўзабаве з пад'езда выходзіць і Вольга. У паветры стаіць пах выхлапнога газу, змешанага з пахам язьміну. Пыл і пах асеў на росную траву, а на душу – смутак. Пасля першамайскіх святаў на вуліцы ціха і бязлюдна. На асфальце валяюцца папяровыя кветкі, ашмёткі шароў, каля тэлефоннай будкі пакінуты некім транспаранцік. Вольга паварочвае на сцежку, што бяжыць праз лужок, паблізу фарта і хаваецца ў старым закінутым садзе. Там-сям купкамі растае туман. Адна купка зачапілася за корчык вербалозу і яго пракалоў ружовы сонечны прамень. Корч стаў ружовым і жывым і засвяціўся вясёлкаю. Вольга аж войкнула ад неспадзяванай прыгажосці. Азірнулася, але побач нікога не было, а так хацелася падзяліцца з кім-небудзь казачным відовішчам. І туман знік, і корч стаў звычайным карчом, а радасць не праходзіла. Новы мікраараён застаўся ззаду, а сцежка заглыбілася ў прыватны сектар старога паселішча Граева. Па старой брукаванцы ходзяць гарадскія аўтобусы, і Вольга абмінае прыпынак, дзе стаяць некалькі чалавек. Малады хлопец і бабулька з вядром ядраных росных цюльпанаў. Тут людзі ведаюць адзін аднаго, таму чалавек, які выйшаў на прыпынак са свайго падворка, паправіў на галаве навюсенькі фабрычны брыль і гучна прывітаўся:

– Здароўце, – працягнуў хлопцу руку і кіўнуў бабулі. – Чулі? – Чарнобыль гакнуў. Па радыё зараз перадалі. Здрастуце, Вольга Пятроўна, у больніцу спяшаецеся? – не прамінуў і Вольгу. Яна адказала на прывітанне і запыталася:

– Не, я радыё ранкам не слухаю, і што?

– Ды рэактар узарваўся. Усё трутызна на нас паваліла. Трохі на Браншчыну, трохі на Украіну, астатняе – нам. Лічы, атамная бомба ахнула, бы ў Хірасіме.

– А дзе ж той Чарнобыль? – пытае старая. Запацелыя цюльпаны чырванню адліваюць на яе твары.

– На Украіне, цётка.

– Ой, то, можа, да нас не дастане? – панадзеялася бабця. – Мы ж далёка. І чаго тая боныба лопнула? – пацікавілася яна. Але Вольга ўжо не чула, што адказаў ёй мужчына ў фабрычным брылі, бо павярнула па сцежцы ў сад. Глыбокая падсвядомая трывога поўніла сэрца. Псаваўся сяточны настрой і шырыўся ў душы смутак.

“Не надта ў нас пачуеш такую навіну па радыё. – разважала Вольга. – Раз сказалі, то замоўчваць ужо нельга. Калі ён узарваўся: сёння, учора ці святамі?”

Збоку застаўся разбураны форт, прыпынак, а сцежка бегла праз вірuючы квеценню сад, ды Вольга зараз не звяртала на тое аніякай увагі. Прыспешвала. Праз які час узбегла на ганак старога, яшчэ з царскіх часоў, будынка, адчыніла дзверы і бальнічны пах рашуча адкінуў веснавы.

II

Хоць і намагалася маці не ляскаць на кухні, ды то накрыўкаю стукне, то кацюбка ўпадзе і Ліда прачнулася. Вачэй не расплюшчвала. І так усё помнілася: стол каля вакна з ямінкаю ад сучка, насупроць – шафка для посуду. Бацька зрабіў сам з фанеры, калі яшчэ не трапіў пад поезд і быў з нагамі. Яна распісвала гэтую шафку крэйдаю, бы класную дошку. А яшчэ яна памятае, як некалі пазбіраліся родзічы, альбо свята якое было, альбо выбары, ігралі музыкі, а дзядзька Рыгор ухапіў у рукі драўляныя лыжкі і так бубніў-ляскаў па гэтай шафцы, што ў яго аж вочы сышліся ў купу да пераносся ад напругі, каб утрымаць “такту”. На сцяне – маляваны па палатне дыванок казкі “Рэпка”. Школьніцаю Ліда разглядала малюнак і дзівавалася з дзеда:

– Які ён стары і нядужы! Каб рэпку выцягнуць – гэтулькі памочнікаў даклікаўся. Лысы, вусаты і зморшчаны.

Ліда паглядзела на сцяну і ўсміхнулася: “рэпка” па-ранейшаму вісела на сцяне, прыбітая цвічкамі, толькі абтрапалася па краі тканіна.

– Дзед яшчэ нішто сабе, не такі ўжо і стары, толькі хітрун і лайдак. – Па-іншаму цяпер, дарослаю, паглядзела Ліда на дзеда.

Над дзвярыма ўсё яшчэ вісіць рэпрадукцыя карціны “Охотники”, і над вакном “Рыбак”. І рамка са здымкамі. І пах! Такі родны і незабыўны з дзяцінства. Дымком з печы, гарачымі перадпаломнікамі-блінцамі і прыпражанаю бульбаю.

За акном пачуліся крокі, затым у хаце голас дзядзькі Рыгора.

– Мне б пляшачку, га? Троху капеек прыхаўнуў ад Зосі. Лыгну – трошку весялей будзе, – бубніў ён, і Ліда ўявіла яго вясёлыя вочы пад калматымі брывамі.

– Годзе-годзе, цішай! Ліда, во, прыехала, разбудзіш, ведаю, што ад Зосі крадзеш, прайдоха, – сціху гаварыла маці. – На за так шкляначку, сумны такі зранку. От, няма на вас рады!

– Ліда прыехала?! – дзядзька глынуў гарэлкі, аж той “коўк” пачула Ліда. – О-о! Даўно не бачыў. Будзі! Пагаварыць люблю з ёю.

– Няхай паспіць, ціш-шай!

– З сонцам павінна ўстаць, а яна – спіць! Лайдачка гарадская!

Але Ліда ўжо адчыніла дзверы. Дзядзька ўсмешліва паглядзеў на яе з-пад сівых калматых броваў. Усміхаецца так, што сонцам свеціцца ўвесь твар.

– Здарова была, пляменніца мая дарагая! О-о! Расхарашылася! Сама прыехала?

– З Настачкаю. Алесь працуе, адпачынак у яго пазней. – Ліда абняла дзядзьку.

– Што там чуваць у горадзе? – спытаў.

– А, нішто, жывём. Больніца, крама, дом… Вось усё, што бачу і чым жыву.

Прыселі да стала.

– То нямала, нямала бачыш. Акурат на вяселле трапіла. Іванка мой жэніцца.

– Каго бярэ?

– А Любку Каленікаву. Харошая дзеўчына. Ветэрынарам у калгасе працуе. А Іван – механізатарам. Усе родзічы папрыязджаюць – пабачышся з усімі.

– Хоць песень сваіх наслухаюся.

– Што там – наслухаюся, і наспяваешся. Помніш? – дзядзька зноў засвяціўся ўсмешкаю і завёў ціхенька: ”Чого росплэтёна коса, а на очах блышчыть слёза..” Не забылася? А то ж нас па радыё перадавалі, не чула?

– Не, ня чула, – засаромелася Ліда ад таго, што не чула сваіх землякоў па радыё. – А вы ўсё ходзіце на спеўкі?

– Хаджу, чаму ж.

– Радая за вас. А як тут, моладзі многа?

– Ёсць і моладзь, і старэйшых. З тваіх аднагодкаў ёсць некаторыя, – хітра зірнуў на Ліду. – У начальства павыбіваліся. Міхась, во, брыгадзірам стаў. Спачатку галаву задраў, “здрастуце” не ўсім казаў. Дык тут жа Быкоўскім адражнілі, маўляў, рогі выраслі хутчэй, чым пасада брыгадзіра. Абламалі тут жа. Перамяніўся ўраз! Людзі не дадуць мудраваць, калі ты таго не варты.

Дзядзька яшчэ расказваў і расказваў пра землякоў, а Ліда задумалася-паўспаміналася. Міхась – яе юначае каханне, першае, моцнае і няшчаснае.

– Га? Што задумалася? Не шкадуй таго, што мінулася. У кожнага свая дарога і шчасце.

– Як Рая вашая жыве? Дзе яна цяпер?

– Тут яна, у суседняй вёсцы замужам. Марнуе жыццё. Ай-яй-яй! – паківаў галавой дзядзька. – Паехалі да яе на хрэсьбіны. Другенькім парадзінілася. Узялі са старою дваццаць пляшак гарэлкі, сцягно скапцілі, каўбасаў набралі – паехалі. Цяпер багата хрэсьбіны спраўляюць. Заходзім у хату, а ён – спіць. Спіць, значыцца, а мухі па твары поўзаюць. Яна сядзіць каля пліты – бульбу абірае. У пліце патухла. Яна тут жа бярэ бляшанку з саляркаю і – шусь у пліту. А Божачкі! І зноў абірае бульбу. Ну, хто ж яе будзе есці пасля гэтага? Падлога анучы не бачыла – Бог ведае, які ўжо час. Пад сталом – батарэя пустых пляшак. На стале – груда нямытага посуду. І рой мух! О-то гаспадары! А дзверы такія – шуфля трэба, каб гразь здзерці. Ну, ты ж – баба! Няхай ужо ён п’е. Але што ехала – тое напаткала. Абое п’юць. Старэйшага хлопчыка забраў з сабой – гадую. Пазней і меньшанькага забяру. Што ж я – у дзетдом аддам? Аніколі.

Паехаў гэтаю зімою паглядзець, мо, думаю што змянілася да лепшага. У хату адразу не пайшоў, а ў хлеў. Па гаспадарцы ж відно, што ты за гаспадар. Ну, і што там? Шыферу каля плота цэлы стус, а дах у хляве не накрыты. Дзіры – сабакі лазяць. Ровар – новы-навуські каля плота ўмерзлы стаіць шчэ з восені. Карова храбтом вышкі падпірае. Узяўся я за вілы гною выкінуць. А бацюхны мае, чаго там толькі не стае: і спадніца, і майка, і … бубен! Вось, думаю, чаго па табе мухі лазяць. За гарэлкай свету не бачаць. Ніхто ж не забараняе, калі з розумам, але ж прапіты розум, вось яна, бяда якая… Хай цябе трасца возьме. Навошта жыць тады на свеце?

Дзядзька цяжка ўздыхнуў і махнуў рукою. – У вас у горадзе не так. Толькі праца, а дома ўсё пад бокам, ні табе вады не трэба насіць вёдрамі, ні табе дроў запасацца на зіму, ні табе сена не касіць… Ні зямлі, ні гаспадаркі…

– Даюць зямлю. І мы ўзялі. На гародзе адпачынак ад мітусні і гарадскога тлуму. Там ні начальства над табой, ні часу. Колькі зрабіў – столькі і твайго. У горадзе чэргі нервы вымотваюць, час па мінутах разлічаны.

– Так, калісь устаў разам з сонцам, з’еў, што маеш, папрацуеш удоваль, і лёг з заходам сонца. Час адмяраўся работай, парой года, сезонам. Маеш рацыю. Ат, забалбатаўся я тут з табой. Пайду, дык на вяселле прыходзь, уся вёска будзе, пабачышся з усімі. Бывай.

Ліда паднялася з услона і выйшла за дзядзькам.

– Значыць новы кіраўнік раздае зямлю людзям, кажаш. Добра гэта ці кепска? – азірнуўся і запытальна паглядзеў на Ліду.

– Пабачым, дзядзьку.

– Дваццаць гадоў пад адным жылі-былі. Прывыкласе. А тут ужо трэці за такі кароткі час, – пацiснуў плячыма, зноў хітравата пасміхнуўся дзядзька і пераступіў парог. – Нам мала што ад гэтага, дажывём, а вам, маладым – жыць. Думайце!

Ліда кіўнула на невядомую для сябе згоду. Так, і жыць ім, і думаць ім, маладым.

III

Пад тэнтам у двары жанчыны накрываюць на сталы. Там-сям, па-святочнаму прыбраныя, стаяць мужчыны. Гамоняць і чакаюць пахмелку. Учора добра-такі панабіраліся. Збоку, ля ўвахода пад тэнт, настройваюцца музыкі: то разеткі правяраюць, то на клавішы націскаюць і дынамік разносіць гучны рык па ваколіцы. Пад хатаю на лаўках сядзяць тры зусім старэнькія бабулькі і ўспамінаюць мінулае.

– От цяперака жытка, жыві – не хочу. От, тобе удовіца, сорак гадоў, двое дзяцей, хфірма дапамагае, а я, шчэ з-за Польшчы, удовіцаю зосталася, дваццаць пяць годочкоў, трое дзяцей, хаты няма, усэ по наймах ходзіла. Роблю, роблю, а концы з концамі ніяк не звесці, – кажа баба

Савета.

– Але ж жывыя позоставаліся. На ўсэ воля Божая, от шчо я скажу, – адказвае баба Ярына. А трэцяя, Гандзя, сперлася на кіёчак, узіраецца ў абедзьвюх і бесперапынку ківае галавой. Відаць, што яна моцна не дачувае.

– Угу, гэтак. Я памятаю, шчэ мой жывы буў, а я думаю, дай продам яец, дай пытаю ў свого: колькі мне яец продаць? А ён кажа, ну, продай дваццаць. А я і зноў пытаю, а колькі то – дваццаць? Ён мне і кажа: дэсяць і шчэ дэсяць, а я пошчытала, да і кажу: а ў мяне дэсяць і шчэ однэ. От, ён і кажа, ну і продавай гэтулькі. Пошла я на базар, а там баба продае жыду транты, латаны-пералатаны. Жыд і пытае, і кулько ты хочаш за гэто? Баба кажа, поўтора. А жыд кажа, то я дам два, а вона – не, кажа, поўтора больш за два. Ці ты шчо чуеш, Гандзё? – звяртаецца да той, што бесперапынна ківае галавой. – А, з глухім гаварыць – сілу дарма траціць. Ківае… А што яна ківае, утомісся, пакуль што дапытаесся.

– У мяне нешта пытаюць, потым на вуха нешта пашэпчуць, а я паківаю галавой, а сама ніц не знаю, пра што, – кажа глухаватая і здорава смяецца.

– От, смяецца сама з сябе.

– То ж добра, абы не сварыцца.

І глухаватая зацягнула дзіўную, старадаўнюю песню:

Ох, маці моя міла–а,
Замучыла мяне ніва–а…

Голас у бабулькі высокі і моцны, аж сцішылі настройку музыканты.

– А ты вясельную зацягні, – пракрычала ў самае вуха Савета.

– Га?

– Вясельную! Гакаеш, то ж на вяселле прыйшла, то і спявай.

– Ага, добрэ, зараз проспяваю, – баба Гандзя выпрасталася, вытрымала паўзу, набрала духу і зацягнула:

Ой, пайду я дарогаю–ю–у,
Пушчу гук дуброваю–ю–у,
Ды няхай маці моя чуе–е–э,
Дачку замуж аддае–е–э…
Паміж жыта зяленае–е…
Паміж людзі вясёлае–е…
Дзе жыто родзіцца–а…
Дзе людкам добра паводзіцца–а–а–а…

Далёка сціх голас бабы Гандзі.

– То ўжо йдзіце за сталы, бо маладыя ўжо чакаюць усіх, – паклікала гасцей цётка Зося. – Сядайце, як зручней. Ешце-піце, госцейкі дарагія. А ты, сваточку, чаго такі засмучоны ды скрыўлены? Ці баліць што?

– А рэбры мае баляць, сілы няма трываць.

– То ў людзей на другі дзень галава можа балець, а ў цябе – рэбры!

– А то ж я ўчора стаю тутака, гляджу, як танцуюць. Жанкі ды маладзіцы так задамі выкручваюць, так выкручваюць, ды лакцямі ніжуць,

ніжуць. А музыкі: бум-ча-ча! Бум-ча-ча… Узяла мяне такая сіла, думаю, пайду і я пакручуся каля іх. Пакуль намерваўся, нешта цяжка было з месца зрушыць, ступіў як раз у такту музыкам, а яны ж вазьмі ды заіграй марш “Да стала”. Усё вяселле рушыла, як мяне на зямлю паклала – не прыпомню, а яны так і паперліся па мне, так і паперліся. Усё вяселле – па мне, нагамі па рэбрах, па рэбрах. Я і стагнаў, я і крычаў, а хто там цябе чуе?! Пруцца, бы зроду той гарэлкі не бачылі. Ачомаўся, дык ні павярнуцца, ні сесці, ні легчы.

– То выпі, сваточку, зараз табе палегчае.

– Вы ж учора прасілі нас танец нейкі, мы такога не ведаем, – кажа музыкант, хлопец вясковы, але з другога сяла.

– Я прасіў? – здзівіўся сват. – Я не мог прасіць.

– Ну, як не прасіў. Пасля таго, як вы падняліся з зямлі і стаялі ракам, казалі: зайграй шаламананэ, зайграй шаламанэ…

– А-а, то ў нас гаворка такая, з іншых мясцін і не зразумеюць, гэта не танец, а я прасіў, каб вы зайгралі шчэ іменна для мяне: шчэ для мяне – ша ла манэ. Поняў цяпер?

Смехам поўніцца палатка, людзі гамоняць, аціхаюць толькі на момант, калі бяруць да губы ці закусваюць, а Ліда шукае вачыма Міхася. Хацела пабачыць яго, пагаварыць, разняволіцца і вырвацца ў мінулае. Учора так і не давялося, а сёння другі дзень вяселля, усе паедуць да маладой – можна будзе і ўцячы ад людзей.

Буйныя кроплі хуткага дажджу забарабанілі па даху палаткі. Грамавы гул у небе спрачаўся з людскім гулам у палатцы. Ад выпітага шумела ў галаве. Увесь час хацелася ўсміхацца, а вочы безупынку шукалі Міхася. ”…Не збылося… А тут лепей гуляецца вяселле, чым у горадзе. Тут – воля…”

Праз нейкі час, а доўжыўся ён гадзіну ці хвілю, засвяціла сонца. Хмара панеслася далей, пакінуўшы буйную вясёлку па-над самай хатай. Модны цяпер ансамбль зайграў неўміручую польку. Вясельны гоман перамяшаўся з сонцам і дажджавой вільгаццю. “Вось ён!” Сэрца зайшлося так, што самлелі ногі. Міха сядзеў напрыканцы лавы пры ўваходзе ў палатку. Яны сустрэліся вачыма, і Ліда апусціла вочы. А Міха не адвярнуўся. Глядзеў і глядзеў на Ліду. “Пайду! Сама папрашу. Пайду…” Яна падняла галаву і зноў упілася ў яго вачыма. Па-змоўніцку міргнула.

І–і–іх! Пайшла быцьку даіць,
А ў быцькі стаіць,
Ой, то чорт – не карова,
Яка цыцка здарова!
Ох–ох–оха–ха!

Спявала нейкая цётка, прытупваючы нагамі, абутымі ў кеды. Ліда выйшла. Прыпынілася каля вішні, якая буйна занявесцілася. Навастрыла вушы не на прыпеўкі, якімі сыпала маладзіца ў кедах, а на крокі за спіной. Азірнулася на дотык рукі да пляча. Трохі злыселы, з рыжымі вейкамі

вакол светлых і калючых вочак, побач стаяў Міха.

– Давай уцячэм… У лес… У чаромхавы гай, помніш? – зашаптала Ліда, не гледзячы на Міху. Міха здзіўлена вылупіў вочы.

– А… Што ты? Разам?

– Не. Спачатку пайдзеш ты, а пасля – я…

І пайшоў. Ліда схамянулася. Нібыта апрытомнела. Радасна і гулка забілася сэрца. “Даспяваю!” – ні то пра мінулае, ні то пра сённяшняе падумала яна і рушыла да лесу. Чуйна прыслухоўвалася, як ганяе мелодыю музыка.

На вяселлі я гуляла,
Танцавала польку,
Усіх хлопцаў перабрала,
А выбрала Кольку.

Мяккая маладая трава старанна выслала сцежку, а поруч, за бярозкамі вілася шэрая стужка шашы. За алешнікам бялела чаромха. Па сцежцы насустрач ішоў Міхась.

– Доўга ты… Адправіла мяне, а сама не спяшаешся, – узяў за руку і пайшоў побач. Абняў. Пачаў цалаваць.

– Чакай, чакай… Ну, што ты.., – зазірнула ў вочы і прытулілася да яго ўсім целам. Бы і не было дзесяці гадоў, іншага жыцця, сям’і, Настачкі, Алеся…

– Сціхні… Ашалеў!

– Хіба не гэтага хацела ты сама? – яго вочы зліліся з ягоным тварам, рукі згаладнела шарылі пад тоненькай блузкаю, ды Ліда ўжо не баранілася. Выпітае і блізкасць Міхася шалёна кружылі галаву.

– Ай, не магу… Чакай…

Усё злілося ў адно і знікла прастора.

– Мішанька… Жаданы мой… Любы…

– Любіш? Кажы, што любіш. І я люблю, чуеш? Ты яшчэ лепшая, чым была. Нездарма я думаў і думаў пра цябе. Так і трэба… Так і трэба…

Усё аціхла ў гаі. Бы скончылася жыццё. Нічога і нікога не існуе. І няма дзесяці год расстання.

Аўтамабільны гул раструшчыў цішыню. Ён усё мацнеў. Адчувалася, што караван аўтамабіляў цяжкім ходам валачэцца па шашы.

– Што за гул? – спытала Ліда.

Міха паўзіраўся праз чаромхавыя зараснікі.

– Ваенныя машыны. Можа, на вучэннях? Лепей пра сябе раскажы. Надоўга сюды?

– У адпачынак. З Настачкай.

– А муж?

– Працуе, – зірнула на шашу. – Не, не ваенныя. Самазвалы гружоныя… Зямлю нейкую вязуць.

– Кінь! – павярнуў да сябе Ліду. – Успамінала калі пра мяне?

– Каб забыла – не прыйшла б.

– Каб не вяселле – як бы мы сустрэліся?

Ліда адкінула з лоба змакрэлыя валасы, паглядзела на потны счырванелы Міхасёў твар і падумала: “Вот, дурніца! Захмялела…”

– Шкадуеш? – угадаў Міха.

– Не, не шкадую, – паднялася і пайшла да шашы. Ён рушыў за ёю.

– Усё ідуць і ідуць. Што яны вязуць? Можа на будоўлю пясок? І чаго пажарныя? А вось салдаты ў процівагазах.

– А, вучэнні па грамадзянскай абароне. Вучацца… Калі сустрэнемся зноў? – запытаў.

– Буракі буду палоць на матчынай дзялцы, і бацька можа заўважыць, – паціснула плячыма. – Можа, досыць?

– Не, не досыць. Сама ведаеш, што прыйдзеш. Ты ж сама таго хочаш. Ну, скажы, што хочаш, нам заўжды было добра, помніш?

– Што было – тое сплыло.

А па шашы гулі і гулі самазвалы.

Міха і Ліда ўпаасобку вярнуліся ў вёску, дзе шыкоўна гулялі вяселле.

– Мам, я пайду! – гукнула Ліда і закінула на плячо цяпку.

– Зноў голая будзеш? Апрані што з рукавом – спалішся. Такога пекла ў маі яшчэ не было. Зірні на сябе, скура нібыта ў слана.

– Ай! На рабоце скажу, што на курорце запалілася, – светла ўсміхнулася Ліда і лёгка пайшла. За ёю рушыла маці.

– Чакай, пагаманіць трэба.

Ліда прыпынілася. “Пранюхалі”

– Давай пагамонім, – згадзілася яна.

– Начорта табе той Міха? Маеш сям’ю, выпівоха табе патрэбен? Людзей бы пасаромелася!

– Людзі наплятуць! Слухай іх паболей, – агрызнулася Ліда. – З Алесем учора гаварыла, усё нармальна. Нічога я не збіраюся рабіць. Алесь казаў, што перапалох у горадзе. Рэактар у Чарнобылі ўзарваўся, радыяцыя вялікая пайшла на нас – вось што страшна, а ты пра Міху.

– А што мне да той радыяцыі? То ж не вайна! Мала, што там рвецца.

– Не ведаю. Пайду на працу, можа што і даведаюся. О, бачыш, зноў у процівагазах некуды едуць. Міліцыі поўна…

Пачакалі, пакуль па шашы праедуць машыны і пайшлі на поле. Хоць і невысока паднялося сонца, але прыпякала добра. Людзей на дзялках ужо было. Кожная корпалася на сваіх градах і гаварыць не намагаліся. Апоўдні, калі спякота стала невыноснай, пазбіраліся купкамі пад ценем ад таполяў на беразе возера.

– Папалуднуем, ды трэба трошкі перачакаць жару. Невыносна, – сказала маці. – Гукні Гандзю з Ленкай. Палуднаваць весялей будзе.

– Ленусь! Хадзіце да нас! – гукнула Ліда.

Жанчыны прыселі на посцілкі, павыстаўлялі малако, вараныя яйкі,

хлеб, сала.

– Ну, дабрыдзень! За работай і прывітацца няма калі, – пажартавала Гандзя.

– За працаю і жывём. Сядайце.

– Лена, давай паплаваем. Асвяжыцца варта.

– Паясцё, а там – што хочаце сабе.

– Мне не хочацца есці, – сказала Лена.

– І я не хачу, пайшлі!

Аднак, стоячы, узялі па скрылёчку сала з хлебам, папілі малака і пайшлі да вады.

– Ліда, то праўда, што з Міхам зноў?

– Ну, што я, спарахнелая ці што? Ёсць такая нагода, я і… Праз тыдзень канчаецца адпачынак і зноў запрагайся: сям'я, работа, скаргі, хворыя... Мо, гэта апошняе, што я магу скарыстаць

– Ты што, паміраць сабралася? Апошняе!

– Ты хіба ведаеш, што надоўга, а што – не? Я – вольная птушка!

– І ты не баішся Алеся?

– Ха! А што, ён пазначыў ці што? Плыві да мяне.

Жанчыны плавалі, а пасля выйшлі на мелкае і ляжалі на мокрым пяску. Вада хвалькамі змочвала іх целы. Воддаль гаманілі дзеці, лавілі рыбу, самі, як тыя рыбы, плёскаліся ў вадзе. На небе ні аблачынкі. Здавалася, адно сонца разлілося па ўсёй прасторы.

– Занадта яно ўзялося смажыць, – сказала пра сонца Лена. – Пайшлі ў цянёк. Зірні, якая ты стала.

– На дзіва не чырвоная, а шакаладная. Вельмі хараша запалілася. Я ж не адразу, а паволі, пакрысе. Мужу спадабаецца, – устала з пяску і пайшла ў цень.

Да возера пад'ехала машына. Спынілася ля масточка, дзе часцей купаліся вяскоўцы. З машыны выйшаў чалавек у міліцэйскай форме. Ліда пазнала яго і памахала рукой.

– Анатоль! Сюды! Тут лепш купацца, тут бераг палогі!

– Яны табе трэба? – зазлавала Лена.

– Гэта мой сусед з горада, адказала Ліда і звярнулася да Анатоля. – Ты чаго тут?

– Накіравалі да вас на падмогу.

– Буракі палоць? Мы і самі справімся, – весела пажартавала Ліда.

– Мы – санпрапускнікі. З зоны машыны едуць, а мы змываем з іх радыяцыю.

– У якую зону? – запыталі абедзьве жанчыны ў адзін голас.

– Вы што, не ведаеце? – здзівіўся Анатоль. – Трыццаць кіламетраў ад Чарнобыля – забруджаная зона. Радыяцыя там. Мы змываем яе вадой, папулярна і проста табе тлумачу. Без праверкі не прапускаем прадукцыю. Малако, там яшчэ што… Разумееш? А я люблю малако. Вось трохлітровы слоік з сабой важу. Налью з малакавоза і п'ю сабе, пакуль не вып'ю. Бач,

якое пуза, – надуўся Анатоль і ўсе засмяяліся.

– Ліда, пайшлі палоць! – гукнула маці.

– Ідзё–ом! Трэба ісці. Ты калі дадому? Можа нас з Настачкай забярэш?

– Не, я толькі прыехаў. Нас сюды на тыдзень–два, а потым іншыя прыедуць. Вахта. А вашу вёску мусіць таксама адсяляць будуць, як і тыя, – кіўнуў у бок.

– Як – адсяляць?! Куды? – спалохана і з недаверам спытала Лена.

– Ну, зусім… Высяляць у раёны больш бяспечныя…

– Гэта так сур’ёзна? – запытала і Ліда.

– Сур’ёзней не можа быць. Але мы ўсе заўжды былі аптымістамі. – Анатоль зняў фуражку і падставіў лоб, мокры ад поту, наляцеўшаму ветрыку. – А вы што, нічога не чулі, ці прыкідваецеся дурнямі? Па радыё ж …

– Не слухаю нічога. Так. Людзі пагаворваюць. Ну, і навіну ты нам прынёс! Пойдзем мы палоць буракі. Слухай, а … а хто іх будзе выбіраць, калі адселяць? Што-та ты не так зразумеў пра адсяленне.

– Высяляць людзей трэба тэрмінова, а не пра буракі думаць. Каму ж яны… Ды паглядзім, што з гэтага ўсяго атрымаецца. Ну, будзь. Можа, яшчэ заскочу да ад’езду.

На душы стала пагана. Лена прамовіла:

– Табе – што? Бацькоў, можа, да сябе забярэш, а як нам? Гаспадарка ўся, школа, дзеці, хата… Работа… Сад… Усё пакінуць? Ці ж пабудовы з сабой забярэш? Абы што нагаварыў твой сусед. Мусіць жартаваў, га?

– Хіба так можна жартаваць? Ён не пляскатун. І трывожны пагляд, стомлены.

Жанчыны прыпыніліся там, дзе скончылі палоць. Але да працы не прыступалі. Ва ўсёй іх паставе, узмахах рук пры гаворцы ўгадвалася трывога. Да іх пачалі падыходзіць іншыя жанчыны з поля. Гуртам разважалі над навіной.

– Ото ж казаў Тонік  Гусін, што з Чарнобыля адразу павысялялі людзей, а мы не верылі. Думалі, што часова.

– А я думала, што ўсе назад папрыязджалі, а тут бачыш, і нас хочуць высяляць. І куды?

– Каму мы трэба? Можа як вымыюць тую трутызну? – не верыць Любка, нявестка дзядзькі Рыгора. Яна ўжо была цяжарная і баялася каму пра тое сказаць.

– Мо старшыня што скажа? Такі ж яму хоць што ведама. Каму-каму, а яму павінны пра ўсё сказаць.

Так і засталіся жанчыны з навіной, як на раздарожжы, гуртам рушылі ў вёску.

– А то ж казалі, што з райкама нехта з’ехаў, казалі ж…

– Уцякаюць людзі…

– Бо прыезджыя, той уцякаюць, ёсць куды.

Вёска шуміць ад навіны. Пыталі ў старшыні пра адсяленне, ды той

нічога талковага і зразумелага не сказаў. Ці замоўчваў праўду, ці не меў яшчэ распараджэння ад органаў, ці сапраўды нічога страшнага не было.

Так і паехала Ліда ад бацькоў, ясна нічога не ведаючы.

IV

– Ні ў які лагер я не паеду! Да бабулі хачу! Кожнае лета на канікулах там быў і цяпер паеду, – рашуча аднекваўся Жэнік.

– З вашай школы ўсе паедуць у лагер. Паедзеш і ты! – раздражнёны доўгай спрэчкай з жонкай і сынамі адказаў Юры. – Ідзі і спі!

Вольга маўчала. А калі Жэнік і Максімка пайшлі ў сваю спальню, звярнулася да Юрыя.

– Не змушай іх ехаць у лагер. Кожнае лета ў бабулі, а сёлета ты хочаш адправіць у лагер.

– У тваёй бабулі – радыяцыя! Разумееш?! А лагер – спецыяльны, для аздараўлення. Там многія будуць.

– Многія – гэта не ўсе. Жывуць жа там людзі, дзе радыяцыя. Куды ім падзецца? – сціху пярэчыла Вольга.

– Прыдзе час – адселяць, а пакуль што будзе так, як выходзіць.

– Такім, як ты – заўсёды выходзіць.

– Вольга, пакінь. Ты ж урач і добра разумееш сітуацыю.

– Канечне, я – ўрач. А што я магу зрабіць? Апаратура дапатопная, пра гэта ніхто не думае і не хоча ні думаць, ні клапаціцца. І вы маўчыцё.

– Вы – гэта хто? Каго ты дзеліш на “мы” і “вы”?

– Само дзеліцца. Твой абавязак думаць не толькі пра сябе.

– Вольга! – Юра памаўчаў. Нешта вярэдзіла душу. Прыслухаўся да мелодыі, якая даносілася з дзіцячага пакоя. – Пара спаць, а яны – магнітафон!

– Юры, хлопцы ўжо дарослыя, а ты хочаш, каб яны ў дзевяць гадзін кладліся спаць. То ж не дзіцячы сад. Хай паслухаюць. Улягуцца.

– Сёння рок слухаюць, а заўтра на мітынгі пойдуць.

Вольга незнаёма паглядзела на мужа. Гатавала вячэру для гасцей, што меліся прыйсці а дзевятай гадзіне. Бутэрброды-канапэ, з чорнай ікрой, бекон, белае віно і кан’як, яшчэ шмат якія прысмакі стаялі на стале. Рэдка калі Юры вячэраў дома. Усё ў раз’ездах. То гойсае па раёнах, то гасцей сустракае, то выпраўляе, то на паляванні, то ў рэстаране. Юры сеў у глыбокае фінскае крэсла, пастукаў па падлакотніку. Сачыў, як жонка гатуе вячэру, маўчаў і думаў. Не пра ўсё ён мог гаварыць Вользе. Нешта замінала. Можа адчужанасць з-за частых адлучак з дому, а можа штосьці больш важнае. Ды ў яе прысутнасці думалася лёгка і проста. Ён моўчкі нібыта спрачаўся з ёю. Ціха – не ліха. Ды дзе ты тут цяпер ціха пражывеш? Усім далажы: куды ездзіў, што бачыў, што рашыў? Калі выканаю абяцанае… Такі смутны настаў час – газетам не вераць! Партыі – не вераць! А значыць, не вераць і яму, Юрыю. А хіба ён не працуе? Ці

кепска калі працаваў? Ці не думаў пра народ? Хіба не хадзіў па крамах, не глядзеў, чым гандлююць? А хіба не даваў вымовы старшыням калгасаў? Ці яго жонка не працуе ў звычайнай бальніцы? А мог бы ўладкаваць яе недзе лепей, вышэй. Сама не захацела, і яму тое было на руку. З простага партыйца ён цяпер – ідэолаг. Ідэолаг… Ідэалогія… Ідзі, правядзі цяпер ідэалагічную работу! У які тут бок круціць? Усё расхлябана… Мітынгі вунь у Расіі. І тут… З балота яшчэ не зусім павылазілі, а ўсё туды ж… Гм… Аніяк не ўтаўчы ў галаву таму славутаму народу, што гэта складана… Што – складана? Утаўчы ў галаву? Ці – кіраваць? – сам у сябе запытаў Юры. – Усё складана. Нешта трэба мяняць. А што? – сам з сабой доўжыў гаворку. Юры рыпнуў крэслам, расцягнуў на шыі гальштук, паглядзеў на гадзіннік: палова дзесятай. Не прыйдзе. Першы сакратар – не прыйдзе. Што ён хацеў? За сямейным сталом можна вырашаць толькі душэўныя пытанні. Узяў у рукі газету “Правда”. На першай паласе – “Забастовка в Воркуте.” Вось так. Не многа – не мала. Забастоўка. Ад мітынгаў – да забастовак. Дакаціліся, чорт бы іх залякаў. Юры не стаў чытаць, а глыбока задумаўся. Сціснуў падлакотнік крэсла, хіснулася яго бакавая сценка. Хістаецца. Ці то развальваецца ўжо? Юры ўпёрся нагамі ў дыван, адштурхнуўся, крэсла піскнула і ад’ехала. Яшчэ надзейнае. Не разваліцца. Забастоўшчыкі…

– Судзіць трэба. А каб судзіць – трэба закон.

– Каго судзіць? – запытала Вольга.

– А, задумаўся. Вось, забастоўка ў Варкуце. Што гэта? Махінацыя ці капрызы? Глупства, вось што гэта. І больш анічога!

– Чарнобыль таксама капрызы? Няўжо да гэтай пары нельга прыняць хоць якія меры па выратаванні? Каб палепшыць становішча хворых і тых, хто…

– Зноў ты за сваё!

Але Вольга не слухала яго.

– Паглядзі, колькі хворых! Самі не спраўляемся, а за мяжу – няма грошай, валюты… Дыягназы ставім, лічы што на вока.

– Што я адзін зраблю?

Вольга падышла да вакна, пацягнула за шнурочкі. Цяжкія парт’еры папаўзлі і закрылі вакно, зліліся ў адзін залацісты колер са шпалерамі.

– Ідзі да людзей.

– Да якіх людзей? – Юры кальнуў вачыма. – Да вашага Максімавіча?

Вольга насцярожылася.

– Гэта яны павінны ісці да нас, – доўжыў злосна Юры.

– Дык ідуць жа, толькі іх паслухаць трэба, прыслухацца…

– Няхай навучацца гаварыць па–людску. Прыдумалі: апаратчыкі! Наменклатура! Вышэйшая эліта!

– Бо так і ёсць, Юры. Хіба сам не бачыш, што ўся твая ідэалогія прапала, як картачны домік рассыпаўся сацыялізм? А камунізм і ўвогуле вар’яцкая прыдумка. Хіба не бачыш, што ўсё тое, пра што гаварылася –

мана і людзі больш не хочуць трываць і не ўтрываюць.

– Не пляці глупства! У цябе ўсё так проста: узялі і пайшлі да людзей! Узялі і ўсё памянялі! Хіба мы не стваралі ўмовы для дабрабыту людзей? – Юры недаўменна глядзеў на жонку. Глыбока ў душы ён пагаджаўся з ёю, ды страх поўніў яго толькі ад таго, што яна так смела, уголас пра ўсё гаворыць яму. А тая, усхваляваная сваёй адкрытасцю, доўжыла:

– Не. Вы стваралі ўмовы для сябе, а пра людзей вы забыліся. Сыты галоднаму не верыць. І цяпер народ выбухае. Падраўся гаршчок, які не вечна ваду носіць. Гэта – заканамерна. Прызнайся хоць сам сабе, Юры.

Юры злаваў, і Вольга бачыла тое, ды стрымліваць сябе ўжо не магла.

– Я хачу, каб ты прыгледзеўся і па-людску зрабіў свой выбар. Не ўпарціся.

Юры паглядзеў у яе цмяныя вочы, на шыкоўны халат і малады твар.

– Не мані сабе, Вольга, не мані.

– Сыты не думае. Розум трэба карміць голадам. Сыты пачынае думаць тады, калі ўзнікае пагроза страты … карыта, – намаглася і закончыла думку. Рызыкавала страціць дуты сямейны спакой.

“І дзе яна нахапалася? Каля каго круціцца? Каля быдла, вось і разгаворчыкі. Тут не толькі нахапалася. Тут нешта іншае. Тут хвароба нейкая і хварэюць на яе ўсе”.

– Ужо дзесяць гадзін. Не прыйдуць? – спытала Вольга.

– Думаю, што не. Напэўна, не. Налі мне чарку.

Юры назіраў, як Вольга налівала ў крышталёвы кілішак. Рукі мяккія, паўнаватыя.

– Налі і сабе, – папрасіў.

Вольга паглядзела на яго цьмянымі вачыма.

– Налі. Вып’ем. Ну іх усіх да д’ябла.

Вольга не стала налiваць.

– Успомні, Юры, дзе жыве твая маці, якую пенсію атрымлівае. Успомні, хто ты сам і адкуль.

– Кожнаму сваё. Я не ведаю.., – устаў і наліў ёй сам.

– Я не хачу, – адмовілася Вольга.

Юры перакуліў у рот і сваю і Вольгіну чарку. Абняў яе за плечы.

– Хлопцаў адправім у лагер. На Століншчыне высокая радыяцыя.

– Там пастаянна жывуць людзі, падумай, Юры…

– Ідзі, пасцялі пасцель, – найразумнейшае, што мог зараз сказаць Юры і пацалаваў Вольгу за вушкам.

## V

– Перакур! Бетону няма, – гукнуў брыгадзір. Мужчыны паселі на паддоны і закурылі.

– Хто лягчэйшы на ногі – гойсь у краму! Астатнія – збірай на выпіўку! – загадаў Лёня.

Так вядзецца: без выпіўкі, бы і не мужыкі. А ў раскладзе на сёння – Чарнобыль. Ніхто афіцыйна не аб'яўляў, не праводзіў аніякага тлумачэння пра радыяцыю, як ад яе ратавацца, а народ ужо ведае: трэба піць гарэлку, чырвонае віно і ёд. Ну, і дзякуй Богу. Абы хоць гэта. Чырвонага віна няма, ёду таксама няма, знік у аптэках, кажуць, "пайшоў па версе", а гарэлка ёсць. Як не завадская, то самагоначка.

– Давай, давай! Корпаешся. На адной назе круніся, а то на абед зачыняць. Бетон калі – і яшчэ прывязуць.

Хлапец прыхапіў уёмістую торбу, і подбегам кінуўся да ровара. Ехаць не далёка-не блізка, кіламетраў з пятнаццаць у пасёлак. Лёня прылёг на паддон і падцягнуў да грудзей калені. Не маргаючы глядзеў у неба.

– Аб чым, Лёня, задумаўся? – падсеў да яго рыжы лупавокі Хведар.

– А! – махнуў рукой Лёня. – Зноў бярэ. Хай яго за мяжножжа возьме. – Прыціснуў руку да боку і згарнуўся калачыкам. – Мінулым летам людзей высялялі з зоны. Я там не два тыдні быў, а цэлы месяц. Грошай хацелася паболей зарабіць. Мо што ўчапілася. Некалькі чалавек з нашай брыгады ўжо там, – хітнуў ён галавой у неба.

– Кінь… Зараз ачомаешся, пацягнеш стопку-другую дый здасць. – Лупавокі азірнуўся на гул легкавушкі. – О! Начальства пажалавала… Гальштучнікі ванючыя…

"Волга" віснула тармазамі, заляскалі дзверцы. З машыны павыходзілі мужчыны ў белых кашулях, светлых портках, у светлых кепках.

– Нашы начальнічкі з абласнымі "пінджачкамі". І яны рызыкнулі сюды падацца.

Лёня падняўся з паддона, насілу выпрастаўся і пайшоў да начальства. – Цішэй! – азваўся да Хведара.

– Мо і мы падыдзем да іх, паслухаем, што скажуць, – звярнуўся Хведар да астатніх мужыкоў. Яны скупіліся каля напаўзамарожаных будынкаў – які ўжо час не падвозілі будаўнічых матэрыялаў і будоўля спынілася.

– О, нават з будтрэста. Незнаёмыя ёсць, хто яны?

– Бач, з дазіметрамі, відаць, замер радыяцыі будуць рабіць, – Лёня не памыліўся.

– Здрастуце! – прывіталіся мужчыны да прыезджых.

– Здраствуйте! – адказаў начальнік з будтрэста, амаль не зірнуў на будаўнікоў, бо ўтаропіўся ў дазіметр.

– Нужно отпускать людей, Яков Ефремович. Дальше здесь нельзя находиться.

– Што, зашкальвае? – запытаў Лёня.

Усё начальства – у светлай чыстай вопратцы – незадаволена павярнулася да будаўнікоў. У спецоўках, заляпаных цэментам, няголеныя, яны ўпадобіліся шахцёрам, якія некалькі дзён не вылазілі з шахты. Занадта белым зіхацелі кашулі ў працаўнікоў з будтрэста.

– Не, не зашкальвае, – азваўся Якаў Яфрэмавіч, – але можаце збірацца

дадому. Пазней будзем выклікаць, калі падвязем астатні будматэрыял.

– Цудоўна! – за ўсіх адказаў Лёня. – Цэглы няма ці бетону?

– Пакуль што на Арменію адпраўляем цэмент. Там жа землятрус, – патлумачыў каротканогі чалавек і палез у кішэню, выцягнуў з яе насоўку і пачаў старанна выціраць пот з твару і поўнасцю лысай галавы. Памахаў перад тварам кепкай і ляпнуў яе на галаву.

– Ага! А яны той цэмент у зямлю зарыюць. Трэба вы ім там. – Грымнуў Хведар.

Якаў Яфрэмавіч грозна зіркнуў на яго.

– Ты больш за ўсіх ведаеш. У людзей такое гора. – і рушыў у канец вулкі, дзе стаялі некалькі гатовых будынкаў. За ім пайшлі астатнія.

– Пра гэта ведаюць усе, хто мае вушы і ўмее слухаць.

– А у нас – радасць! – пад'ялдыкнуў Лёня.

– Хто ён такі, той тоўсты на кароткіх нагах?

– З апарата – хто ж ён такі. З дазіметрам, бач і каля домікаў замярае.

– Галава зусім без шыі, бы на пяньку валяецца. А, ну іх да д'ябла.

Начальства вярнулася да будаўнікоў.

– Сёння можаце вяртацца дадому. Чакайце ўказанні, – борздзенька паселі ў "Волгу, заляскалі дзверцамі і з'ехалі.

– Дадому – так дадому. Але трэба ж Сямёна дачакацца. Як я паеду нявыпіты дадому? – сказаў Лёня, і так думала ўся брыгада.

– Лёня! Травані анекдоцік, каб весялей чакаць было Сямёна.

– Я вам ужо ўсе парасказваў, няма новага.

– А ты пашукай, у тваім загашнічку заўсёды новы знойдзецца.

– Ну, ладна. От, сабраліся двое на пляшку. Дваім піць нецікава – трэба трэці. Бачаць, ідзе негр. Чорны, аж сіняваты.

– Эй, кабал'еро, нам трэцяга не стае, будзеш? – паказваюць на мыгах: выпіць. Той ківае галавой, усміхаецца, толькі зубы свецяцца. А каб не папасціся міліцыянтам, трэба недзе схавацца за вугал. Вугла не знайшлі і пайшлі на будоўлю. Вартаўнік на добрым падпітку – спіць. От яны трох і прайшлі на тэрыторыю. Разбулькалі пляшку проста з горла ў горла, негр і скапыціўся. Упаў і ляжыць мяртвецкі. Хоць бы яму што! І пакінуць – не пакінеш, і ўцякаць з тэрыторыі пара.

– Хоць бы яго за вароты выцягнуць, а там няхай хоць патоп, – прапанаваў адзін.

– Значыць, ты за рукі, я – за ногі і павалачэм, – згаджаецца другі. От, узялі яны негра за рукі-ногі і валакуць паўз вартаўніка. Цішкам не выходзіць, стогнуць хлопцы, але не кідаюць небараку-афрыканца. Тут прачынаецца вартаўнік, чуе гоман-стогны, прадзірае вочы і бачыць, як валакуць нешта чорнае. Ды поначы, хоць вока выкалі, а на фоне неба толькі сілуэты.

– От, каб цябе трасца, гэта ж, каб не піў, то ў міліцыю пазваніў бы, хай бы злодзееў злавілі, а так, хай ужо валакуць апошнюю рольку толі… Другім разам сабе вазьму…

Наваколле напоўнілася рогатам.

– А нам тут і ўкрасці няма чаго.

– Каб і было што, то не варта. Усё забруджанае радыяцыяй. Так што – замарозілі. Баста вёсцы для перасяленцаў. І дзе той Сямён? Яго за смерцю толькі і пасылаць.

VI

Прайшла яшчэ адна вясна. На лаўках у бальнічным двары сядзяць хворыя. Вольга няспешна крочыць па сцежцы і прыслухоўваецца да іх гаворкі. Амаль вясковая бальніца нагадвае ёй родную вёску і іншым разам ёй здаецца, што хворыя – гэта яе вяскоўцы.

– Чулі? У небе азон прабілі спутнікамі. А цяпер сонца жыўцом валіць праз гэтыя дзіркі на зямлю. Не пажартуеш, усё папаліць.

– А хто гэта тыя, хто “нарабілі”? Самі ж сабе і вінаватыя. Начорта нам той космас? Каму ён патрэбен?

– І праўда. Некалі нашыя дзяды па Месяцу сеялі, па Месяцу ўраджаі збіралі. Па Сонцы арыентаваліся, а зараз усё з космасу і з космасу кіруюцца.

Вольга прывіталася з жанчынамі, падслуханае выклікала на яе вуснах паблажлівую ўсмешку. Накіравалася ў новы корпус. Там на лавах сядзелі пераважна мужчыны і яшчэ здалёк яна пачула:

– Я чытаў, што ў Мінску бунт нейкі быў. Газамі людзей травілі.

– Дык то ж восенню было.

– Гэта мітынг нейкія нефармалы ўчынілі, – запярэчыў самы дасведчаны. – Маладняк з фашысцкімі свастыкамі, выступілі супроць правіцяльства.

Вольга нават крок сцішыла. Яўген пісаў ёй пра мітынг у Мінску, а ў друку такі бруд! І па тэлевізіі пакажуць і свастыкі, і забойствы, а людзі лёгкія на павер. Надрукавана, значыць – праўда, паказалі па тэлевізіі, значыць, праўдзівей нічога не можа быць.

– Вот я чытаў у “Огоньке” пра Сталіна…

– І я чытаў. А пра Курапаты – жах! Канечне, калі гэта праўда.

– А я лічу, што выварацень мінулага – для нейкага ходу. Нешта другое хаваецца за гэтым, – сказаў прыемны на выгляд малажавы мужчына. Вольга прывіталася:

– Здрастуце.

– Добры дзень, – ветліва адказалі хворыя і з насцярогай. Ведалі, што ў доктаркі муж апаратчык, і хто ведае, што за птушка сама доктарка. Амаль за дзвярыма Вольга пачула:

– У друку цяпер усё: і прастытуцыя, якая нібыта толькі што з’явілася, і наркаманія, і забойствы… Усё гэта называюць дэмакр…

Вольга апранула белы халат, прыбрала валасы пад белы накрахмалены каўпак, зайшла ў кабінет. Антонаўна, яе медсястра, сядзела ўжо за сталом,

падклейвала даведкі аналізаў у карткі хворых, засвяцілася ўсмешкай.

– Добры дзень, Антонаўна! Што добрага чуваць на белым свеце?

– Добры, мая залатая. А белы свет пайшоў чорнымі плямамі, – кіўнула на аналізы. – Новага што? Званілі табе. Мужчына! – хітравата прыплюшчыла вочы, таемна ўсміхнулася.

– Дзякуй, Антонаўна. Добра, што мужчына. Але каму трэба пазваніць – пазвоніць яшчэ раз. Ды лепей сёння не чапалі б зусім. Завал работы. Падлікі, справаздачы… Рухай тое, чаго няма і хавай тое, што ёсць. Ды камусьці такое трэба, раз уся краіна занялася падлікамі.

– Ды і хваробы пайшлі нейкія модныя. Як іх вызначыць голымі рукамі?

– Хіба нам прывыкаць? Добрае слова таксама лекуе. Прасіце хворых.

Увайшоў Леанід. Твар шэры і зболены, але пасміхаецца.

– Здрасце! Вось і прыехаў!

– Як пачуваеце сябе пасля аперацыі?

– Заштопалі… Вось ужо месяц я дома. Падняў мех і вось… Да вас хуткая даставіла.

– Колькі вы прабылі ў чарнобыльскай зоне?

– Два гады з перапынкамі, а што?

– Што вы там рабілі?

– Ваду ў ступе таўклі. Праўда! Пачыналі будаваць, а пасля кідалі недаканчанае. У другое месца пераводзілі і зноў тая ж песня.

– Кладзіцеся на кушэтку. Як кідалі?

– Будавалі ў забруджанай зоне, прамераюць радыяцыю – нельга будаваць, і так вось некалькі разоў запар. Вось тут памацайце… Во-во… А -а, тут пячэ… Скажуць дадому – паехалі дадому. Я і сам добра не ведаю, ці то не падрыхтаваныя, ці то наўрэд тое будаўніцтва.

Вольга паглядзела на чырвоны дугавідны шнар на жываце, зазірнула ў Леанідавы вочы. Рагавіцы вачэй шэравата-карычневыя. Леанід змаргнуў вейкамі.

– Адрэзалі нейкую кішэню ад страўніка, прастрачылі і ўсё, гатова!

– Так во і прастрачылі? – усміхнулася Вольга.

– Паглядзіце здымак. Я, як захварэў – амаль прафесарам стаў. Усю анатомію свайго жывата раскажу.

– Уставайце.

– Во, паглядзіце, гэта мой страўнік, тут яго латалі, а тут пляма, толькі гэта не рак…

– Вось і цудоўна! Абвастрэнне з чаго пачалося, як вы думаеце?

– Падняў мех, запякло. Жонкі дома не было і мы з суседам трошкі ўклалі…

– Усё вы ведаеце. На панядзелак – здымак. Нічога не есці.

– І не піць! Я ведаю. Чэсць!

Леанід выйшаў. Антонаўна запытала:

– Што там за пляма на яго здымку?

– Новы пакажа. Я думаю, што пухліна. Без радыялогіі нам не абысціся. Многа сёння хворых?

– Не. Таму пасля прыёму можна будзе заняцца падлікамі. Я табе дапамагу. Прасіць наступнага?

VII

Ліда ўключыла на кухні радыё і пад яго гамонку прыбіралася. Мыла посуд. З рук выкаўз сподачак і разбіўся на некалькі буйных кавалкаў. Ліда сабрала іх, паклала на стол і бяздумна склала зноў у сподак, але не хапала некалькі драбнюткіх асколачкаў. “І дзірачкі і шво нічым не залепіш. Разбітае…” Ліда сумна ўздыхнула. “Да чаго ўсё тое? Разбілася, значыць – разбітае”.

З часу адпачынку прайшло амаль два гады. Не забыўся Міха. Не любілася – не сварылася ў сям’і. Так, тлела-гарэла. З’явілася нейкая абыякавасць, стома, соннасць. Бязладдзе… Ні там жыцця, ні тут. “Разбітае не склеіш. Вось і жыццё, бы разбіты сподак…” Званок у дзверы схамянуў яе. Адчыніла дзверы.

– Анатоль! Заходзь.

– Здароў, Алесь твой дзе?

– Дзіўна, хіба вы размінуліся? Пайшоў да цябе.

– Значыць, размінуліся.

– Праходзь, сядай. Зараз вернецца, калі твая Тацяна яго не прытрымае, – засмяялася.

Анатоль сеў да стала, закурыў.

– Есці хочаш? –Анатоль адмоўна хітнуў галавой.

– А ў мяне такі апетыт, ела б і ела. На табе малака, я ж ведаю, што ты любіш. Нават у Чарнобылі піў, не баяўся заразы…

– Я ж не ў Чарнобылі быў. Ты ж ведаеш.

– Ведаю. Так цяпер называюць усё, дзе ёсць радыяцыя. І мая вёска цяпер таксама Чарнобыль. Адсяляюць і з яе людзей.

– Я думаю, што нічога не будзе з таго адсялення. Ніхто нічога не правярае. Дазіметраў так і не хапае. Швецыя прапанавала, здаецца, некалькі аўтобусаў з усім вымяральным абсталяваннем. Набраў чарніц ці грыбоў у лесе, пайшоў і праверыў, надаіў малака – пайшоў і праверыў. Нашы адмовіліся, маўляў няма грошай, каб заплаціць хоць бы за адзін такі аўтобус.

– А па радыё енчаць, што фонды ўтвараюцца, што будуць дапамагаць. Калі? Каму? Прасіла сваіх бацькоў, каб да мяне перабіраліся, не хочуць.

– У вёсцы застаюцца?

– Так. Застаюцца не толькі старыя, але і некаторыя з маладых. – Ліда ўспомніла Міху. – Маці казала, што сямей дзесяць застаюцца.

– Справа ў тым, што… гм…я ведаю яшчэ й такое… што грошы дзяржаўныя ў зямлю закопваюць…

– Якія грошы? – Ліда непаразумела зірнула на Анатоля.

– Чарнобыльскія. Вось, напрыклад, пачынаюць будаваць вёску для перасяленцаў, нібыта ў чыстай зоне, а праз які час перамяраюць і аказваецца, што месца з павышанымі бэрамі, і перастаюць будаваць, а грошы ўжо выдзеленыя апрыходуюць па іншых стаццях… Вось…

– І – што?

– Што-што, нехта багацее на людской бядзе.

– Анатоль, чаго ты маўчыш пра тое?

Анатоль усміхнуўся з яе дзіцячай наіўнасці.

– Дурнічка ты. Каму я пра тое раскажу? Хто мяне паслухае? Пра гэта ж ведаюць тыя, каму гэта патрэбна.

– З каго спытаць пра адказнасць?

– Ліда, калі ўсе адказваюць за ўсё, то няма вінаватых. Толькі бязглуздзіца вакол і неадукаванасць…

Ліда прысела да стала, па-старэчы падперла кулачком шчаку.

– Слухай, а можа з тае пары, як пачалі будаваць тыя новыя вёскі, радыяцыя памяняла сваё месца, а старое стала чыстым? Ну, перайшла на другое месца? Я табе скажу, калі я ездзіла ў Ленінград у клініку, там урач разглядаў нейкую карту. Яна была ўся заштрыхаваная. Там, дзе асела радыяцыя, там жыццё надоўга пахавана, а яна ж і дажджом і ветрам разносіцца. Вось мая вёска – забруджаная зона, а праз кіламетр-два – твая. То што, гэта ўжо не зона? Аўтобусы ходзяць, людзі ў краму прыходзяць, адзін калгас нарэшце! Поле адно! Жыта куды возяць? – разважала Ліда.

– Няхай разбіраюцца вучоныя, тут не з нашымі мазгамі… А як тая карта была заштрыхаваная?

– Першы раз, калі я тую карту бачыла, наш раён у палоску, другі раз – у клетачку. Чаму так? І што азначаюць тыя клетачкі і палоскі? І чаму такіх картаў не мае наша больніца?

– Не ведаю. Шмат чаго мы не ведаем і ці будзем ведаць калі. Пажывём – пабачым. Скажы лепей, як ты сябе пачуваеш? Што ў Ленінградзе сказалі?

– Такая лянота, што спасу няма. Здаецца, і спала б, і спала. Ні там, ні тут нічога не кажуць, от, моўчкі запішуць у картачцы і маўчаць. Здаровая, раз маўчаць, праўда. І добра, што я нічога не ведаю, не так страшна, калі нічога не ведаеш. Калі палкоўніка будзем мачыць, га? – павесялела Ліда.

– Хопіць  з мяне і маёра, – падпалко-оўніка, – перадражніў Ліду. – Высока бярэш, добра, што кватэру далі, як чарнобыльцу.

– Чым бы дзіця ні цешылася… Кватэру… ты ж амаль да пенсіі даслужыў, а ў аднапакаёўцы пражыў, дзяцей пагадаваў. Хутка дзедам станеш, а ўсё таўчэшся разам з усімі ў адным пакоі.

– Вось хутка пераеду ў трохпакаёвую, зажыву тады, як кароль. – Анатоль падняўся, – пайду, нешта твой Алесь забавіўся. Травіць там анекдоты Тацяне, а я тут зноў з табой палітыкую. Бывай.

Азірнуўся ад парога:

– Да сустрэчы. Мацуйся, – і пайшоў. Ліда прыслухоўвалася да крокаў па лесвіцы: “Ён нішто сабе пачувае сябе. Здаровы. А я?”

Не прайшло і тры месяцы, як а дзесятай гадзіне вечара Ліду разбудзіў тэлефонны званок. Папрасілі Алеся, незнаёмы голас гучаў нібыта з плачам.

– Алеся няма дома, вы – хто?

– Анатоль памёр.

– Як памёр?

– Ад сэрца. Ездзіў да бацькоў, касіў, а прыехаў дадому, прылёг і … усё… У нявесткі на руках. Хуткую выклікалі, але было ўжо позна.

Ліда паклала трубку. Пустэча і холад унутры. “Жах! Які жах! Яму ж толькі сорак тры гады! Вось і папіў малака…” Лідзе ярка ўспомнілася сустрэча на возеры ў пякельны майскі дзень восемдзесят шостага года. Чысты і ўсмешлівы яго твар, стомленыя вочы. Прабеглі ў памяці і ягоная сінявокая жонка Таццяна, сын, дачка. Хутка меўся стаць дзедам, і новая трохпакаёвая кватэра.

Ліда хадзіла і хадзіла па сваім пакойчыку з кутка ў куток. Не магла паверыць, што няма іх добрага сямейнага сябра. “Вось табе і санпрапускнік! А можа, не ад гэтага?” – сама сабе задавала пытанні і не знаходзіла на іх адказу Ліда.

Ноч прайшла ў скрусе і пакутлівых думках. “Як ты сябе пачуваеш? Што прызнаюць?” – чуўся Анатолеў голас. За мяне перажываў, а сам памёр. Што са мной? Нічога ж не прызнаюць. А стома – ёсць. Бо і работы хапае. А старасць калі прыходзіць? Вось і падсцерагла яна мяне. Каб бацькі згадзіліся да мяне пераехаць, мо б кватэру хутчэй атрымалі б, а так і пра іх думка. І да іх не паедзеш, як бывала. Цяпер не пускаюць: зона, зона…

Пад ранак забылася сном, а калі збіралася на працу, то ўсё ўнутры дрыжэла, вымагала фізічнай сілы, каб не ўпасці. У бальніцы прынялася за справу гэтак жа шпарка, бы і заўжды, хоць ва ўсім целе адчувалася мляўкасць і дробненька дрыжэлі рукі. Хацелася прылегчы хоць на хвілінку, а дзень толькі пачаўся і хворыя ішлі на працэдуры. Але сцямнела ў вачах. Ліда яшчэ паспела прысесці на канапку і страціла прытомнасць.

## VIII

Пачаўся звычайны працоўны дзень.

– Можа якія распараджэнні з мінздрава? – запытала Антонаўна ў Вольгі.

– Не. Маўчаць. Максімавіча бачыла – пацiснуў плячыма ў адказ. Але я думаю, што трэба рабіць тое, што ёсць, а не тое, што патрабуюць. Ну, куды схаваеш бяду? Паслухаеш “Свабоду” – што робіцца ў свеце! А ў нас усё – бы па маслу. Ды проста сорамна!

– А твой Юры? Ён што кажа? Як там, у апараце?

Вольга скрушна паціснула плячыма, махнула рукой.

– Не ведаю, як можна жыць у суладдзі са сваёй годнасцю і совесцю, калі такое творыцца. А мы маўчымо толькі таму, што загадана маўчаць.

– Па абласному радыё перадавалі, што хадзіць трэба з пакрытай галавой, вопратку насіць з доўгім рукавом.

– Ага, піць чырвонае віно… Абы казаць, маўляў, папярэджвалі. Часу колькі прайшло! Трэці год адно і тое ж. На самай справе людзей трымаюць у невядомасці, – узбуджана гаварыла Вольга. – У дзіцячых садках дзеці ў пясочніцах, людзі на сонцы запальваюцца на пляжах, нібыта нічога і не здарылася. Зараз яшчэ нічога, а праз пару гадоў усё праявіцца, пачнецца… А мы ўжо сёння будзем складаць спісы хворых з сімптомамі прамянёвых захворванняў. Пасля як знойдзем.

– Будзем, – згодна кіўнула Антонаўна. – Юрыя не баішся?

– Дзе гарантыя, што ён сам не захварэе? Сама маю дваіх дзяцей і яны не застрахаваныя. Куды падзецца?

Увайшоў хворы. Вольга пачала замяраць ціск.

– Вот, усе гавораць пра Чарнобыль, а гэта ж маленькая Херасіма, ці вялікая? Хто табе скажа? Якая магутнасць таго блока? У нас усё на скорую руку. Абы план – ды грошы ў кішэню. Дзе зараз тыя, што рабілі АЭС? Каго судзіць? З каго спытаць? У тых, хто ўжо і так нарачоны? Вінаватыя знайшлі схованку.

– Дзе ж тая схованка? – запытала Вольга ў хворага.

– Вольга Рыгораўна! У Краснадары! У Саратаве! У Маскве нарэшце. Не разумееце? Вось я – з Піншчыны. Там мае бацькі, браты, сёстры, радня. Не дай Бог чаго, куды я падзенуся? Дзе схаваюся? Ну, надалей – да бацькоў. З Беларусі – у Беларусь.

Вольга пісала нешта ў картцы хворага і не магла з ім не пагадзіцца.

– Мае рацыю, – сказала Вольга, калі хворы выйшаў. – Беларусь нас нарадзіла, яна і ўратаваць павінна. Калі мы ёй не здрадзім. Думаць трэба пра моладзь. Сёння падлічым, колькі прайшло праз нашыя рукі хворых на прамянёвую. Можа падамо на радыё звесткі, ці ў друк. Можа яны зацікавяць вучоных. Як там аналізы ў Настачкі – вочы, колеру спелай слівы і такой жа формы, заблішчэлі жывей.

– Олечка, якая ж ты прыгожая, – не ўтрывала Антонаўна. – Колькі табе гадоў? – перадала цераз стол паперкі.

– Хутка трыццаць … сем. Анемія?

– Так, нібыта анемія. Але старшая медсястра загадала ставіць норму.

– Я больш не магу хаваць і не збіраюся. – Мяккая ружовасць разлілася па яе шчоках. Паўнаватыя выразныя вусны моцна сціснула. Тонкая бліскучая скура на твары: ані табе маршчыначкі!

– Молада выглядаеш, ах, молада! – Неяк з жалем сказала Антонаўна. Вольга з удзячнасцю паглядзела на сваю старэйшую і мудрую калегу. Усміхнулася аднымі вуснамі.

– Даеце магчымасць падумаць? Ці баіцёся самі выказацца?

– Не, не баюся, Олечка. Не баюся. Мне ўжо адна дарога, а пра дзяцей думка цяжкая. Чаго ў гаркамах упіраюцца і маўчаць? Ці такі загад з Масквы? Ці надзея на арганізацыі, што паўсюдна ствараюцца? Але ж у іх няма грошай. Сіла ў таго, у каго грошы.

– Ёсць яшчэ праўда. Колькі ў нас тых, у каго лейкімія, анемія, лейкоз? З іх – дзяцей.

– А што пасля? … Сто сорак…

Вольга зрабіла вялікія вочы. Бровы з’ехаліся на пераноссі.

– Сто сорак чалавек?! Спачатку і тэрмінова зробім паўторныя аналізы крыві і рэнтгенздымкі, гэта – раз. Трэба выявіць, у каго праявяцца гарачыя часцінкі, гэта – два. Тады будзем стукацца ў Міністэрства аховы здароўя, гэта – тры, пасля будзем патрабаваць ад міністэрства харчгандлю…

Вольга ўздрыгнула ад нечаканага званка.

– Алё, слухаю!

– Здароў, мая даражэнькая! – голас глухі і далёкі, бы з другой планеты. – Я званіў табе… Дзе ты была?

– На спатканні, – Вольга засмяялася, – прывітанне, Яўген!

– Не падобна на цябе, каб ранкам і – на спатканне. Але я па справе. Заўтра я буду ў вашым раёне. Хачу пабачыцца.

– На лаўца і звер бяжыць. Цудоўна! Ты мне асабліва патрэбен зараз.

– Згода! Нейкая справа, ці засумавала?

– Прыязджай і пагамонім пра ўсё. Да сустрэчы.

Вольга прыплюшчыла свае зіхоткія вочы і паклала тэлефонную трубку.

– Што гэта за Яўген аб’явіўся? Ці не каханца ты сабе завяла?

– Ай, Антонаўна, каханца… Няўжо не памятаеце Яўгена, журналіста з рэспубліканскай газеты? Ко-олькі ўжо гадоў прайшло з тае пары! Тады ён трапіў да нас з апендыцытам, хуткая даставіла. Помніце? Так да сёй пары і сябруем.

– А-а, гэта той, што пра нас надрукаваў? Помніцца, вясёлы і прыгожы хлопец. Ці жанаты?

– Здаецца. Вось ён нам – во! – як патрэбен. Як мяркуеце?

– Не ведаю, ці адважыцца.

Па калідоры нехта прабег, пачуўся тупат ног, адчыніліся дзверы і на парозе з’явілася Ларыса Адамаўна, намеснік галоўнага ўрача.

– Вольга Рыгораўна! Лідзе кепска! Яна ў непрытомнасці!

Вольга кінулася ў працэдурны кабінет. Ліда ўжо апрытомнела і ляжала на канапе. Твар белы, вусны ледзь прыкметна пасміхаліся.

– Нічога, Вольга Рыгораўна, ужо прайшло. Ноччу мала спала, стамілася.

Вольга намачыла ручнічок і паклала на Лідзін лоб, узяла яе за руку і намацала пульс. Ён быў сцішаны і слабы. Расшпіліла каўнерык.

– Укол зрабілі? Зараз табе стане лягчэй. Паляжы…

Увайшоў Максімавіч.

– Ну, што? – запытальна зазірнуў у вочы. Ліда паспрабавала ўстаць.

– Паляжы, паляжы, не спяшайся. Слабасць?

– Так, але мне ўжо лепш. Я магу працаваць…

У працэдурны кабінет зазірнуў Генадзь, рэнтгенолаг, Слава, анастэзіолаг і ўзіст па сумяшчальніцтву, Антонаўна. Моўчкі пастаялі і разышліся. Вярнулася і Вольга ў свой кабінет.

– І што з ёю? Кроў нармальная, а твар нібыта ў мерцвяка. Трэба, каб Генадзь зрабіў рэнтгенздымак, па магчымасці ўсіх органаў. І УЗІ. У нас ёсць актывіраваны вугаль, Антонаўна?

– Не разгонішся. У аптэках даўно знік, але для Ліды знойдзем.

Канчаўся яшчэ адзін працоўны дзень. Горад запальваў агні.

IX

– Ціх-ха! Цішэй-цішэй! – ахрыплым голасам звяртаўся да вяскоўцаў Пятро Язэпавіч, старшыня калгаса “Путь Ленина”.

– Ды сціхніце! Дайце паслухаць! – грымнуў басам Міха.

– А што тут слухаць? Едзь, калі ты такі лёгкі на ногі! А я – не паеду і ўсё тут! Хоць галаву на калоду… Вось, – рыпаў возікам Васіль, Лідзін бацька.

– Божачкі-і! А куды ж мне рухацца з наседжанага ды прыжытага? А куды ж я свае нікчэмныя косці старыя павязу? – галасіла цётка Зося.

– Ціх-ха! – як мог гучна выкрыкнуў Пятро Язэпавіч. – Я вам ужо гаварыў, што вам будзе выдадзена поўная кампенсацыя за ўсе ўбыткі, пабудовы там, скаціну… Выдадуць пад’ёмныя… Кватэры і дамы для вас ужо будуюцца, поўнасцю новыя вёскі… Горш вам не будзе.

Зося павярнулася да Рыгора.

– Браток, гэта ж мая Ліда ды да сябе кліча пераехаць. У горад, разам са старым… Але ж у яе адзін пакойчык, малое дзіця, муж. Куды мне да яе? Дый старога як я давязу? А там як, без возіка, без ног? А хату як я сваю пакіну?

– І мне тое самае. Нікуды я не паеду. Не пакіну нічога і чужога свету мне не трэба. Пад’ёмныя, начорта яны мне. А маладыя хай едуць. Вось, нявестка нарэшце дзіцятка чакае. І так два гады чакалі, думалі, што дзяцей зусім не будзе, а тут з ласкі Божае, – развaжае Рыгор.

– Нам і так паміраць скора, – сказала Зося.

– І я не паеду, – азваўся Міхась.

– Не збівай людзей, Міха, ты малады яшчэ, едзь. Дзяцей гадаваць трэба.

– Што ад таго зменіцца? На трэці год павярнула. Што гадавалі – тое і спажывалі. Ды давядзецца ехаць. Я сабраны… От, слухай… Пятро Язэпавіч, а куды вы тую бульбу ды буракі калгасныя падзелі і сёлета, і летась? Га? – запытаў Міха ў старшыні.

Старшыня апусціў галаву і змоўк. Што яму адказаць людзям? Уздыхнуў цяжка. Ён стаміўся. Ён стаміўся маўчаць, стаміўся хаваць ад

людзей праўду, стаміўся ўгаворваць людзей адсяляцца. Сваю сям'ю ён даўно вывез. З болем глядзеў на сваю апусцелую сядзібу, дом, сад. За той час, які ён працаваў старшынёй у калгасе, вяскоўцы не сталі для яго роднымі, але не былі і чужымі. Так, прыжыўся. Аднак не балела яго душа так, як у гэтых людзей. Кожны з іх тут нарадзіўся, вырас, ажаніўся, нарадзіў дзяцей. Кожны ведаў усе сцежкі ў лясах і ўрочышчах, кожную ямінку і кожны бугарочак. А Пятро Язэпавіч? Накіравалі яго пасля заканчэння сельгасакадэміі сюды за пяць год да Чарнобыля. Жыццё падзялілася **да** і **пасля** Чарнобыля, ажаніўся, нарадзіў дзяцей і прыехаў сюды ўжо ў гатовую хату і на гатовую гаспадарку. Лёгка прыжылося, лёгка і пакідаецца. Ды ўсё ж балюча глядзець на людзей, якія ў роспачы і разгубленасці стаяць перад ім, чакаюць нейкіх суцяшальных і абнадзейных слоў. Загад – адсяліць. У чыстую зону. ”А дзе цяпер тая чыстая зона? Куды бульбу падзелі? Куды буракі? Што ім сказаць?”

– На перапрацоўку! – Найлепшае, што прыдумаў, выгукнуў у прастору.

– То ж заразная яна! Як жа яе перапрацаваць, каб трутызны не было? – спытаў дзядзька Рыгор. Ён ускінуў свае калматыя бровы і агаліліся чыстыя ясныя вочы.

– Ды ачышчаюць яе на спецыяльных устаноўках. Усё будзе няшкодным і можна ўжываць у ежу. Не перажывайце…

– Едуць! Аўтобусы едуць!!! – бы на вяселлі закрычалі хлапчукі. Яны першымі заўважылі транспарт. – За намі едуць!

Іван спалохана зірнуў на сваю цяжарную жонку. Тая ўвабралася ў каўнер плашчыка і заплакала.

– Божа мой, Божа, няўжо назаўжды? – загаласілі цёткі.

– Ніхто ніякіх рэчаў з сабой браць не можа, – ахрыпла гаварыў старшыня. Ды яго ніхто не слухаў. Сёння яны не першы раз чуюць інфармацыю пра парадак перасялення. Але як тут забраць ляльку ў той дзяўчынкі? Якім падманам забраць кошку ў хлопчыка, што прыціснуў яе да грудзей? Сталы чалавек плача па карове, і як супакоіць яго? Дзе ўзяць тую сілу, якая дапаможа вярнуць людзям упэўненасць, радасць, спакой?

Людзі трывожна гаманілі, пакідалі падворак былога праўлення, разыходзіліся па сваіх падворках, каб узяць сёе-тое з трантаў ды вузельчык з харчамі. Збоку можна было падумаць, што людзі збіраюцца жаць ці касіць. На абед – вараныя яйкі, сала, гурок, пляшка малака, хлеб. Толькі на якую касавіцу выпраўляліся людзі?

Зося абняла братаву нявестку Любачку.

– З Богам, Любачка. Як парадзінісся – дайце знаць. Адно што прашу, – не забывай маліцца. Бог не адступіцца, – зазірнула ў вочы. – Я век пражыла, і на нямеччыне была ў вайну – збеглі. І сабакамі травілі, і стралялі… Кулі цокаюць каля вуха, а мы бягём. Малітва да Багародзіцы ды Уваскрэсная дапамагла. Вось і ты маліся…

Любачка шморгала чырвоным носам, выцірала асалавелыя ад слёз

вочы, згодна ківала галавой. Апошняя зайшла ў аўтобус, за ёю – Іван. Абое прыліплі да вакна, усе махалі рукамі і ўголас плакалі-галасілі. А тыя, хто застаўся, мала што не качаліся па зямлі. Засталося іх … дзесяць чалавек. Махалі ўслед аўтобусу счарнелымі ад працы рукамі. Дзядзька Васіль сядзеў у сваім возіку, сашчапіўшы рукі на кульцях каленяў. Ён плакаў. Каля яго стаяла цётка Зося. Яна не плакала, а нешта горача шаптала. Яна малілася. Яна верыла, што Божанька зміласцівіцца над людзьмі і тымі, якія засталіся, і тымі, хто ад'ехаў-адсяліўся.

Вёска нібыта аслепла, нібыта аглохла. Стала нейкаю шырокаю ад пустых падворкаў. Не падымае пыл па-над дарогаю статак, што вяртаецца з пашы, не пахнуць малаком падворкі, не рыпяць калодзежныя жураўлі і не пазвоньваюць вёдры, не ўецца на досвітку над комінамі дым, а хаты стаяць панура, слепа ўзіраюцца бяльматымі вокнамі ў здрадніцкі свет. За якіх пару дзён пачалі зацягвацца травой сцежкі на падворках.

На змярканні баба Зося ўзялася падмятаць сені. Курынае пер'е разляталася пад венікам убакі, віхурыкамі кружыла па падлозе, ляцела пад жорны і лаву, вілося каля чыгуноў. А Зося ўсё мяла і мяла, скраплівала гэтае пер'е слязьмі і прыгаворвала:

– Бож-жачкі-і! Як жа цяпер нашыя людочкі будуць жыць на чужыне? І як жа нам цяперака тут?

– Зося! Не плач! – азваўся Васіль. – Ліда ў горадзе, далёка адсюль. Не атруціцца, а мы ўжо старыя. Некалі ж і нам трэба паміраць. Гундосіш… Гм-х! Усё адно, м-да… Паехалі на сяло, пабачым, што там робіцца. Мо хто ўжо вярнуўся, пагаварыць з кім-небудзь, каб разам… Гм-х… Дзе возік?

Зося пакінула нікчэмнае падмятанне.

– Мокрай анучай выбяру, – сказала сама сабе пра пер'е і пайшла да ганачка па возік. Выцерла фартухом вочы, шчокі, куточкі рота, перахрысцілася і вусны звычна пачалі шаптаць: ”Ойча наш, існы на небе і на зямлі…” падвезла возік да лавы, на якой сядзеў Васіль і той стаў спрактыкавана перакочвацца ў яго.

– Ы-гы-гмх! – пракашляўся і запытаў: – Ці то ўжо два гады прайшло з тае пары, як Ліда была тут у адпачынку?

– Пэўна. Два. Тады Рыгораў Іванка жаніўся, помніш? А чаго ты?

– Насцечка ўжо вялікая, напэўна… не стала б цяпер прасіцца, як тады, бяжыць побач з возікам і просіць: дзеду, падвязі, падвязі… Нібыта ў мяне “Волга”, – нудзіцца стары, сэрца смокча невыносная туга. Не могуць дзеці болей сюды прыехаць. – І я не здужаю туды выбрацца. Дый, ці пусцяць? Бач, нават рэчы не далі з сабой браць… Анічагусенькі. Голыя і босыя, усё зноў спачатку пачынаць… А хто ім што дасць?

– Ты думаеш, што тамака не людзі!

– Здаецца, што наша вёска – усе родзічы. А там – чужына.

Зося везла Васіля па вясковай дарозе, возік буксаваў у пяску, але яна намагалася так, нібыта рабіла самую галоўную работу ў сваім жыцці і ад

яе залежыла сёння ўсё: жыць ці памерці. Жанчына ўпарта цягнула возік, а Васіль злосна-атупела маўчаў. Глядзеў на сцішаныя падворкі, на занавешаныя фіранкамі вокны, на сады, дзе пажоўклае лісце гойсала па зямлі, бы тое пер’е па сенцах. У каго з былых вяскоўцаў валялася непрыбраная бульба, буракі, на іржышчах зелянела рэпа. Але яе ўжо ніхто не будзе прыбіраць. Ды дзівілі сабакі: сядзелі яны альбо каля ганачкаў, альбо каля сваіх будак. Не брахалі, а сядзелі моўчкі, толькі пазадзіралі морды да неба і нюхалі-нюхалі паветра, трывожна навастрыўшы вушы.

– Чакаюць гаспадароў… Нюхам іх пах ловяць… Не ўловіш, верны Бобік, не ўловіш… Далёка твой Мікалай з Гандзяю.., – нібыта сабаку, нібыта сабе самому гаварыў Васіль.

А на парканах, прызбах, каля калодзежаў, на парогах – каты. Спяць сабе і думкі не думаюць. Ім вальготна і яны адзіныя гаспадары на ўвесь багаты двор.

– А куды статак падзелі? – хрыпла запытаў Васіль.

– А я ведаю – хто як, – Зося не паспела адказаць, бо пад’ехалі да Рыгоравай хаты.

– Хто паспеў – той прадаў скаціну, а большасць адпусцілі на волю, – сказаў Рыгор.

– Куды адпусцілі?

– На волю… У лес… Поле… Свінней, цялят, авечак…

– Божа ж мой, Божа, – ведалі пра тое і Васіль, і Зося, аднак пра што болей пагамоніш, адны і тыя ж навіны.

– Мо хто вярнуўся? – зноў запытаў Васіль.

– А ты думаеш – вернуцца? – з тайнай надзеяй спытаў Рыгор. – Вернуцца і будуць мець рацыю. Усё роўна, я табе скажу, няма куды схавацца. Ну, што для ветра-бурана пяцьдзесят ці сто кіламетраў? – ускінуў рукі швагер. – Альбо ж… Толькі дурню няясна, што за два гады мы наскрозь прамоклі тымі цэзіямі ды стронцыямі ці яшчэ якою заразаю.

– А заадно і прывыклі! Здароўце! – з-за таполяў выйшаў Міха. Мужчыны працягнулі яму руку.

– Міха! Вось яно як – вярнуўся? – радасна загаварылі мужыкі, а Зося была ў шнурочак звяла губы, адразу ж успомнілася Ліда, людскія перасуды і ўласныя перажыванні за дачку, зяця, нянавісць да гэтага рыжага “Быкоўскага”, ды тут жа ўсміхнулася, працягнула руку. – Вярнуўся! Ажывем, значыць. Пабягу, клікну астатніх, от, радасць якая.

– А куды мне? Ад чаго ўцякаць? Ад магілак? – адвярнуўся, шморгнуў носам, як малое дзіця, выцер яго рукавом. – Папомніце мае словы: усе вернуцца.

Вёска папоўнілася на адну сям’ю: Міхася і яго жонку Вольку.

## X

Жоўтыя лісты, з апошніх, зляталі і зляталі са старых вербаў. Падалі на

сталёвую ваду паркавага возера і гойдаліся маленечкімі лодачкамі па ледзь заўважных хвальках. Лёгкі ветрык варажыў на вадзе, пералятаў на яшчэ свежую зяляніну газонаў паміж старых дрэваў і ўмошчваў яе барвова -залатым колерам кляновых лісцяў. Яўген устаў з лавы, паставіў на яе свой чорны дыпламат, паклаў парасольку, а сам пачаў хадзіць па асфальтаванай сцежцы туды-сюды. У светлай куртцы, такога ж колеру портках, запраўленых у высокія чорныя боты, ён выглядаў зухаватым хлапчуком, ды вусы рабілі яго сталейшым. Даўгманыя светла-русыя валасы, зачэсаныя назад, адкрывалі высокі лоб. З дрэва зляцеў жоўты ліст і пачаў павольна апускацца на газон. Яўген таксама павольна пайшоў за ім і ступіў на шыкоўны газонны дыван.

– Чараўніцтва! Ну, якая дасканаласць! Толькі з Божае ласкі можа быць такая прыгажосць, чалавек тут бяссільны, – амаль уголас разважаў Яўген. – Добра што не зграбаюць лісце і не вывозяць некуды за горад. Гэта проста глумленне над прыгажосцю.

Ён ведаў, што гэтая прыгажосць часовая. Пажухлае і гнілое лісце – ужо не прыгажосць. Ды ўсё ў прыродзе звычайна і звыкла, і веснавая зяляніна, і летняе буйства фарбаў, і восеньская яснасць патухання жыццёвай сілы. Тут не ўмяшаешся. Ідзе па волі Творцы, а вось учынкі людзей – другая з’ява. Ды і тут Яўген не лічыць патрэбным умешвацца. “Кожны сам за сябе ў адказе. Што тут зменіш? Свой розум не ўставіш. Хай мітынгуюць, хай дамагаюцца праўды. А хто яе калі дамогся? Гісторыя пра тое маўчыць. Прынамсі, я не ведаю такіх прыкладаў…”, – думаў Яўген. Ён любіў хадзіць па ўтаптаных сцежках. Новага не таптаў, не рашаўся, дый навошта лішнія турботы? Ідзеш сабе па знаёмай дарозе, а куды ўжо яна скіруе – будзе відна. Калі-нікалі азіраўся, і ў душы, у самым патаемным куточку, пачынала нешта варушыцца. Тое “нешта” было падобнае на незадавальненне ні то сабою, ні то людзьмі, ні то парадкамі, ні то тымі падзеямі, што твораць самі людзі.

Зірнуў на гадзіннік. “Як заўжды – спазняецца”, – падумаў пра Вольгу. Ён падняў галаву на далёкі голас птушак: у небе плыў клін гусей. Доўга праводзіў яго позіркам і павярнуўся толькі тады, калі пачуў пругкі стук абцасаў па асфальтаванай дарожцы. Вольга ішла таропка і спынілася блізка каля Яўгена. Шчыра і проста ўсміхнулася.

– Вітаю! Стаміўся чакаць?

– Каб стаміўся – даўно пайшоў бы прэч. Ты ж заўсёды спазняешся, прывычна, – абняў за плечы, намогся пацалаваць, але Вольга падставіла шчаку.

– Нібыта мы з табой так часта сустракаемся і ты прывык. З чым завітаў да нас? А ты мне так патрэбен! – Вольга хутка гаварыла, нібыта баялася, што ён вось зараз знікне.

– Дзякуй за шчырасць. Патрэбен я табе, канечне ж, па справе. Узаемнага жадання я ад цябе не дачакаюся, – ні то жартам, ні то ўсур’ёз сказаў Яўген. Лагодна паглядзеў на Вольгу. Тая ўзяла яго пад руку і

павяла да лаўкі. Даверліва паглядзела яму ў вочы, падумала: “З ім так проста і спакойна” і сказала:

– Яўген! Калі жанчына першая пачынае весці гаворку пра каханне, яна тут жа страчвае яго.

Яўген ведаў, што Вольга вельмі хутка запальваецца на спрэчку, таму траха заводзіў яе.

– Можа, і ёсць доля праўды… Але… Усё ў вашых жаночых руках.

– Не! У такім выпадку трэба гаварыць не пра каханне, а пра ўладу. Думаецца мне, што за любую ўладу трэба плаціць, і за жаночую – таксама. Што выходзіць? Сама жанчына плаціць за сябе? – Вольга пачала злавацца. – А я не люблю тых, хто плаціць…

– Ай-яй. Гэта ўжо вульгаршчына. Каб хто другі, а то ты, з такімі вачыма. Давай прысядзем.

– Не, давай паходзім. Я не люблю сядзець, калі гавару. Чым жа я адрозніваюся ад другіх? І хто лічыцца з маёй думкай?

Вольга падняла кляновы лісцік і крутнула яго за хвосцік.

– Па справе і то не прыслухоўваюцца, а пра іншае – і гаварыць няма чаго.

– Што ты маеш на ўвазе?

– Ты – журналіст. Ты заўжды… чэсны перад сабой? Твая работа мае вялікую псіхалагічную нагрузку.

– Псіхалагічную нагрузку? Так не бывае. Тут і логікам трэба быць, і практыкам… Разбірацца ў падзеях, значыць, і палітыкам, асцярожным і разважлівым. Ну?

“Няўжо адкажа?” – падумала Вольга. – Трэба ўгаварыць”.

– Ты чуеш мяне? – Яўген заступіў ёй дарогу, узяў яе рукі ў свае і пахукаў на пальчыкі.

– Змерзла? – утрапёна ўзіраўся ў яе твар, у вочы. Яны вось тут, перад ім, і глядзяць проста ў яго душу. І так далёка адсюль. Нічога, ён удзячны і таму, што можна бачыць яе тут, сярод чыстай восені, такую блізкую і такую далёкую. У такую хвіліну Яўгену захацелася запытаць: “Чыя ты? Скажы мне, чыя?”, але запытаў пра другое: – А прафесія ўрача хіба не звязана з псіхалогіяй?

– Ты не блытай псіхалогію з псіхалагічнымі працэсамі. А псіхалагічныя працэсы – гэта функцыя ці комплекс некалькі функцыяў аднаго органа ці некалькіх. Я не магу паглыблена бачыць іх работу, але па яе праяўленнях магу вызначыць захворванне.

Вольга замоўкла. Шамацела пад нагамі лісце. Маўчаў і Яўген.

– А цяпер дадаецца шмат новага і невядомага. Па аналізах амаль не пазнаеш, што баліць, а чалавек слабее. І знешне незаўважна. Чым вызначыць? Чым лекаваць?

– Так, гэта балючае пытанне. А ты дакладна ведаеш, што ёсць такія хворыя?

– Ведаю. У мяне ёсць спіс на сто сорак чалавек. З іх шэсцьдзесят

дарослыя, астатнія – дзеці.

– Афіцыйных звестак у друку няма, – задуменна прамовіў Яўген.

– А ты пачні! – умольна паглядзела на яго Вольга. – А? Пачні…

Яўген маўчаў, нібыта нешта падлічваў. Вольга сцішыла крок, глыбока ўдыхнула паветра. “Няўжо не адважыцца? Я яго мала ведаю”, – Яўген, ты можаш гэта зрабіць, – ні то пераконвала, ні то прасіла, ні то пытала Вольга.

– У нас ідзе такая барацьба за…

– А ты? Да якога берага прымыкаеш ты? – перабіла яго Вольга і пашкадавала, бо не даведалася, пра якую барацьбу ідзе гаворка. “Можа за партфель?”

– Ёсць і ў нас сілы на перабудову. Рашучасці вялікай не бачу, розуму – таксама. Так, палітыканства, крыкуны. Да дэмакратыі нам далёка, так, як і да цывілізаванасці. Хоць і побач Еўропа, ды мы – не Еўропа. Цяжка зразумець. Што выбухнула. Было ўсё зразумела: мы харошыя, яны – кепскія. Сацыялізм светлае, капіталізм – загніўшае, ванючае…

Вольга не перашкаджала, не прыспешвала. Няхай выкажацца, няхай пашукаецца.

– Дзе цяпер праўда? А дзе мана? – доўжыў Яўген павольна, як бы думаючы ўслых. – Сам чорт заблытаецца. Тая новая інфармацыя не кожнаму па розуме, ціснe на псіхіку кожнага з нас. А ўрэшце, скончыцца агульным псіхозам, як некалі калектывізацыя. Я, пакуль што, нічога нідзе не падпісваў, ніякіх заяў, ніякіх пісьмаў. Нікуды не лезу. Пaціху прыслухоўваюся і больш да сябе самога. Пачынаць нешта рабіць? З чаго пачынаць? Гарбачоў кажа:” Начинай з себя”…

– Пачні! Я дам табе матэрыял, падлікі, назіранні, апісанні, вывады… Нарэшце, спіс хворых. Зрабі харошы артыкул, даў бы ў “Чырвоную звязду” ці “Знамя..” Ну, што?

– Штрафуюць рэдактараў. Здымаюць ужо набраныя артыкулы. Не ведаю, ці ўдасца…

– Не бойся, Яўген.

Ён раптам спыніўся і разгублена зірнуў у вочы Вользе.

– Я для гэтага табе быў патрэбен?

– Не злуй. Ты ведаеш, што я табе заўсёды радая. А тое, аб чым прашу, патрэбна не толькі мне. Табе таксама. І людзям.

– Людзям? Дапамагчы нагнятаць агульны псіхоз? Пра Чарнобыль людзям сапраўды не варта ведаць усё.

– Яўген, ты сапраўды нецывілізаваны. За мяжой перадаюць і друкуюць усю праўду пра атам, яго смяротныя вынікі, а мы ўвесь час замоўчваем, робім выгляд, маўляў, нічога не здарылася і выглядаем дурнямі. Няўжо ты хочаш, каб з нас смяяліся? Паніка можа быць сярод тых, хто не ведае, куды захаваць нарабаванае. А людзей уратуе свая зямля.

– Ха! Ну і разважаеш – зямля ўратуе!

– А куды ты падзенешся? Ну, навошта ты так? – Вольга лагодна

зазірнула ў яго вочы, злыя і халодныя. У Вольгі ўмомант сапсаваўся настрой. Яўген імгненна адчуў гэта і рашуча працягнуў руку.

– Матэрыял у цябе з сабой?

– Так.

– У артыкуле указваць ваш раён, бальніцу?

– Так. – Вольга расшпіліла сумачку, выняла канверт. – Мы звярталіся ў мінздраў, мінхарчгандаль – глухая сцяна. Трэба пераконваць кіраўніцтва, урад у тым, што радыяцыя ў рэспубліцы пагражае нацыі. Варта прыслухацца да замежных спецыялістаў. Трэба тэрмінова адсяляць людзей у чыстую зону, трэба хаця б мінімум дазіметраў, трэба чыстае харчаванне. Сам бачыш, – Вольга зазірнула ў Яўгенавы вочы, яны блішчэлі, ён ледзь заўважна ўсміхаўся. З той усмешкаю ён запытаў амаль здзіўлена:

– Ты – нефармалка?

– Я таксама не падпісвала ніякіх дакументаў, але я перакананая, што інакш мы не можам.

– Вольга, – зусім павесялеў Яўген. – А твой муж, здаецца, немалая птушка недзе ў “каме”?

Вольга пакрыўджана памаўчала, а затым сказала:

– Не наступай так балюча на мазалі, Яўген.

Цяпер змоўк ён. Падышоў да старой вярбы, што павесіла косы над самай вадой, спытаў:

– І што гэта азначае?

– Ты ж не зусім, каб дурань.

Яўген так зарагатаў, што, здалося, расхінуліся жоўтыя космы вярбы. Ён падбег да Вольгі, абхапіў яе за плечы і закружыў. Прытуліў яе да грудзей і з ашалелай палёгкай уздыхнуў.

– Я кахаю цябе, Вольга.

Вольга сціху адштурхнулася ад яго, адказала, хаваючы вочы:

– Я таксама кахаю.

Яўген адчуў, як маланкавым холадам раскроіла яго папалам.

– Чаму не мяне? – запытаў і выпусціў яе з рук, рушыў, але Вольга заступіла яму дарогу.

– Тонкі ты чалавек, Яўген. Разумееш, мне з табой добра, проста. Я магу табе ўсё сказаць, з нечым не пагадзіцца. Пярэчу табе, магу нават прытуліцца да цябе. – Вольга вінавата ўсміхнулася. – Цудоўны ты хлопец, і я рада, што…

– І ты не баішся, што я выкіну паперы?

– Выкідай! Не магу ж я сказаць, што кахаю цябе, дзеля папер.

– Мне застаецца толькі шаркнуць ножкай.

Абое замоўклі. Адчувалі, што нешта новае з’явілася ў іх адносінах. І тое новае і яднае іх па-новаму. Не згаворваючыся, накіраваліся да выхаду.

– Пайшлі, вып’ем кавы, – прапанаваў Яўген. Вольга моўчкі і з удзячнасцю кіўнула.

XI

За акном шалела вясна. Канец красавіка. Нават у вагоне перавагу меў пах зеляніны. Густы і вільготны. А цягнік стукаў-галасіў па рэйках, імчаў уперад. Спакутаваная старая Зося не адчувала ні паху, ні прыгажосці – нічога. Яна глядзела на звітыя перад сабою пальцы рук. Счарнелыя ад бясконцай работы, яны не разгіналіся ніколі. Зараз трымцелі на стале ў такт колам. Вочы нябачна спыніліся. Здавалася, што ўся постаць старой галосіць па долі сваёй пякельнай. Аж не верылася, што вочы яе застаюцца сухімі. Лепш бы плакала.. Чорная хустка пакрывала яе сівыя, аж белыя валасы. Раз-пораз вусны яе рухаліся. Тады віднеліся краёчкі зубоў і старая не выглядала такой саслабелай і нямоглай.

– Ох, горачка маё горкае! – уздыхнула яна.

– Што вы так цяжка ўздыхаеце? – спытала жанчына, што сядзела насупроць.

– На пахаванне еду. Дачка памерла. Дый унучачка ледзь-ледзь жыве. Ці выратуюць?.. – у старой задрыжэлі вусны і вочы нарэшце напоўніліся слязьмі. Умомант счырванеў нос і па шчоках пакаціліся слёзы. Зося стрымлівала іх ражочкам чорнай хусткі.

– Пад машыну трапілі?

Зося адмоўна пахітала галавой. Ёй хацелася з кім пагаварыць. Такая доўгая і пакутлівая дарога.

– Не. Тры гады таму… У адпачынак прыехала. На вяселлі ў майго брата гулялі. Вясёлая была, буракі дапамагала палоць. Усё на сонцы запальвалася. – Божа, мой Божа… Я ўсё гаварыла ёй: апраніся, апраніся… Пад сонцам хадзіла, а яно так пякло, так пякло тады. І ні дажджынкі табе! Усё помню, усё да драбіначкі. Як чула, што гора… Сказалі, што рак. А ад чаго ён? Сонца заўжды пякло, а то ж… Аблашчыла… Мо людзі наракаюць?

Зося журботна пахітала галавой. А слёзы ліліся і ліліся з вачэй.

– А яна бы нарочна, вось, кажа, запалюся і скажу, што на курорце была… Вось і запалілася… вось і скончылася ўсё… З’ела хвароба. А мне як далей жыць? Хоць бы Настачка выжыла…

– Настачка – гэта хто? – запытала пасажырка, таксама выціраючы счырванелыя вочы.

– Унучка мая. І яна была ў мяне. Вось, ляжыць у больніцы. Нейкая лейкімія. Цяпер ужо ў Мінск перавялі ў другую больніцу. А што з таго? Ужо ніякае веры няма.

– Самі едзеце, а чалавек ваш дзе?

– Нямоглы ён зусім. Інвалід. Ляжыць лежма. Цяпер сама па гаспадарцы ўпраўляюся. Брацiху папрасіла ўправіцца па гаспадарцы, за скацінай прыглядзець. Я во, амаль суткі дабіраюся. А яму, бязногаму, як да цягніка дабрацца?

– Аўтобусам…

– Нічога да нас ужо не ходзіць. Людная вёска была, гаманлівая. А цяпер – дзевяць двароў жывых, – Зося выцерла вочы.

– А… Чаго дзевяць? Дзе ж астатнія? – недаўменна запытала пасажырка.

– Хіба вы не чулі? Павысялялі вёскі, цяпер зону зрабілі.

– Чула, дык усіх жа адсялілі.

– Усіх ды не ўсіх. Мы не захацелі. Куды я ў свет са сваім калекаю? Клікала да сябе мая нябожчыца, – ціха і так горка прамовіла Зося, што пасажырка ўздыхнула неяк з усхліпам. – У адзін пакойчык? Ды браць з сабой нічога не дазвалялі. І тое заразнае, і тое… Як жа пакінуць усё, што век нажывалі? Нават вопратку …

– Чаго ж ваш чалавек калека?

– Па глупству. Усю вайну прайшоў, а пасля вайны паехаў у горад, напіўся і папаў пад цягнік. Ногі адрэзала. Папаваляўся па больніцах. Пасля натрэніраваўся хадзіць, пашыў сабе накаленнікі, і на куксах. Апошнім часам ужо на возіку ездзіў па двары. Да царквы я вазіла, да крамы там… Ат, прывыклі. Да чаго толькі той чалавек ні прывыкне!

На станцыі Зосю сустрэў Алесь. Счарнелы ў журбе, ціха прывітаўся.

– Я ўжо другі цягнік сустракаю. Ліду дамоў павязём. Так хацела…

Ізноў старая ў дарозе. Сядзіць ў катафалку на стуле. Успёрлася на дамавіну. Нязручна. Утаропілася ў твар дачкі. Схуднелы, але прасветлены, з лёгкай усмешкай на вуснах. Здзіўлена ўскінутыя бровы. Смерцю завостраны нос. Злёгку запалыя вочы. Зося працягнула руку да валасоў, пагладзіла іх. “Мяккія і халодныя” – падумала. – А ў рукі толькі свечачку далі. Трэба іконка ды насовачка. Каб перад Богам была, як трэба… Нічога цяпер людзі не ведаюць. Забыліся і на Бога, і на малітвы, А пахаваць таксама ўмець трэба. Маё дзіцятка… Дадому едзеш. Ужо назаўжды. Так усё часу не хапала… І бацько галасіў, дочачко, і наракаў, што не папраўдзе ўсё гэта. Ох, не папраўдзе. Ці ж то табе ў такую дарожаньку? Такая кара… што мы цяпер старыя і нікчэмныя? Верылася на вас, маладых. Колькі там засталося нам? Хто цяпер нам вочы закрые? Хто слязою ўросіць? А Настачка? Што табе ўгатавана?”

Людзі сядзелі моўчкі. За вокнамі аўтобуса ласкава і цёпла свяціла сонейка.

– Каб спыніцца, – звярнулася Зося да Вольгі. – Крапівы трэба нарваць ды цела абкласці. Крапіва не дапускае хуткага растлення, а дарогі яшчэ добры кавал.

Спыніліся. Абапал дарогі ў зацішку лёгка паддавалася ветрыку зялёная трава. Дзе-нідзе ў кустоўі чарнелі цёмныя лісты маладой крапівы. Там-сям расцвіталі лугавыя кветкі. З аўтобуса выйшлі ўсе, акрамя Зосі і Алеся.

Максімавіч спыніўся на ўзбочыне дарогі. Да яго падышоў з абярэмкам крапівы Слава.

– Каму лепш, таму хто жывы, ці таму, хто памёр? – спытаў Максімавіч.

– Таму, хто не нарадзіўся, – адказаў Слава і прыпыніўся каля Максімавіча. Падышла з крапівой і Вольга.

– А што рабіць тым, хто жыве? – папытала яна ў хлопцаў.

– Жыць. Жывым трэба жыць, – адказаў Максімавіч і рушыў да аўтобуса.

На зыходзе дня прыехалі ў вёску. Нешматлюдна сустрэлі: колькі жыхароў набярэцца з дзевяці падворкаў?

На покуці паставілі дамавіну, запалілі свечкі, не саромеўся сваіх слёз Васіль.

– Адпачні з дарогі, дочачко, дый зноўку ў дарогу, на клады.., – Зося паклала на рукі маленечкі абразок маці Божай Жыровіцкай, надзела крыжык на шыю, дала чыстую насовачку. Цётка Гандзя стала на калені і доўга малілася.

Хавалі ціха, са святаром.

– Ці не так вернуцца ў вёску ўсе, хто выехаў? – прамовіў Міхась.

– То ж не па сваёй волі пакінулі, – адказаў Васіль. – Таму будуць вяртацца жывымі. Пабачыце, – пераконваў ён і сябе і астатніх.

Смутак ахутаў усіх. Цяжка не толькі ад пахавання, але ад пустых падворкаў, ад аглохлых і апусцелых вуліц.

– Троху ажывае тут, калі, во, пахаванне, ці на “Дзяды”, на Вялікдзень яшчэ прыязджаюць. – казаў урачам дзядзька Рыгор. – Бывае, што і ў госці наведваюцца. Дарослыя, а дзяцей не пускаюць.

– Унукам, не прывыкшым да нашай зямлі, лягчэй адвыкаць будзе, – дабавіў Васіль, думаючы пра Настачку.

Вольга слухала іх гамонку і скрушна маўчала. Зірнула на Лідзінага бацьку, дзядзьку Васіля, што сядзеў на возіку, але не ад тае гаворкі, і нават не ад пахавання нечалавечым смуткам поўніліся яго вочы. Падышла да яго і ён узмаліўся:

– Настачку ўратуйце… Унучачку… А… А так..,

І з яго апухлых павекаў выбегла сляза і сарамліва схавалася ў няголенай шчацэ. – А так… Дзеля чаго жыў?

## XII

Увосень галоўны ўрач Іван Максімавіч Кісляк сабраў у чырвоным кутку медперсанал.

– Сябры, – сказаў уладным голасам. Абвёў позіркам супрацоўнікаў. – Не навіна для ўсіх, што Чарнобыльская АЭС дабавіла нам работы. Ёсць заключэнні замежных спецыялістаў энергетыкі, медыцыны, што справа не такая ўжо і бяскрыўдная. Стронцый, цэзій і другія элементы выпалі ў асадак. Труцяць глебу, ваду, а значыць, і гародніну, збажыну, карацей, усё, што ямо. Адным словам, захварэць можна не толькі праз прамое апраменьванне, але і праз страву. Працы нам дабаўляецца з кожным днём. Кепска і складана ад таго, што няма абсталявання, лекаў. Няма чым

абараніцца. Нам абяцаюць дапамагчы замежныя арганізацыі, але гэта – пасля. Пакуль што едуць спецыялісты для вызначэння памераў катастрофы. Адзін з іх, амерыканскі бізнесмен і навуковец доктар Бэйл. Спецыяліст ён буйны ў вобласці медыцыны і энергетыкі, радыяцыйнага ўплыву на жывую клетку і арганізм увогуле. Тысячы людзей працягваюць жыць у зоне, дзе глеба забруджана радыёнуклідамі. А так званыя "чыстыя" раёны забруджваюцца праз прадукты харчавання.

– Выходзіць, што мы цяпер, як паддоследныя для амерыканцаў, – сказаў рэнтгенолаг Генадзь. – Мы абяззброеныя перад такой небяспекаю, як радыяцыя. Мы не гатовыя да такой бяды.

– А хто рыхтуецца да бяды? Мужык не перахрысціцца, пакуль не грымне гром. А Бэйл рыхтаваўся, значыць. Ён нават многа грошай даў нам, дапамог, так скажам, матэрыяльна. Падумайце, чаму так? Бо яму трэба правесці доследы, а "вопытная станцыя" тут гатовая. То ж не самому будаваць і людзей-паддоследных туды адбіраць! Усё гатова.

– Чым так правінілася Беларусь? – запытала Антонаўна ў Вольгі, але Максімавіч пачуў і адказаў:

– Не толькі Беларусь. Тут хапіла і Браншчыне, і Украіне, хапіла многім, але па тэрыторыі больш за ўсіх трапіла на Беларусь. Вы ж ведаеце пра тое.

– На якія сістэмы чалавечага арганізма і ўзрост найгорш дзейнічаюць радыяцыйныя элементы? – запытала старшая медсястра Наталля Раманаўна.

– На генную і імунную сістэмы. Вось некаторыя факты і лічбы: семдзесят працэнтаў усёй чарнобыльскай погані высыпала на Беларусь. Гэта больш за пяцьдзесят кілаграмаў радыяцыйных рэчываў, некалькі тон ядзернага паліва. У атмасферу трапілі трытый і радыявуглярод. Гэтыя ізатопы, вядома ж, трапілі ў тканкі раслін і жывёл, не выключаны і чалавек. Адсюль павелічэнне анкалагічных захворванняў, так званы канцэрагенны фактар. Другі фактар – мутагенны, гэта значыць адмоўны ўплыў на спадчыннасць. І трэці – імунадэпрэсіўны, рост усялякіх іншых захворванняў за кошт паслаблення супраціўляльнасці арганізма, паніжаны імунітэт. Ды колькі шчэ невядомага!

– Дастаецца спадчына нашчадкам!

– Найхутчэй мы можам вызначыць шчытападобную залозу. Яе рукамі намацаеш, вачыма пабачыш, калі зменіцца памер, – сказаў Генадзь.

– А функцыю чым вызначыш? Дасі ёдавы прэпарат, а там гіперфункцыя! Вось і "дапамога" хваробе. Адрамантаваў кум дзверы: хадзілі каты, а цяпер – сабакі. У нас у асноўным ёдавыя прэпараты. – Слава развёў рукамі.

– Прамое ўздзеянне радыяцыі на арганізм чалавека прыводзіць да змены функцыяніравання біялагічных сістэм і адбіваецца на стане здароўя і працаздольнасці. Гэта не абавязкова небяспечныя анкалагічныя альбо сардэчна-сасудзістыя захворванні, – доўжыў Максімавіч. – Далёка не

заўсёды можна з упэўненасцю сказаць, што малыя дозы радыяцыі ёсць прычына хваробы. Ды і няма да гэтага часу ў радах вучоных медыкаў адзінства ў пытаннях аб тым, ці прывяла чарнобыльская катастрофа да росту захворвання. Засталося адкрытым пытанне аб ролі і велічыні дозы апраменьвання ў паходжанні і дынаміцы захворванняў. Часта такія элементы на біялагічным узроўні маюць сцёрты субклінічны характар і не дыягнастуюцца не толькі як назалагічныя адзінкі, але і як сімптомы.

Медыкі моўчкі і ўважліва слухалі галоўнага ўрача. Удумваліся ў праблему. Перад кожным стаяла пытанне – што рабіць? Як вызначыць хваробу? Чым лекаваць?

– Усё роўна трэба тлумачыць людзям пра небяспеку, вучыць іх абачлівасці, – выказаўся Генадзь.

– Як тлумачыць? У друк не прабіцца з такімі звесткамі, – заўважыў Слава, – трэба, каб варушыліся кіраўнікі. А яны маўчаць, ігнаруюць нашы трывогі. Ніякіх жа распараджэнняў…

Максімавіч уздыхнуў. Абводзіў вачыма сваіх супрацоўнікаў, сустракаўся з заклапочанымі позіркамі людзей. Вольга Рыгораўна разглядала свае рукі. Твар яе быў устрывожаны, у скрусе збегліся на пераноссі бровы. Яна думала пра нядаўнюю спрэчку з Юрам.

“У лагеры добрае харчаванне, экалагічна чыстае, чыстая зона, а ў вёсцы – радыяцыя, зона! – зноў прагучалі яго словы.

– А як жа вясковыя дзеці? Куды і калі паедуць яны? – спытала ў мужа Вольга

– Яны адаптаваныя, а нашы – не!

– Можа і маеш рацыю пра адаптацыю… Можа гэта адзінае, што ўратуе нас… А тут трэба браць на спецулік кожнага, хто мае сімптомы…

– Толькі без самадзейнасці! – выкрыкнуў Юры. Калі мінздраў дасць загад, тады…

– А ты падымі гэтае пытанне…”

– Вольга Рыгораўна, – Вольга ўздрыгнула ад голасу Максімавіча, нібыта ён злавіў яе за нечым непрыстойным. – Якія аналізы ў Настачкі?

Вольга адкрыта паглядзела ў вочы Максімавічу.

– Сёння ўзялі паўторна. Паказвае на лейкімію. Думалася – анемія.

– Не спяшайцеся рабіць вывады, – выкрыкнула Наталля Раманаўна. – Паўторны аналіз пакажа.

Генадзь павярнуўся да Наталлі.

– Вы абавязаны кантраляваць аналізы і праўдзіва весці ўлік, а не хаваць праўду. Для чаго ваша пазіцыя і дзеля чаго?

– Што з таго, што мы паставім лейкімію? – агрызнулася Наталля.

– Як – што? – здзівіўся Слава. Яго падтрымалі іншыя.

– У Баранавічы адправім, у радыялогію. Ці ў Бараўляны нарэшце…

Максімавіч слухаў людзей. Цяжка раздумваў над становішчам сваёй бальніцы. Ведаў, што так паўсюдна. Зноў цяжка ўздыхнуў:

– Няма там памяшканняў для дзяцей. Усяго ў аддзяленні радыялогіі ў

Бараўлянах каля сарака месцаў. Гэта не паратунак, – памаўчаў. – Скора зіма. Час ідзе. Я думаю, што нам пара прыступіць да падліку хворых, у якіх сімптомы прамянёвай хваробы.

– Такія хворыя ўжо ёсць?

– Няма ж загаду зверху, – пачуліся галасы.

– Яго, пэўна, і не будзе. Трэба распачынаць самім, – сказаў Максімавіч і моцна царануў далоняю па твары.

– Я не магу вас падтрымаць, – выказала сваю думку Наталля.

– Як сабе хочаце. А ў лабараторыі вы павінны правільна вызначаць формулу і хімічны састаў крыві. Гэта ваш і грамадзянскі, і прафесіянальны абавязак. – Ціха, але цвёрда сказаў Максімавіч. Людзі прыціхла раздумвалі над словамі галоўнага ўрача і яго намесніка Наталлі Раманаўны. А Максімавіч узіраўся ў кожнага з іх, нібыта хацеў адгадаць, хто яго падтрымае, хто стане поруч у такі адказны і трывожны час? Ведаў, што не ўсе. На ўсё трэба і смеласць, і розум, і цвёрдая пазіцыя.

– Вось і ўсё, пра што я хацеў з вамі пагаварыць, – сказаў урэшце Максімавіч.

У пакоі стала так ціха, нібыта ў тэатры перад авацыяй апладысментаў і воклічаў “Брава!”. Ды ніякіх воклічаў і апладысментаў не было, нават крэсламі стукалі нібыта крадком, сцішана і асцярожна. Людзі пакідалі чырвоны куток, дзе на сценах вісела дыяграма захворванняў за тысяча дзевяцьсот восемдзесят восьмы год, партрэты членаў палітбюро, у кутку, ля бюста Леніну – чырвоны сцяг з надпісам “Победителю в социалистическом соревновании” і дошка гонару са здымкамі лепшых работнікаў бальніцы. Максімавіч глядзеў у спіны сваіх супрацоўнікаў і адчуваў, што ён не застаецца адзін, хаця бачыў толькі іх спіны. І нешта моцна перамянілася, нібыта пераламалася, не толькі ў яго свядомасці. Што змянілася – ён яшчэ і сам сабе не мог сказаць.

Вольга намагалася не азірнуцца. Усю яе істоту перапаўняла радасць ад таго, што яна ўжо робіць з Антонаўнай тое, пра што толькі сёння адважыўся сказаць Максімавіч. Усё ж яна азірнулася. Слава паціскаў руку Максімавічу:

– Нешта прыдумаем, – пачула Вольга.

Ужо з парога азірнуўся Генадзь і падняў угору палец, што азначала: ”Клас!”

– Пабудзь, – папрасіў Славу Максімавіч і той застаўся.

Прыселі. Памаўчалі.

– Ты чытаў апошні нумар часопіса “Здоровье”? – запытаў у Славы Максімавіч.

– А што там?

– Інтэрв’ю з намеснікам дырэктара па навуцы інстытута біяфізікі.

– А, з Гардзеевым. Чытаў.

– Ну, і што скажаш?

– Філасофскія адказы, абагулена, неканкрэтна. “У параўнанні з Інды-

яй… У сярэднім па зямному шару…” Бы і ўся наша савецкая прапаганда…, – Максімавіч падышоў да шафы і ўзяў патрэбны нумар, адшукаў артыкул. Слава ўзяў з яго рук часопіс.

– Во, глядзі, – правёў пальцам па старонцы. – Во… Паслухай: “Естественная радиация плюс все внесённые техникой излучения могут накапливать в организме людей значительные дозы. И если по земному шару”… заўваж: па зямному шару – “Эти показатели 25–35 бэр за семьдесят лет жизни человека, то для населения штата Керала и Мадрас в Индии, например, где высокий природный фон, они могут достичь и сто бэр.

– Ну, я …

– Не, паслухай далей, якая несуразіца: “Результаты наших исследований приводят к выводу, что население, проживающее на значительной территории, которые были затронуты радиацией в результате аварии на Чернобыльской АЭС, получит в настоящее время дозы облучения, близкие к тем, что даёт естественный фон в ряде районов планеты”…Ну, што, разумна? Падлікі па ўсяму зямному шару… А тут пальнулі на цябе, не чакаючы, калі табе назбіраецца семдзесят гадоў. Там паступова, адаптаваліся на працягу пэўнага часу, а тут адразу – бабах па арганізму тое, што там за семдзесят гадоў! – сказаў Максімавіч.

– Ну, раздзялілі радыяцыю ў сярэднім на кантынент, бы нашы ўклады на ашчадных кніжках: у сярэднім на чалавека… Ага, і ў сярэднім у нас кожны чалавек выпівае па шэсць літраў спіртнога, хоць бабкі ды немаўляты і ў рот не бяруць.

– Так, Слава, так… Ды не ўсе будуць так разбіраць артыкул. Надрукавана – значыць праўда. Ды артыкул як называецца – “Радыяцыйная абстаноўка пад кантролем!” Ні больш, ні менш!

– Слухай, Іване, адкуль гэта ў нас? Ці то ад вялікага розуму? Ці ад бескультур’я?

– Ад недасведчанасці!

– Гэтак завесці ў зман!

– Ты, Слава, даўно задумаўся над гэтым? – Максімавіч панёс часопіс ў шафку, спыніўся каля сцяны, дзе з плаката глядзелі фатаграфіі ўсяго палітбюро. – Ты ніколі не думаў, хто ж усё-такі “УМ, ЧЕСТЬ И СОВЕСТЬ”? – шырокім жэстам акінуў плакат. – Вось хто за нас думаў, рашаў, планаваў, а мы – працавалі, выконвалі тыя планы і рашэнні. Як мы працавалі – ты ведаеш. Было дзе павучыцца? Можна было паехаць, хоць бы ў Еўропу, пабачыць, параўнаць? Адзінкі маглі. Некалі людзі вучыліся ў лепшых еўрапейскіх універсітэтах, хто быў здольны да навукі, той дамагаўся яе, як толькі мог. Акрамя ўсіх навук людзі спасцігалі асаблівую навуку – навуку чалавечай годнасці. А мы ведаем з табой, што такое – годнасць?! Вось перад чым мы стаімо на каленях, – зноў жэстам паказаў Максімавіч на чырвоны сцяг, найвялікшы паказальнік пераможцаў у спаборніцтве. – Усё трэба кагосьць перамагаць, і лемантаваць безупынку:

”Перамога будзе за намі!” Перамога над чым, над кім? Як пра радыяцыю – то ў параўнанні па планеце… Хай бы па Беларусі ў сярэднім, а то па планеце. Бо няма Беларусі, бо размылі яе, і нас за людзей не лічаць. Мы, як рабы, працуем за чырвоны сцяг, паміраем – за чырвоны сцяг, перамагаем – за чырвоны сцяг! Абрыдла. Хочацца чалавекам быць.

– Чакай, Іване, а што, калі мы памяняем сцяг гэты на другі, то нешта зменіцца? Гэты давай выкінем, а другі ў кут паставім, і што – мы перайначымся? Ці жытка другая будзе?

– Не, не выкінем. Я б забараніў яго выкідваць. Пад гэтым сцягам прайшла цэлая эпоха, амаль стагоддзе. Пад гэтым сцягам прайшло і жыццё і смерць дзядоў і бацькоў нашых, таму хай бы ён стаяў у музеі, і каб кожны глядзеў на яго і ведаў, які іспыт і выпрабаванні панеслі нашыя людзі пад гэтым сцягам. І да якога абсурду мы дажылі. Ты ведаеш, дзе пахаваны твой дзед?

– Недзе ў Сібіры, а што? – адказаў Слава.

– Недзе ў Сібіры… А Сібір вялікая, агромністая! Па ўсёй Сібіры шукацьмеш? А іх, – кіўнуў на партрэты – ты павінен ведаць, павінен! Чым гэта скончыцца? Па закону матэматыкі плюс А і мінус А – узаемазнішчаюцца. Так і тут, спачатку ідэя пад сцягам знішчала людзей, а цяпер людзі пад сцягам будуць знішчаць ідэю. Пытанне толькі, пад якім сцягам?

– Ты маеш рацыю, хоць і цяжка пагадзіцца так проста і хутка. Тут трэба пераасэнсаваць дыялектыку… Я неяк у бібліятэку зайшоў, а там гара літаратуры на падлозе. Гляджу – Брэжнеў. Пытаю, а што вы робіце з гэтымі кніжкамі? Адказваюць: спісваем і – на макулатуру. Бачыш, не паспеў чалавек ахалонуць, а яго “труды” ўжо непатрэбныя. Хіба тут іншая ідэя? Хай бы нашчадкі ведалі, чыталі такога вялікага пісьменніка, як Л.І.Брэжнеў… Слухай, Іван, мусіць ты нефармал? – раптам запытаў Слава.

– А хто такі – фармал? – у сваю чаргу запытаў Максімавіч. Усміхнуўся. – Наша Наталля Раманаўна?

– Вось на такіх і ехала наша ідэйнасць, – падтрымаў Слава.

– Так, і такімі паганяла, – Максімавіч уважліва паглядзеў на Славу. Сябрам сваім не лічыў, але пагаманіць любіў. Зараз яму закарцела адкрыць тайну сваіх думак. Спрацоўваў інстынктыўны страх перад начальствам, не хацелася уцягваць у дзею сваіх супрацоўнікаў, усё ж адважыўся і спытаў:

– Слава, ты… Ці хацеў бы ты дапамагчы мне правесці “Дзяды”?

– Ты сам арганізатар? – здзівіўся Слава.

– Не, з хлопцамі.

– У нас ужо “хлопцы” ёсць?

– Ёсць. Па ўсім свеце, не толькі ў Беларусі памінаюць сваіх продкаў…

– Не мітынг?

– Ты баішся мітынгаў? – строга, але з дабрынёй і даверам Максімавіч узіраўся ў вочы калегі. – Не, не мітынг. І яны, кіроўцы ідэалагічныя,

таксама баяцца мітынгаў. Мы атрымалі дазвол на правядзенне "Дзядоў". Гэта будзе рэквіем. Гістарычныя падзеі ад Грунвальда і … аж да сённяшняга Чарнобыля. Удзельнічае большасць інтэлігенцыі горада. Ну, то як?

Слава маўчаў, засяроджана пра нешта думаў, успамінаў нібыта:

– Помніш, перад выбарамі… Многіх білі толькі за тое, што агітавалі за дэмакратычныя выбары.

– Помню. І ведаю людзей, якія ад таго пакутавалі. А ты баішся, што будуць біць?

– Не баюся, што паб'юць. Я думаю, што мазгі мае яшчэ не… Нешта я яшчэ не магу зразумець у гэтым свеце, не магу ад нечага пазбавіцца. Дык вось, каб замест дапамогі не нарабіць шкоды… Я буду табе спрыяць, пакуль што… Га?

– Ну, і на гэтым дзякуй.

Максімавіч працягнуў руку. Слава моцна яе паціснуў.

– Ты будзеш маім камітэтам падтрымкі, – усміхнуўся Максімавіч.

XIII

А Настачка напрыканцы восені раніцай не ўстала на ногі. Скура пакрылася сіняватымі плямамі. Дзяўчынку тэрмінова адправілі ў Бараўляны, у аддзяленне радыялогіі. Падцвердзіўся дыягназ: лейкімія. Ды ці не позна?

Каб ноч не здалася такой доўгай – а сёння Вольга і Антонаўна ў начным дзяжурстве – гаварылі пра ўсё на свеце. Час ад часу збіваліся на тое, што найбліжэй.

– Як там наша Настачка? – непакоілася Вольга. – Спрабуюць праз спартсменаў перадаць аналізы ў Амерыку, ды ўлады не даюць на тое дазволу. Вось дзе – крымінал!

– Бач, Ліда адпакутавала, а прывыкнуць аніяк не магу, – уздыхнула Антонаўна. – Здаецца, вось увойдзе, засмяецца… Калі ўжо тыя ўлады пра нас думалі? Я не дзіўлюся, бязбожнікі яны і ёсць бязбожнікі, праз любыя ўчынкі праявяцца.

– Муж яе як выпіваў, так і выпівае. Можа і праўда, трэба выпіваць, то і радыяцыя хутчэй выйдзе з нас? – сумна пажартавала Вольга. Яна ведала, якая яна бездапаможная перад бядой і перад людзьмі, як урач. Чаму няма выйсця? – Антонаўна, хоць адну добрую работу мы зрабілі.

– Якую?

– Матэрыял у друк перадалі. Малайчына Яўген.

– Але і надаюць яму кухталёў! Проста так гэта не абыйдзецца. Дзякаваць Богу, што за такое не садзяць. Бачыш, Максімавічу вымову далі, не паглядзелі, што і пераможца ў сацспаборніцтве, і на сцяг, што ўручылі, не паглядзелі. З гэтага ўсё пачынаецца.

Вольга пачырванела, але Антонаўна пачала яе супакойваць.

– Не пакутуй, прыйдзе і да яго радасць.

– Я не пакутую, з чаго вы?

– Не сляпая. Ды гэтага і ад сляпой не схаваеш. Тут нечым другім угадваецца. Што твой Юры?

– Не ведаю. Стараемся не бачыцца. Хлопцы заўважаюць, што нешта нядобрае адбываецца, а што рабіць?

– Нешта яно будзе. Не гарачыся. Самае цікавае ў цябе наперадзе. І каханне таксама. Ты – моцная!

– Ды хто вам сказаў, што я моцная? Трывога за трывогай, рук няма за што зачапіць.

– Дзеці ў цябе ёсць, для іх і жыві.

– А я? Я таксама хачу жыць. Як ніколі…

Антонаўна ўсміхнулася. Кожны раз у жыцці ўсё па-новаму. На гэты раз таксама. Яна сядзела супроць Вольгі, узіралася ў яе твар, па-мацярынску шкадавала.

– Вот, ты кажаш, што жыць хочацца, як ніколі. Малайчына! Бо цяга да жыцця – найвялікшая сіла. Страшна тады, калі рвуцца жыццёвыя ніці. Тады чалавек не можа змагацца ні з чым: ні з ворагам, ні з хваробамі, ні з нянавісцю. Ты шчаслівая. Пакутуеш – значыць, жывеш. Давай павячэраем. Хворых сёння амаль не паступае.

– Ноч хутка пройдзе, – пагадзілася Вольга.

– Пастаў чайнік. Я каўбаскі прынесла сёння.

– А кажуць, што ў крамах нічога няма.

– Калі не лічыць, што каўбаска кааператыўная. Узяла, каб сагнаць аскоміну.

Вольга ўключыла электрачайнік, узяла газету, што дала ёй Антонаўна. Газета не клалася на стол, бо была скручаная ў трубачку.

– Чаму б вам не злажыць нармальна газету, а то – у трубачку. – разгарнула і прытрымала канцы рукамі, каб яна выпрасталася. – О! “Вечерний Минск”! Дзе вы яе ўзялі?

– Дачка купіла ў Мінску і прывезла. А што? Кажа, так ужо плявузгаюць, так пляскаюць языкамі, бы тыя бабы каля калодзежа, аж вушы заткнуць хочацца.

Антонаўна нарэзала лустачкамі каўбасу і хлеб. Вольга не ўтрывала, адкусіла кавалачак і пачала жаваць, утаропіўшыся ў газету. Чайнік пачаў пазвоньваць. Антонаўна насыпала ў заварнічак святаянніку, прыкрыла яго сурвэткай, каб настаяўся. Вольга перастала жаваць, утрапёна ўзіралася ў артыкул.

– Антонаўна! Пра Яўгена пішуць! Слухайце: ”Я даўно ведаю Яўгена Зотава. Разам вучыліся ў Маскве. Але цяпер шляхі нашыя разыходзяцца. Ён член нефармальнай арганізацыі, прадае падпольныя газеты, на грошы, якія атрымлівае злачынным спосабам пабудаваў сабе двухпавярховы катэдж. Палітычныя амбіцыі і махлярства – вось ягоны галоўны занятак…” Вось яшчэ, слухайце: ”Я шкадую, што я знаёмы з гэтым

чалавекам…” Я ж казала, што пяройдуць на асобы. Такі бруд! Няма ў яго ніякае дачы. І катэджа. Божа мой!

– І табе яшчэ хопіць, мацуйся.

– Я зараз напішу яму пісьмо. Трэба падтрымаць Яўгена.

– Супакойся, перакусі. А то нашкрабаеш такога… А лепей раніцай пазвані. А ён што – нефармал?

– Цяпер усе нефармалы, хто іначай думае, хто не хоча быць падманутым, а ён яшчэ артыкул даў у рэспубліканскую газету.

– Значыць, я таксама нефармалка, – Антонаўна засмяялася. – І чым тыя нефармалы дапамогуць? – Вольга так задумалася, што не чула, пра што папытала Антонаўна.

– Можа хучэй пачнуць ратаваць людзей ад Чарнобылю, – доўжыла Антонаўна.

– Бачыце, як ратуюць. А ўжо трэці год на сыходзе. А для нас радыяцыя ўсё яшчэ забаўка. Людзі жахаюцца ад нашай некампетэнтнасці. Ідзе гаворка пра адсяленне, а што мяняецца? Людзі ж самі не паедуць у белы свет. Хто арганізуе тое, што трэба: грошы, кватэры, школы, харчаванне… Толькі на словах – гаспадары, а прыйшлося і выйшаў пшык для ўсяго гаспадарства. Колькі працягваюць будаваць у забруджаных зонах! Куды грошы валяць? А людзі аддаюць апошнія капейкі. Каму?

– Супакойся, Волечка. У Святым Пісанні сказана, што золата гарой будзе ляжаць, а людзі шукацьмуць ваду, а яе нідзе не будзе. Пі чай, пакуль ёсць вада і супакойся.

– Помню, Яўген апошні раз, калі быў, адчуваў сябе дужа стомлена. Казаў, што абрыдла ўсё. Кажа, зашыцца б у чарот з вудаю, у лодцы… Ад усіх каб схавацца і адпачыць. Не, напішу зараз.

Антонаўна пайшла ў прыёмны пакой, а Вольга пачала пісаць Яўгену ліст. У пакоі было халаднавата, ці то ад хвалявання дрыжала. Вольга захуталася ў цёплы паўшалак.

“Здароў, мой знаёмы і незнаёмы чалавек. Холад, бы ў пекле. Дзе ратунак і прытулак для душы? Каб суцішылася яна, душа. Паслухай, як доўбняю б’е асабістае сэрца. Калашмаціць пачуцці, выбіваецца з рытму, а ты – жыві! Можна захлынуцца ад навін і плётак. Дзіву даешся вытанчанасці і гнуткасці выдумшчыкаў, якім не важна, каму служыць і каля якога вогнішча пагрэць рукі і набіць кішэні. Не! Не-не, гэта не пра цябе Не падумай, што я паверу плёткам і буду зайздросціць табе, што ты заняўся не толькі перабудовай дзяржаўнага ўкладу, але і ўласным будаўніцтвам. Падумаць толькі: такая маленечкая сняжынка, а зрушыла такую масу снегу, на сваім шляху абрастае чарціннем, павуціннем, нахабствам… Дзе ж тое сіта, праз якое ўсё прасеецца і застанецца справядлівасць, праўда. Ці так і дакоцімся да краю і – шубоўсь туды ўсе разам, і злодзеі, і святыя і грэшныя?”

Вольга перачытала і падумала, што “сіта” можа ўспрыняцца вобразна і стане тым сітам, што веяла ў трыццатыя гады, таму паправіла: “Сіта, я

маю на ўвазе не катаванне і турмы, а здольнасць кожнага зразумець і ачысціцца ад дурноты. А для гэтага трэба мець свой розум, а не той, што нам дыктуе прапаганда.

Ці не адпачыў ты, з вудаю ў лодцы? Дай мне сваю цёплую і надзейную руку, і я таксама трошачкі адпачну. Хоць ведаю, што гэта толькі момант і … падман”.

Вольга яшчэ раз перачытала ліст, паклала ў канверт і выйшла да паштовай скрынкі, што была ў бальнічным двары.

– Максімавіч прыехаў. Добрую навіну прывёз: Настачку адправілі ў Германію на лячэнне, – Антонаўна выцерла радасную слязу. – Дзякуй Богу.

– Каб толькі не позна, мне здаецца, што запушчана, – азвалася Вольга.

– Мая галубка, як на маю думку, то хоць нарадзіцца, хоць памерці – на ўсё Божая воля.

– Пазваню Максімавічу, спытаю, як ён дамогся гэтага…

Але тэлефон сам заліўся звонам.

– Алё! – Вольга заружавелася, калі пачула голас у трубцы. – Зараз? – запытала і паглядзела на Антонаўну.

– Ідзі, – мякка сказала Антонаўна. Вольга паглядзела на яе. “Ведае? Ці здагадваецца?” – падумала і сказала, хаваючы вочы, што так радасна зазіхацелі: – Гэта Максімавіч сам пазваніў. Выклікае да сябе, па справе.

– Ведаю. Адпусціся. Хопіць замыкаць сваю душу.

– Ён па справе…

– Ведаю, што па справе. Але і ты яму неабходная, дапамажы яму.

Вольга з удзячнасцю дакранулася да рукі сваёй мудрай і вернай сяброўкі. І лягчэй стала на душы, нібыта частку сваёй тайны пераклала на яе плечы.

Картак у левай калодзе меншала, а ў правай – большала. Апошнім часам сюды дадалося дзіцячых. А падлеткавы ўзрост быў асабліва падатлівы на новыя захворванні. Наванароджаныя з’яўляліся на свет з ярка выяўленымі сімптомамі… Усё ад прамянёвага ўздзеяння. Але такі дыягназ ставіць забаронена. ЗА–БА–РО–НА! “А што ставіць? РВІ? Катар? Бранхіт? Альбо алергія на цвіценне, тапаліны пух, на сабак, катоў?... На малако, яйкі, цукар? Каб не ўчарашні званок, сёння падаў бы звесткі ў мінздраў, а так…”– думаў Максімавіч. Ён закурыў, падышоў да вакна і невідушча глядзеў цераз шыбу ў двор, а чуў нахабны самаўпэўнены голас:

– Бросьте вы эту мышиную возню. Как и было – никакой самодеятельности. Как будто вы не знаете, что такое дисциплина! Или забыли? Вы же давали клятву Гиппократа, вот и выполняйте её, никто не должен знать о своих болезнях. Больным же лучше от этого.

– Дык я ж не хворым збіраю тыя звесткі.

– Звесткі! Звесткі, – перадражніў голас у трубцы. – Чтобы завтра ни одной истории болезни не было, понятно?!

– А гэтыя? У архіў? – наіўна запытаў Максімавіч і адчуў, як аскаліўся голас у трубцы.

– Уничтожить!

Карткі ўсё яшчэ ляжалі на стале. Максімавіч не адважыўся іх “уничтожить”. Сёння павінна вырашыцца, што з імі рабіць. Узяў тэлефонную трубку і аўтаматычна набраў нумар.

– Вольга Рыгораўна, зайдзіце да мяне, ёсць справа. Я вас доўга не затрымаю, толькі на хвілінку.

Зноў прысеў да стала. І калі пастукалі ў дзверы, ён раптоўна падхапіўся і тут жа упікнуў сябе: “Фу! Пацан!”

– Заходзьце!

Вольга прайшла да стала і села на краёчак стула. Падняла на яго свае глыбокія цьмяныя вочы, моўчкі чакала, што скажа сам Максімавіч. Ці то самой папытацца пра Настачку? Ці расказаць пра ўчарашнюю размову з Юрам?

– Здарылася што? – запытаў Максімавіч, адчуў яе нерашучасць.

– Мне Юры казаў, што… КДБ займаецца пытаннем чарнобыльскага сіндрому… А што мы будзем рабіць?

– Што гэта азначае – Чарнобыльскі сіндром?

– Усё кантралюецца. Толькі не так, як бы хацелі мы, а так, як лічаць правільным яны.

– Праўды, Волечка, не схаваеш.

– Ведаю. Ды руйнуюцца душы. Колькі стараюцца нажыцца за кошт бяды!

– Ты разважаеш добра, па вялікім рахунку – падман паўсюдна… І заўжды пажаднасць, пад’ехаць на чужым гарбу, ды, як вядома, так у рай не ўедзеш.

– Помніце Леаніда? У яго – рак страўніка. Працаваў у зоне вахтавым метадам. Яму б лекавацца за мяжой ці ў здраўніцах…

– І што?

– Нікуды ён не ездзіў, а ў картачцы запісана, што быў у санаторыі. Нехта ж паехаў за яго… Ён і ў вочы тае пуцёўкі не бачыў! – Шчыра і адкрыта паглядзела ў вочы Максімавічу і схамянулася.

– Чый подпіс ў картцы? – запытаў Максімавіч.

– Неразборлівы. Нехта з абласной бальніцы, – Вольга паціснула плячыма. Максімавіч устаў, моўчкі пастаяў каля стала і рушыў да акна. Памаўчаў і ў роздуме пачаў гаварыць:

– Вольга… Рыгораўна. Зараз будуць утвараць розныя фонды і камітэты, будуць збіраць у людзей грошы, нібыта для тых фондаў і камітэтаў, – павярнуўся да Вольгі і доўжыў. – А куды будуць ісці тыя грошы? Хто пракантралюе? Справа ў тым, што тут вялікія маштабы. І не толькі ў рэспубліцы, а выходзіць па-за межы Саюза!.. Тут справа палітычная. Так што наша бальніца – кропля ў моры. Таму тыя, каму гэта так патрэбна, хто прадае не толькі нашу зямлю і людзей, а і бяду нашу,

будуць выкарыстоўваць кожны дзень нашага маўчання, не будуць цаніць нашых мізэрных намаганняў. Крычы, хоць лопні, а глухі яшчэ наш народ. А нам трэба, каб ён пачуў нас зараз. Ці многа зробіш саматуж? Ды калі супроць нас – тоўстыя калыткі.

– Мы ж маўчымо не толькі таму, што мы хочам маўчаць. Мы не ведаем, што рабіць! Нікуды ж не прабіцца, кругом – глухая сцяна.

– А час ідзе, мая залатая, – сказаў расчулена Максімавіч, і ад гэтага “мая залатая” Вольга аж прыжмурылася. “Ды мы з табою горы звернем!”, – падумала і паглядзела на яго постаць у праёме акна. Так захацелася падысці і прытуліцца да яго пляча, аж уздыхнула, а ён азірнуўся на яе ўздых.

– Я табе скажу больш. Ведаеш, як завуць цяпер Беларусь? – Зона экалагічнага бедства. А тыя, хто вінаваты ў гэтым – хто ўцёк, а хто па-ранейшаму сядзіць ва ўрадзе Беларусі. Пакуль мы будзем падпарадкоўвацца бязглуздым загадам і служыць хамству, да тае пары мы будзем бязвольнымі і бяссільнымі зрабіць хоць што-небудзь для саміх жа сабе. Трагедыя Чарнобыля грунтуецца на глыбокім славесным сэнсе: над народам праводзіцца атамны медыка-прамысловы эксперымент. Цікаўнасць да таго мае не толькі ваенна-прамысловы комплекс… Вольга, ты не баішся мяне? – спыніўся так блізка каля яе, што яна бачыла, як падымаецца на яго грудзях белы халат ад udараў ягонага сэрца. Яна шырока глядзела яму ў твар, баючыся затрымацца ў ягоных вачах.

– Не. Не, не баюся. Я…

– Вось карткі хворых. Гісторыі іхніх хваробаў. Спецадбор – дыягназ: апраменьванне. Ты пра гэта ведаеш сама. Што будзем рабіць?

Яна не падымала галавы, бо ён стаяў так блізка.

– Учора мне пазванілі, – сказаў Максімавіч.

– Хто?! – ускінула вочы, аж захлынулася.

– Хто? Той, хто стаіць на абароне здароўя працоўных, – горка пасміхнуўся Максімавіч ці то тым, хто званіў, ці то сваім недасяглым марам. Адышоў. Сеў за стол.

– Што сказалі? – запытала Вольга.

– Знішчыць! Усе карткі – знішчыць!

– Знішчыць?!

– Так. Спаліць. Ці, можа, закапаць… утапіць…

– А.. А хворых? Куды хворых?

Максімавіч зноў усміхнуўся, неяк вінавата паціснуў плячыма і тым паказаў сваю разгубленасць.

XIV

Цвіў сад. Стары і закінуты. Галіны яблыняў хаваліся ў ружовай квецені. Пад галінамі – чорныя, парэпаныя, з растрэсканай карой, знявечаныя часам – камялі. Тонкія стрэлкі маладой зялёнай травы

датыкаліся да шурпатай кары. Над кронамі – неба. Сіняе і глыбокае, чыстае і празрыстае, як весняя вада. Вольга прысела на траву пад яблыняй і ўсёй душой адчувала, як сонца лашчыць цёплымі промнямі ўсё жывое. Здавалася, нішто не зменіць на зямлі Богам створанага дзіва. Вольга ўзіралася ў неба і ўявіць цяжка, але так было: з гэтага сіняга і празрыстага неба павольна злятали сняжынкі. Адна, другая, трэцяя… Замітусіліся, загулялі. А неба ўсё такое ж сіняе і празрыста–халоднае. І сонца яскравае слепіць вочы. І цішыня. Ні вятрынкі! Ружовая квецень саду і над ёй – завіруха! Бы ў казцы. Ды неўпрыкмет сшарэла неба. І ў яго вышыні з’явіліся невялічкія хмаркі. Яны бязгучна насіліся адна за адной, змешваліся разам. Там гуло і шалёна круцілася, а тут, на зямлі, яшчэ ціха-ціха. Раптам Вольга заўважыла нейкую кропку ў небе. Угледзелася – бусел. Адзін, другі, трэці… Цэлая чарада буслоў! Такога ніхто яшчэ не бачыў: квецень, завіруха і буслы!

– Раз у прыродзе такое ёсць, значыць і ў мяне можа быць! – Вольга расчулілася і дала волю слязам. Яна не магла дараваць мужу здраду, лічы што на вачах, з тою свісцёлкаю на сакавіцкім вечары. Ягоныя раз’езды з прычыны і без прычыны. Яго дзікія вочы, напоўненыя нянавісцю. Яго абыякавасць да перамен. Яго сытая задаволеная морда. І спаць па прымусу? Не, дарагі, дарогі нашыя разышліся. Не адзін у нас дух! Да Яўгена таксама душа не ляжыць, бо яе займае ўсю Максімавіч. А што гэта мяняе? Ён ніколі і нічым не абнадзеіў. Нібыта і маю на яго ўсе правы, ды не маю права імі карыстацца, – думала-разважала Вольга. Вецер ужо шамацеў у квяцістым голлі яблыняў. Вольга паднялася і пайшла па знаёмай сцежцы да бальніцы. Напрасткі.

У кабінеце ўжо сядзела Антонаўна.

– Добрага здароўечка, – адказала яна на Вольгіна прывітанне і мімаходзь заўважыла ўсхваляваныя яе вочы.

– Антонаўна! Які я цуд бачыла: квецень, снег і буслы! Усё разам у старым садзе.

– Зноў палаяліся?

– Ды не лаяліся. Маўчаннем таксама можна біцца. У Жэніка тэмпература падскочыла. Трэба было б даследаваць. Ды Юры ўпарціцца. “Прастуда! Ногі папар і ўсё пройдзе!”– Перадражніла мужа. – Дарадчык.

Антонаўна ўсміхнулася, так дасканала перадала голас свайго Юрася Вольга.

– Ах, артысты… Супакойся, паціху-памалу – ўсё пройдзе, усё мінецца. Ну, што, запрашаць хворых?

У кабінет зайшоў сантэхнік іх жа бальніцы. Прывітаўся.

– Што вас непакоіць? – запытала Вольга.

– От, баліць пад рэбрамі. Ратунку сёння не было. Ледзь ранічкі дачакаўся.

Вольга пачала яго аглядаць-праслухоўваць, а ён расказваў.

– Ездзіў на сваю Гомельшчыну. Маці памерла, хаваць ездзіў.

Старэнькая ўжо была. Яна з адселеных. Ды хавалі на сваіх могілках. Усіх на свае прывозяць. І жыта высяваюць на сваіх сотках. Наездамі там працуюць. Нават ураджаі нішто сабе. І грошы даплачваюць. Праўда, людзі тут жа ахрысцілі іх "грабавыя". То што там у мяне?

– Печань павялічаная. Апранайцеся. Трэба на даследаванне вам. Часта ездзіце на Гомельшчыну?

– Езджу, чаму. Тут жа недалёка, на выхадныя, на святы. Езджу…

Антонаўна падала яму накіраванне на УЗІ, на аналізы.

– Гаваркі чалавек, – сказала яна, калі хворы выйшаў. – Цяпер людзі ўволю нагаворацца. Калі не пра хваробы, то пра палітыку, а не, то пра Чарнобыль. Хутка пра выбары пачнуць.

– А што з тае гаворкі? Палёгкі няма, – адказала Вольга.

Адзін за другім то заходзілі, то выходзілі людзі і так сыходзіў яшчэ адзін працоўны дзень. Зазваніў тэлефон.

– Прывітанне, Вольга! Я сёння выязджаю, а заўтра раніцай буду ў цябе.

– Яўген, пачакай…

– Я падлічыў – ты не працуеш. Прыйдзі, я прашу…

– Яўген, так нельга…

– Так трэба. У мяне няма больш манетаў, чэсць!

У трубцы шчоўкнула-піскнула. Вольга паклала трубку. Прымус! Зноў прымус. Ніхто цябе не пытае, хочаш ты гэтага ці не, але адчула, як адгукнулася сэрца і гэты прымус нават прыемны пасля ўсяго, што адбываецца дома. Трэба было думаць пра Юрыя, але падумалася пра Максімавіча: "Маўчыць і знаку ніякага не падае. Пайду!"

Назаўтра раніцой адправіла ўсіх па сваіх справах, а сама пачала прымяраць вопратку. Хацелася яшчэ больш уразіць Яўгена. Яна ведала, ёй хочацца падабацца. Спачатку апранула сукенку, потым – касцюм. Спадабалася самой. Нават не падфарбавалася, так гарэлі шчокі і блішчэлі вочы. Пайшла на звыклае месца ў парк. Яўген быў ужо там. Ён шпарка пайшоў насустрач.

– Я без кветак, але ўсе, што цвітуць сёння – табе. – Нахіліўся, каб пацалаваць. Сёння ёй было прыемна, што ён дакранаецца да яе рук, трошкі лісліва дагаджае. – Дзякуй за падтрымку. Твой ліст мне даражэй за ўсё. Куды мы пойдзем? У кавярню?

Вольга пагадзілася, яна зноў адчула, як казытнула ў нагах. Яна прыязна зазірнула яму ў вочы.

– Хіба можна было прамаўчаць, калі такі бруд вылілі на цябе.

– Дастаецца не толькі мне. Я не хачу сёння пра тое гаварыць.

У кавярні гучала добрая музыка, тое хвалістае казытанне Вольга адчула больш узмоцнена. Ёй захацелася, каб Яўген пацалаваў яе. Яўген нахіліўся да яе і запытаў:

– Табе якое марожанае?

– Мне – сыр, – усміхнулася Вольга.

Каву пілі моўчкі, пазіралі адзін аднаму ў вочы. Паміж імі ўсталявалася маўклівая згода, і Яўген не дазволіў сабе страціць яе.

– Я заказаў гасцініцу. Хадзем?

Вольга не адказала, а моўчкі выйшла з кавярні. Яўген дагнаў яе, узяў пад руку, але Вольга вызваліла сваю. Поруч пайшлі моўчкі. Вольга чула, як дрыготка дыхаў Яўген, пачала хваляваецца сама.

Адгукнулася.

…У гасцініцы – пакой на аднаго. Стол. Радыё. Шафа. Ложак. Яўген узяў з яе рук сумачку, паклаў у шафу. Пачаў расшпільваць паліто. Яна паволі пачала аддаваць сябе гэтаму добраму ўсхваляванаму хлопцу. Не ўтрываў, прытуліў да сябе, дакрануўся да яе шчок вуснамі, і яна падняла да яго свой твар. Ён асцярожна і пяшчотна пачаў цалаваць яе вочы, вусны… Нейкая дзіўная хваля, бадай што ніколі ёю не пачутая, праўдзівей, забытая, апаліла ўсю істоту. Вольга абняла Яўгена за шыю і забылася на ўсё.

…Ці то ад вялікага жадання, ад гарачыні і пяшчоты, але блізкасці не было. Яны ляжалі побач, і калі Яўген павярнуўся на спіну і абняў Вольгу, прытуліў да грудзей, Вольга задыхнулася: зусім недарэчы і так ярка ўспомніліся “Дзяды”.

Першы дазволены ўладамі мітынг-рэквіем. На прыступках кінатэатра, з невялічкімі званамі ў руках стаяць удзельнікі. Іх пяць. Першы звон – памяць аб загінуўшых у Грунвальдскай бітве, другі – паўстанцам Кастуся Каліноўскага, трэці – ахвярам трыццатых гадоў, чацьвёрты – кожнаму чацьвёртаму, загінуўшаму ў гады Вялікай Айчыннай, і калі пачалі гаварыць пра Чарнобыльскую катастрофу, па загаду ўладаў размарожаны фантан каля кінатэатра, загрымеў вясёлай музыкай. Прыпеўкамі і весялосцю па памяці, па загінуўшым, па касцях, па… Жудасна адчувалі сябе ўсе, хто быў на плошчы. А плошча поўнілася да адказу людам і … міліцыянтамі. У кожнага ў руках былі кароткія замашныя ланцугі. У кожнага нейкія сляпыя вочы. Кожны, нібыта чакаў каманды “Фас!”. Дождж. Імжысты асенні дождж быў на баку ўдзельнікаў мітынгу-рэквіема. Ён памяццю плакаў…

Час, адведзены для правядзення мітынгу, закончыўся, і ўдзельнікі рушылі ў расчыненыя дзверы кінатэатра. За імі сцяной пайшлі і міліцыянты. Натоўп ахнуў.

– Арыштоўваць пайшлі! –Біць будуць! –Выпускайце людзей! Выпускайце!

“Божа! Там Максімавіч! Трэба ісці туды і стукаць у дзверы!”– у Вольгі разрывалася сэрца. Ужо чулі, як у іншых гарадах Беларусі збівалі-калечылі людзей толькі за тое, што тыя выходзілі на плошчы і патрабавалі праўды.

– Не панікуйце! Зараз усіх выпусцяць, – супакойваў натоўп чалавек у цывільнай вопратцы, ды з ланцугом у руках. Вольга пазнала суседа,

падпалкоўніка міліцыі. Ён спакойна пасміхаўся. “Вар’ят” – падумала пра яго Вольга і павярнулася, каб выйсці з плошчы. Пяклі слёзы. Яна глядзела сабе пад ногі. Нехта стаяў адразу ж за яе спіной. Яна паспрабавала абысці таго, хто стаяў на яе шляху і падняла вочы. Блізка сутыкнулася вачыма з чалавекам, якога, не магла паверыць, што выпусцілі – Максімавіч. Ён таксама неадрыўна глядзеў на яе. Прытоена яна памкнулася абняць яго. Ды вакол – людзі.

– Божа мой! – толькі і магла прашаптаць. Апусціла долу галаву, каб схаваць слёзы. І ён не мог хаваць той цеплыні вачэй сваіх, што атуліла яго.

І вось той позірк у дождж, цераз пакуты стоенасці не толькі адзін да аднаго, але і ў кожнага ад сябе – зараз ацвярозіў Вольгу, як вядро халоднай вады. Яна рашуча ўстала і пачала адзявацца.

– Ты што, Вольга?! Ты куды?

– Даруй мне. Я … Я табе даўно казала, ты для мяне, як брат. І ты пагадзіўся. А зараз … Даруй.

– Я … Я кахаю цябе! Разумееш?

– Ты хочаш, каб я цябе пашкадавала?

– Ты – дэспат!

– А мне – хоць у вуха. Кажы, кажы – хто я, мне ўсё роўна!

– Ты думаеш, што ты любіш свайго Максімавіча? Дурніца! Зірні на каго ён падобны, – Яўген прыўстаў на ложку. – Перад табою ж усе, каго пажадаеш – усе, на калені стануць, а ты яго выбрала! Ён жа… Ты яму… А… А чаго ж ён не падышоў да цябе да гэтае пары?!

– Не падышоў. Бо ведае, – Вольга ўзяла сумку. – Што калі падыдзе, я нічога не змагу… Не змагу ні запярэчыць, ні абараніцца… Я душой бачу.

– Душой? Вось і пакутуй! Пакутуй, гэтак, бы я, калі ў цябе ёсць тая душа.

– Не злуй. Прабач, – і Вольга выйшла з пакоя.

XV

За акном крапаў дождж. Бы краўся па бляшаным падваконніку. Вольга прыслухоўвалася да дажджавога канцэрту і прыспешвала закончыць прыбіранне на кухні, каб пагаманіць з сынам. Старэйшы, Максімка, пайшоў да сяброў. Яму хутка ў войска, а Жэнік рыхтуецца да алімпіяды па заалогіі. Вольга зазірнула ў пакой. Хлопчык нахілены над сталом. Ён піша. Перад ім энцыклапедыя.

– Мама, праходзь. Я табе пакажу, што я тут знайшоў.

Вольга прашла ў пакой, спынілася каля сына. Правяла рукой па Жэнікавых валасах. Мяккія і сыпучыя. На верхняй губе чорненькі пушок. Зусім юнак.

– Паглядзі, – паказвае ілюстрацыю. Над лесам, у блакітным небе паруе бусел. Сонца працяла і зрабіла зусім празрыста-белымі яго крылы.

– Бачыш, які ён сумны і такі ўзнёслы, важны, – адсунуў убок кніжку. –

І помню я балоцістыя прасторы абапал бабулінай вёскі. Лёд яшчэ, і снегу поўна, толькі рушанае сонцам, а грыці ўжо пяюць: грыццю, грыццю… Ці кнігаўкі: кій-гі! Кій-гі! Гэтулькі жалобы, трывогі і надзеі ў іхняй песні. Холад, а яны лятуць, лятуць дамоў з таго хвалёнага выраю, – Жэнік змоўк. З самага ранняга дзяцінства дзеці ўжытыя ў вясковую прыроду, таму Вольга не дзівавалася з Жэнікавага жывога ўспаміну пра птушак.

– Але ў нас ёсць і драпежныя птушкі, напрыклад, шулякі, – кажа яна.

– Так, ёсць і шулякі, толькі ў іх хаваецца пагарда. Яны не такія высакародныя, як буслы. Праўда? Нашы птушкі, як табе сказаць, мяккія, спагадлівыя, добрыя. Усім хапае месца і на балоце, і на вадзе, і ў полі. Так?

– Так, мой арнітолаг. Ты пра гэта напісаў у рэфераце? Я недзе чытала, што характар рэльефу адпавядае характару людзей і жывёл, таму і ў нас так: рэльеф раўнінны, і людзі такія ж, і птушкі, і звяры…

– Мама, раскажы што смешнае пра мяне, калі я быў малым.– папрасіў Жэнік. Вольга засвяцілася ўсмешкай. Дзеці часта прасілі яе расказаць нешта пра іх дзяцінства. Падумала.

– А вось, помню, прынесла я табе чарніц на ягадніку. Ты зрываеш па адной, кладзеш у рот, бяззубы, спераду павыпадалі, мурзаты і кажаш: – Ягады – гэта птушыныя слёзы. Калі птушкі адлятаюць у вырай, то плачуць, і слёзы ператвараюцца ў ягады.

– Слёзкі салёныя, – не пагаджаецца з табой бабця, – а ягады – салодкія.

– А гэта панарочку, каб не забыцца і вярнуцца назад у свой лес, – даводзіш ты і здзіўляеш усіх.

Сёння ад пачутага Жэнік стаў засяроджаны і задуменны. Не па-дзіцячы ўспрыняў матчын аповед пра сябе малога. “Дзе ў дзяцей прыдумка, а дзе – праўда?” – разважала і Вольга. – “Вуснамі малога гаворыць ісціна”, – успомніла прачытанае даўно.

“Дзе ж гэта напісана? – намагалася ўспомніць Вольга. – Ці ад мамы чула?” Сэрца і жывая душа шукалі найвышэйшае праўды.

Дождж скончыўся. Сутанела. Пасля працоўнага дня ўсе збіраліся дадому. Першы прыйшоў Юры. За ім – Максімка. Вольга запаліла святло і пачала падаваць вячэру. Даўно яна не адчувала такой палёгкі і чыстай радасці.

*1992 год*

# Анатоль Брусэвіч

### *ДЭКАДЭНТУ-БРАТУ, ЭДЗІКУ МАЗЬКО*
*АХВЯРУЮ*

*21 чэрвеня гэтага года не стала Эдуарда Мазько, паэта, навукоўца, добрага сябра. Ён вельмі любіў жыццё, іранізаваў над смерцю, ды смерць неўзабаве паклікала яго да жыцця вечнага. 29 жніўня Эдзіку споўніўся бы 41 год. Вершы гэтай нізкі напісаныя ў розныя гады, але іх аб'ядноўвае асоба майго заўчасна адышоўшага ў іншы свет сябра, паколькі ўсе яны напісаны паводле тых ці іншых матываў нашага сяброўства. Большасць вершаў носіць яўна дыянісійскі характар, але ж, слава Бахусу, на сапраўдных мужчын віно ўплывае выключна станоўча.*

***

Сунецца сонца соннае
Па сіняй сурвэтцы нябеснай.
З шэрых аблокаў-іконаў
Глядзяць не анёлы, а бесы.

Раніца. Дзікая, страшная,
Бо дрэвы бы мёртвыя птахі
Маўчаць. На стале маім пляшка,
Ды выпіць няма з кім, бляха.

***

Злая маці і злая сястра.
Нават кошкі і тыя злыя.
У душы маёй дрэмле страх,
Што ізноў мне намыляць шыю.

Будуць ныць нада мной, бы званы,
Будуць лезці, бы мухі ў вочы.

Толькі я не адчую віны,
Што ізноў не было мяне ноччу.

Не было. Я сядзеў і піў
Са сваім дэкадэнтам-братам.
Піў гарэлку, віно і спірт,
А скажу, што я піў гарбату.

А калі не паверАць мне,
Я пашлю іх далёка-далёка –
У краіну, дзе сіні снег
Асыпаецца з жоўтых аблокаў.

***

У шэрым пакоі, дзе я паміраю
Часам ад п’янкі, а часам ад здрады,
Я не самотны – я сшытак маю
З вершамі сябра Мазько Эдуарда.

*******

*Прокатилась дурная слава…*
*С. Ясенін*

Пракацілася слава нялепшая
Шэрым колам па мроям і снам.
Мае хібы зрабіліся вершамі,
І мой твар ужо нельга пазнаць.

Ды якая, скажыце, там розніца,
Ці паэт я, ці можа і не.
Горка плачуць і медвыцвярозніца,
І жалезныя краты па мне.

***

Сяджу і п’ю віно,
Бо на душы – крыжы.
На галаве – вянок.
Ён сплецены з ілжы.

Сяджу і п’ю адзін,
Бо не прыйшлі сябры.

У вочы мне глядзіць
Самоты страшны крык.

Але не страшна мне
Не знаць сабе цаны,
Таму хачу ў віне
Схавацца ад віны.

***

Няма ні свабоды, ні марнай надзеі
На тое, што буду шчаслівым.
Ёсць толькі маўчання бялёсыя веі,
Ёсць толькі дарога за півам.

Каханне знікае, сябры адыходзяць
У вечар пусты і дажджлівы,
А мне застаецца цягнуцца ў знямозе
Па шэрай дарозе за півам.

Не, я не самотны. У светлым пакоі,
Дзе час праплывае імкліва,
Я вечнасць спаткаю з вясёлым настроем,
За шклянкай халоднага піва.

***

Запалі, мой сябар, як калісьці.
Хай на дол спадзе сухое лісце.
Хай у мёртвы твар цалуе вецер.
Ты адзін у гэтым нудным свеце.
Запалі, мой сябар, цыгарэту.
Ты ўсё роўна не патрэбны свету.

***

Калі будзільнік смерці сярод ночы
Цябе разбудзіць ціхім сваім звонам,
Твая душа да Нёману пакрочыць,
І ты не будзеш болей ужо сонным.

Ты будзеш мёртвым, чорным і бяздушным,
Душа твая ж утопіцца нарэшце,

І будзе вецер цела яе гушкаць,
І будзе Нёман цела яе песціць.

***

Гнілая восень сімвалам кахання
Ляжыць на белым вобліку зімы.
З мяне ізноў смяецца брат мой Каін
З-за кратаў какаінавай турмы.

А я, сляпы, бадзяюся між плітаў
Даўно забытых Вечнасцю кладоў,
Спрабуючы спрухнелыя малітвы
Уваскрасіць у выглядзе радкоў.

Але няма ні сілы, ні жадання
Рабіць жывым халоднае быццё.
З-за кратаў усміхаецца мне Каін,
Бо брат ад смерці ўсё ж такі не ўцёк.

***

Ні кахання, ні славы, ні веры.
Ўсё аддаў за зламаны грош.
І душу, бы старыя шпалеры,
Змыў самоты калючы дождж.

У жахлівых вачах пустэчы
Я чытаю апошні прысуд:
"Не хацеў шанаваць красу.
Пакараць, адабраўшы вершы".

## У доме Максіма

У доме Максіма ніхто не жыве,
І толькі пустыя адбіткі паэтаў
Часамі з'яўляюцца, быццам у сне,
І мёртвы іх смех напаўняе паветра.

У доме Максіма не ўбачыш сяброў –
Іх вочы закрытыя маскамі здзеку,
З іх вуснаў зрываецца лёгкі папрок,
І страшным праклёнам вяртаецца рэха.

У доме Максіма пануе Зіма.
Бяздушнасцю свеціцца твар яе сіні.
Ды веру, развеецца дзікі туман,
І Лета зноў вернецца ў домік Максіма.

## Верш,
## які мне прачытаў Эдзік Мазько ў маім сне

Калі б я ведаў пэўна, што паўстане
Праз смерць маю гаротны край з руінаў,
То пагадзіўся б на раскрыжаванне,
Бы на спатканне з пекнаю жанчынай.

Але над краем чорныя аблокі,
Бо тут ніхто не марыць аб збаўленні,
Таму не варта крочыць на Галгофу,
На дробныя манеты смерць разменіваць.

***

Адчуў радзіму так блізка,
Што ў сэрцы зрабілася слізка.

Кавалак гнілога краю
Бяззубай усмешкай вітае.

Але толькі там – за Бугам
Будзе зямля мне пухам.

***

Бог адбірае веру,
Каб паміж двух крыжоў
Знік супрацьлеглы бераг
Вечных, салодкіх сноў.

Бог пакідае шансік
Іншым зрабіцца, ды
Комплексаў папуасы
Таньчаць інакш заўжды.

***
Мая адзінота не мае межаў.
Канец і пачатак зышліся разам.
У кропцы космасу плача снежань,
Зрываючы з твару летнюю маску.

Мая адзінота нібыта вежа,
Якая з неба падае ў пекла,
Братэрства, вольнасць і незалежнасць
Мяшаючы з пылам цёплым і светлым.

## Акратэлеверш

**Э**дэм засох. За брамай райскай хра**М**
**Д**аўно стаіць пусты – без алтар**а**.
**У**богі люд глядзіць на ўсё без слё**з**,
**А** побач ты, пранізаны наскроз**ь**
**Р**уцінай тых, што рвуць з цябе вяно**к**,
**Д**образычліва ім ліеш він**о**.

***
Мілы мой сябра,
Слова “калісьці”
Ёсць рэчаіснасць.
Слава і лаўры –
Гэта не ісціна,
Больш таго – марнасць.
Згубная справа –
“Лева” і “права”.
Лепей па цэнтры
Жыць і маліцца
Духу правінцыі,
Пылу і ветру.

## 21.06.2011

Так шмат дарог вядзе да Пана Бога,
А ты абраў кароткі самы шлях –
Пайшоў наўпрост – па вострых камянях,
Не баючыся да крыві параніць ногі.

Ну што ж, бывай, цяпер ты не адзін.
Ты нас пакінуў цешыцца самотай,
Лічыць гады ад слоты да спякоты,
Сачыць, як з дрэваў сыплецца бурштын,

Глядзець, як падрастаюць нашы дзеткі,
Як вершы спяць у пераплётах кніг,
Як адыходзіць з марамі цягнік
У светлы край жывых і штучных кветак.

# Сакрат Яновіч

## Працяг дзённікаў

30.04. 2010

Fundacja Filla Sokrates – нарэшце факт! Старшынёю яе ўправы Юрка Хмялеўскі; намеснікам Лёнік Тарасэвіч. Афармлена ў сакольскага натарыуса Леанарда Дражджэвіча.

Ад сёння я з Таняй ужо толькі кватаранты. Пажыццёвыя карыстальнікі. Не абавязваюць нас абаіх ніякія камунальныя выдаткі. Будзе лягчэй.

15.05.2010

Пасля ўчарашняй гутаркі з Юркам: – Горад глынуў "вёху". Смерць народніцтву. Мужыцкія прафесары святкуюць старэчыя гадавіны (…)

18.05. 2010

Па ініцятыве Яанны Чабан у Крынках, з тутэйшага хорыку "Сугучча", – наведаў мяне Аляксандр Карачун, дырэктар Цэнтра Культуры Беларусі, што ў Беластоку. Доктар філасофіі, з якім прыемна, цікава, гутарылася; інтэлігент у трэцім пакаленні. Даў яму дзве торбы "Году Б.” і іншых кніжак.

Будзе толк ад знаёмства з гэтым дыпламатам?

19.05.2010

Прарвалася больш аднаго году немач – сённячы напісаў фельетон у "Часопіс", (перш прысніўся). Ёсць ахвота.

21.05.2010

Пішацца наступны: "З цыклу: Чаго хочам?". Прыязджалі Лёнік, Паўлік, Юрка. Пагаварылі, што рабіць.

31.05.2010

Давялося паўдзельнічаць у заснаванні выбарчага камітэту кандыдата у прэзідэнты Польшчы Браніслава Камароўскага; сход у беластоцкай ратушы-музеі.

09.06.2010

Мучыла застуда. Ні пісаць, ні чытаць. Баляць ногі. Дыябет.

Веснавыя буры, навальніцы, ваганні тэмпературы. Насоўваецца гарачыня, духоцце. Цяжкія сны; дзяцінства.

У Польшчы і далей катастрафічнае разводдзе, паралюж.

30.06.2010

Нядобрыя весткі пра здароўе Лёніка. Яго дэпрэсія ўводзіць стагнацыю. Юрка не дарос да свае ролі шэфа фонду; анальфабэт культуры, інтэлігент у першым пакаленні, усяго адукаванец. Прыродны савет. Няма з кім рабіць высокую нацыянальную беларускую культуру.

02.07.2010

Нарабіўся, пішучы эсэ пра Падляшша на заказ Каліноўскага, уласніка беластоцкай кнігарні "Акцэнт". Рыхтуе ён альбомнае выданне пра рэгіён.

Днямі наведаліся дактаранткі; надаў ім горбу кніжак.

04.07.2010

Шчасліва стаў прэзідэнтам Польшчы Камароўскі.

06.07.2010

Былі Юрка і Паўлік. Скандал! Сніўся сон, што Фонд пераўтвараецца ў цэнтр бел. культуры, з літаратурным музеем, галерэямі... Паўлік больш падатлівы на ўяву, а Юрка, як пародзісты халоп, шукае пана і грошай. Робіць ураджанне савецкага дыверсанта, з якім ужо амаль ніхто са значных беларусаў не хоча знацца. Юрка сябруе з былымі афіцэрамі тайных службаў (Пе-ук) і з цяперашнімі шпіёнамі (напр. Гла-кая).

13.07.2010

Нарэшце дождж, бура. 11-га Паўлік прыехаў паліваць вяргіні, (тэмпература 32). З ім нейкая Іза Тарасэвіч, выпускніца пазнанскай акадэміі мастацтваў, поўная анальфабэтка беларускай культуры. Заняла пяць гадзін.

Наша нацыянальная бяда ў тым, што няма эліты, толькі wykształciuchy, wiocha.

01.08.2010

Учора закончыўся сёлетні Беларускі Трыялёг, (30-31.07.). Як заўсёды ў Лапічах. Скромны, але ўдалы. Добра арганізаваў Юрка Хмялеўскі; на заканчэнне прыехалі Лёнік Тарасэвіч і Паўлік Грэсь. Цікава выступіў

Артур Казлоўскі, Алесь Госцеў, Пітэр Тэмпфлі, Алег Латышонак, Вячаслаў Швэд, Януш Корбэль, не нудна Яўген Кабатц і яго калега Тэрмэр, таксама Віталь Карнялюк.

Тэксты выступоўцаў будуць у “Годзе Беларускім – 2011”. Не з'явіліся афіцыёзы, але я асабліва не запрашаў іх, даволі маючы іхных абяцанак і штораз менш грошай на высокую нацыянальную беларускую культуру; затое лёгка даюць датацыі на гулянкі, усякія "купаллі", фэсты.

Сёлетні Трыялёг ужо дванаццаты; змучаны я імі, трэба аціхнуць, прыпыніцца. Хваробы знясільваюць.

22.08.2010

Ад 05-га да 13-га ляжаў у сакольскім шпіталі, пагражала гангрэна правай ступені ад прымарожанага ўзіму малога пальца; ратавала мяне ўнучка Оля. Надакучае дыябет.

19-га наведала група 17-ці нямецкіх інтэлігентаў; даў ім апошнія "Аннусы" .

Надакучаюць крынскія жулікі; ламаюць новы плот, ад Каўказскай вуліцы (ноччу).

31.08.2010

Канчаецца лета. Халодныя дажджы. Навала візітаў. Цікавейшы – раптоўнае з’яўленне з Мінска Рэны, сястры нябожчыка Юркі Семянякі, з сынам Юраю і ўнучкаю Аляксандраю, (30.08.). Паўспаміналі.

*У* вераснёўскім "Часопісе" поўна Яновічаўшчыны; добры рэпартаж Хмялеўскага з "Беларускага Трыялёга", і мой "Чаго хочам".

Лукашэнка трохі беларусее. У "Ніве" – Чыквін Ясь акрыяў, ('"белавежыць") .

Верасень 2010

4-га дзеці і ўнукі ды іх сябрына віншавалі мяне з днём нарадзінаў; З дзеячоў аніхто, нават з фонду Villa S.

Напрыканцы месяца Ясь Ч. даслаў новыя "Тэрмапілы" з маім дзённікам, акуратна надрукаваным.

Нядаўна закончыў фельетон у кастрычніцкі "Часопіс". А ўчора (23-га) апавяданне "Крынкі ў сорак пятым".

Прыхварэў ангінаю. 23-га нарадзіны ўнука Юліка. Унучка Оля нагадала.

24-га наведаліся нейкія Ігнацюкі ад Нараўкі ды іхныя эстонскія сваякі. У чэрвені былі на Віленшчыне, адкуль прывезлі мне кніжыцу "М.К. Агінскі" С. Верамейчыка з "Паўночных Афінаў". Падарыў свае вы-данні. Стома.

12.10.2010

01-03 унучка Аляксандра, наша княгіня Элады, наладзіла 76-годдзе Тані, супольна з крынкаўскімі сяброўкамі.

На дзень 08-га прыехаў (наш) Славік і звазіў мяне да медыкаў, м.ін. да дыябеткі Ляшэўскай.

11.10. візіт 17-ці журналістаў з Нямеччыны, увечар. Ад фонду польска-нямецкага супрацоўніцтва; экскурсія.

15.11.2010

Сезон смерцяў, існы карагод пахаванняў. Упачатак лістапада памерла Антаніна Лісоўская, мая хросная маці, родная сястра мае маткі. Пражыла 91 г. Хавалі, вядома, у Беластоку, побач з яе другім мужам Уладзімірам на камунальных могілках; 05.11.

Блага мне; нізкі атмасферны ціск, дажджы. Вятры.

Ад 10-га да 14-га была ўнучка Аляксандра, мела свабодныя школьныя дні ў сувязі з Днём Незалежнасці Польшчы. Зрабілася жвава; натоўп сяброўак.

11-га прыехалі Алег Латышонак з Міколам Ваўранюком. Па ініцыятыве Марыі Мышка з маршалкоўскай управы бяруцца арганізаваць выданне тома маіх польскіх тэкстаў.

16.11.2010

Міра Лукша і Гандзя Кандрацюк наладзілі ў гміннай бібліятэцы ў Крынках вечарыну на Дзяды ў гадавіну смерці Ларысы Геніюш. Вядома, з глухім водгукам ад тутэйшых; амаль уся публіка прыехала з Беластока, (журналісты) . З'явіліся Геніюшы – удава Валя, яе сыны, унукі. Сабралася чалавек дваццаць, вядомых і невядомых. – Будзе карэспандэнцыя ў "Ніве" і ў "Часопісе"; прыехаў Хмялеўскі .

Ад Гандзі і ад Міры атрымаў я іх новыя кніжкі, акуратна выдадзеныя коштам Праграмнай Рады "Нівы".

20.11.2010

18-га пакутны выезд у Гарадок, на тлумнае адкрыццё адноўленага дома культуры; настаяў Юрка як радасны дырэктар. Звазіў Грэсь. Збеглася на імпрэзу ўсё мястэчка, ледзь прабіцца было. Густа начальства. І банкет.

15.12.2010

Канчаецца год, паганяюць падзеі; Юрка марудзіць, бо ў яго гарачка. Не дарабляе "Год Б". Пакуль. Пазваніў уласнік кнігарні "Акцэнт" Каліноўскі з весткай, што будзе ў беластоцкім дадатку "Выбарчай газеты" надрукавана маё эсэ, якое летам заказаў у мяне (Europa poczęła się na Podlasiu).

Радзік даслаў новы том "Беларусазнаўчых даследванняў"! Дзякаваць Богу, не мушу надалей займацца "Годам Беларускім".

12-га экскурсія аўтобусам беластоцкіх эсперантыстаў, (сустрэча ў

крынскай бажніцы). Інтэлігентная публіка. Начытаная ў маім. Потым – да вечара – працяглае інтэрв'ю журналістцы “Кур'ера параннага”.

У "Ніве" на 19.12. – "Князь з Бандароў", рэпартаж з 80-годдзя Алеся Барскага. Мне, Сакрату, застаецца толькі памерці ў ганьбе; я не існую ў нашых.

01.01.2011

Скандал з выбарамі Лукашэнкі, (19.12). Польшча пачынае даваць бясплатныя візы звычайным грамадзянам РБ, і ўстанаўляе блакаду рэжымнікам. Будуць санкцыі з боку Эўразвязу. Савецкі фашызм ў цэнтры Эўропы! Арышты апазіцыянераў – каля семісот чалавек. Так выспявае нацыя.

Хмялеўскі: друкуецца “Год Б." на 2011-ты; звыш 300 старонак.

20.01.2011

Не прычакаць з'яўлення дванаццатага "Году Беларускага"! – Юрка дурыць галаву.

Днямі перажыў я навалу візітау ды імпрэзаў. *У* суботу наведалася пара нямецкіх журналістаў; найбольш цікавіліся падзеямі ў Беларусі, а таксама становішчам беларускай мяншыні ў Польшчы. Увечары таго ж дня (15.01.) давялося пайсці ў крынкаўскую бібліятэку на сустрэчу з рэжысёрам "Канец песні", (дакументальны фільмік). Аб гэтым піша Кандрацючка ў новай "Ніве" з датай 23-га. Вечарына поўная ірытацыі мне! Тыпова польская шляхетчына, (фільмаваў толькі імперскія спевы ў сакольскім народзе, расейскія і польскія).

*У* нядзелю (16-га) занялі дзень савецкія "киношники" з Гродна, у рамках дакументацыі т.зв. беларускага замежжа. Нейкая Святлана і яе камерыст. Стамілі!

У панядзелак або аўторак ўпрасілася на інтэрв'ю журналістка з радыёстанцыі "Рацыя", Вольга. Прыехала – учора? – са сваім сябрам Хрыстафорам (гукатэхнікам). Таксама ўтомна, за чатыры гадзіны.

28.02.2011

Канчаецца зіма. Была марозная. Ранняя! Нейк месяц назад Хмель надрукаваў апошні, дванаццаты, "Год Беларускі, (тыраж 200 экз.).

У лютым разаслаў або раздаў 100 экз., найперш аўтарам. Гадзіннае інтэрв'ю "Рацыі", для Яны.

У зімовых нумарах "Часопіса" надрукаваў "Крынкі ў сорак пятым" і эсэ. Ірытуе Хмель сваёй незразумеласцю культуры. Мужыцкае дзіця.

Шаленаватая Чабаніха наладзіла (25-га) вечар, прысвечаны Мар'яну Пецюкевічу як даследніку этнаграфіі Сакольшчыны. Фінансава ўспамог малады бізнэсовец Андрэй Гарбуз з Саколкі, сын Грышы, унука сястры майго бацькі. Патрыёты.

Назаўтра, у суботу, з'явіўся швагер Шурка, як заўсёды несарые-

нтаваны ў нацыянальным

А ў нядзелю з'ехаліся ўнукаватыя Яновічы, Том, сын майго брата Сашы, і ўнук Амадэй /19-гадоў/. Zupełni analfabeci w białorusczyźnie. Паўдня вяртаў я іх у беларушчыну.

У панядзелак прыбіўся нейкі п'яніца шлёнскай гадоўлі нагаварыцца з... беларускім пісьменнікам.

02.03.2011

Нарэшце атрымаў ад пасланца савета дзесяць экз. "Крынкі ў 1795 – 1916 г.г." Карнялюка, Гродна 2010.

25 сакавіка 2011

Дзень Беларусі. Ціха. Сцюдзённы дахдж. Ноч. Сумна.

Заўчора – імпрэза Чабаніхі, (тэра інкогніта). Беларуская школа ў Крынках, (гады 19I8-21). Арганізаваў бапціст Дзекуць; ёсць фотка. Успамагала крынчанка Анастасся Кішкель, якую потым легіянеры польскія моцна пабілі; памерла на сухоты ў траўні 21-га. За царскім часам была, бадай, тэлеграфісткаю на пошце.

30.04.2011

Цяжкі месяц. На Вялікдзень з'ехаліся Яновічы. Сын звазіў да дыябеткі мяне з Таняй. Пошта пустая, я ўжо непатрэбны. Лішнія паштоўкі. Газеты. Сон.

01.05.2011

Ватыкан: Ян Павал II ужо ў ліку святых. Польшча ў нацыяналістычным амоку!

07.05.2011

Семінар Чыквінскай "Белавежы". Кніжыцы: Маліноўскай, Сянкевіч, Ул. Гайдука. Была госцем Лялько, ("На далонях любові"). І яшчэ адна, Аксана? Звазіў шафёр бурмістра Панасюка, нейкі Войтак

08.05.2011

У Крынкі прыехалі са спектаклем вучні з Беластока, настаўніца беларускай мовы Ваўранюк; інсцэнізацыя "Ой, даўно, даўно". Расчулілі мяне да слёз! Гэта ж гатовы беларускі тэатр!

Сабралася ў "бажніцы" трохі публікі, дзякуючы святару Харытанюку.

13.06.2011

Звалачыўсн на 55-годдзе "Нівы". Вельмі савецкае свята, натоўп "жывых нябожчыкаў”, адны адных віншуючых, ажно дзіва, колькі яшчэ іх жывых! Напалоханых хуткім перапісам насельніцтва, у які можа аказацца, што паменшаць датацыі на беларускасць. Сотні саветчыкаў, штатных

беларусаў збеглася ў беластоцкія прасторныя "Сподкі" пад камандаю Геніка Вапы. Я ашаломлены глумам і паслейшым багатым банкетам! І букетамі-букетамі ўсіх усімі. Камуняцкая візантыйскасць. Мне адняло мову. Звазіла Ася Чабан з Крынак.

Два дні даходзіў да сябе, да 16-га. Бяруся за дзённік у "Тэрмапілы".

26.05.2011

Памерла Люда, меншая сястра Тані, (быў тэлефон). Трэба ехаць развітацца, пэўна 31-га.

30.05.2011

Давялося адбыць яшчэ адну бяду – 15-годдзе "Гарадоцкіх навінаў" Хмялеўскага. Імпрэза добра арганізаваная, але мяне ўжо пакаціла; сёння абамлеў на тратуары, ідучы з закупкамі. Паратавалі чужыя людзі.

У гэтым годзе адзначаюць юбілеі
нашы калегі-”белавежцы”:



85 гадоў **Дзмітрыю Шатыловічу**
**Васілю Петручуку**

75 гадоў **Сакрату Яновічу**

70 гадоў **Уладзіміру Гайдуку**

65 гадоў **Надзеі Артымовіч**

55 гадоў **Жэні Мартынюк**
**Уладзіміру Саўчуку**

*Віншуем Вас. Творчага плёну. Многія леты.*

Управа БЛА “Белавежа”

# Юрый Баена

## НА ВАЧАХ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

На вачах цывілізацыі
каля халодных сцен правінцыі
свае сваіх
глумяць за дабрату,
любоў і вернасць.

У цішы слоў
і ў крыку цемры
хітруны-жанглёры
чужымі жангліруюць лёсамі.

Самі з каменя яны.
Або з жалеза.

Таму малы іх
аледзянелы свет
ржавее...

## ВІНАВАТЫЯ

Усяму вінаватыя слабыя,
маўклівыя,
цярплівыя.
Гаворыш – сцяна.
Крыкнеш – сцяна.
Як трава – слухаюць.
Як дрыгва.

Кожны апраўданы гнеў –
суцішаць.
Руку падымеш –
Цішыня, ціша.

***

За кардонам трысця
сухастой і дрыгва.
Лугі зялёнай лухты.
На берагах ракі
братоў браты
бяруць за хрыбты.
Ура-патрыятызм.
Свет бел-белы.
Малы, недаспелы,
ад зла ап'янелы...

Атрутная імгла.
Распятая душа.
Цішыня, як скала...

***

Краявід шырока разгарнуў крылы.
Зямля – не адклікнулася.
Вада засталася толькі сабой,
паветра – толькі паветрам.

Не хапала святла,
веснавога цяпла,
абуджэння
і радасці тварэння.

Таму песні
пець пачалі камяні.
Рухомыя пяскі пустыні
рушылі...

# Віялета Нікіцюк

## СТАРОЕ СЯЛО

Там казачны свет,
Там птушкі шчабечуць,
Там сонца раніцай свеціць у вокны,
Там хмараў на небе мала было –
Заўсёды столькі, колькі трэба,
Там людзі не людзі,
А ўсе знаёмыя.

Там нарадзілася я.
Ды там мяне ўжо няма.

## ДАРОГА ДАХАТЫ

*Бацькам*

Аўтобус імчыць –
Я еду дахаты.

Бяроза і дуб – гэта вы,
І вы – зелень травы,
І вы – драўляны плот
І белая хата,
І сабачка ля брамы,
І вы – ва ўсмешцы.
І рукі з благаславеннем узняты.

## ВЯСЕЛЛЕ

Нядзеля,
Дзень як дзень...
Аднак іншы, чым заўсёды.

На двары сонца,
Шчабечуць-спяваюць птушкі...
Аднак інакш, чым заўсёды.

Апранаюся,
Надзяваю белую сукенку...
Аднак іншую, чым заўсёды.

Стаю ў царкве,
Ты стаіш са мною...
Аднак інакш, чым заўсёды.

Бацюшка моліцца-гаворыць,
Велічна-павучальныя словы...
Аднак іншыя, чым заўсёды.

Усе танцуюць, усе пяюць
І я сяджу пад абразамі...
Аднак інакш, чым заўсёды.

Трымаеш мяне за руку,
Цалуеш пад крыкі “горка”...
Аднак інакш, чым цалаваў раней.
Ці так ужо будзе заўсёды?

# Юстына Піраліна Каролька

***

Б’еш мяне ўва мне моцнымі ножкамі,
У цёплай сярэдзіне.
Хутка апынешся ў халодным свеце
І па дарогах упэўнена пакрочыш,
Каб сільнымі рукамі лавіць
Няўлоўную радасць  існавання,
Каб без мяне безупынна прадзірацца
Да дабрыні,
                да веры,
                        да кахання.

***

Нашу цябе ў сабе,
Танцую з табою ў сабе,
Люблю цябе ў сабе.
А ты ручкай махаеш
З камп’ютэрнага экрана:
“Вітаю, мама!
Ваш свет, вітаю!
Убачымся праз месяц!”

# Артур Камароўскі

## Памяці Ларысы Геніюш

Беларуская Чайка! Да Вас,
Я звяртаюся толькі на Вы!
Дзякуй Вам, што ляталі ўвесь час
Над прасторамі роднай зямлі.
Што любілі прынёманскі край,
І любоў у душы берaглі,
Не пускалі у сэрца адчай,
Калі Вас зразумець не маглі.
Вы прабачце, бо людзі падчас
Не адчуць, не ўсвядоміць ня здольны:
Хто палаў, той з гадамі не згас,
І у сэрцы Радзімы — вольны!

## Невядомаму каханню

У бязмежным жыцці вірую
У натоўпе чужых людзей,
Падаруй мне ўсмешку святую
І блакіт незнаёмых вачэй.
Падымі на далонях да неба
Зганьбаваную веру маю.
У ёй сэрца майго патрэба,
Без яе я жыву-не жыву.
Адарві ад майго кахання
Крыважэрных п'явак-паскуд.
Хочаш – знішчы яго дазвання
І аддай на суровы суд.
Хочаш – выратуй і памілуй,

Хочаш – з полымя ды ў агонь.
Сэрца вугальчык не астылы
Пакладзі на маю далонь.
За табой! за табой пайду я!
Для цябе буду толькі жыць
Усе крыўды свае дарую,
Буду верай гарэць і любіць.

## Час

Жыццё не лічыцца, ты ведаеш, ні з кім.
Яно для нас з табой непадуладна.
Мы ад гадоў яго так хуценька бяжым,
Хоць разумеем, што напэўна марна.
Мы так імкнёмся, людзі, час спыніць,
Трымаць ў руцэ гадзіннік непазбежнасці
І кожны новы дзень апошнім не лічыць,
А толькі усяго працягам вечнасці.

## Беларусі

Чую клёкат у высокіх аблоках.
Журавы ў доўгі вырай ляцяць.
Над радзімай маёй сінявокай
Развітальная песня чуваць.
Я хацеў бы ляцець з вамі ў вырай,
Я б хацеў з вамі песню прапець.
Як самотна ў далёкай чужбіне.
Ёй душы журавоў не сагрэць.
Як і іх маё сэрца з радзімай
Пераплецена моцным вузлом.
І хоць вабяць шляхі-пуцявіны –
Ты адна назаўсёды мой дом.

# Павел Бірыцкі

## На магілу майго кахання

На невялікім пагорку
Адзінокай твая магіла
І надпіс ужо паблеклы:
"Маёй каханай, мілай!"

Жыць без цябе – катаванне!
Сум маю душу сушыць.
Чаму – без развітання?
Чаму без агляду, так хутка?

На магіле жывая кветка
Няхай скажа мілай:
"Мы стрэнемся ў нашых летах,
Калі ўстанеш з магілы".

## Чаму

Я ўжо не ведаю,
Што са мной робіцца.
Я ўжо не ведаю,
Што са мной станецца.

Як ангел з'яўляешся ў снах,
І ў снах будзіш мяне,
І я не магу перастаць
Думаць аб тваіх блакітных вачах

Лёс чаму нас звёў і развёў –
Не знайсці мне адказу...
Ды ведаю пэўна ўжо –
Не быць нам шчаслівымі разам.

**Іду**

Іду, хоць не знаю, куды і дзе,
Іду, хоць мне цёмна навакол,
Але ў сэрцы іскрынка надзеі
Вядзе па сцяжыне жыццёвай.

Нібы ў лес непраходны ўвайшоў,
Зоркі свецяць высока-высока,
Дрэвы шумяць і лётаюць совы,
Аж страшна душы адзінокай.

Бачу праз гушчу далёка святло,
Бягу колькі сіл, лячу крылаты –
Там маё раднае гняздо,
Там мая мэта і мой пачатак.

**На рацэ**

Я берагам ракі іду
Познім вечарам і са мной
Ты ідзеш па вадзе,
Даўні ангел мой.

Я не веру ў гэты твой цуд,
Гэта ігра не для мяне.
Я не гляджу на цябе
І ты пра мяне забудзь.

Ты клічаш маё імя...
А сэрца ўжо стала маўчаць.
Мне здаецца, што рэчкі вада
Гасіць агонь пачуцця.

# (Гектар Х’ю Манро) Сакі

((Hektor Hugh Munro) Saki, 1870 – 1916)

## Адчыненае акно

Апавяданне

– Цётка зараз спусціцца, містэр Натэль, – сказала вельмі ўпэўненая ў сабе юная лэдзі пятнаццаці гадоў, – а пакуль, з вашага дазволу, замінаць вам буду я.

Фрэмтан Натэль не знайшоў, што сказаць, каб не пакрыўдзіць ні дзівакаватую дзяўчыну, ні яе цётку, якая мусіла неўзабаве прыйсці. Шчыра кажучы, цяпер ён больш чым калі сумняваўся ў тым, што гэтыя фармальныя візіты да незнаёмых людзей дапамогуць яму падлячыць нервы, што, як чакалася, ён будзе рабіць.

– Ведаю, як гэта будзе, – казала яго сястра, калі ён толькі збіраўся паехаць сюды ў надзеі на сельскі спакой. – Ты сябе пахаваеш жыўцом і словам ні з кім не перакінешся, занудзішся і яшчэ больш сапсуеш нервы. Я проста дам табе рэкамендацыйныя лісты да ўсіх людзей, якіх там ведаю. Некаторыя з іх, наколькі памятаю, даволі мілыя.

Фрэмтан думаў пра тое, ці належыць да шэрагу гэтых мілых місіс Сэплтан, да якой ён завітаў з адным такім лістом.

– Вы знаёмыя з усімі суседзямі? – запыталася пляменніца, калі вырашыла, што памаўчалі яны дастаткова.

– Ні з кім, – адказаў Фрэмтан. – У доме пастара гады чатыры таму спынялася мая сястра, і яна напісала мне некалькі рэкамендацый да тутэйшых жыхароў.

Апошнія словы ён вымавіў з заўважным шкадаваннем.

– Значыць, вы амаль нічога не ведаеце пра маю цётку? – працягнула допыт упэўненая ў сабе юная лэдзі.

– Толькі дзе яна жыве і яе імя, – прызнаўся госць. Ён разважаў пра тое, замужам місіс Сэплтан або ўдава. Нешта ў пакоі сведчыла, што і мужчыны тут жывуць.

– Найвялікшая трагедыя яе жыцця адбылася акурат тры гады таму, – сказала дзіця, – ужо пасля таго, як вашая сястра тут спынялася.

– Трагедыя? – запытаўся Фрэмтан. Гэтаму зацішнаму месцу неяк не пасавалі якія-кольвек трагедыі.

– Вас, мабыць, здзіўляе, чаму кастрычніцкім вечарам мы трымаем акно шырока адчыненым, – дзяўчына паказала на велізарнае двухстворкавае акно ад столі да падлогі, якое выходзіла на лужок.

– Даволі цёпла для гэтай пары году, – зазначыў Фрэмтан, – а што, акно мае нейкае дачыненне да трагедыі?

– Тры гады таму праз гэтае акно яе муж і два браты выйшлі на паляванне і не вярнуліся. Калі яны ішлі праз імшарышча, да свайго любімага месца, дзе водзяцца бакасы, усіх трох зацягнула ў марач. Лета, ці ведаеце, тады было незвычайна дажджлівае, і бяспечныя ў іншы час сцежкі нечакана ператварыліся ў топкае багавінне. Іх целаў такі не знайшлі – і гэта самае жудаснае.

Тут голас дзяўчыны зрабіўся разгублена-дрыготкім і страціў самаўпэўненыя інтанацыі.

– Бедная цётачка дагэтуль спадзяецца, што калі-небудзь яны вернуцца і, як звычайна, увойдуць праз акно, яны і іх сабачка, карычневы спаніэль, што згубіўся разам з імі. Вось таму ўвечары мы ніколі не зачыняем акна да самых прыцемкаў. Бедная цётачка часта расказвала мне, як яны пайшлі: яе муж перакінуў белы непрамакальны плашч праз руку, а Роні, малодшы брат, як заўжды спяваў: “Што ты скачаш, Бэрці?”, каб падражніць яе, бо цётачка казала, што гэта дзейнічае ёй на нервы. Ведаеце, часам такімі зацішнымі вечарамі, як гэты, калі і лісток не варухнецца, мяне ахінае страхоткае пачуццё, што зараз усе яны сапраўды ўвойдуць праз гэтае акно.

Яна змоўкла, пацепнуўшы плячыма. Фрэмтан адчуў палёгку, калі ў пакой з выбачэннямі за спазненне, бо прыводзіла сябе ў парадак, уварвалася цётка.

– Спадзяюся, Вера вас заняла? – запыталася яна.

– Яна расказвала шмат цікавага, – сказаў Фрэмтан.

– Спадзяюся, вы не супраць адчыненага акна, – ажыўлена сказала місіс Сэплтан, – зараз вернуцца з палявання мой муж і браты, а яны зазвычай уваходзяць праз яго. Сёння яны хадзілі на балота пастраляць бакасаў, таму мае бедныя дываны чакае цудоўная купа

бруду. Такая ўжо вашая мужчынская завядзёнка, так? – Яна несупынна балбатала пра паляванне, пра тое, што птушак робіцца меней і што ўзімку пачнецца сезон качак. Фрэмтана ад гэтых размоваў бралі дрыжыкі. Ён зрабіў адчайную, але не зусім паспяховую спробу змяніць тэму на якую-небудзь менш жудасную. Ён бачыў, што гаспадыня не надае размове шмат увагі, раз-пораз кідаючы позірк на адчыненае акно і лужок за ім. Пашанцавала ж яму завітаць да яе ў гадавіну гэтай трагедыі!

– Усе дактары сышліся на тым, што мне неабходны поўны спакой, я мушу пазбягаць хваляванняў і фізічна не перанапружвацца – паведаміў Фрэмтан, які пакутаваў на даволі распаўсюджаную ілюзію, што зусім незнаёмыя людзі і выпадковыя знаёмыя прагнуць ведаць у дробязях пра хваробы і немачы іншых, пра іх прычыны і сродкі лекавання. – Што да дыеты, то тут у іх адзінства няма, – працягнуў ён.

– Не? – запыталася місіс Сэплтан, у самы апошні момант схаваўшы за гэтым словам пазяханне. А праз момант яе твар паяснеў і на ім з’явілася жывая зацікаўленасць, але не тым, што казаў Фрэмтан.

– Ну вось урэшце і яны, – ускрыкнула яна. Якраз да гарбаты, і, здаецца, па вушы перапэцканыя, вы толькі паглядзіце на іх!

Фрэмтан здрыгануўся і павярнуўся да яе пляменніцы з выглядам, якім хацеў паказаць спачувальнае разуменне. З застылым у вачах жахам дзяўчына глядзела ў адчыненае акно. Фрэмтана кінула ў халодны пот, ён павярнуўся на канапе і паглядзеў туды ж. У сініх прыцемках праз лужок да акна ішлі тры фігуры, усе неслі па стрэльбе, адна ў белым плашчы. Каля ног іх трухаў стомлены карычневы спаніэль. Бясшумна яны набліжаліся да дому, і праз момант малады сіплы голас заспяваў у прыцемках: “Слухай, Бэрці, што ты скачаш?”

Фрэмтан ашалела схапіў свае тросць і капялюш. Дзверы холу, пасыпаная жвірам алея для экіпажаў, галоўныя вароты – наўрад ці ён заўважыў гэтыя станцыі ў сваіх безразважных уцёках. Раварыст, які ехаў па дарозе, вымушаны быў заехаць у жывую загарадзь, каб унікнуць непазбежнага сутыкнення.

– Ну, вось і мы, дарагая, – уваходзячы ў акно, сказаў той, на якім быў белы макінтош. – Мы крыху запэцкаліся, але гэта пераважна сухі бруд. А хто гэта выскачыў адсюль, калі мы падышлі?

– Вельмі незвычайны спадар, нейкі містэр Натэль, – адказала місіс Сэплтан. – Можа размаўляць толькі пра свае хваробы. Калі вы вярнуліся, задаў лататы, не сказаўшы ні слова на развітанне, нават

не выбачыўся. Нібыта прывід убачыў.

– Думаю, гэта праз спаніэля, – спакойна сказала пляменніца, – ён сказаў мне, што баіцца сабак. Аднойчы недзе ў наваколлях Гангу зграя здзічэлых сабак загнала яго на могілкі, і ён быў вымушаны правесці ўсю ноч у нядаўна выкапанай магіле, а вакол шчэрылі зубы, гыркалі і зыходзілі слінай гэтыя пачвары. Тут у любога нервы здалі б.

Яна была майстрам на вострыя сюжэты.

Анка Упала, пераклад, 2009

# Роальд Даль

(Roald Dahl, 1916 – 1990)

## Скура

У тым годзе — 1946-тым — зіма затрымалася надоўга. Ня гледзячы на тое, што ішоў красавік, ільдзяны вецер гуляў па вуліцах горада, а па небе паўзлі сьнежныя хмары. Стары, якога звалі Дрыалі, шорхаў па тратуары вуліцы Рывалі. Зьмёрзлы і бездапаможны ён, як вожык, хаваў нос у заношанае чорнае паліто, па-над узьнятым каўнерам былі бачныя толькі вочы і макаўка.

Адчыніліся дзверы кафэ, і запахла смажанай курыцай — страўнік адгукнуўся на гэта балючым спазмам. Стары пайшоў далей, безь цікавасьці сузіраючы тавары на вітрынах: парфума, ядвабныя гальштукі і кашулі, брыльянты, парцалянавыя сэрвізы, антыкварная мэбля, кнігі ў выдатна аздобленых вокладках… А вось мастацкая галерэя. Яму заўжды падабаліся мастацкія галерэі. Тут, на вітрыне, было выстаўлена толькі адно палатно. Ён спыніўся паглядзець. Ужо было павярнуўся, каб ісьці далей. Але затрымаўся, зірнуў назад; і неспадзявана адчуў лёгкае хваляваньне, штосьці варухнулася ў памяці, цьмяная ўзгадка пра нешта, падалося, што недзе некалі ён гэта ўжо бачыў. Ён паглядзеў ізноў. Гэта быў пейзаж: купка дрэваў звар’яцела хілілася ў адзін бок, нібыта ад жахлівага ветру, вакол крывілася і круцілася неба. Да рамы была прышпіленая картка з подпісам: “Хаім Суцін (1894-1943)”.

Дрыалі разгублена ўзіраўся ў карціну, не разумеючы, што менавіта падавалася ў ёй знаёмым.

“Нібыта вар’ят маляваў, — падумаў ён, — па-дзівацку неяк, але мне падабаецца… Хаім Суцін… Суцін…

Гэта ж калмык, дальбог! — выкрыкнуў ён раптоўна, — Вось хто гэта! Карціна калмычка выстаўляецца ў найлепшай краме Парыжа!

Падумаць толькі!”

Стары шчыльней прыціснуўся тварам да вітрыны. Ён памятаў хлопца. Так, памятаў даволі добра. Але калі яны маглі сутыкацца? З падрабязнасьцямі было цяжэй. Даўнавата гэта было. Наколькі даўно? Дваццаць? Ды не, болей, недзе трыццаць год таму… Чакайце хвілінку. Так — гэта было за год да вайны, першай сусьветнай, у 1913-тым годзе. Дакладна. А гэты Суцін, гэты нязграбны калмычок, замкнёны, задумлівы хлопец, які яму падабаўся, якога нават амаль любіў праз тое — іншай прычыны ён ня бачыў,— што юнак умеў маляваць.

Як ён ўмеў маляваць! Цяпер з большай пяшчотай узгадалася тая вуліца, кантэйнеры для сьмецьця ўздоўж яе, гнілы пах, рудыя каты, што далікатна хадзілі па сьметніцах, а яшчэ цёткі, узмоклыя тоўстыя бабы, што сядзелі на прыступках каля дзьвярэй, паклаўшы ногі на брукаваную дарогу. Дзе жыў той хлопец? Што гэта была за вуліца?

Сітэ Фальг’ер — яна самая! Стары некалькі разоў згодна кіўнуў, задаволены, што ўзгадаў назву. У тыя часы там знаходзілася майстэрня, дзе было толькі адно крэсла і брудная чырвоная канапа, на якой хлопец спаў; п’яныя вечарыны, таннае белае віно, гарачыя спрэчкі і заўсёды, заўсёды надзвычай пануры твар хлопца, уперany ў працу.

“Дзіўна, — падумаў Дрыалі. — Як лёгка ўсё ўспомнілася, як кожная ўзгаданая дэталь адразу ж пацягнула за сабой іншы ўспамін”.

Недарэчнасьць з татуяванкай, напрыклад. Ну і дурасьць яны тады зрабілі! З чаго ж усё пачалося? О так, аднойчы ён разбагацеў, дакладна, і купіў шмат віна. (Як цяпер памятае, увайшоў у майстэрню з пакункам бутэлек пад пахай. Хлопец сядзеў побач з мальбертам, а ягоная (Дрыалі) жонка стаяла пасярэдзіне пакоя — пазіравала для партрэта.

– Сёньня мы будзем сьвяткаваць, — сказаў ён. — Маленькае сьвята для нас траіх.

– Сьвята ў гонар чаго? — запытаўся хлопец, нават ня ўзьняўшы вачэй. — Вырашыў разьвесьціся з жонкай, каб яна магла выйсьці за мяне?

– Не, — адказаў Дрыалі. — Сёньня мы сьвяткуем, бо мая праца прынесла мне вялікія грошы.

– А мая не прынесла ніколькі. Таксама можам адзначыць.

– Як скажаш.

Дрыалі стаяў ля стала, разгортваючы пакунак. Ён стаміўся і хацеў дабрацца да віна.  Дзевяць кліентаў за адзін дзень — гэта,

вядома, добра, але для вачэй пякельнае выпрабаваньне. Ніколі раней ён не рабіў дзевяць. Дзевяць п’яных салдафонаў, і, што незвычайна, ня менш за сем зь іх змаглі заплаціць гатоўкай. Гэта зрабіла яго надзвычайна багатым.  Але на вачах праца адбілася жахліва. Вочы Дрыалі былі прыплюшчаныя ад стомы, на паверхні бялкоў праступіла чырвоная сетка. Прыкладна на цалю за кожным вочным яблыкам было па кропцы, дзе канцэнтраваўся боль. Але цяпер быў вечар, і ён быў багаты, што кажух валахаты, а ў пакунку — тры бутэлькі: адна — для жонкі, другая — для сябра, трэцяя — для сябе. Ён знайшоў каркоўнік і павыцягваў коркі з бутэлек, кожная зь іх зрабіла маленькі “хлоп”, калі пакідала рыльца.

Хлопец адклаў пэндзаль убок.

– Божухна! — сказаў ён, — Як можна працаваць у такіх умовах?

Дзяўчына падышла паглядзець на малюнак. Дрыалі — таксама, у адной руцэ трымаючы бутэльку, у другой — шклянку.

– Не! — закрычаў хлопец, раптоўна прыйшоўшы ў лютасьць. – Нельга!

Ён сарваў палатно з мальберта і разгарнуў да сьцяны. Але Дрыалі пасьпеў яго убачыць.

– Мне падабаецца.

– Гэта пачварна.

– Чароўна. Як і астатнія твае працы. Проста чароўныя. Я ў захапленьні ад усіх.

– Праблема ў тым, — нахмурыўся хлопец, — што імі нельга харчавацца,  для страўніка ніякай карысьці.

– У любым выпадку яны чароўныя.

Дрыалі працягнуў яму куфаль, поўны сьветла-бурштынавага віна.

– Выпі, гэта зробіць цябе шчасьлівым. “Ніколі, — падумаў ён, — я не сустракаў чалавека больш няшчаснага, і твара больш змрочнага”.

Сем месяцаў таму ён зьвярнуў на яго ўвагу ў кавярні, бо хлопец піў у самоце і выглядаў, як рускі ці нейкі азіят. Дрыалі падсеў за ягоны столік і загаварыў.

– Ты рускі?

– Так.

– Адкуль будзеш?

–  Менск.

Дрыалі падскочыў, каб абняць яго і закрычаў, што таксама нарадзіўся ў гэтым горадзе.

– Дакладней не зусім Менск, — дадаў хлопец, — але даволі

блізка.

– Адкуль?

– Сьмілавічы, гэта ў васямнаццаці вёрстах.

– Сьмілавічы! — крыкнуў Дрыалі, абдымаючы яго зноў. — Калі я быў маленькі, быў там некалькі разоў!

Ён прысеў, з замілаваньнем разглядаючы твар новага знаёмца. “З выгляду ты не падобны да заходняга расейца. Хутчэй татарын, ці калмык. Выкапаны калмык”.

Цяпер у майстэрні Дрыалі ізноў разглядаў хлопца: той уьзняў шклянку і, перакуліўшы, уліў яе зьмесьціва сабе ў горла. Так, у яго сапраўды быў калмыцкі твар, вельмі шырокі, з высокімі скуламі і буйным пляскатым носам. Адтапыраныя вушы рабілі твар яшчэ больш шырокім. Да таго ж у яго былі вузкія вочы, чорныя валасы, тоўстыя, незадаволена выгнутыя калмыцкія вусны, але вось рукі… Рукі кожны раз зьдзіўлялі, такія мініятурныя і белыя, як у паненкі, з маленькімі тонкімі пальцамі.

– Налі мне яшчэ, — папрасіў хлопец. — Калі ўжо мы сьвяткуем, дык давай зробім гэта як мае быць.

Дрыалі разліў віно па шклянках і сеў на крэсла. Хлопец — на старую канапу побач з жонкай Дрыалі. Бутэлькі паставілі паміж імі на падлогу.

– Сёньня будзем піць, пакуль ня лопнем, — сказаў Дрыалі. — Я дзіка багаты. Думаю, магчыма, мне варта пайсьці і набыць яшчэ некалькі бутэлек. Толькі ня ведаю, колькі.

– Бяры шэсьць, — параіў хлопец. — Дзьве на кожнага.

– Добра, зараз здабуду.

– Я табе дапамагу.

У бліжэйшым бары Дрыалі купіў шэсьць бутэлек белага віна і прынёс у майстэрню. Паставілі іх на падлогу ў два шэрагі, Дрыалі выцягнуў каркоўнік і адкаркаваў усе шэсьць. Яны селі ізноў і працягнулі піць.

– Толькі вельмі заможныя людзі, — заўважыў Дрыалі, могуць дазволіць сабе сьвяткаваць гэтак па-багатаму!

– Так і ёсьць, — падтрымаў хлопец. — Ты згодная, Жазі?

– Вядома.

– Жазі, ты як?

– Нармальна.

– Пойдзеш ад Дрыалі, каб ажаніцца са мной?

– Не.

– Цудоўнае віно, — адзначыў Дрыалі. — Добра п’ецца.

Паступова і метадычна яны пачалі надзірацца віном. Справа

была паўсядзённая, але ўсё адно трэба было прытрымліваццa пэўнай цырымоніі, каб адчувалася ўрачыстасьць хвіліны, шматкроць казаць усялякае markdown рознае, адпаведнае моманту. І віно трэба было пахваліць, і павольнасьць яго ўжываньня была істотная, бо тады можна было насалодзіцца трыма найдалікатнейшымі момантамі перахода з аднаго стану ў іншы. Для Дрыалі асабліва важным быў той, калі ён пачынаў “плыць”, а ногі станавіліся чужымі. Гэта была найпрыемнейшая стадыя: ён глядзеў на ногі і адчуваў, што яны далёка-далёка, і было дзіўна, што гэтыя ногі могуць належыць камусьці, і незразумела, чаму яны ляжаць там, на падлозе.

Праз пэўны час ён узьняўся, каб уключыць сьвятло. Было дзіўна бачыць, што ногі пайшлі разам зь ім, асабліва таму, што ён не адчуваў, як яны дакранаюцца да падлогі. Гэта выклікала прыемнае адчуваньне лунаньня ў паветры. Потым ён пачаў хадзіць па пакоі, цішком кідаючы позіркі на карціны, прыстаўленыя да сьцен.

– Паслухай, — сказаў ён пасьля доўгай паўзы. — я сёе-тое прыдумаў.

Дрыалі прайшоў праз пакой да канапы і стаяў, зьлёгку пахістваючыся.

– П-паслухай, мой калмычок.

– Ну, што?

– Я прыдумаў геніяльную рэч. Ты слухаеш, увогуле?

– Я слухаю Жазі.

– Ты мяне паслухай, калі ласка. Ты мой сябар, мой брыдкі калмычок зь Менску, і ты для мяне такі мастак, што я хацеў бы мець тваю карціну, прыгожую карціну...

– Бяры ўсе. Усе, што знойдзеш, толькі не перашкаджай мне размаўляць з тваёй жонкай.

– Ды не, не, ты толькі паслухай. Я маю на ўвазе карціну, якая б засталася са мной назаўжды… Куды б я ні пайшоў… што б ня здарылася… заўсёды са мной… карціна, намаляваная табой.

Ён падышоў бліжэй і патрос хлопца за калена. “Ну, паслухай мяне, калі ласка”.

– Выслухай яго, — сказала дзяўчына.

– Вось што. Намалюй карціну на маёй скуры, на сьпіне. А паверх таго, што намалюеш, зрабі татуаж, каб яна засталася там назаўжды.

– Ты ашалеў.

– Я пакажу табе, як рабіць тату. Гэта лёгка. Нават дзіця зможа.

– Я не дзіця.

– Ну, калі ласка.

– Ты вар’ят. Што ты ад мяне хочаш? — Мастак паглядзеў у

п’яныя, цёмныя, бліскучыя ад віна вочы суразмоўцы. — Што, напрамілы бог, табе трэба?

– Ты б лёгка мог гэта зрабіць! Мог бы!

– Татуяванку маеш на ўвазе?

– Але, татуяванку! За дзьве хвіліны цябе навучу!

– Немагчыма!

– Па-твойму я ня ведаю, пра што кажу?

Не, хлопец ніяк ня мог так лічыць, бо калі і быў хтосьці, дасьведчаны ў тату, то гэта быў ён, Дрыалі. Ці гэта ня ён месяц таму накалоў аднаму дзядзьку на ўвесь жывот цудоўную, выкшталцоную кампазыцыю, якая цалкам складалася з кветак? А як наконт таго кліента з валасатымі грудзямі, на якіх Дрыалі зрабіў выяву грызьлі такім чынам, што валосьсе на грудзях падавалася футрам мядзьведзя? Ён быў здольны намаляваць жаночы партрэт і зьмясьціць яго на руцэ кліента так спрытна, што, калі той зьгінаў яе і напружваў біцэпс, паненка ажывала і рабіла ашаламляльныя рухі целам.

– Я проста думаю, — сказаў хлопец, — Што ты п’яны, і ідэі ў цябе такія самыя.

– Жазі магла б папазіраваць, а ты б яе намаляваў на маёй сьпіне. Я што, ня маю права мець партрэт жонкі на сьпіне?

– Жазі?

– Але, — Дрыалі ведаў, што варта яму ўзгадаць жонку, як цёмныя вусны хлопца перастануць быць такімі суровымі, і ён завагаецца.

– Не, — сказала дзяўчына.

– Жазі, мілая, калі ласка. Дапі гэтую бутэльку — і ты палагоднееш. Ідэя проста супэр, ніколі ў жыцьці мне не прыходзіла ў галаву нічога лепей!

– Якая ідэя?

– Каб ён намаляваў цябе ў мяне на сьпіне. Няўжо нельга?

– Мяне?

– У аголеным выглядзе, — удакладніў хлопец, —Тады ідэя нішто сабе.

– Толькі ня голай, — не пагадзілася дзяўчына.

– Ідэя супэр, — паўтарыў Дрыалі.

– Ідэя, чорт яе бяры, ідыёцкая, — запярэчыла дзяўчына.

– Так ці інакш, гэта ідэя, — сказаў хлопец. — Ідэя, якая патрабуе, каб яе адзначылі.

Яны расьпілі яшчэ адну бутэльку. Затым хлопец сказаў:

– Нічога не атрымаецца. Я, напэўна, ня здолею зрабіць тату.

Лепей проста намалюю гэты партрэт у цябе на сьпіне, і ён будзе з табой, пакуль ты ня прымеш ванну і ня змыеш яго.  Калі ты ўвогуле больш ня будзеш мыцца, ён застанецца з табой назаўсёды, да канца тваіх дзён.

– Не, — адказаў Дрыалі.

– Так, і ў той дзень, калі ты вырашыш памыцца, я буду ведаць, што мая карціна табе болей не патрэбная. Пагляджу, наколькі ты цэніш маё мастацтва.

– Мне гэты варыянт не даспадобы, — умяшалася дзяўчына. — Ён у такім захапленьні ад твайго мастацтва, што шмат год ня будзе мыцца. Лепей ужо татуаж, але ня ў голым выглядзе.

– Тады толькі твар, — сказаў Дрыалі.

–  У мяне не атрымаецца.

– Гэта надзвычай лёгка. Бяруся навучыць цябе за дзьве хвіліны. Вось паглядзіш. Зараз дастану прылады. Іголкі і атрамант.  Там шмат розных колераў. Столькі ж колераў, колькі ў цябе фарбаў, і яны нашмат прыгажэйшыя…

– Немагчыма.

– У мяне шмат атраманту. Жазі, хіба ў мяне няма вялікай колькасьці атраманту розных колераў?

– Ёсьць.

– Вось убачыш, — сказаў Дрыалі. — Зараз прынясу. Ён узьняўся з крэсла і мэтанакіраванай, хоць і няцьвёрдай хадой, выйшаў з пакою.

Праз паўгадзіны Дрыалі вярнуўся, размахваючы карычневай валізай, крыкнуў: “Я ўсё прынёс!  Тут, у торбе, усе прылады для тату!”

Ён паставіў валізу на стол, адчыніў і павыцягваў электрычныя іголкі і маленькія бутэлечкі каляровых чарнілаў. Уключыў іголку і націснуў на гузік. Іголка загула, верхняя яе частка стала мягка вібраваць уверх-уніз. Мастак скінуў куртку і закатаў рукаў. “Цяпер сачы за тым, што я буду рабіць, пакажу табе, наколькі гэта проста. Зраблю малюнак на руцэ, вось тут.”

Ягонае перадплечча ўжо было  прыкрытае блакітнымі значкамі, але ён адшукаў каштоўны лапік чыстай скуры, каб паказаць, як гэта робіцца.

– Перш за ўсё абіраем атрамант, ну, возьмем для прыкладу звычайны блакітны. Акунаем у яго  іголку… Так… Далей, трымаючы яе проста, лёгка вядзем па паверхні скуры… Такім чынам… Электрычны матор прымушае іголку  рухацца ўверх і ўніз, рабіць праколы ў скуры і ўпырскваць туды чарнілы, вось і ўсё.

Паглядзі, як лёгка… Зірні, якога сабаку я намаляваў на плячы...

Хлопец быў заінтрыгаваны.

– Давай я паспрабую на тваёй руцэ.

Прыладай, якая гула, як пчала, ён правёў блакітныя лініі на руцэ Дрыалі.

– Гэта проста. Падобна да маляваньня чарнільнай асадкай. Розьніцы аніякай апроч таго, што гэта марудней.

– Няма тут нічога складанага. Ты гатовы? Можам пачынаць?

– Зараз жа.

– Так, мадэль! — крыкнуў Дрыалі. — Хадзі сюды, Жазі! — Ён нецьвяроза хістаўся па пакоі ў запале, аддаючы распараджэньні, падобны да дзіця, якое рыхтуецца да нейкай захапляльнай гульні. — Куды ты хочаш, каб яна стала?

– Няхай становіцца каля туалетнага століка, распусьціць валасы па плячах і возьме грабянец. Намалюю, як яна расчэсвае валасы.

– Грандыёзна, ты геній!

Дзяўчына з неахвотай прайшла да туалетнага століка, не выпускаючы з рук шклянкі зь віном.

Дрыалі сьцягнуў кашулю і вылез са штаноў. З вопраткі на ім засталіся толькі майткі, шкарпэткі і пантофлі. Ён стаяў крыху хістаючыся, цела драбнаватае, мускулістае, беласкурае і амаль безвалосае. “Цяпер, — сказаў ён. — Я палатно. Куды ты мяне зьмесьціш?”

– Як заўжды, на мальберт.

– Ты ў сваім розуме? Я ж палатно!

– Адпаведна запрашаю на мальберт, туды, дзе ты і павінна быць.

– Але якім чынам?

– Дык ты палатно, ці не?

– Зразумела, палатно. Ужо пачынаю сябе адчуваць цалкам палатном.

– Тады, калі ласка, на мальберт. Складанасьцяў тут ня мусіць быць.

– Сур’ёзна, гэта немагчыма.

– Добра, сядай на крэсла, задам наперад. Так ты зможаш пакласьці сваю п’яную галаву на сьпінку. Пасьпяшайся, бо я ўжо пачынаю.

– Я гатовы. Чакаю.

– Спачатку, — сказаў хлопец, — я намалюю звычайную карціну. Потым, калі яна мяне задаволіць, паверх зраблю татуаж. — Шырокім пэндзлем ён пачаў маляваць на голай скуры.

– Аяй! — закрычаў Дрыалі. — Гіганцкі вусень маршыруе па

маёй сьпіне!

– Цішэй! Сядзі ціха! — Хлопец імкліва клаў празрыстыя, каб потым не заміналі рабіць тату, мазкі блакітнай акварэлі. Як толькі ён пачаў маляваць, ягоная засяроджанасьць неяк выцесьніла сабой нецьвярозасьць. Мазкі ён клаў хуткімі ўдарамі пэндзля, трымаючы запясьце нерухома, і меней чым за паўгадзіны малюнак быў скончаны.

– Вось і ўсё, — сказаў ён дзяўчыне, якая неадкладна вярнулася на канапу, лягла і адразу ж заснула.

Дрыалі ня спаў. Назіраў, як хлопец бярэ іголку і акунае яе вастрыё ў атрамант; потым ён адчуваў вострае казытлівае джала на скуры. Боль, непрыемны, але цярпімы, не даваў яму заснуць. Адчуваючы, як хадзіла ігла і назіраючы за колерамі, якія абіраліся, Дрыалі забаўляўся тым, што ўяўляў тое, што адбываецца на ягонай сьпіне. Хлопец працаваў з ашаламляльнай апантанасьцю. Падавалася, ён цалкам захоплены цудоўнай машынкай і тымі чароўнымі адбіткамі, якія яна пакідае.

Іголка гула і не спыняла працу яшчэ доўга пасьля надыходу раніцы. Дрыалі ўзгадаў, што, калі хлопец адышоў і прамовіў “Гатова”, за вокнамі ўжо зусім разьвіднела, і было чуваць, як людзі ішлі на працу.

– Хачу бачыць, што атрымалася. — сказаў Дрыалі. Мастак патрымаў люстэрка пад вуглом, і Дрыалі выгнуў шыю, каб паглядзець.

– Сюр! — выгукнуў ён. Відовішча было дзівоснае. Уся сьпіна, ад верху плячэй да самага нізу зіхацела фарбамі: і залатой, і зялёнай, і блакітнай, і чорнай, і пурпурнай. Татуаж быў накладзены так шчыльна, што выглядаў практычна намаляваным алеем. Хлопец як мага больш дакладна трымаўся лініяў пэндзлю і надзвычай удала пабудаваў кампазіцыю так, что выгін сьпіны і выступ лапатак пайшоў малюнку на карысць. Да таго ж, пры ўсёй маруднасьці працэсу, ён неяк здолеў дасягнуць непасрэднасьці. Партрэт атрымаўся даволі жывы. Акурат у той самай вывернутай пакутлівай манеры, адметнай для Суціна. Не проста партрэт, а хутчэй схоплены настрой: твар мадэлі смутны і п’янаваты, фон віецца вакол галавы вялікай колькасьцю цёмна-зялёных завіткоў.

– Неверагодна!

– Мне і самому падабаецца. — Хлопец адступіў на крок, крытычна сузіраючы малюнак. — Ведаеш, — дадаў ён: — Думаю, ён варты таго, каб я паставіў свой подпіс. Ізноў узяўшы джала, мастак вывеў сваё імя з правага боку, над тым месцам, дзе была

нырка Дрыалі.

Стары, якога звалі Дрыалі, стаяў у своеасаблівым стане трансу, утаропіўшыся ў карціну на вітрыне мастацкай галерэі. Усё гэта было так даўно, нібыта адбывалася ў мінулым жыцьці.

– А мастак… Што зь ім здарылася? Цяпер Дрыалі здолеў узгадаць, што пасьля таго, як вярнуўся з вайны, першай сусьветнай, ён сумаваў па хлопцу і спытаўся ў Жазі пра яго:

– Дзе мой калмычок?

– Зьехаў, — адказала яна. — Ня ведаю куды, але чула, што ўладальнік галерэі адправіў яго ў Сэрэ, каб ён маляваў больш.

– Магчыма, ён вернецца.

– Магчыма. Хто ведае?

Гэта быў апошні раз, калі яны ўзгадвалі пра яго ў размове. Хутка пасьля гэтага яны пераехалі ў Гаўр, дзе было больш маракоў, і справы ішлі лепей. Стары ўсьміхнуўся, узгадаўшы Гаўр. Гэта былі прыемныя гады, час паміж войнамі. Маленькі салон каля доку, утульныя пакойчыкі, і заўжды багата працы: кожны дзень прыходзіла тры-чатыры, а то і пяць маракоў, якія хацелі тутуіроўку на плячы. Сапраўды, добрыя часы.

Потым пачалася другая сусьветная, і забілі Жазі, і прыйшлі немцы, і гэта быў канец для ягонага бізнэсу. Пасьля гэтага ўжо ніхто не хацеў малюнкаў на плячох. І на той момант ён ужо быў занадта стары для якой-небудзь іншай працы. У роспачы ён вярнуўся ў Парыж, спадзяючыся на тое, што ў вялікім горадзе справы пойдуць лепш, але памыліўся.

Цяпер, як вайна скончылася, у яго не засталося ні сіл, ні прыладаў для таго, каб узнавіць свой маленькі бізнэс. Ня так проста старому чалавеку знайсьці выйсьце, асабліва пры ўмове, што прасіць міласьціну яму не даспадобы. Але чым яшчэ можна было жывіцца?

“Добра, — думаў ён, усё яшчэ гледзячы на карціну, — дык гэта мой калмычок. Як хутка адна маленькая рэч можа разварушыць успаміны”. Хвіліну таму ён нават ня памятаў, што мае на сьпіне татуяванку. З таго часу, як ён пра гэта думаў, мінулі гады. Стары наблізіў твар да вітрыны і зазірнуў у галерэю. На сьценах ён змог убачыць шмат іншых карцін. Выглядала на тое, што ўсе яны — працы аднаго майстра. На іх прыйшло паглядзець шмат людзей. Відавочна гэта была персанальная выстава.

Паддаўшыся раптоўнаму імпульсу, Дрыалі павярнуўся, штурхнуў дзьверы ў галерэю і ўвайшоў.

Гэта быў доўгі пакой з тоўстым дываном віннага колеру. Божа,

які прыгожы і цёплы! І ўсе гэтыя людзі хадзілі і разглядалі карціны, ахайныя і прыстойныя наведвальнікі, кожны трымаў у руцэ каталог. Дрыалі стаяў проста перад дзьвярыма, нервова аглядаючыся, разважаючы, ці хопіць яму адвагі зрабіць яшчэ адзін крок наперад і зьмяшацца з гэтым натоўпам. Але раней, чым ён наважыўся, пачуў голас: “Што вам трэба?”

Дрыалі стаяў нерухома.

– Калі вам няцяжка, — казаў спадар, — выйдзеце вон з маёй галерэі!

– Мне нельга паглядзець на карціны?

– Я вас папрасіў выйсьці.

Дрыалі стаяў на сваім. Нечакана зьнявага не на жарт яго раззлавала.

– Давайце ня будзем ствараць праблем, — шыпеў спадар. — Калі ласка, на выхад.

Пухлай белай лапай ён схапіў Дрыалі за руку і настойліва пачаў выпіхваць таго за дзьверы. І тут Дрыалі сарваўся:

– Рукі прыбяры ад мяне! — Ягоны голас праізьвінеў нават у канцы галерэі, і ўсе наведвальнікі здрыгануліся, як адзін, усе зьбянтэжаныя позіркі былі накіраваныя на крыніцу шуму. І ўжо лёкай бег на дапамогу, і два мужчыны спрабавалі выціснуць Дрыалі за дзьверы. Аматары мастацтва спакойна сузіралі сутычку. На іх тварах бачная была хіба толькі лёгкая цікавасьць і пераканананасьць у тым, што нічога ня здарылася, небясьпекі ніякай няма, усё пад кантролем.

– У мяне таксама! — крыкнуў Дрыалі, — у мяне таксама ёсьць карціна гэтага мастака! Ён быў маім сябрам, і ў мяне ёсьць карціна, якую ён мне падарыў!

– Нейкі вар’ят.

– Псіх, проста трызьніць.

– Хто-небудзь, выклікайце паліцыю!

Дрыалі раптоўна выкруціўся з рук, якія яго трымалі, і, пакуль яго не пасьпелі схапіць ізноў, ірвануў уздоўж галерэі з крыкам “Я пакажу вам! Пакажу вам! Пакажу!” Ён садраў зь сябе паліто, потым — камізэльку і кашулю і разгарнуўся да людзей так, каб была бачная яго голая сьпіна.

– Вось тут! — выгукнуў ён, часта дыхаючы. — Вы бачыце? Вось яна!

У залі раптоўна ўсталявалася напружаная цішыня. Шакаваныя людзі нерухома глядзелі на тое, што ён рабіў. Глядзелі на татуяванку. Яна ўсё яшчэ была там. Колеры не паблякнулі, але

сьпіна старога цяпер была худзейшай, лапаткі вытыркаліся болей, і праз гэта карціна выглядала недарэчна зморшчанай і памятай.

Хтосьці сказаў: “Божа, але ж гэта праўда!”

Усхваляваныя людзі рушылі наперад, каб паглядзець, загаманілі вакол старога.

– Беспамылкова!

– Ягоная раньняя тэхніка, так?

– Ашаламляльна, ашаламляльна!

– Паглядзіце, яна падпісаная!

– Разгарніце плечы, дружа, каб карціна нацягнулася.

– Старая… Калі яна была зробленая?

– У 1913-тым, сказаў Дрыалі, не паварочваючыся. Увосень 1913-га.

– Хто навучыў Суціна рабіць тату?

– Я.

– А жанчына хто?

– Гэта мая жонка.

Уладальнік галерэі праціскаўся праз натоўп да Дрыалі. Цяпер ён быў лагодны, надзвычай засяроджаны, на твары — усьмешка.

– Месье, — сказаў ён. — Я яе купляю.

Дрыалі мог бачыць, як трэсьліся тлустыя складкі на твары, калі ён адкрываў рот.

– Кажу: “Я купляю яе, месье!”

– Як вы можаце яе купіць? — запытаўся Дрыалі ціха.

– Даю за яе дзьвесце тысячаў франкаў. Вочы дылера былі маленькімі і цёмнымі, ноздры пачалі разьдзьмувацца.

– Не рабіце гэтага! — выгукнуў хтосьці з натоўпу. — Яна ў дваццаць разоў даражэйшая!

Дрыалі адкрыў рот, каб штосьці сказаць, але паколькі слоў не знайшоў, закрыў яго. Потым ізноў адкрыў і марудна вымавіў: “Але якім чынам я магу яе прадаць?” Стары разьвёў рукамі. “Месье, якім чынам я магу яе прадаць?” У ягоным голасе адчувалася сусьветная туга.

– Вось-вось! — зашумелі ў натоўпе, — як ён яе прадасьць? Гэта ж частка яго самога!”

– Паслухайце, — сказаў дылер, наблізіўшыся. — Я вам дапамагу, зраблю вас багатым. Наконт карціны мы з вамі зможам дамовіцца ў прыватным парадку, так ці не?

Дрыалі разгублена глядзеў на яго спалоханымі вачыма.

– Але як вы яе купіце, месье? Што вы зробіце зь ёй, калі купіце? Дзе будзеце захоўваць? Дзе будзеце трымаць сёньня? А дзе заўтра?

– О, дзе я буду яе трымаць? Так, дзе буду трымаць? Цяпер, дзе буду трымаць? Ну, цяпер… — дылер пастукаў сябе па пераносьсі тоўстым белым пальцам. — Падобна на тое, — сказаў ён, — што калі я набываю карціну, то набываю і вас таксама. Гэта некаторым чынам не зусім зручна. — Ён зрабіў паўзу і зноў пастукаў сябе па носе. Сама па сабе карціна ня вартая нічога, пакуль вы не памерлі. Колькі вам год, дружа?

– Шэсьцьдзесят адзін.

– Але здароўе, відаць, ня самае лепшае?

Дылер адпусьціў свой нос і агледзеў Дрыалі з галавы да пят, уважліва, як фермер ацэньвае старога каня.

– Мне гэта не падабаецца, — сказаў Дрыалі, незаўважна адсунуўшыся. Шчыра кажучы, месье, мне гэта зусім не падабаецца.

Ён адступіўся проста ў абдымкі да нейкага высокага спадара, які выцягнуў рукі і далікатна схапіў яго за плечы. Дрыалі азірнуўся і папрасіў прабачэньня. Спадар ўсьміхнуўся і суцяшальна паляпаў старога па плячы рукой у ярка-жоўтай пальчатцы.

– Паслухайце, дружа, — сказаў незнаёмец, усё яшчэ ўсьміхаючыся, — вы любіце плаваць і загараць?

Дрыалі паглядзеў на яго зьбянтэжана.

– Вы любіце добрую ежу і чырвонае віно зь вінаграднікаў замка Бардо? Спадар усё яшчэ ўсьміхаўся, паказваючы здаровыя белыя зубы, паміж якімі паблісквала золата. Словы ён вымаўляў мякка і пранікнёна, рука ў пальчатцы ўсё яшчэ ляжала на плячы Дрыалі. — Такія рэчы вам падабаюцца?

– Ну… так, — адказаў Дрыалі, усё яшчэ зьбіты з панталыку, — вядома.

– А кампанія прыгожых жанчын?

– Чаму не?

– А адзежная шафа, поўная пінжакоў і кашуляў, меркі для якіх былі зьнятыя з вас? Бачу, што новая вопратка вам бы не зашкодзіла!

Дрыалі глядзеў на гэтага абыходлівага спадара, чакаючы, чым той скончыць.

– Для вас калі-небудзь шылі пантофлі на замову, адмыслова для вашай нагі?

– Не.

– Вам бы гэтага хацелася?

– Ну…

– А цырульнік, які б вас галіў і ўкладваў валасы зранку?

Дрыалі стаяў, адкрыўшы рот.

– А пампушка-манікюрка, якая б клапацілася пра вашыя

пазногці?

Хтосьці ў натоўпе хіхікнуў.

– А званочак каля вашага ложку, каб выклікаць пакаёўку са сьняданкам? Вы б гэтага хацелі, мой дружа? Вас гэта прываблівае?

Дрыалі моўчкі глядзеў на яго.

– Справа ў тым, што я — уладальнік гатэля "Брыстоль" у Канах. Запрашаю вас туды жыць у раскошы і камфорце да канца вашых дзён! Спадар зрабіў паўзу, каб быў час ацаніць такую ўцешлівую перспектыву. Адзіным вашым абавязкам, я б нават сказаў вашым задавальненьнем, было б бавіць час на маім пляжы ў купальным касьцюме, гуляць паміж гасьцей, загараць, плаваць, частавацца кактэйлямі. Вам бы гэта спадабалася?

Адказу не прагучала.

– Хіба вы не разумееце? Такім чынам усе мае госьці змогуць бачыць гэту цудоўную карціну Суціна! Вы станеце вядомым, і людзі будуць казаць: "Глядзіце, вунь той хлопец з дзесяцьцю мільёнамі франкаў на сьпіне!" Такая ідэя вам падабаецца, мэсье? Як вам?

Дрыалі глядзеў на гэтага высокага спадара ў жоўтых пальчатках зь недаверам.

– Ідэя камічная, — вымавіў ён марудна. — Няўжо вы і праўда маеце гэта на ўвазе?

– Вядома, так.

– Гэй, пачакайце! — умяшаўся дылер. — Слухайце сюды, дзядуля. Вось рашэньне нашай праблемы: я куплю карціну і найму хірурга, які выража скуру ў вас са сьпіны. Вы зможаце ісьці, куды хочаце і распараджацца вялікімі грашыма, якія я вам заплачу!

– Бяз скуры на сьпіне?

– Не, не, калі ласка! Вы ня так зразумелі. Хірург прышые новы кавалак скуры на месца старога. Гэта проста.

– Хіба ён можа такое зрабіць?

– А нічога асаблівага ў гэтым няма.

– Немагчыма! — сказаў спадар у жоўтых пальчатках. — Ён занадта стары, каб перанесьці такую вялікую перасадку скуры. Гэта яго заб'е. Гэта заб'е вас, дружа!

– Гэта заб'е мяне?

– Натуральна. Вы ня выжывеце. Застанецца толькі карціна.

– Божа літасьцівы! — крыкнуў Дрыалі. Ён агаломшана глядзеў вакол, на ўсе гэтыя твары, зьвернутыя да яго, і ў цішыні, якая ўсталявалася, пачуў шэпт кагосьці з тых, хто стаяў далей: "Напэўна, каб гэтаму старому хтось прапанаваў дастаткова грошаў, ён пагадзіўся б сябе забіць. Хто ведае?" Некалькі чалавек фыркнулі ад

сьмеху. Дылер усхвалявана пераступаў з нагі на ногу.

Рука ў ярка-жоўтай пальчатцы зноў паляпала Дрыалі па плячы. – Ну жа, — казаў спадар расьцягваючы рот у белазубай усьмешцы, – вы і я зараз пойдзем добра павячэраем і яшчэ пагамонім пра гэтую справу. Як вам прапанова? Хочаце есьці?

Дрыалі слухаў яго, насупіўшы бровы. Яму не падабалася доўгая гнуткая шыя гэтага фацэта і тое, як ён па-зьмяінаму выцягваў яе наперад, калі штосьці казаў.

– Смажаная качка і сухое шамбэртэн, — працягваў спадар. Словы ён вымаўляў з асаблівым націскам, глыбока і сакавіта, смакуючы кожнае. — І, магчыма, суфле з каштанаў, лёгкае і далікатнае.

Дрыалі ўзьвёў вочы да столі, ягоныя вусны сталі бязвольнымі і вільготнымі. Бачна было, што гаротны стары ажно захлёбваецца сьлінай.

– Як вы хочаце, каб для вас пасмажылі качку? — працягваў спадар, — моцна, да залацістай скарынкі, ці каб…

– Я іду, — хутка сказаў Дрыалі. Ён ужо падабраў з падлогі кашулю і рашуча нацягваў яе на сябе праз галаву. — Пачакайце мяне, мэсье, я іду з вамі!

Літаральна праз хвіліну яго і ягонага новага знаёмца ўжо не было ў галерэі.

Ня больш чым праз некалькі тыдняў на аўкцыёне ў Буэнас-Айрысе ўсплыла карціна Суціна: выкананы ў незвычайнай манеры жаночы партрэт, зьмешчаны ў цудоўную раму і пакрыты дарагім лакам. Гэта і той факт, што ў Канах няма гатэлю “Брыстоль”, прымушаюць крыху насьцярожыцца і памаліцца за здароўе старога. І моцна спадзявацца на тое, што дзе б ён цяпер ні знаходзіўся, пампушка-манікюрка паліруе ягоныя пазногці, а пакаёўка прыносіць зранку сьняданак у ложак.

*Пераклала з ангельскай мовы Анка Упала*



Ягор Хлябіч, *Кілім: Дракон-рэбіс*

# Павал Ляхновіч

## Вася і адмірал

Палярная ноч. Над гарадком, названым у гонар Магамеда Гаджыева, падводніка і Героя, ляніва варушыцца жоўта-зялёная паласа зьзяньня. Чорная вада ў Сайда-губе курыцца туманам. Ля пірсаў пабялелыя ад шэрані гарбатыя целы падводных крэйсераў. Па гадзіньніку – раніца. Быццам крыкі муэдзінаў разносяцца над сопкамі: “На сьця-я-аг! І гю-у-у-йс! Сьмі-йр-р-на! – Таварыш камандзір, час выйшаў! – Сьця-я-аг! І гю-у-у-йс! Падняць!”

...З двух бакоў – ад зоны ў бок гарадка, і ад гарадка ў бок зоны рушылі насустрач адзін аднаму Вася і адмірал.

Дзень (калі гэтую настылую, скрыпучую цемру можна назваць днём) для Васі пачаўся няўдала. Толькі спусьціўся ў корпус, нырнуў у свой “Алмаз”, толькі сабраўся прыкімарыць ў закутку на канапцы, выклікаў старпом і загадаў ісьці ў ваенную пракуратуру. Гэта да гарадка два кіламетры і па гарадку паўтары. Вася – няштатны ваенны дазнаўца экіпажа. Яшчэ лейтэнантам прызначылі. З-за акуляраў. У Васі акуляры з круглымі шкельцамі – рыхтык пенснэ сумнавядомага наркома Берыі. Памочнік, п’яніца і брыдкаслоў паспрыяў: “Во, лейтэнант Вяргейчык, ён на Берыю падобен – яго дазнаўцам...” Зрок у Васі і раней быў ня вельмі, пры паступленьні ў ваенную вучэльню прыйшлося медкамісію ашукаць – вывучыць на памяць той радок табліцы, што зроку “адзінка” адпавядае. А на пятым курсе справа да акуляраў дайшла. Камісоўваць ня сталі – не дзеля таго пяць гадоў дзяржава сродкі траціла, каб так проста на вольны хлеб адпусьціць, балазе аператару вылічальнага комплексу сакалінага зроку і ня трэба.

Мацюкнуўся Вася, апрануўся і – у рубачны люк. Гэта труба такая, а ў трубе як пажарная лесьвіца на трэці паверх. Хто маладзейшы ды спрытнейшы па ёй ўніз на руках спускаюцца – там

яшчэ для рук адмысловыя поручні прывараны. Ж–ж–жых, і ўжо ўнізе.

Выбіраецца Вася наверх, а зьверху ж-ж-жых – і ботамі па галаве. І акуляры з носа, і ўнізе жаласна – “Дзінь”. Боцман, маму яго... “Ой! Прабачце, таварыш старшы лейтэнант! Не заўважыў!”

...Для адмірала дзень таксама пачаўся кепска. Зь вечара доўга ня мог заснуць, круціла падагрычныя суставы і думалася, што ўжо мала засталося служыць, значыць жыцьцё заканчваецца. Падняўся з галаўным болем і вырашыў да штаба прайсьціся пехатою, падыхаць паветрам. Патэлефанаваў дзяжурнаму, каб прысылаў не машыну, а патруль.

Адмірал ня меў бы двух “павукоў” на пагонах, калі б ня ўмеў думаць, абагульняць, рабіць высновы. Меў перакананьне – на сьвеце няма нічога новага. Усё, што будзе, ужо было, а ўсё, што было, будзе яшчэ. Таму па гарнізоне без прыкрыцьця ў выглядзе патруля не хадзіў. Неяк па маладосьці, толькі атрымаўшы першага “павука”, вырашыў агледзець “гаспадарку”. Час быў начны, але над сопкамі каціласа млявае сонца, якое ў гэтых шыротах летняю парою не заходзіць. З задавальненьнем адзначаў, як рэдкія прахожыя, нягледзячы, што былі апрануты ў цывільнае, хуценька збочвалі, каб не сустракацца. Абышоў возера з фанернымі лебядзямі, пастаяў паслухаў дурныя крыкі чаек, якіх тут чамусьці называюць “бакланамі”, прайшоў ля дома афіцэраў, наблізіўся да помніка. Помнік – высокая стэла з галавой падводніка ў пілотцы, а побач са стэлай – чатыры зямныя мерыдыяны, злучаныя колам-экватарам. Тоўстыя такія бетонныя мерыдыяны, якія з-за таўшчыні на нордавым полюсе не злучаюцца, заканчваюцца недзе градусах на васьмідзесяці. Па задуме мастака кампазіцыя павінна была сімвалізаваць тое, што для падводнага флоту няма межаў на ўсім зямным шары. Самі ж героі з атамных ракетаносцаў трактавалі помнік інакш: стэла па іх думцы сімвалізавала чэлес надводніка, а крывулі-мерыдыяны – аналагічныя органы падводнікаў.

Ля помніка, распаўсюджваючы навокал пах алкагольнага перагару, такавалі двое мічманаў. Наскаквалі адзін на аднаго, быццам вясеньнія цецерукі. Наводдаль за імі зацікаўлена сачыла самачка. Выбірала больш годнага. Самачка ўбачыла галоўнага гарнізоннага начальніка, залапатала і зьляцела. Мічманы працягвалі бойку. Гэтым летнім часам на флот прыбылі маладыя выпускнікі школы мічманаў. Яны яшчэ тут нікога і нічога не пасьпелі ўведаць. Апрача сталоўкі, што вечарамі працавала рэстаранам.

Адмірал пастаяў, паглядзеў. Слабакі. Узгадаў, як ён некалі, яшчэ

каплеем, у Северадзвінску, у “Эрбээне” біўся амаль з усім вясельлем. Ішоў уперад, і біў, біў, навокал падалі ад яго ўдараў, і такі дабраўся да жаніха... Эх, час!

... Адзін з мічманаў, той, што большы, злаўчыўся і рассадзіў меншаму нос. На крэмавую кашулю пырснула юшка. “Усё, трэба заканчваць”, – падумаў адмірал.

– Гэй вы! Мічманы! А ну-тка перастаньце! – гаркнуў з металам у голасе. Гэта ўмеў добра.

Большы, які няспрытна тоўк закрываўленага, што сьпіной прыхінуўся да “надводніцкага чэлеса”, закрываючыся ў “глухой абароне”, цяжкім позіркам утаропіўся на адмірала:

– Ты, дзед, ідзі да бабулі... Таптаць яшчэ здольны? Ідзі – патапчы...

– Я – камандуючы флатыліяй! – Так націснуў на галасавыя зьвязкі, што замест рыку даў пеўня.

– Ага. А я – цар Саламон... Ідзі, кажу, дзя-ду-ля! Да ба-бу-лі.

– Я каму кажу! – завішчэў адмірал. – Неадкладна перастаць!

– Ну, дзед, ты мяне дастаў! – раззлаваўся, і адміральская галава раптам зазьвінела, а ў роце зьявіўся смак крыві.

Усё, што было, будзе яшчэ. Больш адмірал без суправаджэньня па гарадку не шпацыраваў.

...Вася невыразна бачыў цямнейшую паласу дарогі, і плямы – чорныя, шэрыя, белыя. На дарозе постаць, відаць, хтосьці спазьніўся на службу, але, зараза, не сьпяшаецца, нетаропка ідзе. За ёю, метрах у трыццаці – яшчэ тры, адна крыху ўперадзе, дзьве на крок ззаду. Мяркуючы па такому шыхтаваньню – патруль. Што ён тут робіць? Яму месца ў гарадку...

Першая постаць параўнялася, прыцішыла крок. Мічман – на пагонах расплыліся дзьве плямы. І раптам крык: ”Ці-лі-нант! Чаму чэсьць не аддаяце?” Спыніўся, павярнуўся назад: “Па–першае – старшы лейтэнант! А па-другое – ты што, сундучара? Зусім апупеў?”

– А-а! – зароў “мічман” – Патруль! Затрымаць!

Ваську падхапілі пад рукі, павалаклі, паставілі.

– Прозьвішча! Зь чыйго экіпажа? – грымеў “мічман”. Вася тым часам нахіліўся над яго пагонам і з адлегласьці дзесяць сантыметраў ясна ўбачыў адміральскія зоркі.

– Інжынер электронна–вылічальнай групы старшы лейтэнант Вяргейчык! Экіпаж... – і раптам зразумеў, што забыўся прозьвішча камандзіра, вылецела – капітана першага рангу...

З усяе сілы паспрабаваў уявіць сабе камандзіра. Уявіў...Жукава!

(Уф–ф!)

– Та-а-варыш старшы ці-лі-нант! Вы чаму чэсьць не аддаяце! Што за хамства?!

– Прабачце, таварыш камандуючы... Я думаў... Мне здалося... што вы – мічман!

Адмірал зьдзіўлена пачаў разглядаць Васю. Вася падумаў, што тлумачэньне няпоўнае і дадаў:

– Мне боцман сёньня акуляры разьбіў, таварыш адмірал, а без акуляраў...

... Акуліст у санчасьці нешта капаў Васілю ў вочы, разглядаў там праз люстэрка зь дзіркай, а потым пацьвердзіў камандуючаму – той увесь час прысутнічаў пры праверцы – маўляў так, зрок у старлея кепскі, і без акуляраў павінен бачыць на адлегласьці невыразна...

Разышліся на ганку санчасьці. За адміралам прыйшоў легкавік, а Вася пехатою пайшоў у пракуратуру.

“От жа барзата!” – думаў адмірал пра Васю.

“ От жа падла!” – думаў Вася пра адмірала.

# Алесь Паплаўскі

## ПАТЭФОН

Для мяне гэтая крама была сапраўдным музеем. Знаходзілася яна ў цэнтры старога горада, у адным з жылых закуткаў – калі не ведаеш, то адразу і не знойдзеш. Мне чамусьці здавалася, што пра яе мала хто ведае з гараджан. Я заўжды аб тым шкадаваў, таму, пры магчымасці, як мог рэкламаваў яе. Сам жа тут бываў даволі-такі часта. Як толькі выпадала вольная хвіліна, ці калі быў недзе паблізу, я не прамінаў магчымасці наведаць гэтае святое для мяне месца, каб паўзірацца на тыя старажытныя гадзіннікі, кандэлябры, настольныя ўпрыгожванні ды срэбны посуд, якімі былі застаўлены ўсе паліцы. Увесь гэты разнаіты антыкварыят мяне цікавіў заўжды, але на адной з палічак ля ўваходу ў краму з’явіўся патэфон маркі «ПТ-3 МОЛАТ».

Я ведаў цану гэтага патэфона, на ім вісела бірка, але кожны раз я чамусьці настырна цікавіўся цаною, нібыта рэч ад гэтага магла стаць танней. Сустракала мяне заўжды адна і тая ж прадаўшчыца. Яна звычайна сядзела за касай і чытала тоўстую кніжку. Адну і тую ж. Ва ўсякім разе, кожны раз мне на вочы трапляла знаёмая вокладка. Жанчына была негаманлівай, прыкладна ў маім узросце. Спачатку мае пытанні злавалі яе, але з цягам часу яна да іх прывыкла і нашы размовы з ёю паступова вышлі за межы двух слоў “так” і “не”. А калі нарэшце я ёй расказаў пра сваю мэту набыць гэтую рэдкую рэч, яна стала дазваляць мне разглядаць патэфон зблізку і нават дакранацца да яго. Некалькі разоў, калі ў краме не было пакупнікаў, яна заводзіла яго, ставіла адзіную, якую мела, кружэлку. Спачатку чулася спецыфічнае рыпенне голкі, а потым пачынала гучаць музыка і голас спевака, а ім быў Пётр Лешчанка, які выводзіў знаёмую мне мелодыю. Гэтую песню я чуў і раней, але ў гэтыя хвіліны мелодыя набывала нейкі іншы сэнс. Яна настолькі моцна ўражвала і кранала мяне, што па целе пачыналі бегаць дрыжыкі. Усё астатняе, акрамя музыкі, некуды знікала. Свет пераставаў існаваць. Аніводнай жывой душы вакол. Толькі я і Пётр Лешчанка.

Был день осенний, и листья грустно опадали.
В последних астрах печаль хрустальная жила.

Грусти тогда мы с тобой не знали
Ведь мы любили и для нас весна цвела…

Але ўсё некалі канчаецца. І не так, як мы ўяўляем сабе тое. Мінуў час і я сабраў нарэшце патрэбныя для пакупкі патэфона грошы. Няважна, што я нават не ведаў, дзе і ў каго стану набываць рэдкія для нашага часу кружэлкі. Я шмат чаго не ўяўляў сабе. Я пра тое проста не думаў. Я хацеў толькі аднаго, каб патэфон стаў маім.

Аднойчы я адпрасіўся раней з працы, каб паспець да закрыцця крамы, і накіраваўся на знаёмую мне вуліцу. Ісці было не вельмі далёка, таму пайшоў пехатой. Па вачах прадаўшчыцы адразу ж здагадаўся, што здарылася нешта непрадказальнае. Мітусліва зірнуў на палічку, дзе звычайна стаяў патэфон і не знайшоў яго там. Ад нечаканасці разгубіўся.

– А дзе?.. – гэта ўсё, што я змог выціснуць з сябе ў тыя хвіліны. Прадаўшчыца зразумела мяне. Болей таго, на яе твары блукала тая ж разгубленасць. Па ўсім было відаць, што яна таксама перажывае. Не менш, чым я.

– Яго толькі што забраў гаспадар, – выціснула яна і паспрабавала ўсміхнуцца.

– Адкуль вы ведаеце, што гэта быў гаспадар? – спытаў я, абы не маўчаць. Я не мог звыкнуцца з думкай, што дарагую мне рэч набыў нехта іншы. Мае намеры былі рашучыя і сур'ёзныя. Здавалася, што пападзіся мне на вочы ў гэтыя хвіліны той чалавек, і я зрабіў бы ўсё ад мяне залежнае, каб адабраць у яго патэфон. Я гатовы быў... хто б ён ні быў.

– Праца мая такая, каб ведаць некаторыя тонкасці і падрабязнасці. Тавар камісіённы, таму ўсё згодна з дамовай, – сумна дадала прадаўшчыца. – Сказаў, што перадумаў прадаваць.

– Магу я знайці гэтага чалавека? – заспяшаўся я.

– Хіба вы з ім не размінуліся? – здзівілася прадаўшчыца. – Ён толькі што выйшаў. Калі паспяшаецеся, то, магчыма, заспееце яго на аўтобусным прыпынку. Наколькі я ведаю, ён туды падаўся.

Не развітаўшыся, я кінуўся да дзвярэй. Не ведаю, на што я разлічваў, на што спадзяваўся. Магчыма, на цуд. Цуды таксама іншы раз здараюцца. І мне пашанцавала. Я пазнаў яго яшчэ здалёк. Дакладней, здагадаўся, што гэта ён. То быў зусім яшчэ малады мужчына. Нашмат маладзейшы за мяне. З чорнай спартыўнай торбай. Маланка на ёй была не зашпілена і я згледзеў там тое, дзеля чаго так спяшаўся. Я спыніў мужчыну ў апошні момант, калі той сядаў у аўтобус.

– Прабачце, калі ласка! Можна вас на хвілінку, – выпаліў я і схапіў яго за руку. Мужчына здзіўлена азірнуўся.

– Што здарылася? – незадаволена спытаў ён, спрабуючы вызваліцца.

– Я вельмі прашу вас, затрымайцеся на хвіліначку , – сказаў я. – У мяне ёсць да вас некалькі пытанняў.

– Пытанняў? Да мяне? Што здарылася, шаноўны? – незадаволена

спытаў мужчына.

– Я ўсё патлумачу. Потым вас на таксі давязу, куды скажаце.

Мы затрымлівалі аўтобус і на нас скоса зіркалі незадаволеныя пасажыры. Мужчына яшчэ раз акінуў мяне недаўменным позіркам. Мы збочылі. Я папрасіў яго прысесці на лаўку і сеў побач.

– Тут вось якая справа, – сказаў я, не ведаючы з чаго пачаць. – Гэты патэфон мой. Дакладней, я хацеў сёння набыць яго. Доўга збіраў грошы. Прасіў прадаўшчыцу не прадаваць яго нікому. А тут вы. Навошта вы яго забралі?

– Забраў і ўсё. Вам якая да таго справа? – адрэзаў мужчына.

– Як гэта якая?.. Я ж патлумачыў. Гэта мой патэфон. Я разлічваю, што мы дамовімся, – зірнуў я на мужчыну з надзеяй.

– Не, – коратка адказаў той. – Я перадумаў.

– Чаму? – не здаваўся я

– Перадумаў і ўсё. Я не мушу вам нічога тлумачыць.

– Вядома! – заспяшаўся я, разумеючы, што яшчэ хвіліна і мужчына зусім не стане са мной размаўляць. Ён нават падняўся з лаўкі. І тады я расказаў яму ўсё: і як цэлы месяц, амаль дзень у дзень, бегаў у гэтую краму, і з якім захапленнем слухаў Пятра Лешчанку. Я вывярнуў перад ім навыварат сваю душу. І ён здаўся. Яго аповед быў доўгім і не менш шчырым і захапляльным. Ён расказаў мне цэлую гісторыю, сваю гісторыю, якая прымусіла мяне адмовіцца ад свайго спакуслівага жадання. Як выявілася, патэфон маладому чалавеку дастаўся ад бабулі. Набыла яна яго адразу ж пасля вайны. Бацька з фронту не вярнуўся. Іх засталося пяцёра – маці і чатыры дачкі. Яна была самай старэйшай. Толькі што споўнілася сямнаццаць. Цяжкі быў час. Галадалі. Выжываў хто як мог. Аднойчы, калі харчоў не засталося зусім, маці зняла з пальца свой залаты шлюбны пярсцёнак і загадала дзяўчыне:

– Сходзіш у горад і вымяняеш яго на крупу.

Аднак дзяўчына вярнулася дахаты не з харчамі, а з патэфонам і з кіпай кружэлак.

Маці запрычытала, як па нябожчыку:

– Што ты нарабіла? Што мы есці будзем, га?.. Ты пра іх падумала? – кіўнула яна на малодшых сясцёр. – Пра мяне ты падумала?

– Падумала, – адказала дзяўчына.

– Нясі назад. Чуеш? Што хочаш з ім рабі, вяртай, прадавай, але без харчоў дахаты не вяртайся, – загадала катэгарычна маці.

Вярнуць страчанае было немагчыма. І маці памякчэла. Тыдзень яны перабіваліся з хлеба на ваду. Але кожны вечар у іх хаце гучала музыка. Яна вабіла і зазывала не толькі моладзь, але і людзей больш сталага ўзросту. Вайна скончылася і кожны разумеў, што трэба пакрыху вызваляцца ад яе жахаў і вяртацца да мірнага ладу жыцця. Людзі ішлі на вячоркі і неслі з сабой пачастункі. Не скупіліся, хто на што быў багаты. Так і выжылі. Не без дапамогі таго патэфона. Бабуля пазней вывучылася

на культработніка і амаль усё жыццё прапрацавала ў мясцовым клубе. Так што, дзякуючы таму ж патэфону, яна атрымала яшчэ і пасаду.

– Я ўсё зразумеў, – сумна ўсміхнуўся я. – Гэта дарагая для вас рэч.

–Так, – адказаў мужчына.

– Так? Навошта ж вы яе прадаць хацелі? Навошта?

– Гэта асобная гісторыя, – сказаў мужчына. – Бабуля доўгі час жыла з намі. Яна, можна сказаць, выгадавала мяне. Маці памерла, калі мне і дзесяці не было. Бацька ў другі раз не ажаніўся. Калі памерла бабуля, а яна была яго маці, ён моцна запіў. Вяртаўся дахаты п'яным, выцягваў з шкапчыка гэты самы патэфон і ставіў адну і тую ж кружэлку. Штовечар. Адну і тую ж. Астатнія выкінуў. А ў мяне маленькая дачушка. Толькі-толькі нарадзілася. Надакучыла. І вось аднойчы я вырашыў пазбавіцца ад патэфона. Нешта стрэльнула ў галаву. І я аднёс яго ў камісіёнку. Дзякаваць богу, што не паспелі купіць. Страшна цяпер нават падумаць пра тое.

– Значыць, прадаваць вы яго не збіраецеся? – выціснуў я праз сілу.

– Ну, што вы, вядома ж, не, – усміхнуўся мужчына.

– Завядзіце, калі ласка, патэфон, – зірнуў я на мужчыну з надзеяй.

– Што, прама тут? – здзіўлена паглядзеў на мяне мужчына.

– Прама тут, – сказаў я.

Мужчына дастаў з сумкі патэфон і паставіў яго на лаўку. Потым адчыніў верхнюю крышку, накруціў пружыну і наставіў голку на кружэлку. Спачатку пачулася знаёмае да болю рыпенне. А потым на волю з дынамікаў вырваўся голас Пятра Лешчанкі...

Людзі здзіўлена азіраліся і слухалі. Я глядзеў на гэтых незнаёмых мне людзей і бачыў на іх тварах радасныя ўсмешкі.

# Мікалай Забалоцкі

## Вячэрні бар

Сярод гарэлачных бутэлек,
Дзе пальмы ссохлыя даўно,
У фужэры плавала акно,
Яно, як золата, блішчэла,
Пасля садзілася, цяжэла,
Над ім піўны ўздымаўся дым...
Ды нельга расказаць аб тым.
Ланцуг сярэбраны зазвоніць —
Імкнецца з лесвіцы народ.
Кашуляю трашчыць картоннай,
З бутэлькай водзіць карагод.
Сірэна белая з-за стойкі
Кліентам падае настойку,
вачыма косіць, кіне залу,
Пасля ідзе ізноў з гітарай
І ўсё спявае, як кахала,
Як дарагога цалавала,
Лагодна як і ў цела жорстка
Ўпівалася штораз шнуроўка,
І як на шклянках вісла віскі,
І як з разбітага віска
На грудзі сыпаліся іскры,
І нерухомы ён упаў.
І ўсё, пра што яна спявала,
Пакрыла крэйдай дно бакала.
Мужчыны голасна спявалі
І коўзаліся на сталах,
Пад столь уз’юшана кідалі
Бядлам і кветкі апалам.
Адзін канючыць таўстапузік,

Другі крычыць: "І я - Ісусік,
Маліцеся, я – на цвіках,
Цвікі ў ілбе і ў даланях!"
Сірэна з ім пагаманіла,
І вось талеркі залізаў
Фужэраў баявы анклаў
І запалаў панікадзілам.
Запалі вочы, быццам гіры.
Фужэр разбілі, выйшла ноч,
І тлустыя аўтамабілі
Пад мышкі згрэблі Пікадзілі
І прэч нячутна пакацілі.
А за сталом, як дзіўны сон,
Блішчэў на мачце лампіён.
Ноч памяняла разам колер,
Прыгожы, казку нагадаў,
Якую вецер нёс на волю.
І злосцю нестрыманай сцяты,
Праз сум, бянзін і праз туман
Над вежай біўся шар крылаты
І надпіс "Зінгер" знімаў.
1926

## Журавы

З Афрыкі, дзе іх праменні грэлі,
На абсягі роднае зямлі
Правільным трохкутнікам ляцелі
Ў сінім, мяккім небе журавы.
Крылы — як сярэбраныя струны
Расхіналі зорны небасхіл.
Вёў вадар у родны край пярунны
Свой народ, да болю дарагі.
А калі пад крыллем мільганула
Возера празрыстаю слязой,
Д'яблава нянавісць зброі дулам
Здрыганула цішу і спакой.
Востры промень проста ў сэрца ўдарыў,
Успыхнуў полымны агонь і згас;
І часцінка белай, чыстай мары
З вышыні абрынулася ўраз.
Крылы – два агромістыя горы
Па халодных хвалях паплылі,

Крыкі болю поўнілі прастору,
Адрывалі стаю ад зямлі.
І сярод нягаснучых свяцілаў,
Каб паменшыць біятокі зла,
Журавам прырода падарыла
Тое, што для многіх не змагла:
Горды дух, высокае памкненне,
Волю, веру мужную ў сябе –
Спадчыну ад іншых пакаленняў,
Што сягоння дадзена табе.
Вадара ў кашулі металёвай
Пацягнула бездань за сабой,
І зара жывая палымнела
Над тым месцам плямай залатой.
1948

**Чытаючы вершы**

Цікава, і дзіўна, і тонка:
Мой верш – невядомы напеў.
Хоць глас цвіркуна і дзіцёнка
Пісьменнік даўно зразумеў.
І ў бяссэнсіцы мовы няўдалай
Нейкі сэнс і гармонія ёсць.
Толькі вось чалавечыя мары —
Ці заменяць яны прыгажосць?
Ці магчыма, каб рускае слова
Стала гукамі з горла шчагла
І каб сэнсу жывая аснова
Толькі так да народа дайшла?
Не! Паэзія ставіць бар'еры
Перад выдумкай. Служыць яна
Тым, хто ў чары, шарады не верыць,
Хто імкнецца жыцця сэнс спазнаць.
Хто працуе натхнёна і шчыра
І сябруе з паэзіяй век,
Аддае той свой клопат руплівы
Роднай мове: хай вечна жыве!
1948

## Калі святло згасае над  зямлёй

Калі святло згасае над зямлёй
 І чорны покрыў ахінае хаты,
Нябёсы запалаюць нада мной,
Як каласальны і рухомы атам.
Трывожыць мара ужо каторы раз,
Што недзе там, ў другім канцы сусвету,
Квітнее сад, такі ж, што цешыць нас,
Іскрацца зоркі, свецяцца каметы.
І можа, там стаіць паэт другі
І з жалем думае, як я, пра тое,
Навошта на зыходзе год сваіх
Ён вечны атам марай непакоіць?
1948

Пераклаў з рускай Мікола Мішчанчук

# Крывіцкі апокрыф,
## са старадаўніх рунаў адчытаны
## Сяргеем Кавалёвым

### Скрутак першы. Белабог і Жыва

Быў сабе Бог. І была сабе Багіня. Спачатку яны жылі паасобку, кожны ў сваім свеце: Белабог на Небе, а Багіня-Жыва на Зямлі.

На Зямлі не было яшчэ ані дрэў, ані жывёлаў, ані людзей, толькі Багіня-Жыва ды Відмы, якія вакол яе раіліся і ёй прыслужвалі. Відмы ўзнікалі з пачуццяў Жывы і таму былі недаўгавечнымі, а Жыва пачувалася самотнай.

А з думак Белабога ўзнікалі Духі, якія віліся вакол Бога, але не прыносілі яму спакою. Усясвет, які мы ведаем і якім захапляемся, нарадзіўся з кахання Белабога і Жывы, але сталася так не адразу.

Першая сустрэча багоў скончылася сварбой. Бо Жыва была самотная, але ганарлівая, і Відмы бясконца нашэптвалі ёй ліслівыя слоўцы пра ейную прыгажосць. А Белабог быў мудры, але невымерна велічны, і неспакойныя Духі перашкаджалі яму схіліць галаву перад прыгажосцю Жывы.

Стыхіяй Белабога была музыка, якая гучала паўсюль, дзе ён з’яўляўся, але не ператварылася яшчэ ў мелодыю стварэння; страсцю Жывы быў танец, але таньчыла яна ў абсалютнай цішыні і не ведала рытму, які перайначвае бязлад у гармонію.

Калі загучала музыка і Белабог ва ўсёй нябеснай велічы з’явіўся перад Жывай, схамянулася Багіня і ўжо пусцілася было ў агністы танец, з якога мусілі нарадзіцца на Зямлі жывыя істоты, але раптам заўпарцілася і не схацела скакаць пад чужую дудку.

“Ты – Багіня, ты – Хараство, ты – Моц, ты сама можаш стварыць, каго

захочаш", – нашэптвалі Відмы. Адвярнулася ганарлівая Жыва ад Белабога, а Відмы выкацілі з таемнага месца вялізнае Яйка, якое спарадзіла Жыва са сваёй самоты. Пакрыўдзіўся мудры Белабог на ганарлівую Жыву, а яшчэ больш абурыла яго з'яўленне пачварнага Яйка, створанага з пыхі, а не з вялікага Кахання. Суцішыў музыку Белабог і адляцеў на Неба ў акружэнні раз'юшаных Духаў.

А Жыва ўзялася наседжваць Яйка, з якога мусіла з'явіцца дзіця Багіні, першая жывая істота на Зямлі. Вялікія надзеі ўскладала на гэтае дзіця Жыва, бачыла ў ім канец сваёй самоты, прагнула любові і цеплыні. Але не спраўдзіліся мары Багіні, бо няма ў адзіноце любові і той, хто не аддаў сябе, нічога не атрымлівае ўзамен. З Яйка вылупіўся Нелюдзь, брыдкае і недасканалае стварэнне: ні дрэва, ні звер, ні чалавек. Нават Відмы жахнуліся, убачыўшы яго і толькі Жыва працягнула дрыжачыя рукі да свайго няўдалага дзіцятка. Але Нелюдзь угледзеў у сумных вачах Багіні ўласную пачварнасць і люта ўзненавідзеў гэты свет, а больш за ўсіх сваю стваральніцу – Жыву. Укусіў ён працягнутую руку Багіні, рыкнуў злосна і ўцёк у цемру, схаваўся ў непраходнай багне.

Засмуцілася Жыва, апанавала яе туга вялікая і пачуццё віны: перад няшчасным Нелюдзем, перад адрынутым Белабогам, перад недастворанымі Усясветам. Стала Багіня сохнуць ды паміраць, а разам з ёй і ўся Зямля. Паляцелі Відмы на Неба, прабіліся праз акружэнне Духаў, сталі прасіць Белабога ўратаваць прыгажуню-Жыву.

Зміласціўіўся магутны Дажбог, зноў сышоў на Зямлю, загучала чароўная музыка, Жыва ачуняла, устрапянулася і пусцілася ў агністы танец. Духі і Відмы ўтварылі карагод вакол Багіні, якая таньчыла для Белабога, ахвяравала яму сваё Каханне. І тады музыка Белабога сталася мелодыяй стварэння, а ў танцы Жывы з'явіўся рытм, які перайначваў бязлад у гармонію.

Мінаў дзень за днём, а музыка Белабога не сціхала, ноч змянялася ноччу, а Жыва не спыняла свой танец. Неба і Зямлю з'яднала Каханне. Спачатку на Зямлі з'явіліся кветкі і дрэвы, потым рыбы, жывёлы, птушкі, і толькі людзі не прыходзілі на свет, бо памяць Жывы азмрочвала цень Нелюдзя. Тады мудры Белабог спытаў у Багіні, якое з дрэў ёй найбольш падабаецца. Жыва падышла да срэбранага ясеня і дакранулася да ягонага ствала. Белабог узмахнуў рукой і ператварылася выбранае Багіняй дрэва ў прыгожага хлопчыка.

Так на Зямлі з'явіўся Ясень – першы з людзей. Усцешылася пяшчотная Жыва, атрымаўшы цудоўнага сына. А магутны Белабог вярнуўся на Неба, якое не мог пакінуць без дагляду. Але Бог не забываўся на Жыву і часта адведваў яе і Ясеня.

## Скрутак другі. Ясень

Жыва апекавалася Ясенем і спасцігала радасць мацярынства. Пад наглядам Багіні хлопчык рос моцным і разумным. Зразумеў ён, чаму Сонца сыходзіць на Захад, а з'яўляецца з Усходу і чаму Месяц толькі паўтарае гэты шлях, а не выходзіць насустрач. Зведаў, які цяжар выпрабоўвае сузор'е Вагаў, і куды кліча самотная Паўночная зорка. Патрапіў мякка і бязгучна ступаць па Зямлі, але цвёрда стаяць на нагах падчас буры. Адчуў сутнасць агню – яму адкрылася існасць каменя, прызнаў братамі звяроў і птушак – яны перасталі лічыць яго ворагам. Навучыўся будаваць жытло, здабываць і гатаваць ежу, а яшчэ змайстраваў сабе дудку і граў на ёй у вольныя хвілі, чым вельмі ўсцешыў Белабога.

Багіня-Жыва не магла нарадавацца поспехам сына, адно толькі яе непакоіла: чым дарослей Ясень станавіўся, тым радзей усміхаўся, а ў вачах ягоных нараджалася нейкая туга. Неадольная сіла цягнула юнака да дрэў, гадзінамі мог ён сядзець на траве пад якім-небудзь вязам і ўслухоўвацца ў шэпт лістоты, нібыта хацеў зразумець мову дрэў. "Гэта самота. Наш сын не можа быць адзіным чалавекам на Зямлі", – пажалілася Жыва Белабогу, калі той чарговы раз спусціўся з Нябёсаў. Белабог зірнуў на Ясеня, які стаяў, абняўшы тонкі ствол маладой бярозы, нібыта хацеў навечна зрасціся з дрэвам. "Так, самота. Істота дрэва змагаецца ў ім з сутнасцю чалавека". "Трэба стварыць іншых людзей. Калі яны ўсе будуць падобныя на Ясеня, Зямля стане прыгажэйшай". "Так, але калі людзі заселяць Зямлю, на ёй забракне месца для Цябе". "Ведаю. Мой час завяршаецца...". "Нарэшце я забяру цябе з сабой на Нябёсы..." "Згода. Але спачатку... Ты памятаеш тую мелодыю, мой уладару?" "А ты не развучылася яшчэ таньчыць свой агністы танец, мая чараўніца?"

Так на Зямлі зноў загучала мелодыя стварэння. Жыва пусцілася ў агністы танец, Белабог узмахнуў рукой і ўсе дрэвы з бліжэйшага гаю ператварыліся ў людзей: мужчын, жанчын, падлеткаў, дзяцей. Толькі старых сярод іх не было, бо ўсе дрэвы ў гаі былі яшчэ маладымі. А ў абдымках Ясеня аказалася юная прыгажуня Бярозка... Затрымцела спалоханая дзяўчына, анямеў ад здзіўлення Ясень, а калі разняў рукі, усё роўна не мог адвесці вачэй ад Бярозкі, як і яна ад яго.

Людзі з чароўнага гаю разышліся па ўсёй Зямлі, хто бліжэй, хто далей, Ясень з Бярозкай сталі жыць разам. А Багіня-Жыва адляцела з Белабогам на Неба, пакінуўшы за сабой права раз на год наведваць Зямлю і сачыць за лёсам свайго сына. Відмы ж, якія прыслужвалі Жыве, не схацелі жыць на Нябёсах у таварыстве Духаў Белабога і засталіся на Зямлі, ператварыўшыся ў лесавікоў, вадзянікоў, русалак, ведзьмаў ды ў іншых дзіўных стварэнняў.

## Скрутак трэці. Ясень і Бярозка

Ні ценю тугі не засталося ў вачах Ясеня. Увесь навакольны свет напоўніўся каханнем да Бярозкі. Пра яе прыгажосць спявалі птушкі, яе голасам журчэў празрысты ручай, яе рукамі лашчылі юнака хвалі ляснога возера.

Пачаліся для Ясеня і Бярозкі часы шчасця, часы несамавітай еднасці дзвюх душ і двух целаў. З паўслова, з паўруху, з паўуздыху разумелі адзін аднаго закаханыя. Што Ясень падумае, Барозка скажа. Што Бярозка прыдумае, Ясень ужо зрабіў. Было ім радасна і працаваць разам, і адпачываць, сядзець за абедзенным сталом і гуляць па лесе, ляжаць у хмельных травах і спяваць песні. Ясень удасканальваў майстэрства грання на дудцы, а ў Бярозкі аказаўся чысты і прыгожы голас.

Калі Ясень хадзіў на паляванне, Бярозка ўпраўлялася з хатняй жывёлай. У полі працавалі разам, а каля хаты Бярозка разбіла маленькі агародчык і пасадзіла прыгожыя кветкі: астры, незабудкі, браткі, макі, званочкі, півоні. Унутры жытла са з’яўленнем гаспадыні стала цяплей і ўтульней і нават сонечныя промні часцей зазіралі цяпер у вокны невялікай хаткі Ясеня.

Праляцела як адзінае імгненне Вясна, прабегла, не затрымліваючыся на месцы Лета, а калі няспешнай хадой надышла пані Восень, і над Зямлёй, і над шчасцем Ясеня з Бярозкай навіслі цяжкія шэрыя хмары.

## Скрутак чацвёрты. Нелюдзь

Не толькі сонечныя промні зазіралі ў вокны хаткі Ясеня і Бярозкі. Сачылі за іхнім шчасцем нядобрыя, зайздросныя вочы. Нелюдзь выбраўся са сваёй нары ў балоце і падабраўся зусім блізка да чалавечага жытла.

Быў ён сведкам стварэння дрэў і жывёлаў, бачыў з укрыцця агністы танец Жывы, чуў музыку Белабога, якая напоўніла яго трывогай і болем. Хоць быў Нелюдзь пачварны з выгляду, але адчуў хараство боскай музыкі і з яшчэ большай сілай усвядоміў уласную недасканаласць. Узненавідзеў Ясеня, а потым і іншых людзей, але калі ўбачыў здалёк Бярозку, быў зачараваны хараством і дабрынёй, якія ад яе сыходзілі.

Вярэдзіў душу Нелюдзя пяшчотны голас дзяўчыны, гадзінамі мог ён слухаць зблізку, як Бярозка спявае пад гукі Ясеневай дудкі. Калі Ясень сыходзіў на паляванне, Нелюдзь падкрадаўся да хаткі і назіраў, як Бярозка палівае кветкі альбо падглядаў праз вакно, як яна завіхаецца ля печы. Нават калі Ясень і Бярозка кахаліся ў густых травах на беразе ляснога возера, Нелюдзь быў побач, услухоўваўся, углядаўся, а па начах скавытаў у сваёй нары ад неспатоленай жарсці і самоты.

Урэшце вырашыў Нелюдзь выкрасці дзяўчыну і прыцягнуць у сваё брыдкае логава. Але хараство Бярозкі выклікала ў яго нясмеласць, таму ён доўга не адважваўся здзейсніць задуму. Уважліва назіраў за Ясенем, як хлопец звяртаецца да дзяўчыны, як пяшчотна цалуе яе і горача абдымае. Зрабіў нават Нелюдзь вялізную ляльку з балотнай травы і, уяўляючы, што гэта Бярозка, вучыўся наследаваць паводзіны Ясеня. Бо не прымусу, не гвалту хацеў Нелюдзь, а любові ды пяшчоты, хаця і не мог на гэта разлічваць...

Вярнуўся аднойчы Ясень з палявання і не застаў у хаце сваю каханую. Кінуўся ён у лес, выбег на луг, спусціўся да возера, але не ўбачыў ані Бярозкі, ані чалавека, які мог яе выкрасці. Пазмрачнеў хлопец, загараваў і стаў збірацца ў далёкую дарогу. Бо не мог ён жыць без Бярозкі, як і яна без яго. Але перад тым, як адправіцца на пошукі, узмаліўся Ясень да Багіні-Жывы, звярнуўся да маці-прарадзіцельніцы па дапамогу...

У сваім логаве Нелюдзь адвёў Бярозцы лепшае месца, пазіраў на яе як на багіню, звяртаўся як да гаспадыні, а не як да нявольніцы. Але Бярозка толькі плакала і прасілася дадому, да каханага мужа. Слёзы дзяўчыны выклікалі ў Нелюдзя спачуванне, ён паспрабаваў суцяшаць дзяўчыну, але ягоны хрыплы голас і дотык ліпкіх рук яшчэ больш напалохалі Бярозку. Дзяўчына страціла прытомнасць, збянтэжаны Нелюдзь пакінуў няшчасную ў нары, а сам вырашыў яшчэ раз папрактыкавацца ў манерах на травяной ляльцы...

Пачула Багіня-Жыва літанні свайго сына і спусцілася з нябёсаў яму на дапамогу. Адразу зразумела Жыва, хто выкраў Бярозку, і паказала Ясеню дарогу ў логава Нежыця. Аб адным папрасіла Багіня хлопца: “Не забівай пачварнае стварэнне, якое пакваплілася на хараство і чысціню Бярозкі. Гэта твой няшчасны брат, народжаны з маёй пыхі і неразумнасці”. Але Ясень ужо імчаўся па паказанай яму сцяжыне, і не чуў апошніх слоў прарадзіцельніцы-Жывы...

Ачуняла Бярозка, агледзелася па баках, успомніла, як апынулася ў гэтай жахлівай нары і кінулася шукаць выйсця на волю. Ледзь чутны павеў свежага паветра падказаў ёй кірунак, дзяўчына выбралася з нары і ўбачыла дзіўнае відовішча. Страшыдла, якое выкрала яе, стаяла ўкленчыўшы перад вялізнай лялькай з травы і прызнавалася ёй у каханні амаль што словамі Ясеня...

І ўбачыў Ясень свайго лютага ворага, крыўдзіцеля ненаглядной Бярозкі. Вось ён стаіць перад любай, цягне да яе брыдкія лапы, дамагаецца спаўнення юрлівых жаданняў. Не раздумваючы, кінуў Ясень кап’ё ў пачвару, але якраз у гэты момант страшыдла адхіснулася і кап’ё працяла грудзі Бярозкі. Закрычаў Ясень нямым галасам, выхапіў нож і кінуўся на ворага, але тут пачуў крык Бярозкі і – які цуд – ягоная каханая, жывая і здаровая, выскачыла аднекуль з-пад зямлі і кінулася насустрач любаму. “Я тут, Ясю! Не забівай яго!” Так закрычала Бярозка, а Ясеня нарэшце дагналі словы Багіні-Жывы “Не забівай пачварнае стварэнне... Гэта твой

няшчасны брат...” Паглядзеў Ясень на брыдкага Нелюдзя, на працятую кап’ём травяную лялльку і апусціў нож. Нелюдзь узняў галаву і погляд, поўны пагарды, сустрэўся з поглядам, поўным нянавісці і бязмежнай зайздрасці.

## Скрутак пяты. Род

Мінула шмат гадоў. Ніштo больш не азмрочвала шчасця Ясеня і Бярозкі, якія жылі ў любові ды згодзе. З’явіліся ў іх дзеткі, спачатку два хлопчыкі, а потым дзяўчынка. Ясень узвёў новую, прасторную хату, падрослых сыноў неўзабаве стаў браць з сабой на паляванне, а маленькая дачка старалася дапамагаць маці дома і ў агародчыку. За хатай Ясень пасадзіў вялікі яблыневы сад, які ўвесну радаваў прыгажосцю, улетку ратаваў ад спёкі, а ўвосень даваў смачныя плады.

Людзі, якія некалі выйшлі з чароўнага гаю і разышліся па ўсёй Зямлі, спачатку сяліліся паасобку, як мага далей адзін ад аднаго. Але потым абзаводзіліся сем’ямі, гаспадарчымі клопатамі ды інтарэсамі, і сталі цягнуцца да сваіх суродзічаў. У розных месцах на Зямлі ўзнікалі маленькія паселішчы, вялікія вёскі, цэлыя мястэчкі. Вырасла невялікае паселішча і побач з жытлом Ясеня, а ён, як заснавальнік паселішча і старэйшы па ўзросту стаў выконваць абавязкі старэйшыны. Да яго прыходзілі параіцца ў гаспадарчых справах, яго прасілі рассудзіць суседскія спрэчкі, нават шлюбы адбываліся з ягонага прылюднага баславення, бо не было яшчэ тады святароў.

Не толькі праца ды будзённыя клопаты аб’ядноўвалі суседзяў. Вольнымі вечарамі збіралася ўся грамада ля хаты Ясеня. Мужчыны сядалі за вялікім дубовым сталом, пілі хмельны мёд і чынна размаўлялі; жанчыны мясціліся на лаве побач і абгаворвалі ўласныя справы, моладзь збіралася асобнай купкай, каб пасмяяцца ды пажартаваць, дзеці чародкамі насіліся па двары і па садзе. А потым Ясень браўся за сваю дудку, Бярозка зацягвала пранізлівую песню, астатнія жанчыны падхоплівалі, дзяўчыты і хлопцы вадзілі карагоды, дзеці з зайздрасцю глядзелі на старэйшых і таксама наладжвалі скокі.

У такі цудоўны вечаровы час, калі ўся грамада бавілася і весялілася, у глыбіні саду ўзнікала бывала дзіўная, нязграбная постаць. Самотны Нелюдзь, якому шмат гадоў назад Ясень дараваў ягоны ганебны ўчынак, часта прыходзіў пад хату Ясеня. Нелюдзь стараўся не трапляцца лішні раз на вочы гаспадару, іншых вяскоўцаў папросту баяўся, як і яны яго, але любіў бавіцца з дзецьмі Ясеня і Бярозкі. Тыя ўспрымалі яго як смешнага лесавіка, стварэнне непрыгожае, але не злое і надта забаўнае, ганарыліся перад іншымі дзецьмі такім незвычайным прыяцелем. Бярозка шкадавала небараку, частавала яго свежавыпечаным хлебам і нават даручала калінікалі самую простую хатнюю працу, якую Нелюдзь выконваў надзвычай старанна...

## Скрутак шосты. Чужынцы

Але не бывае на свеце нічога вечнага, тым больш не вечнае чалавечае шчасце. Пакуль Ясень і ягоныя суродзічы вучыліся радзіць сабе на Зямлі, на Небе пачаліся прыкрыя справы. Многія духі былі незадаволеныя тым, што Белабог стварыў людзей, а яшчэ больш не падабалася ім прысутнасць на небе Багіні-Жывы, з якой Белабог дзяліў сваю ўладу і веліч.

Адзін з духаў быў асабліва ганарлівы і прагны, ён абвясціў сябе богам, назваўшыся Чарнабогам і падбухторыў многіх іншых духаў паўстаць супраць Белабога і захапіць уладу на небе. Але не маглі створаныя з думак Бога духі зраўняцца магутнасцю з самім Стварцам ды і не ўсе з іх пайшлі за Чаранабогам. Белабог і верныя яму духі адужалі воінства Чарнабога і выгналі бунтаўнікоў з Нябёсаў. Навечна і без даравання.

Зразумеў Чарнабог, што не перамагчы яму Белабога ў адкрытым баі і вырашыў дзейнічаць хітра ды падступна. Надумаўся ён сапсаваць створаных Белабогам і Жывай людзей, усчаць паміж імі спрэчкі ды бойкі, пасеяць у чыстых душах зло ды зайздрасць, прагнасць да ўлады і багацця. Так на Зямлі пачаліся войны, а людзі, якія выйшлі некалі з аднаго чароўнага гаю, пачалі дзяліцца на плямёны ды народы, на сваіх ды чужынцаў…

Аднойчы, калі Ясень ды іншыя мужчыны роду былі на паляванні, на іх паселішча напалі чужынцы. Брудныя, каржакаватыя, апранутыя ў звярыныя скуры, узброеныя баявымі сякерамі ваяры ўламваліся ў хаты, шукалі немудрагелістыя каштоўнасці, бралі ў палон жанок і дзяцей. А тых, хто спрабаваў бараніцца, забівалі на месцы.

Калі двое чужынцаў узніклі нечакана перад хатай Ясеня, Бярозка і яе маленькая дачка парадкавалі кветкі ў гародчыку. “Уцякай! – крыкнула Бярозка дзяўчынцы, але было позна. Адзін з чужынцаў схапіў дзяўчынку, іншы насоўваўся з вяроўкай у руцэ на Бярозку. Кінулася Бярозка на таго ваяра, які трымаў яе дачку, і з усяе сілы штурхнула яго ў грудзі. Чужынец упаў, выпусціўшы ад нечаканасці руку дзяўчынкі. “Уцякай”, – зноў крыкнула дачцэ Бярозка, і спалоханая дзяўчынка пабегла ўцякаць, але… у хату. Ваяр з вяроўкай пераможна зарагатаў і зайшоў у хату, а другі ўстаў з зямлі, злосна вылаяўся і занёс над Бярозкай баявую сякеру. У гэты час з хаты данёсся страшны крык, чужынец затрымаў на хвіліну руку, Бярозка кінулася на дапамогу дачцэ, але яе дагнала сякера... Упала Бярозка на зямлю як падкошаная, а ў дзвярах хаты з’явіўся Нелюдзь, трымаючы за руку перапалоханую дзяўчынку. Убачыўшы перад сабой пачварнае стварэнне, ні чалавека ні жывёлу, чужынец анямеў ад здзіўлення, а Нелюдзь як віхор кінуўся на забойцу Бярозкі, учапіўся зубамі ў горла і перагрыз, як сапраўдны дзікі звер. “Мама, матуля!”, – закрычала дзяўчынка, падбегла да маці і прыпала да яе акрываўленага цела. Забіўшы

ворага, Нелюдзь кінуўся на дапамогу Бярозцы. “Ратуй маю дачку, сябра”, – паспела прашаптаць Бярозка, паміраючы. І сапраўды, быў чуваць тупат ног, да хаты Ясеня бегла яшчэ двое ваяроў. Нелюдзь схапіў спалоханую дзяўчынку на рукі і кінуўся праз сад у пушчу.

У паселішчы запалалі падпаленыя чужынцамі хаты…

## Скрутак сёмы. Смерць і Бессмяротнасць

Калі Ясень вярнуўся з сынамі з палявання, ён убачыў спаленую хату, а перад хатай – забітую жонку. Над целам маці плакала маленькая дачка, непадалёк сядзеў няўцешны Нелюдзь. Суседзі Ясеня не знайшлі на сваіх падворках нікога жывога. Дзе-нідзе перад спаленымі хатамі ляжалі трупы жанчын, якія таксама, як Бярозка, спрабавалі ратаваць сваіх дзяцей ад чужынцаў.

Пахаваўшы забітых, Ясень і дарослыя мужчыны адправіліся па слядах рабаўнікоў, пакінуўшы ў паселішчы падлеткаў і нявопытных у паляўнічай справе юнакоў. Доўга высочвалі дасведчаныя паляўнічыя сваю здабычу, зводзілі ў пасткі, забівалі здалёк, пакуль не зраўняліся колькасна з атрадам чужынцаў. І тады адбылася вырашальная бітва, у якой загінула шмат адважных паляўнічых, але не выйшаў з яе жывым ніводны чужынец і быў вызвалены вялікі палон. Многія жанчыны засталіся ўдовамі, а дзеці сіротамі, але былі і такія мужчыны, якія не знайшлі сярод палонных сваіх жонак альбо не далічыліся кагосьці з дзяцей. Слёзы радасці мяшаліся са слязамі гора і жалобы.

Загінуў у гэтай крывавай бітве і старэйшына роду, Ясень. Уздрыганулася на Небе Багіня-Жыва, адчуўшы смерць свайго сына. Разагнаў Белабог цяжкія хмары, каб не заміналі душам загінуўшых ляцець у вырай. З’ядналіся ў выраі душы Ясеня і Бярозкі, ніхто ўжо не мог разлучыць іх і скрыўдзіць, як і душы іншых закаханых.

Дзеці Ясеня і Бярозкі пасадзілі на магіле бацькоў два дрэўцы: ясень і бярозу, каб засталася у людзей памяць пра іх паходжанне і слаўнае жыццё. Паселішча адбудавалася, на месцы папялішчаў выраслі новыя хаты, утвараліся новыя сем’і, месца загінуўшых падчас чужынскага нападу занялі іх дзеці. Неўзабаве старэйшы сын Ясеня абзавёўся ўласнаю сям’ёй, а потым і ягоны брат, непрыкметна вырасла і расквітнела іх сястра, зачараваўшы не адно юначае сэрца. Род не загінуў, выстаяў і прыўмнажаўся слаўнымі справамі і намаганнямі нашчадкаў Ясеня і Бярозкі.

Толькі адна істота засталася самотнаю і няўцешнаю на гэтым свеце. Над магілаю Ясеня і Бярозкі часам можна было ўбачыць дзіўнае калматае стварэнне – ні чалавека, ні звера. Не ведалі вяскоўцы, што гэта за пачвара, адкуль з’яўляецца на магіле старэйшыны роду. Жагналіся людзі баязліва і не адважваліся падыходзіць блізка. А пачвара гадзінамі сядзела пад кронаю прыгажуні-бярозы, раскалыхвалася ў такт ветру, паглядаючы то

на магілы, то на неба, то на дудку-жалейку ў сваіх руках. Потым падносіла дудку да вуснаў, спрабавала граць, але ніводнага гуку не выводзіла з інструменту. На вачах дзіўнай істоты з’яўляліся слёзы, з горла вырываўся адчайны звярыны рык,  а выпадковыя наведвальнікі могілак разбягаліся ў жаху хто куды…

На бяду Нелюдзя Багіня-Жыва стварыла яго бессмяротным.

# Анка Упала

## Казкі

### Курукіца

Як завецца курукіца, я памятаю. Курыкраціца, ага. Зараз апавяданьне вам распавяду. Пра гэтую жывёлу.

Каламутная птушка ўзьвяла на Дзеда цяжкі позірк.

— Дзед?

Дзедавы плечы ўздрыгануліся ад гукаў яе змрочнага голасу.

— Што? — Незаўважна для іх уладальніка Дзедавы пальцы імкнуліся парваць вышываную насоўку — падарунак Бабы.

— Яйка. — Курыныя вочы, круглыя, бязьлітасныя, жоўтыя, сьвідравалі Дзедаву падсьвядомасьць. — ( з польскім акцэнтам) Дзе тое яйка, што зьнесла я сёньня?

— Яйка?

На апошнім складзе голас у Дзеда сеў. Зь цьмянай надзеяй ён паглядзеў у куток хаты, дзе са столі маркотна зьвісала вязка бройлерных мухаў на карычневым павуціньні.

— Яйка! — цьвёрда вымавіла кура. Металёвыя гукі білі Дзеда па галаве.

— Яно э-э-э-э...

— РазьБІлася?!! — Страшна крыкнула Раба. На барвовым чубе ўспухлі вены. — Яно разьбілася, ты хочаш сказаць?!! ТЫ яго біў?!!

Дзед ускінуў рукі і закрыў імі вушы, шчэ больш уціскаючыся ў сьпінку крэсла.

— Біў.

Патухлыя вочы Дзеда былі ціха заплюшчаны.

— І Баба біла?!!
— І Баба... Яна таксама...
— А Мышка?!!
— Мышка… хвосьцікам збольшага...
На Дзеда жудасна было глядзець. Рукі яго бязвольна зьвісалі. Бялкі вачэй (страшнае слова «бялкі»... і «жаўткі») падаваліся шэрымі. Мокрая насоўка, Бабін падарунак, валялася на падлозе.
— Хвосьцікам, значыцца, — задумліва вымавіла кура, раптам перастаўшы раўці і прыкрыўшы вочы павекамі. — Вось што, Дзед. — Дамашняя ўлюбёнка нахілілася, і яе цяжкія мазолістыя рукі леглі Дзеду на плечы. — Я зараз выйду — у двары сякера...
Дзед зглытнуў.
— ...А я за пуню, — тоўстымі валасатымі пальцамі кура паскрэбла азадак у шэрых пёрках. — Зьнясу яшчэ адно яйка.
Разагнуўшы шырокую голую сьпіну і апусьціўшы крутыя плечы, што ў руху ўзгорваліся магутнымі мышцамі, Раба пацягнулася прэч.
Канец казкі.
Дзед павольна завальваецца ўбок.

## Балахон Балахонавіч і Злая Вавёрыца

*Беларуская каворная казка*

Сярод драмучых лясоў ды багавіньня, дзе і цяпер дротавая тэлефонная сувязь не праведзена, у Чачэрскім павеце на беразе возера стаяла некалі хатка зь бярвеньня. Жыў ды быў у ёй Балахон Балахонавіч з малымі дзеткамі балаханяткамі. Жылі яны не тужылі. Хадзіў Балахон Балахонавіч з ружжом паляваць зайца, вепрука, лісу, ваўка, крота, птушку дзікую… Часам, бывала, і на медзьмядзя хадзіў. Гарод таксама трымаў, дзе вырошчваў розныя прадукты і карняплоды. Усяго было ў іх багата. Увосень салілі яны баклажаны. Узімку катаўся Балахон Балахонавіч зь дзіцятамі па возеры на каньках. Увесну ўжо не катаўся. І ўлетку таксама.
Але вадзілася непадалёк ад хаткі злая вавёрыца. Сьцеражыліся яе малыя балаханяты. Пойдзе Балахон Балахонавіч паляваньне паляваць, а малым балаханяткам накажа дзьверы замыкаць, нікому не адчыняць і сядзець пад лавай ціха, бо прыйдзе вавёрыца і будзе ў хаце лютаваць. Так яны і рабілі.
І вось сабраўся аднойчы Балахон Балахонавіч крота паляваць. Зьняў з паліцы ружжо, абматаўся кулямётнымі лентамі, стаў на лыжы і кажа балаханятам:
— Ня будзе мяне тры дні і тры ночы, у суседні павет іду, крота паляваць. Take care, мае дзетухны, кашу сабе варыце з круп, што ў куце ў меху стаяць, на двор не выходзьце, на каньках пакуль безь мяне не

катайцеся. А калі прыйдзе вавёрыца злая, сядзіце ціхютка, як вады ў рот набраўшы, каб яна думала, што нікога няма дома.

Паабяцалі балаханяты паводзіць сябе, як бацька кажа.

Мінуў дзень, мінула ноч — сядзяць балаханяты пад лавай. Як есьці захочуць — вылезе хто-небудзь адзін, кашкі наварыць. Мінуў другі дзень, мінула другая ноч — сядзяць балаханяты пад лавай, як бацька сказаў.

Надыйшоў трэці дзень. Думаюць балаханяты, што сумна пад лавай увесь час сядзець — і вылезлі. А ў вакно тым часам вавёрыца зазірнула. Бачыць, што дурненькія балаханяткі адны дома і ўжо грукаецца ў дзьверы:

— Рабятухны-балаханятухны, адчыніцеся-адамкніцеся, гэта я, добрая вавёрыца прыйшла!

Спужаліся балаханяты і адказваюць так: —Нам бацька сказаў табе не адчыняць. Ідзі адсюль, пакуль жывая!

А вавёрыца добранькім такім галаском і кажа: — Ды я ж за канькамі прыйшла, я іх некалі ў вас забыла. Што вы як ня людзі?

Думаюць балаханяткі: можа і праўда вавёрыца канькі забыла, усялякае ж бывае… і адамкнулі дзьверы.

Вох! Забегла вавёрыца ў хату, пахапала ўсіх балаханятаў, у мех з-пад крупаў паклала і завязала на чацьвярны марскі вузел. А сама па шуфлядах ды па шафах шукае.

Вынесла яна ўсе рэчы, дарагія сэрцу гаспадароў: футра чорнае, футра краснае, футра заморскае баклажаннае — будзе цяпер ў чым сьвецкім жыцьцём займацца драпежніцы! І зьбегла яна ў лясы.

На чацьвёрты дзень вяртаецца бацька Балахонавіч дадому зь цяжкім кротам за плячыма, бачыць — дзьверы адчыненыя, усе шафы пустыя, і балаханятаў нідзе няма. Заплакаў ён горка:

— Ах вы дзетачкі мае, балаханятачкі, маленькія-дурненькія. Навошта адчынілі вы дзьверы хітрай вавёрыцы, ці не папярэджваў я вас, што падступства ёй не займаць? Відаць, зьела яна вас...

А тут мех з крупамі пад ногі Балахону Балахонавічу пакаціўся: коціцца і папісквае! Што такое?

Разьвязаў бацька мех — а зь яго сямёра балаханятаў, адзін аднаго прыгажэйшы, усе жывюткія і здаравюткія! Расцалаваў Балахон Балахонавіч балаханяткаў і кажа:

— Вось цяпер, дзеткі мае, вы і самі ўбачылі, на што вавёрыца здатная! Ніколі больш ёй ня верце! Футра я іншага здабуду, у школьным гардэробе. А цяпер сядайма крота есьці!

І зладзілі Балахон з балаханятамі ў хатцы пір! А вавёрыца стаілася да пары да часу.

Хто казку слухаў — патыліцу чухаў, хто казку прачытаў — той дзяржаўнага розуму чалавек.

# Паліто

Ірыне Зьвярковай

Жыла была аднойчы жоўтая хатняя мыш і звалі яе Іхка. Па памеры малая, па розуме вельмі разумная. Захацела аднойчы Іхка набыць сабе каштоўнае паліто зь пясцамі, каб ні ў кога гэткага не было. Прыходзіць яна ў краму дый кажа:

— Гэй, цёткі! Давайце сюды паліто! Пакупніца па яго прыйшла!

Прадавачкі на мыш не зьвяртаюць увагі. Нават і ня чуюць, што нехта пішчыць. Іхка тады на прылавак узьлезла і западскоквала:

Куп! Шла!
Па! Ні! Прый! Па! Лі!
Я! Ца! Па! То!

А ўсё ж ня бачыць ніхто Іхку, бо памер у яе дробны. Яшчэ так няўдала склалася, што прылавак жоўтага колеру быў. Іхкі і нябачна!

Узяла тады мыш гучнагаварыльнік і ўжо крычыць у яго:

— Паліто, кажу, нясіце! Я з грашыма прыйшла!

Тут яе ўрэшце прадавачкі заўважылі. Рагочуць, гледзячы, як мыш з гучнагаварыльнікам мітусіцца, а паліто не нясуць, бо па-мышынаму не разумеюць.

Раззлавалася тады Іхка, падбегла да паліта, схапіла яго за пясцовы каўнер і пацягнула да дзвярэй. І ніхто яе не спыніў, бо сьмяяліся ўсе аж да непрытомнасьці.

Так цягнула мыш паліто да самай да нары. Бач, прыдбала яго задарма. Толькі адно дрэнна: у нару-та паліто ня лезе і, пакуль па вуліцы волакам цягнута было, сапсавалася і таварны выгляд згубіла.

— Вось і хадзі, як дурная, па польты, — падумала Іхка. — Цьху на вас!

Так яна зараз і жыве без паліто.

# Сьпявачка

Прыдумала Іхка геніяльную прыдумку – стаць опернай сьпявачкай. Хоць оперу толькі па тэлевізары чула. Ну, каб сьпявачкай зрабіцца, трэба што? Па-першае — тлустасьць вялікая, бо опэрныя спявачкі важаць за сто кіляграмаў усе як адна. А вядомыя, дык яшчэ і болей. Па-другое, неабходны голас высокі, пранізьлівы. Гэта акурат было ў наяўнасьці. Іхка ж — мыш. Яна нізкім голасам і ня ўмее, толькі пішчыць, асабліва, калі хто не заўважыць (а гэта часта здараецца) і наступіць на хвост. Ён паплюшчаны пасля гэтага бывае, але опэрныя сьпявачкі такія сукенкі

носяць, што пад імі любы хвост схаваць можна. Карацей, справа была вырашаная. «Хутка, — думала мыш, — пабачыць сьвет новую сьпявачку, незвычайную, ня горш за Мансэрат Кабальe!»

Найперш узяла мыш бабульчыну швейную машынку і пашыла сабе сукенку. Тут так усё ружы, ружы, ружы, пасярэдзіне тыгр з аскаленай пашчай, а па падоле — беларускі арнамент. Стылёвасьць перш за ўсё.

Далей — дыета. Каб вагу набраць, насела Іхка на калярыйныя прадукты. Кожны дзень салам, каўбасой, варанымі яйкамі з маянэзам, булкамі, цукрам, макаронамі харчуецца. Не патрыятычна, але ж і «кока-колай» часам запівае. А калі дык і півам. Ну, і што? На гэтым і пракалолася. Ня тое, каб дыета зусім не дапамагла вагу набраць. Дапамагла. Толькі з чалавечай мышыная тлустасьць не параўнальная: важыла Іхка дваццаць пяць грам — паправілася ўдвая, а далей нешта ня ідзе. Скурка на Іхцы расьцягнулася, бровы зрабіліся зьдзіўлена прыўзьнятымі, вочкі вялікімі і круглымі, а рот заўсёды крыху прыадчыненым — такое нацяжэньне атрымалася! Ужо і па два яйкі ў дзень зьядала, а больш не таўсьцееецца.

Так і ня здолела Іхка стаць опернай сьпявачкай. Хоць жаданьне было вялікае, ды і сьпявае ж добра! Як, бывала, сяброўкі да яе прыйдуць, зацягне яна песьню. «Мыш жыве пад зямлё-о-ю, мыш жыве пад асфальтам!» Сяброўкі неўзабаве і пойдуць. Пэўна, слёз стрымаць не могуць, так іх, бывала, і трасе ад расчуленасьці.

А тлустасьць у Іхкі хутка спала — харчы скончыліся. Адзінае, што некаторы час яна да сабакі шарпэя была крыху падобная.

## Омава жыцьцё

Ужо ня памятаю, як я першы раз пачула пра закон Ома. Ды не пра таго Ома, пра якога вы падумалі. Таго, пра якога вы падумалі, хутчэй за ўсё ўвогуле не было. Альбо было, але ня так, як вы сабе ўяўляеце. Ну, цемра! Усё вам трэба тлумачыць! Але настрой-такі крыху лагодны ў мяне, таму распавяду.

Даўным-даўно дзесьці ў дзебрах Эўропы жыў-быў Ом. Быў ён добры і ціхмяны пан, таму ўсе суседзі клікалі яго дзядзечкам, а шматпакаёвую кватэру, дзе ён жыў, адпаведна «хацінай дзядзькі Ома». Як мы ўжо адзначылі, Ом быў надзвычайнай дабрыні чалавек, але часам несьвядомыя суседзі даймалі яго такой дражнілкай:

Тоўсты лысы дзядзька Ом
Мыўся толькі кіпянём —
І цяпер у дзядзькі Ома
Рэдка ўсе бываюць дома.

Паколькі Ом ніколі кіпенем ня мыўся (тут трэба адзначыць, што ён увогуле рэдка займаўся гігіенай: у сярэднявеччы тое быў маветон), дзядзька вясёла ўсьміхаўся ў вусы і пачынаў бегаць за суседзямі з паленам — простыя сярэднявечныя норавы. Суседзі паказвалі Ому язык і зьбягалі, бо няма прыёму супраць Ома і фізічна супраціўляцца яму сэнсу няма. З тых часоў фізічную адзінку супраціўленьня клічуць «омам», хаця ад пачатку яна неяк інакш называлася.

Жонка Ома кахала і казала ўсім: «Мой Ом — мая крэпасьць», пры гэтым заўважаючы, што ў яе-та муж быў першы і заўжды Омам.

Вось такі быў гэты Ом штукар, і законаў ён не прыдумляў. А тое, што некаторыя кажуць, што Ом — гэта нямецкі фізік XIX стагодьдзя, дык тое няпраўда для школьнікаў і студэнтаў. Чэсна-чэсна!

## Ылк

*Аляксею Салонку*

Вось яшчэ вам распавяду, што ў лесе жыве Ылк. У Ылка рогі, у Ылка капыты немалыя. А хвосьцік у яго мале-енечкі. У вялікім патрэбы няма. Жыве ён, дзе давядзецца. Ну, і ад падвіду залежыць. Дупляны Ылк — той па большасьці ў дупле, а норнага, зразумела, можна адшукаць у нары, калі ён па лесе ня бегае. Хоць, ведаеце, і наадварот часам здараецца. Памяць у Ылка аніякая — тыдыц, калі па-шчырасьці сказаць. Забудзе Ылк, што ён норны, — дый шасьць у дупло, вось табе і капытны! Ужывае ён мюсьлі паціснутыя, альбо біфідакефір. А для госьцейкаў дарагіх у яго запаветны збанок прыпасены. І што ён у ім захоўвае, Ылк-гаспадар ня ведае, бо сам адтуль — ні-ні.

Дзяўчаты, якія дасьведчаныя, любяць на Ылкаў паляваць, асабліва талакою. Яно і зразумела: Ылк — сымбаль плоднасьці і мужчынскага хараства. Якая дзяўчына Ылка за бараду ўхапіла — тая ўжо неўзабаве замуж і пойдзе. А за хвост яго хапаць ня тое што нельга — бессэнсоўна: поўнагадовы Ылк яго адкідае на манер яшчаркі, а дзеўцы — кукіш. Іншыя дзяўчаты, здараецца, і малін назьбіраюць дый Ылку ў мюсьлі пнуцца насуваць. Дык ці возьмеш яго тым? Тое і ёсьць, што не.

****

Хамстэр — наадварот, жывёла танная і нявартая. Разам з самкай-хамстэрыхай ён падгрызае тоўстае дрэва, покі яно не паваліцца каму-небудзь на купал, робіць у ім кватэру і жыве ў ёй да старасьці. Галоўнае — тэлевізар.

У пяцьдзесят год хамстэр абавязкова выйграе ў латэрэю. Ды не па дробязі! «Супэр-ляпто», прыкладам. У яго бяруць інтэрв’ю і на пытаньне

пра яго ўлюбёны занятак хамстэр адказвае: «Занімаца сэксам». Болей пра хамстэра няма чаго казаць. На гэтым ён скончваецца. Такі хамстэр.

## Магілёўская амбасада

Ці задумваліся вы калі-небудзь пра тое, што ўсе ліфты Беларусі невыпадкова выраблены на адзіным у нашай краіне ліфтавым заводзе — у Магілёве?

Паспрабуйце ўважліва паназіраць, як магілёўцы карыстаюцца ліфтам па-за межамі роднага горада: заходзячы ў яго, яны зьлёгку, каб было незаўважна, разводзяць рукі, альбо, калі гэта немагчыма, хаця б крыху адтапырваюць палец. Навошта? — запытаецеся вы. А справа ў тым, што для ўраджэнцаў Магілёва кожны ліфт — гэта энэргетычная капсула. Такім чынам яны падлучаюцца да hot spots з роднай зямлёй, па дзьве жмені якой уштукоўваюць у сьцены ліфта ласкавыя рукі ліфтабудаўнікоў.

Калі ўраджэнец Магілёва праводзіць далоньню ўздоўж сьценкі ліфта, у тым месцы, дзе за панэльлю хаваецца родная яму зямля, ён адразу адчувае гарачыню. Але калі вы папросіце яго паказаць гэтую кропку, ён адмовіцца, з саркастычнай усьмешкай скажа вам, што там нічога няма і папросіць вас не тлуміць яму галаву. Магілёўцы ня любяць дзяліцца сваімі таямніцамі. Гэта тая самая качка, у якой схаванае яйка, у якім схаваная магілёўская іголка. Але я вам давяраю, мае чытачы, і таму расказваю ўсё гэта. Кожны наш ліфт — амбасада Магілёва ня толькі ў любым горадзе Беларусі, але і за мяжой. Менавіта ў ліфце сапраўдныя магілёўцы адпачываюць душой.

Разумею горыч тых беларусаў, якія б і хацелі духоўна падсілкоўвацца ў ліфце, але ня могуць. Маленькі сакрэт: калі падчас падарожжа з паверха на паверх вы ўбачылі цэтлік “Магілёўліфтмаш”, прыцісьніце да яго палец і едзьце да канцавога прыпынку — па выхадзе зь ліфта адчуеце сябе лепей. Такая жыватворчая моц у нашай зямлі і нашых цэтлікаў.



Ягор Хлябіч, *Кілім 2008*

Да 85-годдзя Тадэуша КАНВІЦКАГА

# JESTEM CZĘŚCIĄ ŻYWEJ BIAŁORUSI

## Rozmowa z TADEUSZEM KONWICKIM

*Гэтае інтэрв'ю выдатны польскі пісьменнік Тадэуш Канвіцкі даў Тэрэсе Занеўскай на пачатку дзевяностых гадоў, у той час, калі валіліся сцены адной эпохі і вырысоўваліся абрысы новай, калі народы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы захапіліся рэвалюцыйным пафасам сацыяльна-эканамічнай перабудовы, палітычнай свабодай, разняволеннем у нацыянальнай сферы. Адным гэты працэс даваўся лягчэй і хутчэй, іншым – са скрыпам. Беларусь як бы і не скранулася з месца.*

*Польшча, што само сабой разумеецца, заўсёды пільна назірала за сваёй усходняй суседкай. У навейшай гісторыі Польшчы можна выдзеліць тры спосабы вырашэння для сябе праблемы Беларусі: ваенна-мілітарны Ю. Пілсудскага, чыста асветніцка-палітычны Е. Гедройца і, скажам, аўтаномна-суверэнны Т. Канвіцкага. Прынамсі, ягоныя выказванні аб Беларусі, ранейшыя і пазнейшыя – у літаратурна-мастацкіх кнігах, эсэістыцы, інтэрв'ю – даюць падставы рабіць высновы пра існаванне і трэцяга ў Польшчы пункту погляду на Беларусь. Варта прыслухацца да голасу знакамітага пісьменніка, які глядзіць на яе, мабыць, найшырэй, найбольш аб'ектыўна, разумеючы і падкрэсліваючы так выразна інтарэсы саміх беларусаў.*

*З той пары, як з'явілася ў друку гэтае інтэрв'ю Т. Канвіцкага, прайшло амаль дваццаць гадоў. Але ж і сёння яно для Беларусі гучыць актуальна. Здзіўляе пісьменніцкая і творчая празорлівасць, і трапнасць пастулатаў, і свежасць назіранняў, і балючасць шматлікіх ацэнак.* (Рэд.)

**Wychował się Pan w tyglu narodowościowym, na pograniczu kultur. Jak to pogranicze wpłynęło na Pańską osobowość?**

Muszę zacząć od sprawy ogólniejszej, jeśli Pani pozwoli. Jestem mianowicie przekonany o istnieniu pewnego fenomenu w tej części Europy, który by można było nazwać zjawiskiem podwójnej tożsamości albo częściowo nakładających się tożsamości. Ja nie jestem polskim paniczem, który wielkodusznie interesuje się Białorusią. Nie jest Białoruś moim konikiem czy hobby, ja odczuwam ją bardzo osobiście. I tutaj powiem ku rozdrażnieniu polskich nacjonalistów, że może w innych warunkach życiowych, może ja bym w ogóle optował za Białorusią. Z czego to się wszystko bierze? To się bierze, oczywiście z historii, z tego kiedyś patriotyzmu dawnej Rzeczypospolitej, który pod koniec dziewiętnastego wieku i w tym wieku wyostrzył się w pewne — powiedzmy sobie — nacjonalizmy ostro zarysowane, dynamiczniejsze i bardziej konfliktowe.

Ile jest we mnie Białorusi, a dotyczy to w jakiejś mierze też Litwy, trudno mi powiedzieć. Pierwiastek białoruski odgrywa rolę w mojej biografii, w moim sposobie myślenia. I sądzę, że gdyby jakiś uważny znawca stylistyki przyjrzał się temu co piszę zauważyłby też coś, co mnie odróżnia od innych kolegów tutaj piszących.

Na Białorusi odbywały się procesy polonizacyjne. Kiedyś były one wątłe, nie dotyczyły całego społeczeństwa tylko warstwy szlacheckiej, która nigdy nie wyrzekała się tego co w cudzysłowie można by nazwać żartobliwie „tutejszością”. Poza tym odbywał się proces odwrotny, to znaczy do Korony wchodziły silne pierwiastki białoruskie. Drogą wymian posagowych, rodzinnego nabywania dóbr, wchodzili głęboko w Koronę Sapiehowie, Pacowie, Tyszkiewiczowie, Chreptowiczowie i inni przedstawiciele szlachty, którzy mieli rodowód bojarski czy kniaźniczy. Więc te obustronne procesy wpłynęły na to, że są to dwie płyty, które zaszły na siebie, które stanowią fenomen europejski. Trudno mi go określić — to nie jest zderzenie dwóch światów, dwóch narodów, dwóch jaskrawych społeczności, od którego to zderzenia lecą iskry. Zaznaczam, że dotyczy to w jakiejś mierze Litwy. Powstało coś bardzo dziwnego i bardzo płodnego.

W tym momencie historycznym nacjonalizm białoruski musi się stawać coraz bardziej agresywny, dynamiczny, a może nawet w jakiś sposób zaborczy, ponieważ jest to szansa uformowania się do końca tożsamości białoruskiej, która jest z wielu względów — historycznych i cywilizacyjnych — ciągle słaba. Białoruś w tej chwili, ku mojej rozpaczy, przypomina człowieka, który jeszcze nie jest reanimowany, jeszcze nie uderzyło mu pełnym rytmem serce.

Ta moja preambuła, ten mój wstęp jest strasznie ważny chociażby z tego względu, szczególnie jeśli o Polskę chodzi, żeby w tym co mówię i o czym mówię nie było nuty filantropijnej, formy wyrozumowano-charytatywnej, żeby w tym nie błąkał się protekcjonalizm. Przez długie lata Białoruś przypominała krótką kołdrę. Z jednej strony ciągnęli Polacy, z drugiej strony ciągnęli Rosjanie. Jako wielbiciel Rosji mam prawo też coś powiedzieć o tym ciągnięciu ze wschodu Białorusi. Mnie się wydaje, że Białoruś w życiu duchowym Polski i nie tylko duchowym — bo w każ-

dym innym — jest niezwykle ważna. W polskości białoruskość ma bardzo wielki ciężar gatunkowy chemiczny, podczas kiedy dla Rosji Białoruś jest mało znanym i mało interesującym regionem rosyjskim.

Przejdźmy teraz do rzeczy drastycznych, bo mi wolno mówić rzeczy drastyczne. Jeśli chodzi o drugą wojnę światową, to — sądzę — ciągle się dzieją krzywdy właśnie dla tożsamości Białorusinów. Na Białorusi wciąż hula huraganowy patriotyzm radzieckiej wojny ojczyźnianej. Otóż ja, tu przepraszam bardzo, nie jestem pewien czy ta wojna była o Białoruś. Nie jestem pewien czy Białoruś miała wielkie interesy w tej wojnie. Patriotyzm radziecki na Białorusi został wymuszony przez ogromną partyzantkę radziecką. Wieś białoruska była pacyfikowana przez hitlerowców, ale była też i eksploatowana, używając tego delikatnego słowa, często w nieludzki sposób właśnie przez partyzantkę radziecką. I mnie się wydaje, że Białoruś — przy bardzo wątłej swojej własnej, osobistej historii — musi doceniać wszystkie odruchy społeczne, które miały lub mają na celu ratowanie tożsamości białoruskiej.

Pamiętam, w czasie wojny zjawili się w Wilnie profesorowie Uniwersytetu Mińskiego. Pomagali przy zakładaniu szkolnictwa białoruskiego na Wileńszczyźnie. Tutaj dodam bardzo ciekawy szczególik: nasze środowiska AK-owskie usposobione bardzo patriotycznie, nawet powiedziałbym histerycznie w tym względzie, jakoś patrzyły pobłażliwie na tych kolegów, którzy poszli do gimnazjów białoruskich. W naszym tamtejszym przekonaniu nie oznaczało to jakiejś zdrady, pójścia na współpracę z okupantem, a po prostu okazję do rozwoju języka i wiedzy o Białorusi. Oczywiście, przypuszczam, że po wojnie ci profesorowie zostali przez władzę radziecką rozstrzelani albo powywożeni. Ale my nie możemy zachowań białoruskiej inteligencji w czasie tej ciężkiej wojny oceniać z punktu widzenia Polski czy Polaków, ponieważ w interesie Białorusi zawsze było ratowanie tego, co się da ze skromnego białoruskiego dorobku.

Próby młodych historyków białoruskich spojrzenia na jakby autonomiczny, własny interes Białorusi w ciągu ostatnich siedemdziesięciu, pięćdziesięciu lat spotykają się z natychmiastowym tupaniem nogami zsowietyzowanych historyków, którzy szantażują cały czas swych kolegów hitleryzmem, faszyzmem i Bóg wie jeszcze czym. Tymczasem nie ulega wątpliwości, że należy na historię białoruską patrzeć immanentnie, z punktu widzenia skromnych, ciągle jeszcze niewielkich interesów Białorusi. Białorusini nie byli głęboko zainteresowani w obronie kraju, który dość po macoszemu obchodził się z Białorusinami. Ale zwróćmy uwagę, że Białorusini się zachowali bardzo lojalnie, bo walczyli w 1939 roku, sporo ich zginęło, sporo poszło z Andersem, czyli wobec tego państwa, jakiego czuli się obywatelami, zachowali się lojalnie, nie mówiąc już o partyzantce AK-owskiej, w której bardzo często brali udział w obronie tej właśnie swojej „tutejszości”. Nie należy o niej mówić tylko negatywnie, ponieważ w terminie „tutejszość” zbiegają się te wszystkie historyczne wątki wspólne Polakom i Białorusinom.

Oczywiście, trzeba tu powiedzieć, że Białorusini brali udział w partyzantce AK-owskiej częściowo z pewnego rodzaju przymusu, o którym by

można było tu dużo mówić. Podobnie jak z przymusu brali udział w partyzantce radzieckiej — z przymusu, z okoliczności, bo inaczej nie dało się wyżyć na tych terenach tak ciężko dotkniętych.

Musiałem o tym wszystkim powiedzieć. To byłby mój apel do nauki, żeby obok tych dobrych chęci, tego pięknego humanizmu, który się okazuje słabszym, żeby się jednak zainteresowała głębią tego procesu. Jest coś w tym. Coś w tym jest, że ja, który miałem też lekkie polskie podrygi nacjonalistyczne, skrywane w duchu, jednak czuję się w jakiejś części Białorusinem. Ja oczywiście tego nie demonstruję, ale ja przez cały czas tą Białorusią najgłębiej się interesuję. Interesuję się — nie z ciekawością obiektywnego obserwatora, tylko mnie to boli. Nawet rozumiem te histerie Sokrata Janowicza, które swego czasu wybuchały nieeleganckim barbarzyńskim wrzaskiem nacjonalistycznym. Rozumiem, ponieważ jest to rozpacz społeczności przypartej do muru. A były takie momenty, kiedy wydawało się, że nie ma nadziei. Teraz są, paradoksalnie, okoliczności najpomyślniejsze jak nigdy dla rozwoju Białorusi. Ale co ja mam mówić, kiedy widzę w telewizji nauczycielkę z Mińska, która tłumaczy, że Białorusini boją się posyłać dzieci białoruskie do Polski, ponieważ zapominają one u nas język rosyjski. No to w tym momencie ja już się poddaję... Oczywiście, boli mnie, umieram z bólu jak czytam, że w Mińsku 3,8% ludności mówi po białorusku, a nie chce znać tego języka 40%.

Chcę przez to powiedzieć, że powinna nastąpić radykalizacja pierwiastka białoruskiego. Białorusini polscy, Białorusini z Anglii, Białorusini z Kanady, Białorusini gdzie by nie byli powinni runąć na Białoruś, żeby wziąć udział w jej reanimacji. Musi w pełni zagrać nacjonalizm, po to, żeby umożliwił funkcjonowanie Białorusi jako kraju, państwa. Państwa z historią, z pewną własną cywilizacją, z pewnym skromnym, ale dorobkiem ogólnoeuropejskim — chociażby przez tę część, którą Białoruś włożyła w kulturę polską.

Cywilizacja, cywilizacja... Otóż jadąc z Wilna do Bolciennik przejeżdżało się przez symboliczną granicę między Litwą radziecką a Białorusią radziecką. Po przekroczeniu tej niewidzialnej granicy widziało się społeczeństwo dwukrotnie bardziej zubożałe cywilizacyjnie i po ludzku znacznie mniej wykształcone, mniej wyrobione. Wiemy jak to było przed wojną z Białorusią. Władza radziecka dała tam parę fabryk traktorów, zelektryfikowała jakąś część wsi. Ale rozwój cywilizacyjny bez kulturowego, bez duchowego okazuje się właściwie niczym.

Ja bym apelował o rozwagę do moich rodaków, do społeczeństwa polskiego, które tak bardzo często jest dziś lekko osłupiałe przy rewindykacjach w sferze duchowej czy kulturalnej Białorusinów. Na szczęście, jak mi się wydaje, nie ma w społeczeństwie polskim jakichś agresywnych nastrojów wobec Białorusi. Bardzo specjalne podłoże dla tych stosunków wyrobiły lata wspólnej historii i wspólnej kultury.

Jechałem robić *Lawę*. W Grodnie młody pogranicznik, Białorusin, od razu się domyśliłem, wziął mój paszport, obejrzał i mówi: "Jedzie Pan robić film o naszym największym poecie?" "Tak — odpowiadam — Tak. O waszym największym poecie będę się starał zrobić film". Jest to piękny

fenomen. Litwini też anektują Mickiewicza i brawo im za to. W *Lawie* najwięcej emocji włożyłem w tło białoruskie, które jest wizualnie nie narzucające się, ale bardzo działa na przysadkę mózgową. Myślę tu o pieśniach białoruskich, które stanowią właściwie cały podkład do tej najpiękniejszej, moim zdaniem, części *Dziadów* — tego wyznania miłosnego w domu księdza unickiego.

Powiedziałem księdza unickiego i tutaj muszę powiedzieć jeszcze dwa słowa o sprawie, wobec której jestem bezradny i niewiele się na niej znam. Mianowicie o podziale religijnym, który jest jednak na Białorusi. Tutaj by trzeba było ze wszystkich sił starać się, żeby oba kościoły nie niosły misji narodowych. To znaczy, żeby kościół katolicki wspomagający katolicyzm na Białorusi nie niósł treści polskich, najmniejszych, żeby niczym nie budził podejrzeń i niczym nie jątrzył. I apelowałbym do Cerkwi Prawosławnej, żeby ona znowuż nie ruszczyła w sposób niby nieznaczny, a jednak agresywny i nie niosła w sobie imperializmu rosyjskiego. Bo jakby nie było kościół katolicki jest mimo wszystko kosmopolityczny i w każdej chwili proboszczów Polaków mogą zastąpić proboszczowie łotewscy.

**Pozostańmy w kręgu spraw, które Pan poruszył. Powiedział Pan, że wciąż interesuje się Białorusią. Nie są to więc wspomnienia, lecz Białoruś żywa...**

Białoruś we mnie żyje. Jestem częścią żywej Białorusi. W jakiejś mierze jestem też Litwinem, oczywiście. Wszyscy tam byli spokrewnieni. O tym pisał i Mackiewicz, i Wańkowicz, i ks. Meysztowicz. I same te nazwiska, które tu przytoczyłem, nie są przecież od króla Popielą ani od Piasta. Już sam źródłosłów nazwiska na przykład. Wańkowicz wszystko mówi. Jeśli ja w miesięczniku "Nioman" czytam eseik o białoruskim rodzie Wańkowiczów i w tym eseiku czytam taki fragmencik, że jeden z tego rodu mieszkał w Polsce i nawet pisał po polsku, i miał na imię Melchior, to ja się rozrzewniam. Ze mną białoruscy uczeni mogą mieć kłopot, bo moje nazwisko Konwicki diabli wiedzą jakie jest, ale raczej ma rodowód koroniarski, chociaż po kądzieli cała moja rodzina to jednak sami "tutejsi". Jana Czykwina, poetę białoruskiego, przebiłbym w białoruskich genach.

**Czy śledzi Pan rozwój literatury białoruskiej? Co by Pan powiedział, gdyby Wasila Bykowa zgłoszono do Nagrody Nobla?**

Pora powiedzieć coś również bolesnego o samej literaturze białoruskiej. Tak się stało, chociaż trudno tutaj szukać winnych i przeprowadzać jakieś lustracje czy potępienia moralne, trzeba jednak powiedzieć o sytuacji niedobrej — myślę o zgodzie na białoruską literaturę skansenową, wiernopoddańczą wobec ZSRR czy Rosji, która od pięćdziesięciu lat wegetuje na Białorusi. Białoruska inteligencja, a szczególnie pisarze zadawalali się tym, że ich tam w minimalnych ilościach wydaje się po białorusku, a w stu tysiącach po rosyjsku. Że zostawili w biedzie swój naród. Jestem już tak na to wyczulony, że mnie strasznie zabolało, kiedy przeczytałem, że Aleś Adamo-

wicz mieszka w Moskwie. Dlaczego on mieszka w Moskwie skoro jego miejsce jest na Białorusi? Czy ja mam jechać do Mińska?... Może zresztą pojadę na Białoruś, jak mnie Białorusini zawezwą. Adamowicz powinien siedzieć u wezgłowia chorego, pilnować go. Przy czym jest to światły pisarz. Otóż ja będę walczył o Nobla dla białoruskiego pisarza, który będzie pisał po białorusku, o treściach białoruskich, o sprawie białoruskiej, o tej głębi, która może jest skromna, ale intensywna i którą nazywamy Białorusią.

**Tu bardziej do nagrody niż Byków pretendowałby Włodzimierz Karatkiewicz.**

Karatkiewicz... gdyby się go wzięło i zaczęło tłumaczyć na świecie... Karatkiewicz wnosi zachwycającą oryginalność. Ale nie oryginalność zaczerpniętą z Marqueza czy z amerykańskiej literatury, tylko oryginalność związaną z tą ziemią. Tam jest pewna metafizyka, strasznie miła do czytania także dla nas, Polaczków, dlatego że tam się błąkają te wątki, które zbliżają narody nie antagonizując ich.

Jest taki człowiek, który się nazywa Stasys Edrigiavićius, Litwin, który przez Polskę stał się jednym z największych plastyków na świecie, w każdym bądź razie grafików, plakacistów. Mnie się wydaje, że my nie mając zbyt dużych chodów na świecie, mimo wszystko mamy jednak różne przebite ścieżki i tutaj powinniśmy pomóc szczególnie literaturze białoruskiej, szczególnie tym pisarzom, u których dochodzą do głosu wątki — nazwijmy je — Karatkiewiczowskie. Nie zaś wojny ojczyźnianej, tematyki wojennej, którą świat jest przesycony. Te patriotyzmy radzieckie nie są zbyt nam wszystkim apetyczne. A nawet nie za bardzo, okazuje się, tym światlejszym Rosjanom.

Jako uważny obserwator spostrzegłem, że — przy całym tak zwanym sowieckim gniocie — zaczęło się budzić na Białorusi poczucie europejskości. Pierwszym takim dla mnie sygnałem było sprawozdanie z jakiejś konferencji poświęconej Odrodzeniu jako zjawisku polityczno-kulturowemu w tej części Europy. Z tego sprawozdania wynikało, że termin "odrodzenie" radzieccy uczeni stosowali jedynie do dziewiętnastego wieku. A jakiś uczony, młody historyk białoruski powiada: "Jakie odrodzenie w dziewiętnastym wieku? Odrodzenie to myśmy mieli w piętnastym, szesnastym wieku". Przypomniał Skarynę i drogi drukarstwa, które szły przez Wilno i Połock do Moskwy. Przypomniał, że Białoruś uczyła słowa drukowanego Księstwo Moskiewskie, że sama już miała arcydzieło—*Poemat o żubrze* Husowskiego. Czyli patrzcie — jakiś niesamowity splot okoliczności: przez łacinę, wspólnotę nieantagonistyczną polskości z białoruskością dojdziemy aż do naszego wspólnego Kleofasa Ogińskiego. Ja się trochę wzruszyłem, że Białorusini kombinują czy aby z jego poloneza nie zrobić hymnu. Tak, to się nadaje i nie trzeba szukać majestatycznych słów dla dzisiejszych wymagań nacjonalistycznych. Może jest jakaś stara pieśń, a jeśli nie ma, to można ją sfingować, to znaczy sięgnąć do staroruskiego zasobu słownictwa, pojęć, tradycji, języka Wielkiego Księstwa Litewskiego.

**Jak Pan ocenia recepcję literatury białoruskiej w Polsce?**

Jako mniejsza niż lodówek "Mińsk". To jest nasza wspólna wina. Białoruś musi się zacząć narzucać, nie tylko czekać na jałmużnę zainteresowania jakichś kręgów polskich. Chociaż jestem przekonany, że są one przygotowane. W świadomości wielu ludzi tkwi białoruskość. Jeśli ktoś do mnie dzwoni, załóżmy w sprawie wywiadu, i mówi, że nazywa się Sołoniewicz, to rzecz jasna ja inaczej mówię niż jak słyszę nazwisko Zaniewska. Moje zainteresowania literaturą białoruską są ograniczone, czysto amatorskie. Dwadzieścia, dwadzieścia parę lat miałem Białoruś na podglądzie przez gazety, przez "Nioman". Mniej interesowałem się tutejszym piśmiennictwem białoruskim, ponieważ to nie jest to. Tam jest Piemont, choćbyście chcieli z Białostocczyzny go zrobić. Czy zdajecie sobie sprawę, że wy nas, Polaczków biednych, wyratowaliście z Białostocczyzną?! Przecież podczas repatriacji mowa była o wzajemnej wymianie ludności. My naiwnie runęliśmy do Korony, a wyście twardo zostali na Białostocczyźnie. No, ale żarty na bok, wracajmy do sedna. Z tego, co czytam, co czytałem, odrzucam całą tę literaturę ojczyźnianowojenną. Patrzyłem z bólem na to nieustanne czapkowanie Moskwie. Okropnie przykre. Uwielbiam Jankę Bryła. On kilka, nie wiem, może osiem lat temu, dziennik drukował. Piękny i wzruszający. Ale od czasu do czasu czuł potrzebę padnięcia na klęczki i czapkowania Moskwie. To były fragmenciki, ale dla mnie bolesne, dlatego że jest to wielki facet, dwumetrowe, potężne chłopisko, czuły pisarz, każdym fibrem związany z Białorusią, więc mam do niego pretensję, ale nie dlatego, że czapkuje Moskwie, tylko że odbiera sobie swoją własną legitymację.

W latach siedemdziesiątych powstało sporo książek sznytu europejskiego. Uważam, że nie przypadkowo wspomniała Pani tego Karatkiewicza. Ponieważ u Karatkiewicza, Adamowicza, który niepotrzebnie mieszka w Moskwie, u innych pisarzy i poetów dźwięczy głos pewnej wspólnoty ludzkiej, a nie niewolnictwa wobec jakiejś idei czy wobec możnych. Więc gdyby podgrzać i uruchomić rzecz białoruską, to by się dało zareklamować literaturę białoruską i może w jej najoryginalniejszych objawach dałoby się puścić w świat. Kiedyś Polacy tak przecież puścili we Francji niejakiego Simaszkę z Taszkientu, jakiegoś Żyda rosyjskiego, białoruskiego, litewskiego, nie wiem, ale niezwykle oryginalnego faceta, który siedział na dalekiej prowincji i zwrócił na siebie uwagę Fedeckiego. Więc mnie się wydaje, że to trzeba uruchamiać i że to będzie rykoszetem wracać i na Białorusi wzmacniać świadomość narodową.

**W wywiadzie udzielonym Adamowi Michnikowi powiedział Pan, że Polacy powinni klękać przed Białorusinami na kolana. Czy zechciałby Pan rozwinąć tę wypowiedź?**

Skomentuję to w duchu nie takim, jaki Pani sobie wyobrażała. Myślałem metaforycznie. Powinniśmy się pochylić nad Białorusią, jak wobec kogoś, kto ze względów zdrowotnych wymaga opieki, czułości i natychmiasto-

wej pomocy. W tej metaforze oczywiście zawiera się i to, o co Pani chodzi — my jako społeczność polska, będąca w nieco lepszej sytuacji i historycznej, i cywilizacyjnej, i politycznej, jesteśmy coś winni Białorusi. Jednocześnie pamiętajmy o tym, że kiedyś władze carskie mówiły o odradzaniu się, budzeniu ducha białoruskiego jako intrydze polskiej. Jest to strasznie skomplikowana sprawa. Ale ducha białoruskiego budzili ludzie, do których ja się jakby narodowo poczuwam, to znaczy "tutejsi" ludzie, ludzie dwujęzyczni, którzy w momentach sentymentalnych natychmiast przechodzili na białoruski, a pisali po polsku i po białorusku. Byli po prostu spadkobiercami tamtej starej Białorusi. Oni też budzili ducha nowoczesnej Białorusi.

Po upadku imperium rosyjskiego, kiedy kraje dorobiły się pierwszy raz niepodległości, proponowano im jakąś nową formę uległości w postaci federalizmu Piłsudskiego. Ja podejrzewam, że Piłsudski miał w przeczuciu to, co dziś się tu jednak błąka, błąka się w tej części Europy, to znaczy konieczność współpracy, konieczność budowania tak Europy, żeby zachowując wszystkie odrębności duchowe i kulturowe szukać jednak porozumienia, a nie wzniecać nowe ogniska konfliktów.

Ja próbuję to wszystko zrozumieć biorąc pod uwagę politykę Piłsudskiego i później politykę narodowościową sanacji. Z punktu widzenia Białorusi to Polska zawiniła, oczywiście, mocno. Ale pamiętajmy o winach jeszcze większych. O winie Rosji nazywanej Związkiem Radzieckim i o bezwzględnym pełzającym imperializmie, który całą wschodnią Białoruś zniszczył i zsowietyzował. Na swoje usprawiedliwienie, na usprawiedliwienie społeczeństwa polskiego powiem, że nasze konflikty były widocznie europejskie, nie zaś azjatyckie, ponieważ one stworzyły możliwość na tym pograniczu przetrwania świadomości białoruskiej, jak zresztą świadomości ukraińskiej. Przecież świadomość ukraińska bierze się na tych obszarach z silnego styku z Polską. Już tam za Kijów, na wschód trudno mówić o Ukrainie w nowoczesnym sensie, więc ta moja metafora odnosiła się do tych spraw, które akurat w stosunku do Białorusi są przyjemne. Mnie się wydaje, że nad polsko-białoruskimi stosunkami nie unoszą się upiory przeszłości, które by czyniły dwuznaczną obustronną uprzejmość czy miłe słowa. Akurat tutaj sytuacja jest dosyć czysta.

**Wielokrotnie cytowany jest fragment "Kalendarza i klepsydry" zaczynający się od stów: "Moje oczy są pełne Białorusi". Czy zechciałby Pan odtworzyć te obrazy? Białorusi takiej, jaką Pan zapamiętał, jaka Pana ukształtowała.**

Pani spycha mnie na taki blichtr polonistyczny. Żebym tak zaczął ładnie mówić, opisywać sosny, piaski, kręte rzeczki. Ja myślę, że głębszy sens miłości do Białorusi i zainteresowania tym krajem nie polega tylko na zapamiętanym przeze mnie krajobrazie dzieciństwa i młodości, pewnych sentymentach regionalnych. Już starałem się Pani wyjaśnić, jak głęboko w części ludzi tu żyjących siedzi ta Białoruś. Mam nadzieję, że to kiedyś będzie naukowo określone i wytłumaczone. No co mam dalej mówić, co mam mówić?

**Która z Pańskich książek — Pana zdaniem — ma najwięcej czegoś, co można określić najogólniej mianem pierwiastka białoruskiego? Myślę tu o sposobie obrazowania, o języku...**

Proszę Pani, mnie każdy dobry redaktor polski usiłuje przede wszystkim poprawiać składnię. Bo ja widocznie mam w uchu inną melodykę. Poza tym mam, być może, przepraszam, że będę się chwalił, odrobinę zgodliwości białoruskiej. Ja w gruncie rzeczy patrzę dobrze na świat, chociaż jestem awanturniczy, patrzę z sympatią, z pobłażaniem. To się może brać z biało-ruskości. Myślę tu o pewnych kodach intelektualno-moralnych. Mam skłonności do żartu, ale i mam skłonności do patosu, a to są pierwiastki charakterystyczne dla duchowości białoruskiej. Mówię duchowości, bo nie wiem jak to nazwać.

Powiem otwarcie — ja już nie pamiętam białoruskiego. Uczyłem się potem rosyjskiego i mnie ten rosyjski stłamsił. Już się boję użyć frazy białoruskiej, bo się obawiam, że użyję rosyjskiej, czym się przyczynię jeszcze bardziej do zubożenia języka białoruskiego. I nie wiem też, co jest z większym pożytkiem czy cyrylica czy łacińska czcionka — sam nie wiem, co bardziej by pilnowało, strzegło tożsamości białoruskiej, co bardziej by uwypuklało europejskość Białorusi. Z uporem maniaka podejmuję wątek, który się sam pojawił na Białorusi — bez mego udziału — mianowicie tożsamości nadrzędnej, a więc tożsamości europejskiej.

**Jako znany polski pisarz tkwiący jednak korzeniami w tamtej ziemi, co chciałby Pan powiedzieć polskim Białorusinom-literatom?**

Niech biorą nie walizy, tylko nesesery i jadą na Białoruś. Od Smoleńska już się brać do roboty i wołać przyjaciół i kolegów do pomocy organizacyjne), finansowej, kulturalnej. Trzeba na przykład zrobić film białoruski, ale nie z nadania jakiejś filii "Mosfilmu", tylko silny, z ducha Białorusi. O literaturze już mówiliśmy. Przejrzeć malarstwo. Było ono pod fatalnym wpływem akademizmu rosyjskiego. Bardzo utalentowani ludzie z powodu braku kontaktów z plastyką światową pozostali w akademizmie dziewiętnastowiecznym. Więc niech runą ratować ojczyznę awanturnictwem malarskim. I dopiero kiedy Białoruś stanie na nogi i będzie wyrazistym, dynamicznym społeczeństwem, dopiero wtedy możecie zająć, jak Polacy Zaolzie, Białostocczyznę i przyłączyć ją do Grodna, *(śmieje się)*

Mówię o tym z pewną afektacją, no ale co ja zrobię, jeśli to mnie tak obchodzi. Ja drżę, gdy czytam coś niepomyślnego o Białorusi. Te 3,8% znających język białoruski mnie załamało, przez parę tygodni byłem kompletnie skołowany, machnąłem ręką, nie chciałem już z nikim rozmawiać na ten temat. Byłem zniechęcony, bo poczułem się bezradny. Kraje bałtyckie jakoś sobie poradzą. One są silne gospodarczo i zawsze miały większe poczucie wspólnoty z Europą. Tę Europę tak powtarzam i to wygląda na jakiś banał kosmopolityczny. Ale nie, to jest dosyć ważna rzecz, dlatego że — powiedzmy sobie otwarcie — jest to alternatywa wobec barbarzyństwa i dzikości. Słusznie się oskarża Stalina, ale Stalin nie mógł być w każdym obozie, w każdym więzieniu, on nie mógł się tak

znęcać nad każdym człowiekiem, tak się wyzwierzać, tak deptać jego godność, człowieczeństwo. Więc Europa jest to wybór. Sołżenicyn w *Archipelagu GU-Łag,* w którymś miejscu pisze: cóż pisarz norweski może powiedzieć o doli człowieka, o tragedii... No tak. Ale Sołżenicyn powinien pomyśleć o tym, że Norwegowie nie założyli sobie łagrów i nie mordowali się milionami. Więc ja tę europejskość uważam za terapię ozdrowieńczą dla Białorusi. Przy czym nie biorę tego z powietrza tylko z ducha Białorusi. Białoruś jest predestynowana, żeby się znaleźć wśród cywilizowanych narodów, które nikogo nie męczą, nie atakują, nie rżną, nie niszczą, niczego nie żądają — no, oczywiście z wyjątkiem Białostocczyzny. Część mojej rodziny mieszkała w Białymstoku, dlatego tak walczę o to miasto *(śmieje się).*

O tej mobilizacji myślę codziennie, jak się tylko obudzę. I to musi nastąpić, bo to jest decydujący moment. Za trzy lata może być zupełnie inna. sytuacja. I znowu zacznie się od nowa. Ktoś będzie Białorusinom ***gierb*** wymyślał, a ktoś inny *gimn,* a jeszcze ktoś będzie układał kanon literacki i imputował charakter, jaki powinien mieć Białorusin.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

ВОЛЬГА ШЫНКАРЭНКА
*Гомель*

## Трымаючыся ўласнага сумлення

Ніл Сымонавіч Гілевіч – народны паэт Беларусі, празаік, драматург, гумарыст, аўтар шматлікіх твораў для дзяцей, фалькларыст, літаратуразнаўца і крытык, заслужаны дзеяч навукі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы за кнігу паэзіі “У добрай згодзе” і перакладчыцкую дзейнасць (1980), Міжнароднай прэміі імя Х. Боцева за лірыку і публіцыстыку (1986). Нарадзіўся будучы пісьменнік у дзень хрысціянскага пакутніка Ніла 30 верасня 1931 года ў в. Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям’і, багатай хіба толькі на ахвочых да ведаў дзяцей. Бацька, Сямён Пятровіч, якому лёс адвёў 68 гадоў жыцця, з песеннага роду. Менавіта найперш ад яго паэт пераняў “…вялікую, глыбокую паэзію сапраўдных народных песень, якіх ён ведаў мноства і спяваў вельмі хораша” [1, с. 252]. Як адзначае паэт у тым жа нарысе “Між роспаччу і надзеяй” , “колькі ў тых песнях было хараства, паэзіі, і чагосьці такога чароўнага, вабнага роднага, што аж сэрца заходзілася, і хацелася слухаць бясконца, і далучыцца да спеву самому” [1, с. 258]. Маці пісьменніка, Кацярына Мікалаеўна, пражыла 76 гадоў. Некалькі нязвычныя абставіны свайго прыходу ў гэты белы свет Ніл Гілевіч перадасць у вершы “А мама мяне нарадзіла на сене ў калёсах…”. Гэтая рэдкай душы жанчына – “Гаротніца-мама! Святая пакутніца ў Бога!” [2, с. 165] – самааддана займалася сям’ёй, бясконцымі клопатамі па гаспадарцы, выбіваючыся з апошніх сіл, каб толькі выгадаваць дзяцей, уратаваць іх у дзвюх блакадах (становіцца зразумелым, чаму самім паэтам словы “Застаўшыся з маленства на вайне…” [2, с. 44] прамаўляюцца без усякай іншасказальнасці). Шчырая працаўніца, яна ахвяравала ўсім, каб дзеці атрымалі адукацыю. У адным з пяцірадкоўяў яе сын-паэт, што скончыць Мінскае педвучылішча, філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру пры ім, атрымае высокую

вучоную ступень, вострa пакутуючы, як і кожны з нас, ад залішне позна зразумелай віны за ўласную няўдзячнасць перад самым дарагім чалавекам, узгадае: “Памяць маленства: // Над чорным полем імжа. // Сагнуўшыся ў крук, // Грэбае мама раллю // І кідае ў кош бульбу” [2, с. 203].

Такія балючыя, аднолькава як і светлыя згадкі-ўспаміны, многія іншыя факты з уласнага дзяцінства, лёсаў бязмежна дарагіх людзей, землякоў, а таксама «запаветныя слоўцы», чароўны палон моўнай стыхіі, прыгажосць незабыўных родных мясцін, маляўнічых краявідаў Лагойшчыны і ўсяго роднага краю потым дзіўным чынам ажывуць, канкрэтызуюцца, дэталёва ўзновяцца, каб скласці аснову творчасці вядомага сучаснага пісьменніка і стаць меркаю вартасці і годнасці пражытага ім.

*Тут, дзе вучыўся і араць і сеяць,*
*Адкуль панёс і песню ў свет сваю,*
*Я з пасівелай галавой стаю*
*І слухаю асін журботны шэлест.*

*І неадчэпна ў ціхай мове лісця*
*Адно пытанне ловіць прагны слых:*
*“Скажы, ты шчаслівейшы стаў за тых,*
*Што тут араць і сеяць засталіся?”* [2, с. 73]

З першых крокаў у літаратуры, з апублікаванага ў ліпені 1946 года ў часопісе “Бярозка” верша “Яблынька”, пісьменнік, як характарызуе яго А. Мяснікоў, “Асветнік і па прызванні, і па роду дзейнасці”, “Праведнік, для якога духоўныя каштоўнасці – вышэй і даражэй за ўсё”, “Творца, для якога самае дарагое і роднае, – матчына слова” [3, с. 12], выбірае нязменнымі арыенцірамі прыцягальнае хараство людзей і прыроды бацькаўшчыны, яе мовы, народнай песні, якім ён заўжды імкнецца служыць з адначаснай сардэчнай палымянасцю і лірычнай малітоўнасцю. Яго пяру належаць зборнікі “Песня ў дарогу” (1957), “Перазовы” (1967), “Запаветнае” (1975), “Повязь” (1987) і многія іншыя, шэраг ліра-эпічных, драматычных і празаічных твораў, раман у вершах “Родныя дзеці” (1984). Надзвычай важнае месца ў створаным паэтам займае кніга “Любоў прасветлая” (1996). Можна сказаць, што ў вершаваных, празаічных, публіцыстычных тэкстах тут увасобіўся неадступны роздум-клопат пісьменніка пра мову, культуру, лёс Беларусі.

Паэзію Ніла Гілевіча вылучае арганічны саюз філасафічнасці і грамадзянскай скіраванасці, пэўнай долі дыдактызму і элегічнасці, публіцыстычнасці і меладычна-песеннай асновы. Шматграннасць таленту дазваляе аўтару ў самых розных жанрах спалучыць сацыяльнасць і тонкі лірызм, бескампраміснасць і сентыментальную настраёвасць, сатырычную завостранасць і кранальную душэўнасць. Пры гэтым творца заўсёды катэгарычна адмаўляе бездухоўнасць, здраду, непавагу да святых сімвалаў

нацыянальнай гісторыі, сучаснага жыцця, пасяганне на незалежнасць краіны і асобы (вершы “Край мой беларускі, край!”, “Зямля бацькоў”, “Паклон табе, мой беларускі краю!”, “І ўсё-такі дойдзем” і інш.).

У філасофскай лірыцы, гэтай “паэзіі думкі”, Ніл Гілевіч адкрывае шматмернасць акаляючага свету праз паэтычнае спасціжэнне яго заканамернасцей, удумлівае паглыбленне ў рэальнасць, зварот да экзістэнцыйных праблем быцця (“Я не знаю, што ў нас будзе”, “Божа ты мой”, “Як доўга?”, “Аб рыфмах і хлебе надзённым” і інш.). Своеасаблівымі ўзорамі медытатыўнай лірыкі пісьменніка з’яўляюцца верш “Загадка прыроды”, актава “Вечна спяшаемся”, творы “Над бяздоннем”, “Стрэмка”, “Каменні ляцяць на дарогу”. Светлым сумам прасякнута яго элегія “Не пакідай мяне”. Настрой адзіноты, развітання, нават роспачы выразна гучаць у яго творах “Як сумна-тужліва зязюля кукуе ў бары”, “Мой мілы птах”, стансах “Балюча – быць ахвярай нечай…”.

Непарыўная повязь “Я”-героя з родным краем, прыгажосцю зямлі складае аснову пейзажнай лірыкі Ніла Гілевіча. Прырода ў разуменні творцы духоўна і маральна ўзвышае, валодае гаючай сілай, дарue душэўную раўнавагу, здзяйсняе патрэбу асобы ў гармоніі з нерукачынным светам (“Напрадвесні”, “Першы гром”, “Свята зямлі”, “Бальшак”). Мабыць, таму ўласна экалагічная тэматыка асэнсоўваецца аўтарам у непарыўнасці з матывам “экалогіі душы” (“Раўняюць хлопцы рэчку”, “Зварот на высокай ноце”, “Зрабіце дождж”, “Сіняя пушча”, “Дзікун”, “Даруйце, родныя бары і пушчы”). Ніл Гілевіч часта спявае гімны роднай Лагойшчыне, усёй беларускай прыродзе, вясне (“Мой сіні бор”, “Свята зямлі”). Адметным элегічным настроем прасякнуты вершы пісьменніка “Замірае, сціхае”, “Не пакідай мяне, мой светлы сум”, “Вясновы вечар”, “Ах, валошка, валошка, сястрыца рамонка”. Тое ж можна сказаць пра эскіз “Цераз зараснік інею”, акварэль “Маёвае”, імпрэсію “Цуд тварыўся – я праспаў”, ідылію “Бярозы ў яркай стыні”. Рамантычная пяшчота, выключная меладычнасць уласціва такім узорам пейзажнай лірыкі пісьменніка, як “***Вы шуміце, шуміце…”, “Палыновая ростань”, “Ноч. Цішыня”, “***Як хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы на Віцебшчыне”, “Сустрэчы ў снах” і інш.

Глыбіня і ўсёабдымнасць пачуцця любові ў паэзіі Ніла Гілевіча рэалізуецца ў роўнай ступені праз бязмежную адданасць маці і іншым блізкім людзям, землякам, народу, наогул чалавецтву, нават калі ён няшчасны, бо “раўнадушны да ўласнага лёсу” [2, с. 166]. Яго лірычны герой не хавае зачараванасці народнымі словам і песняй, закаханасці ў жыццё (“Родная мова”, “Спадчына”, “Маці”, “Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай”). Сінтэз грамадскага і асабістага, інтымна-пачуццёвая афарбоўка вылучае верш паэта “Я хаджу, закаханы ў твае краявіды”. Вобразы Беларусі і каханай, як найвышэйшыя ў лёсе аўтар, прадстаюць у творы “Ніякі рахунак, ніякі разлік”. Хараством пачуцця кранаюць вершы

"Лёгкая, як воблачка", "Над Лескавіцкім возерам", "У звечарэлым садзе", "Жнівень, арэхі і жоўтыя восы". Сум апошняга расстання, туга і падзяка за тое, што было і прынесла радасць, гучыць у творах "Я паеду адна", "Над белым светам панавала танга", "Як чужыя, рассталіся ўранку". Увогуле, каханне – храм і апірышча душы лірычнага героя паэта, які не стамляецца схіляцца ў паклоне прад адзінай. Толькі яно здатнае перамагчы адзіноту і скруху ("Апошняе спатканне з Веранікай", "Аднойчы ўбачу я цябе"). Блізкія да песняў, рамансаў вершы "Ты яшчэ далёка", "У прысадах вечаровых", "Мой лёс – каханне".

Заўважным унутраным драматызмам вылучаецца творчасць паэта 90-ых гадоў, калі свет пабачылі зборнікі "Незалежнасць" (1991), "Жыта, сосны і валуны" (1992), "Талісман" (1994), "Ёсць зямля…" (1997), кніга выбранага "Наканаванае" (1998). Здзіўляе яе ідэйна-праблемнае і тэматычнае багацце. Краса, зыркі прамень якой разам з дзіўнай прыгажосцю прыносіць знішчальны боль ("Мне цёмнай ноччу…"), светлае спатканне з былым, што паціху зарастае шызым палыном ("Палыновая ростань"), чарнобыльскія дзеці – сведкі ядзернай эпохі ("У лета 1986-е"), разуменне таго, што "раднейшага няма нічога ў свеце, як хлеб і музыка, як музыка і хлеб" ("Хлеб і музыка" [4, с. 247]), абранне жыта, соснаў, валуноў ("Жыта, сосны і валуны") спаконвечнымі сімваламі Беларусі, заўважнае змяншэнне долі праўды на фоне росту зла ("Знай!") – далёка не канчатковае вызначэнне асноўных матываў і вобразных абсягаў паэзіі Ніла Гілевіча.

Асабліва тычыцца зазначанае вышэй зборніка "На высокім алтары" (1994), дзе многія вершы вылучаюцца глыбокім падтэкстам. У дадзеным выпадку выкарыстаны аўтарам вобраз алтара, аддзелены іканастасам ад астатняй прасторы царквы, прадстае біблейска-хрысціянскім сімвалам нябеснай вышыні, дасканаласці, зямнога Раю. Духоўныя матывы складаюць аснову такіх вершаў зборніка, як "Малітва", "І наш малебен", "Сон", "Уваскрэсне!". Невыпадкова вядомы філосаф і глыбокі даследчык літаратуры Ул. Конан назваў прысвечаны аналізу творчасці паэта артыкул "На прасветлым алтары Радзімы", а сам Ніл Гілевіч пазней узнясе на алтар вянок у выглядзе аднаго з пяцірадкоўяў: "Што гэта ў цемры // Свеціцца там, дзе клады? // Ледзь здагадаўся: // Фасфарысцыруючы, // Мова выходзіць з магіл" [2, с. 203].

Многія вершы зборніка дазваляюць яшчэ раз пераканацца ў тым, што Ніл Гілевіч па прыродзе чалавечай і паэтычнай – пераважна рытар, трыбун. Але ў адрозненне ад некаторых гучных прамоўцаў слова творцы не голая дэкламацыя, не падманная бунтарнасць. Паэт не Хрыстос, але і не Іуда; "крыху вар'ят" і разам з тым спраўны гаспадар, у вершы якога, як у ладна збудаванай хаце, не разарваць вянца; сумленны рыцар, што не збіраецца перакладаць свае праблемы на плечы іншых, і стомлены змагар з падарваным сэрцам; рэдка богаборац, а часцей – ціхі мудрэц, які нямее перад невыказным "светлым і вечным"... Усё гэта разам і вымалёўвае

творчую сутнасць Ніла Гілевіча, закаханага ў родныя краявіды і слова беларуса, што здолеў у рэшце рэшт з гадамі заўважыць Божую руку ў дарунку радасці адкрыцця і захаплення светам, сваё звысоку багаслаўленне [5, с. 82]. Найбольшае жаданне паэта – не схібіць, не сфальшывіць у перадачы адзіна важнай для яго мелодыі.

*Каб толькі ўчуў-пачуў мой верш,*
*Як плача сэрца Беларусі* [5, с. 20].

Дарэчы будзе сказаць, што сам аўтар добра разумее адсутнасць якіх бы там ні было межаў у творчасці, гэтаксама як і немагчымасць выказацца да канца, вызваліцца ад асабістага ці быць задаволеным ім.

*Як доўга яшчэ будзе ў нас у вачах*
*І ў кожным штрыху чалавечым –*
*Наш, пройдзены намі, пакутлівы шлях,*
*Наш сум па няспраўджаным нечым?* [5, с. 85]

Тым не менш, нават і голы пералік асноўных матываў і вобразаў паэзіі Ніла Гілевіча дае магчымасць выразна адчуць прыкметную прыхільнасць творцы да паняццяў і з'яў кантрасных, супрацьлеглых, да разгляду іх у момантах сутыкнення, у крытычных сітуацыях. І калі каханне, хараство, самаахвярнасць, роднасць душ, патрэба чалавека ў казцы выступаюць неад’емнымі праявамі дасканаласці, вышэйшай разумнасці свету, то дробязнасць, здрадніцтва, скоранасць, бездухоўнасць, нянавісць з'яўляюцца адзнакамі яго заганаў і дысгармоніі, перадаюць далёкую ад бязгрэшнасці людскую сутнасць. У тым ліку і самога паэта, які не адмаўляецца ад сваіх грахоў і павіннасці несці кару за іх: “Я іх ні на каго // Перакладаць не буду” [5, с. 68]. Адзінае, аб чым просіць ён, дык гэта не асуджаць яго за звонкія песні ды гучныя матывы й ноты іх, бо заўжды ён спяваў ад душы, з вялікай любоўю.

*Не з дыктоўкі нечай, выбачайце.*
*Толькі сам! Як знаў і як умеў.*
*А таму – судзіце і карайце*
*Не за спеў: ён шчыры быў, мой спеў* [5, с. 71].

Нават у прыродных, побытавых з'явах край, мяжа, лінія пераходу асабліва прыцягваюць Ніла Гілевіча. Як доказ – вершы “На краі дажджу”, “Над бяздоннем”, “Апошні паверх”, “Віхура”, “Крумкач” і інш. Але ўсё ж перавага аддаецца творцам даследаванню бязмежжа і абмежаванасці чалавечых душы і пазнання іх у моманты вяршынных узлётаў і нізкіх падзенняў. Пра гэта “Радкі з усяночнай”, “Прарок”, “Вар’ят”, “Просьба”, “Памяць”, “Імгненне”. Мастак асабліва падкрэслівае, нават настойвае на

думцы аб адказнасці кожнага чалавека за ўсё, што адбываецца з намі і вакол нас, аб неабходнасці прызнаваць уласную віну.

*Пабачыўшы тло,*
*Не думай,*
*Што гэта імгненне*
*Было*
*Не нашым з табою,*
*А толькі маім,*
*Што я – пагарэлец,*
*А ты – херувім.* [5, с. 79]

Трэба сказаць, што ўніклівы аналіз не заўсёды прыводзіць паэта да новых адкрыццяў у характарах сваіх суайчыннікаў. Часам расчараванне ў іх настолькі моцнае, дасягае такой высокай эмацыянальнай шкалы, што творца не можа і не жадае стрымлівацца ў сваіх катэгарычных ацэнках. У параўнанні са слаўнымі і мудрымі продкамі, ясначолымі і бясстрашнымі воямі, сённяшнія беларусы часта нагадваюць аўтару малпаў за рашоткай, ішакоў бязмозглых, тых, што натхняюцца хлуснёй, патулякаў завугольных, тутэйшых ахламонаў. Такой сатырычнай з'едлівасцю афарбаваны творы “Не падбівай. Не падбухторвай…”, “Страх, ды не найстрашны…”, “Каменні ляцяць на дарогу”, “Пасланне патулякам”, “Здарэнне” і многія іншыя. У некаторых выпадках гнеўны, абуральны пафас пісьменніка змяняецца пытальнымі інтанацыямі, разважлівым настроем, што вынікаюць з яго жадання зразумець сучаснікаў, падказаць ім нешта важнае і для самога сябе ўжо канчаткова вырашанае.

*Дык як жа будзем жыць,*
*Мой мілы пане-браце?*
*Ці так, як набяжыць,*
*Ці – спадарамі ў хаце?* [5, с. 91]

Па прынцыпу кантрасту, што ўзмацняецца скразной антаніміяй і падкрэсліваецца пры перадачы супрацьлеглых вобразаў сінанімічнымі і градацыйна выбудаванымі радамі субстантыўна ўтвораных дзейнікаў і выказнікаў, цалкам аформлены верш Ніла Гілевіча “Ці ачнёмся?”. Такі паэтычны прыём разам з яшчэ адным яскравым доказам выключнага адчування і ведання творцам роднай мовы, у чым пераконвае і верш “Мэта”, дасканалае валоданне “цвёрдымі” лірычнымі жанрамі, сведчыць пра яго зайздроснае ўменне скандэнсавана, лаканічна перадаваць небяспечны размах усенароднай бяды, зрокава і фанетычна адчувальны наступ той бязлітаснай да ўсіх і ўсяго лавіны, што хутка абрынецца, пагрозліва набліжаючыся да нас, па прычыне занядбання і зганьбавання маючых быць непарушнымі нацыянальных і агульначалавечых святыняў.

Гэта і ёсць тая мяжа, за якой чакаць можа толькі смерць.

*Пачварнае, дзікае, жорсткае*
*Крычыць, верашчыць і трашчыць,*
*А добрае, людскае, боскае*
*Замоўкла і цяжка маўчыць* [5, с. 97].

Зведаўшы прасвятленне праз здзекі бязлітаснага лёсу, ён мусіць усё ж прызнаць, што час не лечыць, не ратуе ад Божага праклёну. Таму яму так невыносна:

*А горычы – болей і болей.*
*А стрэмка – глыбей і глыбей…* [5, с. 50]

На вялікі жаль, духоўны вопыт, мужнасць грамадзянскіх учынкаў прыходзяць і сталеюць разам з болем, “бо жыццё ёсць пакуты, што вядуць да мудрасці, а філасофія ёсць мудрасць, народжаная пакутамі” [6, с. 60]. Якраз праз іх энергія слова прамоўцы Ніла Гілевіча ўзмоцнілася (і пры ранейшай наяўнасці яе) кіпучай энергіяй філасофскай думкі, якая ад сплаву зямлі і духа, ад мудрасці свайго народа і сусветных здабыткаў, ад надзеі на сцверджанне аднаго-адзінага: “І мэтай і мерай // Тут будзе ва ўсім – Чалавек” [5, с. 95]. Толькі так можа здзейсніцца мара Паэта, толькі так прыйдзем, “дойдзем мы да Беларусі” [5, с. 137].

Здаецца, няма формы, у якой Ніл Гілевіч не адчуваў бы сябе па-творчаму разняволена. Пра жанрава-стылявыя пошукі пісьменніка ў свой час засведчыў лірычна-спавядальны зборнік “Актавы” (1976), дзе ў медытатыўна-філасофскіх васьмірадкоўях парадаксальна і ў той жа час арганічна спалучыліся радасць і журба, светлы сум, народжаны развітаннем з маладосцю, і гучаць развагі пра сэнс жыцця, творчасць і каханне. Творам паэта ўласціва вытанчанасць, гутарковая нязмушанасць, пэўныя адступленні ад кананічнай формы актавы праз разнастайную кампаноўку сугуччаў, складанне з двух катрэнаў (часам аддзеленых графічна) з цеснай інтанацыйна-сінтаксічнай сувяззю, сэнсавым адзінствам твора, перакрыжаванай або кальцавой рыфмоўкай. І што цікава, зямная аснова, сялянская закваска, цвярозая рацыянальнасць нікольні не ўплываюць, ніяк не змяншаюць вастрыню светаўспрымання паэта, што натуральна пачувае сябе гаспадаром, адказным як за лад у сваёй хаце і падвор'і, так і на ўсёй зямлі, гатовым у кожны патрэбны момант “прывесці ў рух энергію сумлення” [7, с. 9] і ўзяцца за справу ці абарону яе словам. Тое ж можна сказаць пра глыбіню, філасафічнасць спасціжэння Нілам Гілевічам рэальнасці, выключны лірычны пачатак, музычнасць яго паэтычнай натуры пры відавочнай схільнасці ў творчасці да сюжэтных малых і буйных вершаваных формаў.

І ўсё ж не толькі ліра-эпічныя, але і строгія кананічныя жанры

дазволілі мастаку апаэтызаваць як мілыя вобразы роднага краю, так і ягоны побыт, тыя ж вясковыя ранак і ноч, увесь прыродны каляндар беларуса, “старажытны дух калядны” [7, с. 50], вечарынкі, наогул “грэшнае шчасце на грэшнай зямлі” [7, с. 101]. Пры гэтым часта верш паэта арганічна ўключае ў сябе элементы вуснапаэтычнай лірыкі або перадае, захоўвае інтанацыі, вобразна-меладычны лад народнай песні, “уторыць” ёй, выдаючы ў аўтары не толькі шчырага прыхільніка, але і глыбокага знаўцу паэтыкі фальклору (“Спадчына”, “А дзе ж тая крынічанька?”, “Балгарская песня”, “А раніцы ўжо не было” і інш.). Ды і сама Беларусь для Ніла Гілевіча

*Мой лёс,*
*Мой вечны боль,*
*Мая невыспеваная давеку*
*Песня!* [4, с. 253]

Бясконцая вера ў паэзію, гэтую заўжды скіраваную да ўдасканалення песню, у дзівака “нясказаныя словы, якім, магчыма, і не прагучаць” [7, с. 33], і ёсць той адзінаю заручынаю-падтрымкай, што надае мастаку моцы ў нястомным змаганні за родную мову. З першых крокаў у літаратуры, адстойваючы яе жыццёвую патрэбу ў народным пачатку, нацыянальнай самасвядомасці, паэт звязвае іх заўважнае аслабленне з занядбаннем матчынага слова – “самай агіднай бездухоўнай пошасці” [8, с. 33]. Мабыць, таму ён асабліва дбайна, з заўсёднай вясковай зборлівасцю, ашчаднасцю адносіцца да моўнага багацця продкаў, умее смакаваць, любавацца ўдала адшуканым ці наваствораным словам-беззаконнікам. Іх шмат у “Родных дзецях”, нават публіцыстыцы, імі зіхаціць, пераліваецца лірыка пісьменніка. Выключнае моўнае майстэрства толькі пацвярджае несумненны паэтычны талент творцы, якому дадзена чуць плач сэрца Беларусі і вершы якога “яшчэ мацней растуць на папялішчы” [5, с. 52].

“Сямірадкоўі” (2002) Ніла Гілевіча, а да гэтай davershavanai формы, як і да актаў, пісьменнік звяртаецца на працягу ўсёй творчасці, характарызуюцца шырокай варыянтнасцю сугуччаў, дасціпнасцю стылю, энергіяй думкі, акцэнтацыяй на маральна-этычных пытаннях пры ўсёй разнастайнасці тэм, глыбіні і дакладнасці перажыванняў. Дзіўна, але і сямі безназоўных радкоў аўтару іншы раз дастаткова для таго, каб перадаць не толькі ўласна набалелае, але і боль усяго Сусвету.

*Ты адыходзіш, мой дваццаты век.*
*Хоць ты і мой – ты не багаславёны,*
*Бо ўсе высокія твае імёны –*
*Век Космасу, Камп’ютэраў, Ракет –*
*Чарнобыль перакрэсліў, як рукой,*
*І для мяне ты Век Бяды – такой,*

*Якой не знаў ад сатварэння свет* [2, с. 191].

Аднолькава таленавіта пісьменнік выкарыстоўвае такія строфы, як катрэны, пяцірадкоўі, секстыны, санеты, вянок санетаў і інш. Да прыкладу, кніга лірычных мініяцюр "На флейце самоты" (2004) напісана ў жанры танка і адрозніваецца дакладнасцю, афарыстычнасцю і паэтычнай ёмістасцю зместу гэтай унікальнай для беларускага вершаскладання строгай формы. Зборнік складаецца з двух сшыткаў. Першы з іх – "А святло ідзе" – уяўляе сабою лірычныя роздумы аўтара пра Бацькаўшчыну і яе лёс, часовае і вечнае, выпрабаванні чалавечай душы на жыццёвым шляху. Другі – "Памяці Ніны" – напоўнены несціханым смуткам, сцверджаннем неўміручасці сапраўднага кахання. Горыч незваротнай страты, безнадзейнасць пакутаў ад расстання з любай жонкай, спадарожніцай лёсу і адначасовая бязмежная ўдзячнасць за сумесна пражытае, невымерная шчырасць і сіла пачуцця да той, што "вечным жыла" і будзе вечна жыць [9, с. 64], складае лейтматыў цыкла.

У самым пачатку кнігі, адкрываючы сакрэт знешне не мудрагелістага напісання танка, пісьменнік нібы правакуе чытача далучыцца да гэтай гульні.

*Трыццаць адзін склад*
*Уціснуць у пяць радкоў*
*Строга па схеме:*
*Пяць-сем-пяць-сем-сем, – і ўсё!*
*Вось вам, сябры, і "танка"* [9, с. 5].

Для самога Ніла Гілевіча гэтая сціслая форма – яшчэ адна магчымасць выявіць выключную сілу лірычнай душэўнасці і ўлюбёнасці ў акаляючы свет, яго квецень, музыку, што злучае неба і зямлю [9, с. 5]. І ўсё ж заўважна часцей паэт напаўняе пяціраадкоўі стрыманым неспакоем ці адкрыта выяўленым болем за абыякавае стаўленне да лёсу і мовы нацыі, бездухоўнасць сучаснікаў, пазнанымі праз вопыт гадоў і пражытае гора, «кару памяці», «запозна ўяснёны …// геній … любові» [9, с. 85] філасофскімі ісцінамі, раней не заўважальнымі, а цяпер відавочнымі адкрыццямі ці асацыятыўнымі суадносінамі. Так, раптам нечакана ў аблічча смяротна хворай жонкі паэту ўгадваецца маці. Потым наогул узнікае адчуванне блізкасці паміж гэтымі «святлістымі» і святымі ў яго жыцці жанчынамі і ў выніку нараджаецца шырокае абагульненне экзістэнцыйнага характару:

*Мама… І Ніна…*
*Як паміралі страшна!..*
*Вось і выходзіць:*
*Хто ў муках пражыў жыццё –*

*Ім і пакутная смерць* [9, с. 81].

Увогуле, для Гілевіча-творцы ўласцівы працэс заўсёднага жанравага абнаўлення. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывае арыентацыя пісьменніка на фальклорныя традыцыі. Вуснапаэтычная спадчына для аўтара манаграфій "Акрыленая рэвалюцыяй (паэзія "Маладняка")" (1962), "Наша родная песня" (1968), "З клопатам пра песні народа" (1970), "Паэтыка беларускай народнай лірыкі" (1975), "Паэтыка беларускіх загадак" (1976) і інш., укладальніка і навуковага рэдактара фальклорных зборнікаў "Песні сямі вёсак" (1973), "Песні народных свят і абрадаў" (1974), "Лірычныя песні" (1976), "Лірыка беларускага вяселля" (1979) – невычэрпная крыніца натхнення, узбагачэння адпаведнымі прыёмамі і вобразна-выяўленчымі сродкамі. Не толькі як даследчык, але і як арыгінальны творца Ніл Гілевіч заўжды верны паэтыцы народнай песні, прынцыпам яе будовы, вобразна-меладычнаму ладу ("Што ж ты, ягада-каліна", "Пры дарозе пыльнай, шумнай"). Песенныя інтанацыі адчуваюцца ў яго вершах "Выйду", "Беларускія цымбалы", "Твая святліца", лірычных песнях "Жаўраначка", "Ты яшчэ далёка", "Не пытайся, маці", "Зорачка". Гумарыстычна-песенны характар маюць такія творы аўтара, як "Дубаўё", "А ты дуй!", "Куды ж ты сыпеш, дзядзечка?", "Ой, Іван , ты, Іван!..".

Сапраўднай школай мудрасці, народнай філасофіі, трапнасці слова можна назваць сатырычныя замовы Ніла Гілевіча. Ёсць у яго і серыя вершаваных анекдотаў "З кайстры народнага гумару". Жанрава-фармальныя эксперыменты з выкарыстаннем рознай ступені камічнага вылучаюць кнігі "Званковы валет", "Да новых венікаў", "Ці грэх, ці два", "Як я вучыўся жыць", "Русалка на Нарачы", "Дыялог на бягу". Тут сустракаюцца сатырычныя вершы і сны, гумарэскі, фельетоны, эпіграмы, пародыі, пасланні, эпіталамы, мадрыгалы, бурымэ, каламбуры, байкі ці амаль байкі і інш.

Поспех драматычных твораў Ніла Гілевіча абумоўлены зайздросным валоданнем майстэрствам дыялогу і маналогу, трагічных і камічных эфектаў, дзейсным уплывам на пачуцці чытача. Сярод балад пісьменніка можна вылучыць такія іх спецыфічныя разнавіднасці, як партрэт, рэквіем, песня, казка, прытча. Асобнае месца ў баладыстыцы пісьменніка займае задуманая як суперпаэма, як балючы голас шматпакутнай Радзімы патрыятычная араторыя "Гарыць, гарыць мая Лагойшчына", што складаецца з чатырох балад і лірычных адступленняў. Алегарычнасцю і сімволікай адрозніваюцца падзейныя балады-прытчы аўтара. Фальклорна-песеннае гучанне мае яго "Балада" пра смерць смелай і няскоранай птушкі, што загінула ў "драпежнай дзюбе". Усведамленне драматычнага лёсу сапраўднай асобы выразна гучыць у "Баладзе ў чорным", у той час як "Балада пра фігавы лісток" мае сатырычную аснову.

Асобна трэба гаварыць пра багацце і жанравыя адметнасці паэм Ніла Гілевіча, іх выключнае месца ў мастацкай сістэме пісьменніка. Так,

аўтабіяграфізм хронікі з сімвалічнай назвай “Сто вузлоў памяці” (1962–1964) заснаваны на малюнках і вобразах роднай Слабады да вайны, у гады ліхалецця і пасляваеннага энтузіязму. Вузлы памяці – гэта жывыя, выразныя, нібы кадры кінахронікі, эпізоды з біяграфіі паэта, з тых гадоў, калі ідзе інтэнсіўнае фарміраванне асобы падлетка. У творы спалучыліся ўдаваныя карціны шчаслівага калгаснага жыцця ў даваенныя гады і праявы ”шпіёнаманіі”, масавых рэпрэсій, нястач і голаду, а таксама партызанскае мінулае роднага мястэчка, трагічны лёс пакалення, апаленага вайной.

Сюжэт паэмы-ўспаміну пра вайну і будні “Недзяленя” (1970) з’яўляецца своеасаблівым працягам аўтабіяграфічнай хронікі, адным з найбольш запамінальных “вузлоў памяці”. Здзіўляе эпічнае майстэрства Ніла Гілевіча, непрыдуманасць характараў, дакладнасць рэалій, пераканаўчы паказ гістарычнага праз прыватнае, асабістае. Патрэба адчуваць трывалую глебу пад нагамі, непарыўнасць з роднай зямлёй і ўзгадаванае ёю ж пачуццё адказнасці з дзяцінства засвойваюцца лірычным героем пісьменніка ў якасці асноўных жыццёвых прынцыпаў. Напэўна, таму хлапчук з адведзеным яму вайною побытавым клопатам выступае ў творы не менш значнай асобай, чым нейкі грамадскі дзеяч.

*Хтось за дзяржаву адказнасць нёс,*
*Хтосьці за ўсю Еўропу,*
*А мне справядліва судзіў мой лёс*
*Адказным быць за карову* [4, с. 161 – 162].

Лірычна-фальклорная паэма аўтара “А дзе ж тая крынічанька?” (1970) спалучае апавядальнасць дзеяння з лірычнай традыцыяй, сустрэчай героя з роднай і шчымлівай беларускай песняй, гэтай сапраўднай залацінкай найкаштоўнейшага народнага скарбу. У сваю чаргу, паэма-рэквіем “А раніцы ўжо не было” (1972) заснавана на перадачы “галасоў на могілках вёсак”: юнака, дзяўчыны, сейбіта, жняі, чатырохгадовага хлопчыка. Прамоўленае імі – напамін пра знішчанае вайной пакаленне, што не паспела зведаць радасць жыцця, не дасніла шчаслівыя сны. Камедыйная “Формула іржавіны” (1973) пісьменніка закранае яшчэ нядаўна актуальныя праблемы ўступных экзаменаў у ВНУ і пабудавана на кантрасце вобразаў прайдзісветаў і сумленнага дацэнта Дразда. На жанравую спецыфіку “Заручын” (1965–1978) указвае яе падназва – “Маленькая аповесць 1946 года”, дзе асвятляецца гісторыя жыцця скалечанага вайной Мікалая Стрыбука, які недарэчна загіне ад выбуху ўжо ў мірны час. Па сваёй будове паэма “Пачатак” (1978) – аператыўны рэпартаж са шматлікімі адступленнямі з месца новабудоўлі аднаго з саўгасаў на Палессі, у аснове якога асэнсаванне матыву захавання палескай пушчы.

Наогул, далёка не кожны сучасны пісьменнік заслугоўвае сказаць пра

сябе тое ж, што Ніл Гілевіч у "Запеўцы" да "Родных дзяцей" (1972-1984). Дакладна: "Дыханне часу сцерагу…" [2, с. 255]. Паэт у які раз выяўляе жаданне кінуць "пагляд // На сутнасць радасці і суму, // З якіх сатканы побыт-лад…" [2, с. 255]. Прычым амплітуда болю паэта за свой любы край, што спрадвеку "знакаміты // Майстрамі-творцамі красы" [2, с. 306], разам з праблемамі апошняга прыкметна ўзрастае, павялічваецца адпаведна далечы да вытокаў, да старажытнай матчынай песні бяспамятных нашчадкаў, якія з выгады, а не з зялёных курганоў "бяруць у заўтрае разгон" [2, с. 307] і неўпрыкмет для саміх сябе страчваюць найважнейшае пачуццё адказнасці за вечны кругабег жыцця. Паводле аўтара, гэта тып ненаежцаў, вертапрахаў, заткалаў, што пераважна жлукцяць без меры, трамбуюць, "выдумляюць-хлусяць", "хаваюць-тояць", кідкія на нячыстыя грошы, падхалімнічаюць. Душы іх заўчасна апусцелі, страцілі той цвёрды грунт усведамлення, пра які нагадваў у сваім "Тэстаменце" герой пісьменніка Тодар Вячорка і пра які яшчэ марыў 14-гадовы вясковы летуценнік са "Ста вузлоў памяці", што ўжо тады разумеў:

*Праз саломіну з мыльнай пены*
*Вершы-бурбалкі стыдна дзьмуць* [4, с. 82].

У вершаваным рамане Ніла Гілевіча знайшлі адлюстраванне побыт народа і сутнасці душы беларуса, паэтызацыя прыроды, раскрыццё светлага і адначасова трагічнага сэнсу кахання, пытанняў экалогіі, мовы, маральнай адказнасці чалавека за свае дзеянні і ўчынкі. Але асабліва востра ставіцца ў творы праблема вернага служэння па-сапраўднаму высокаму і непадуладнага ніякім межам і разбурэнню мастацтва. Кампазітар Сцяпан Вячорка добра засвоіў навуку дзеда, старога музыкі:

*"Каб песню, вартую народа,*
*На поўны голас шчыра спець –*
*Што трэба творцу? Вельмі многа!*
*Радзіму ў сэрцы трэба мець!*

*Каб кожны дзень твой быў узлётам*
*Увысь за звыклы небакрай –*
*З яе высокім ладам-лёсам*
*Ты ўласнай песні лад звярай!..."* [2, с. 303].

Неабходна адзначыць характэрнае і цалкам адпаведнае раманнаму жанру твора шматаспектнае выяўленне ў дынамічнай і займальнай прасторы твора лірычнага "Я", што не выпускае з-пад увагі нікога з персанажаў і разам з тым дае магчымасць кожнаму з іх самараскрыцца ці быць прадстаўленым іншымі героямі праз партрэтныя, моўныя, псіхалагічныя, побытавыя дэталі. Паэт умела карыстаецца традыцыйнай

чатырохрадковай страфой, напісанай “рухомым, гібкім, трапяткім” ямбам, пераканаўча пашырае падзейнае кола дзякуючы цікавым кампазіцыйным рашэнням, арганічна знітоўвае ў адно лірычны і моцна адчувальны эпічны пачаткі, падрабязна адлюстроўвае нацыянальнае быццё, перспектывы чалавецтва праз лёс адной сям’і, вёскі, нарэшце ўсёй Беларусі і цэлай планеты.

Складаная і арыгінальная архітэктоніка рамана ўбірае ў сябе пралог і эпілог, чатырнаццаць аб’яднаных у пары раздзелаў, вялікую колькасць маналогаў і дыялогаў дзеючых асоб, нязмушаную шматгалосую гутарку персанажаў, жаданне паэта пісаць не “пра час далёкі”, а пра сучаснасць. Паэтычнае, іранічнае, гістарычнае, у гонар маці, кулінарнае, педагагічнае адступленні дастаткова поўна выяўляюць грамадскую пазіцыю і пачуцці творцы, выступаюць не толькі дзейснай формай перадачы поглядаў пісьменніка на пэўныя жыццёвыя праблемы, але і своеасаблівым сродкам сувязі паміж асобнымі фрагментамі эпічнага апавядання. Арганічная ўзаемаабумоўленасць зместу і формы, сюжэта і кампазіцыі, стасункаў дзеючых асоб, маштабнасць праблематыкі, глыбіня роздумаў аб мінулым, сучасным і будучым Радзімы, духоўных і маральна-этычных каштоўнасцях чалавецтва засведчыла багатыя магчымасці дадзенай мастацкай формы для беларускай літаратуры і дазволіла творцу выказаць самае запаветнае:

*Мой край, мой рай бульбяна-жытны!*
*Зеленадолы, залаты!*
*Як спеў матулі – старажытны,*
*Як песня любай – малады!* [2, с. 305].

Паэма-замова “Не хварэй!” (1990–1996) Ніла Гілевіча вяртае чытача да постчарнобыльскай Беларусі, жудасных карцін запусцення ў прыпяцкіх вёсках з калючым дротам, пакінутымі хатамі, маўклівым натоўпам жыхароў, якім не завозяць “ні харчоў, ні лякарстваў” і якіх прыезджыя адказныя асобы кормяць абяцанкамі. Пастулова спакойны аповед перарастае ў трагічны маналог, напоўнены балючай трывогай, малітоўнасцю, замоўнымі інтанацыямі і просьбамі за спраўджванне прышласці гэтай, пакуль няшчаснай, зямлі.

На горычы і драматызме біяграфічных пасляваенных падзей і адначасова выразным філасофска-гістарычным падтэксце пабудаваны сюжэт паэмы пісьменніка “Лодачкі” (1997-1998). Застарэлае пачуццё вінаватасці за няздзейсненую мару сястры-падлетка знасіць ці хоць бы разочак пафарсіць у трафейных нямецкіх лакавых туфліках і праз гады адзываецца, непакоіць ужо сталага героя твора, што з-за пасляваенных нястач перад вучобай у Мінску быў вымушаны прадаць лодачкі, пра якія тая так марыла. Здаецца, толькі прызнанне брата пра незямную прыгажосць незнаёмкі (“проста як прынцэса” [2, с. 252]), што купіла ў яго

туфлікі, ды сваю нечаканую закаханасць ў яе змагло хоць крыху супакоіць меншую сястру. Але і праз паўстагоддзе “нагружаны грахамі” лірычны герой адчувае бязмерную віну перад Ідзеяй, якая ўжо пайшла з жыцця, і таму звяртаецца з заклікам да ўсіх мужчын краю не прадаваць нічыёй – ні дачкі, ні сястры, ні маці – надзеі: “Не прадавайце! Каб пасля аднойчы // Не давялося горка шкадаваць…” [2, с. 254]. Сувязь некалі перажытых лірычным суб’ектам падзей з горкай постчарнобыльскай рэальнасцю выклікана выпадковай сустрэчай і назіраннямі за знешнасцю і паводзінамі заморанай, бедна апранутай вясковай дзяўчынкі, якая марыць атрымаць з замежнай гуманітарнай дапамогі прыстойны абутак: “Настаў вялікага жабрацтва час” [2, с. 234]. Угадванне апавядальнікам у сучасным падлетку з зоны роднай сястры з галоднага і “распранутага” пасляваеннага часу ў пэўнай ступені сведчыць пра горкі прысуд лёсу беларускага народа, гісторыя якога шмат у чым нагадвае бясконцае пераадоленне бед і няшчасцяў. У пэўнай ступені гэтую думку падкрэслівае казачна-былінны, але зусім не абяцаючы супакаення, суцешанасці, зачын паэмы:

*Жылі, жылі, жылі – і дажыліся…*
*Ішлі, ішлі, ішлі – і вось прыйшлі…* [2, с. 233].

Дзякуючы пранізліва-прачулай інтанацыі наратар не толькі змог перадаць замілаванае стаўленне да родных людзей, дэталёва ажывіць незагойна-шчымлівую памяць пра іх, але і нізка схіліць голаў перад прывітымі народнай мараллю пастулатамі, сваім светлым, хоць і не салодкім, юнацтвам, той беларускай вёскай, што вывела яго на бальшак, у далейшае жыццё. Ніл Гілевіч выяўляе сябе і тонкім псіхолагам, сапраўдным знаўцам чалавечай душы. Пісьменнік не цураецца як прыёмаў лірызму, так і мяккага гумару, з'едлівай сатыры, што ўсё разам дазваляе яму разгарнуць складанае кола праблем у кірунку ад уласна перажытага да агульнага.

Актуальнасць і аптымістычнае гучанне драматычнай паэмы “Паланэз Агінскага” (1999) абумоўлена перакананасцю паэта ў захаванні “веры матчынай”. Аўтар звяртаецца да часоў трагічнага і знешне справакаванага расколу беларускага народа на “сваіх” і “ворагаў”. Герой твора Якуб перакананы:

*Найстрашная ў жыцці з усіх разрух –*
*Вось гэта: душ і сэрцаў разбурэнне.*
*Распад і крах…*[10, с. 105].

Паэт, летуценнік, апошні рамантык жорсткай эпохі рэпрэсій, Занямонец напіша на агульнавядомую мелодыю Агінскага песню, дзе кожнае слова прадстане выклікам існуючай сістэме. Трагічна-велічны паланэз “Развітанне з Радзімай” у дадзеным выпадку гучыць як рэквіем,

апошні водбліск затаптанага полымя вальналюбства і адначасова як клятва вернасці ліцвінскаму краю, запаветам дзядоў і прадзедаў.

Надзвычай кранальная па змесце і пранізлівай інтанацыі прысвечаная "Светлай памяці Ніны Іванаўны, поруч з якой … пашчасціла прайсці жыццё" [11, с. 4], Гілевічава маленькая аповесць пра адно дзяцінства "Разумная дзевачка" (2005). Кожнае слова, кожная партрэтная, пейзажная і побытавая дэталь у творы выпісаны з такой непрыхаванай замілаванасцю гераіняй, такім тонкім адчуваннем яе псіхалогіі і светаўспрымання, што апавядальная хваля неўпрыкмет палоніць, нязмушана вядзе за сабой услед за разгортваннем далёка не бясхмарных калізій лёсу дзяўчынкі. Ніна, якая дагэтуль ведала хіба толькі ўтульны і добра вядомы ёй размераны лад бесклапотнага жыцця з абавязковым піццём сырадою ад кароўкі Рабоні, забавамі з прыгожым катом-пестуном Кіцем, радасным вітаннем першых промняў кожнага новага дня, абавязковай прысутнасцю старэйшай сястры, любоўю і шчырым клопатам абодвух бацькоў, раптам вымушана пасля іх разрыву, застаўшыся жыць з татам, дзяліцца ў прывязанасці паміж імі, балюча перажываць стан пакінутасці мамай, Ліпай і, як ёй здавалася пэўны час, непатрэбнасці ім – бясконца родным людзям. Давядзецца дзяўчынцы востра адчуць на сабе нянавісць і іншыя "шчадроты" сэрца мачыхі. Зрэшты, як і пазней, пасля вяртання ў новую сям'ю маці, "падкалупкі" яе мужа дзядзькі Міці.

І ўсё ж аповесць Ніла Гілевіча не зводзіцца толькі да гісторыі лёсу. Твор аднолькава, а можа і ў большай ступені пра тое, як ад самага пачатку прыходу чалавека ў гэты вялікі свет выяўляюцца ў ім прыродны такт, знешняе і душэўнае хараство, дабрыня, дар заступніцтва і суцяшэння, клопат за ўсё і ўсіх, працавітасць. Разгледзець гэтыя якасці ў паводзінах і светаўспрыманні маленькай і разумнай гераіні дазваляюць яе лёгкае стаўленне да абавязкаў, заўжды прыязныя адносіны з равеснікамі і старымі, дзіўнае для іншых жаданне дапамагчы сляпому жабраку праз правадырства, шчырая прывязанасць да суседкі бабы Юстыны. Старая, назіраючы за малой і адчуваючы яе абранасць, выразную адметнасць дзіцячай натуры, абяцае маліцца за яе шчаслівейшую долю, за тое, каб заўжды бараніла і спрыяла дзяўчынцы ў жыцці Прасвятая Багародзіца, "вялікія сумныя вочы якой цягнулі Ніну да сябе нейкай незразумелай чароўнай сілай" [11, с. 120] і якая, што потым пацвердзіцца самім жыццём, усё ж "засцерагчы Ніну ад цяжкай, несправядлівай долі не змагла" [11, с. 121].

Цяпер можна смела сказаць, што для Ніла Гілевіча стаў цалкам лёсавызначальным і ахоўным шлюб з Нінай Іванаўнай Кавалёвай, названай звычайна стрыманым на ўхвальныя ацэнкі Васілём Быкавым добрым анёлам беларускасці. Невыпадкова якраз гэтыя словы былі вынесены паэтам ў назву кнігі-партрэта. Знаёмства з часоў вучобы на філфаку БДУ для Гілевічаў як яркіх і мэтаскіраваных асоб, адораных выключным адчуваннем слова, захопленых мудрасцю і шматгранным

багаццем фальклору, народна-песеннай стыхіяй, перарасло ў моцнае і ўстойлівае да жыццёвых выпрабаванняў самаадданае пачуццё.

Нібыта баючыся быць суб'ектыўным ва ўспамінах пра верную спадарожніцу па зямным шляху, Ніл Гілевіч змяшчае ў першай частцы кнігі словы пра яе калег і вучняў. У выніку вобраз Ніны Іванаўны з яе цэласнай натурай, чулай і чуйнай душой, заўжды гатовай падтрымаць, дапамагчы кожнаму і словам і справай, атрымаў асаблівую завершанасць. Перад чытачом пераканаўча раскрываецца прыцягальнасць, асобасная самадастатковасць гэтай таленавітай жанчыны, якая на працягу паўвека і да апошніх дзён была не толькі натхняльніцай, светлай марай, каханнем паэта, але і наогул "надавала жыццю своеасаблівую прыгажосць, рабіла яго цікавым і нейкім больш значным" [12, с. 10]. Тых, хто ведаў Ніну Іванаўну, асабліва захапляла яе сардэчнае памкненне жыць у згодзе з людзьмі, уласным сумленнем. "Мо таму нябёсы і адарылі яе найвышэйшай міласцю: "Ёй выпаў рэдкі лёс – кахаць прыгожа. Кахаць да смерці" [12, с. 9]. У значнай ступені прамоўленае паплечнікамі ўспрымаецца як выверaная самім жыццём праўда дзякуючы мудраму захаванню імі меры ў ацэнках, тонкаму разуменню таго, што "словы ад пастаяннага ўжывання стамляюцца, губляюць сваю замоўна-сугестыўную сілу" [12, с. 9].

Усякай гучнасці, неапраўданай патэтыкі пазбягае ў сваіх успамінах пра бясконца дарагога чалавека, на долю якога выпала шмат выпрабаванняў, і сам Ніл Гілевіч. Канкрэтныя факты з біяграфіі жонкі асвятляюцца ім з улікам тагачасных сацыяльна-гістарычных абставін, праз прызму сумесна пражытага вопыту, ведання характару, звычак, творчых зацікаўленняў адзін аднаго. Прытым, што ў маладосці Ніла Гілевіча не маглі не захапіць у абранніцы найперш "асаблівы чар жаноцкасці, дзявочай чысціні і цнатлівасці" [12, с. 35], і пазней у любай жонцы яго працягваюць вабіць простасць, сціпласць. Невыпадкова адзін з раздзелаў кнігі так і называецца: "Чыстая і прастадушная, як дзіця" [12, с. 30]. Паэт падкрэслівае таксама ўласцівыя Ніне Іванаўне выключнае пачуццё гумару, узаемападтрымкі, рэдкую прафесійную абазнанасць, наогул высокую філалагічную культуру, педагагічны талент, нястомную прагу пазнання і вызначальны для іх абодвух клопат "пра беларускасць беларускай душы" як "самае нябеснае ў нашых зямных беларускіх клопатах" [12, с. 16]. Менавіта агульны беларускі боль, па перакананні пісьменніка, яшчэ больш знітаваў, узмоцніў іх народжанае ў маладосці каханне. Еднасць родных душ, такім чынам, з цягам гадоў утрывальвалася еднасцю роднасных духам.

Асабліва падкрэсліваецца і адпаведна ўзрушана асвятляецца апавядальнікам уласцівы яго спадарожніцы жыцця культ сям'і і мацярынства. Выключныя дабрыня, ласкавы нораў, бязмежная самаахвярнасць, на дзіва рэдкі, як піша Ніл Нілевіч, "талент дамавітасці" [12, с. 75], што ніяк не змяншалі ў Ніне Іванаўне пачуцця

гонару і годнасці, – усё гэта дазволіла ёй стаць сапраўднай апякункай сям'і, выхавання дзіцяці, абароны спакою і здароўя мужа і сына Сяргея, што з належнай адказнасцю ў дарослым жыцці сцвердзіць сябе ў біяхіміі. Пісьменнік шчыра гаруе, што ўнуку Багдану з прычыны смерці па цяжкай хваробе Ніна Іванаўна не паспела многае перадаць з "сонечных скарбаў сваёй душы" [12, с. 81], што сам ён пры жыцці каханай жанчыны як след не разумеў, не цаніў усю бязмежнасць яе самаахвярнай любові і пяшчоты. Увогуле, аўтар перакананы, што было б цалкам справядліва напісаць пра жонку кнігу пад назвай "Жыццё для сям'і", ці "Святасцю быў клопат пра сям'ю", ці нешта ў гэтым плане" [12, с. 82].

Зрэшты, нават і тое, што ўжо напісаў пра сваю каханую Ніл Гілевіч, дазваляе гаварыць пра ўвекавечванне ім яе ў адметных помніках-кнігах. Біяграфічная літаратура такога праблемнага поля і псіхалагічна-эмацыянальнага напалу не можа не быць прыярытэтнай у працэсе выхавання маладых, у падрыхтоўцы іх не толькі як кампетэнтных спецыялістаў, але і сапраўдных, зарыентаваных на спрадвечныя каштоўнасці, у тым ліку і культуру пачуццяў, асоб.

У апошнія гады ў самых розных выдавецтвах былі апублікаваны зборнікі Ніла Гілевіча "Паланэз Агінскага" (2002), "…І плямы на табе няма: Лірычны раман" (2003), "Сказ пра Лысую гару: У апошняй аўтарскай рэдакцыі" (2003), "Сказ пра залатое пёрка" (2005). "У ноч на Пакровы" (2008) і інш. Выйшлі ў свет нізкі вершаў і сшыткавыя запісы-дзённікі, мемуары, абразкі памяці, шматлікія эсэ, публіцыстычныя і аўтабіяграфічныя творы пісьменніка. Па архіўных матэрыялах ім з асаблівай руплівасцю і бязмежнай данінай незабыўнай памяці Н. І. Кавалёвай былі падрыхтаваны да друку працы "Дыялектны слоўнік", "З рабочых сшыткаў філолага", "Напачатку было слова", "Гісторыя народа – у яго мове" і інш. Усе яны яшчэ раз пацвердзілі мудрасць, "чалавечую і пісьменніцкую відушчасць" (паводле У. Конана) мастака, зайздросную спеласць яго таленту, засведчылі, што "паэзію аспрэчыць немагчыма" [2, с. 188], што яна месціцца не толькі ў вершаваных радках, але і народным слове, здольным да суперажывання і незабыўнай памяці чалавечым сэрцы.

І сёння нязменнымі духоўнымі арыенцірамі для творцы застаюцца Гармонія і Праўда, Розум і Сумленне, Любоў і Вера. Галоўныя з быццёвых і мастацкіх каардынат абазначаны самім пісьменнікам ва ўступным слове да запісаных у 2006–2007 гг. успамінаў. "Між роспаччу і надзеяй пражыў усё сваё свядомае жыццё – ад маладосці да старасці.

Між роспаччу і надзеяй жыву-дажываю і сёння. І роспачы, на вялікі жаль, усё больш і больш.

Але надзея застаецца…" [1, с. 243].

Менавіта гэтыя сутнасныя межавыя абсягі жыццятворчасці Ніла Гілевіча абумоўліваюць натуральную роздумнасць, цалкам зразумелы грамадзянскі неспакой і адначасова сцвярджальны пачатак напісанага ім, шчодра выяўляюць багацце яго мастацкага свету і шматграннасць таленту,

аднолькава выспеленага лірычнасцю народнай песні, адшуканым недзе пад Гайнаю палымяным купалаўскім гартам ды арганічна ўвабранай няспешнай Коласавай ўзіральнасцю ў акаляючы свет і суразмоўем з ім у зайздроснай, няхай, па вызначэнні самога аўтара, і старамоднай, манеры [2, с. 235].

---------------


1 Гілевіч, Н. Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары [Тэкст] / Н. Гілевіч // Дзеяслоў. – 2006. – № 2 (21). – С. 241 – 284

2 Гілевіч, Ніл. Выбраныя творы / Ніл Гілевіч; уклад., камент. Н. Гілевіча; прадм. У. Конана. – Мінск: Кнігазбор, 2009. – 600 с.

3 Мяснікоў, Анатоль. Праўда Ніла Гілевіча. Эсэ / А. Мяснікоў // Звязда. – 2001. – 21 ліпеня. – С. 12

4 Гілевіч, Ніл. Выбраныя творы. У 2-х тамах. Т. 1. Вершы, паэмы, п'есы / Ніл Гілевіч. – Мінск: Маст.літ., 1991. – 478 с. – С. 247.

5 Гілевіч, Ніл. На высокім алтары. Новая кніга паэзіі / Ніл Гілевіч. – Мінск: Маст.літ., 1994. – 142с.

6 Ильин, И. А. Философия и жизнь / И. А. Ильин / На переломе. Философские дискуссии 20-х годов: Философия и мировоззрение / Сост. П. В. Алексеев. – М.: Политиздат, 1990. – 528 с.

7 Гілевіч, Ніл. Актавы / Ніл Гілевіч. – Мінск: Маст.літ., 1976. – 144 с.

8 Гілевіч, Ніл. Любоў прасветлая: Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове. Лірыка-публіцыстычная хроніка. 1947 – 1995 / Н. С. Гілевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1996. – 483 с.

9 Гілевіч, Ніл. На флейце самоты: Лірычныя мініяцюры ў жанры “танка” / Ніл Гілевіч. – Мінск: Выд-ва “Про Хрысто”, 2005. – 32с.

10 Гілевіч, Ніл. Паланэз Агінскага: Лірыка. Паэмы. 1996 – 2002 / Ніл Гілевіч. – Маладэчна: Бібліятэчка часопіса “Куфэрак Віленшчыны”, № 6, 2002. – 140 с.

11 Гілевіч, Ніл. Разумная дзевачка: Маленькая аповесць пра адно дзяцінства / Ніл Гілевіч. – Мінск: Выд-ва “Про Хрысто”, 2005. – 124 с.

12 Гілевіч, Ніл. Добры анёл беларускасці: Штрыхі да творчага партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч / Ніл Гілевіч. – Мінск: Выд-ва “Про Хрысто”, 2007. – 144 с.

Яўген Гарадніцкі
*Мінск*

# Метафізічная прастора паэзіі Анатоля Вярцінскага (стыль мыслення і паэтыка выражэння)

Беларуская паэзія на працягу ўсёй гісторыі свайго развіцця (і асабліва ў XX стагоддзі) выявіла з несумнеўнай пераканаўчасцю здольнасць, якую можна назваць адной з самых характэрных і вызначальных. Гэта здольнасць да пастаяннага пераўтварэння, змянення, пашырэння сферы ўзаемадзеяння з духоўнай прасторай існавання чалавека. Беларуская паэзія даўно ўжо стала адметнай эстэтычнай з'явай, у якой выразіўся ў яскравай форме экзістэнцыйны вопыт нацыі і індывідуума.

У шматабліччы і рознагалоссі сучаснай беларускай паэзіі заўсёды вылучаўся і вылучаецца сваёй індывідуальнай непаўторнасцю паэтычны голас Анатоля Вярцінскага. Гэта паэт са сваім выпрацаваным і ўстойлівым **стылем**. І ўжо гэта само па сабе надзвычай істотна, паколькі не пра кожнага з творцаў, на жаль, можна сказаць такое. Яшчэ важней, што праз гэты стыль раскрываецца цэласная філасофія жыцця, выразна выяўляюцца аўтарская грамадзянская пазіцыя, яго маральныя прынцыпы. Да звыклай формулы "стыль – гэта чалавек" у выпадку з Вярцінскім так і хочацца дадаць, удакладніць: **стыль – гэта чалавек, які мысліць і суперажывае.**

Думка, эмоцыя і паэтычная форма, тэхніка верша – у мастацкім стылі Вярцінскага гэта рэчы нераз'яднальныя ў сваёй арганічнай спалучанасці. У гэтым сэнсе ёсць усе падставы гаварыць пра **феномен** паэзіі Вярцінскага, які перш за ўсё выражаецца ў адметнасці яго паэтыкі, скіраванай на выражэнне творчага суб'екта, яго рэфлексіі.

Творчасць Вярцінскага, самабытнага майстра паэтычнага слова, служыць грунтоўным пацвярджэннем тэзы, якую можна было б сфармуляваць так: **выходзячы за межы канвенцыйнага, традыцыйнага, паэзія яшчэ ў большай ступені набліжаецца да сваёй неспазнавальнай і таямнічай сутнасці.**

Паэзія заўсёды адкрыта насустрач зменам як у свеце, у чалавеку, які спасцігае гэты неймаверны свет, так і ў сабе самой. Чытаючы творы Вярцінскага, пранікаешся разуменнем сапраўднага характару ўзаемадачыненняў паэзіі і рэчаіснасці. Гаворка насамрэч павінна весціся не пра "адлюстраванне", механічны перанос быццёвых з'яў з аднаго

асяроддзя ў іншае, а пра суадноснасць **дынамізму** ў рэальным свеце і **зменлівасці** паэтычнага свету, пераўтварэнняў, якія адбываюцца ў душы чалавека і метамарфоз мастацкай формы.

Набліжанасць паэзіі да жыцця можа ўвогуле здзяйсняцца двума шляхамі. Адзін з іх – традыцыйны шлях пранікнення ў быццёвыя глыбіні, выяўлення шматісных праяў свету. Другі ж у большай ступені датычыцца прыроды самой паэзіі, яе мовы. Гэта шлях спасціжэння жыццёвай асновы самой паэтычнай творчасці, яе здольнасці быць такой жа рэальна адчувальнай і неабходнай з’явай, як і іншыя з’явы быцця.

У першым выпадку мы маем справу з прадметам паэзіі, у другім яна сама прадстае ў якасці мэты.

Вярцінскі адным з першых у беларускай паэзіі другой паловы ХХ ст. адгукнуўся на такі ўражальны тэктанічны зрух у мастацкай свядомасці як **празаізацыя мовы паэзіі**. Лірычны герой Вярцінскага гаворыць без патэтыкі, без прыдыхання, гаворыць так, быццам спакойна і засяроджана разважае сам-насам. І ў той жа час гэты лірычны маналог нязменна скіраваны да ўяўляемага суразмоўцы, без прысутнасці якога і паразумення з якім ён быў бы няпоўным, не да канца ўвасобленым. У невялічкай аўтарскай прадмове-прадпасланні да кнігі “Тры цішыні” (1966) Вярцінскі якраз згадвае пра чытача як пра *мысленнага таварыша па пяру, сааўтара.*

Літаратуразнаўцы і крытыкі, якія імкнуліся асэнсаваць такую неардынарную з’яву як паэзія Вярцінскага, не маглі абысці ўвагай адметнасць яго лірычнага прамаўлення, своеасаблівасць яго паэтычнай мовы. Пра характэрнасць мовы паэзіі Вярцінскага, як і ўвогуле адметнасць яго паэтычнага мыслення, дакладна і трапна напісаў акадэмік Уладзімір Гніламёдаў у манаграфіі “Ад даўніны да сучаснасці”, у якой падсумоўваецца ім гісторыя стылявога развіцця беларускай паэзіі: *Вярцінскаму блізкі аўталагічны прынцып, які вядзе да збліжэння паэзіі з прозай. Аднак “празаізацыя” верша не прыводзіць у яго да змяшання мовы паэтычнай і празаічнай, хоць мова паэта “графічная”, “лагізаваная” – у процілегласць, скажам, “жывапіснаму” Р. Барадулін*[1].

Сапраўды, да якой бы мяжы празаізацыі ні даходзіла мова ў творах Вярцінскага, заўсёды ў іх захоўваецца пэўная мера паэтычнасці, выяўляецца якісьці ўнутраны зарад паэтычнай энергіі, які зыходзіць і ад слова, і ад таго, што знаходзіцца за ім, у глыбіні падтэксту. І таму аўтар не адчувае патрэбы ў асаблівым абмежаванні сябе рамкамі традыцыйнай паэтычнай рыторыкі або тропікі.

Ёсць у Вярцінскага верш, у якім вельмі ж блізка сыходзяцца, падыходзяць упрытык адна да адной дзве моўныя формы выражэння – вершаваная і празаічная. Гэта “Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня”. Пачынаецца гэтая балада зусім не па-баладнаму, пачынаецца яна з аповяду-сведчання, расказу пра жахлівую падзею – пра тое, як гарэла ў

1. Уладзімір Гніламёдаў, *Ад даўніны да сучаснасці: Нарыс пра беларускую паэзію*, Мінск 2001, с. 204.

агні, падпаленая карнікамі беларуская вёска Кісялі, пра тое, як загінулі яе жыхары. Факты, жудасныя факты... Нават для таго, каб іх выказаць, проста сказаць пра іх – патрэбна неймавернае душэўнае напружанне. Тут была б недарэчы любая спроба штучнага фарсіравання інтанацыі, любая пафаснасць. Таму пра гэта і гаворыцца звычайнай празаічнай мовай, якая між тым убірае ў сябе гэтулькі болю суперажывання, якую і не кожны верш зможа ўзняць.

Аднак у дадзеным выпадку верш якраз пераймае эстафету ў прозы, паколькі далей тэкст твора пераўтвараецца менавіта ў вершаваны. Адбываецца гэта быццам няўзнак. Гучыць той жа голас з той жа паглыбленасцю ў роздум-успамін, прасякнутасцю тугой незваротнасці. Хіба што ўзнікае невялічкая паўза, пазначаная ў тэксце шматкроп’ем. І ўсё ж пры гэтым пераходзе многае змяняецца. Паяўленне шматлікіх рытмічных, сінтаксічных, гукавых паўтораў не толькі робіць гучанне верша выразным, размерана-акцэнтаваным, яно надае яму якісьці дадатковы сэнс, які прыўздымае выказванне паэта над эмпірыкай факта. Паэтычнае абагульненне, сімволіка становяцца рэальнасцю верша ў Вярцінскага ў такой жа меры, як і тая рэчаіснасць, якая служыць падставай для выказвання, з’яўляецца аб’ектам асэнсавання.

Звязвае сімвалічнае з рэчыўным, прадметным у паэзіі Вярцінскага якраз тое, што ляжыць у аснове яго паэтыкі і стылю. Тым самым утвараецца адзінства мастацкага свету, якое грунтуецца на спалучанасці індывідуальных асаблівасцей творчай манеры аўтара з агульнымі тыпалагічнымі прыкметамі паэтычнага мыслення.

Анатоль Вярцінскі – паэт актуальна сучасны, з абвостраным успрыманнем таго, што адбываецца *тут і цяпер*. Яго сучаснасць як творцы вызначаецца як нязменнай скіраванасцю на надзённыя праблемы, так і сучаснасцю паэтыкі, сучаснасцю мовы, на якой ажыццяўляецца паэтычнае выказванне, пасланне паэта свету. Разам з тым хочацца звярнуць увагу і на такі бок творчасці паэта, як яго сувязь з літаратурнай традыцыяй. Гэтую праблему ў адносінах да Вярцінскага ўздымаюць не так часта, паколькі на першым плане знаходзіцца, вядома, адзначаная вышэй як тэматычная, так і стылёвая сучаснасць, наватарская сутнасць яго паэзіі. А між тым сувязь паэта з усім тым, што складае анталагічныя, глыбінныя асновы паэтычнай творчасці як крэатыўнай дзейнасці, з’яўляецца, як нам думаецца, адной з цікавейшых праблем, якая патрабуе свайго вырашэння. Да традыцыяналістаў Вярцінскага, вядома, не залічыш. Аднак, не пакідаючы па-за ўвагай арыгінальнасці і наватарскага характару паэтычнага почырку гэтага выдатнага майстра, зусім не лішнім будзе закрануць і гэтае пытанне: як суадносіцца яго стыль з тымі традыцыйнымі формамі, што выпрацавала нацыянальная паэзія.

У сувязі з вышэй сказаным аб празаізацыі вершаванага радка ў Вярцінскага, яго знарочыстай увазе да паэтычнай формы, пазбаўленай знешняй экспрэсіўнасці, мабыць, падасца не вельмі правамерным і

абгрунтаваным супастаўленне паэтычнага стылю гэтага аўтара са стылістыкай Янкі Купалы. Сапраўды, ці не занадта аддаленыя гэта адна адной мастацкія сістэмы? Купала з яго рамантычнымі памкненнямі і адкрытай эмацыянальнасцю і Вярцінскі – паэт выразна рацыяналістычнага складу мыслення. Ці не падасца такое параўнанне пэўнай нацяжкай, як бы данінай звыклай традыцыі супастаўляць кожнага значнага паэта сучаснасці з класікам нашай літаратуры.

Па нашаму ўнутранаму перакананню такое супастаўленне не толькі правамернае, але і неабходнае. Ды калі ўважлівей прыгледзецца, якраз не так і мала знойдзецца пунктаў судакранання паміж паэтыкамі гэтых аўтараў. Інтэлектуалізм Вярцінскага – гэта ні ў якім разе не маніфестацыя голага *ratio,* яго паэтычная думка заўсёды аплодненая эмоцыяй, на пачуцці настоеная. У гэтым сыходзяцца ўсе крытыкі, даследчыкі літаратуры, хто ў свой час пісаў пра паэта. Няхай для яго паэзіі не характэрна празмерная эмацыянальная раскаванасць, віраванне пачуццяў, як гэта мы назіраем у Купалы, ды ўсё-такі ёй уласціва вялікая мера глыбокай душэўнай узрушанасці, хвалявання. Рамантычная ўзвышанасць, сяганне ў высокія сферы духоўнасці не чужыя “рацыяналісту” Вярцінскаму. Ва ўсіх аматараў айчыннай паэзіі на слыху радкі паэта пра “высокае неба ідэала”. Гэта сапраўдны гімн рамантычнаму светаадчуванню, духоўным пошукам., душэўнай незаспакоенасці.

Трэба таксама ўзяць пад увагу, што для абодвух паэтаў характэрна філасофскае стаўленне да жыцця. Ідучы ад рэальных абставін, увасабляючы ў творах шматстайнасць жыццёвых праяў, сітуацый, яны імкнуцца да выяўлення падспудных прычын усяго існага, абгрунтавання заканамернасцей гістарычнага працэсу. І перш за ўсё – да ўспрымання жыцця праз прызму маральных каштоўнасцей, усталявання погляду на чалавека і свет з гуманістычных пазіцый. Таму можна з пэўнасцю сцвярджаць, што Вярцінскім прадаўжаецца лінія развіцця нацыянальнай разнавіднасці мастацкай філасофіі жыцця, асновы якой былі закладзены нашымі класікамі. Той філасофіі, якая грунтуецца на нацыянальных мадэлях і архетыпах светаўспрымання.

Нацыянальны тып светаўспрымання і мыслення выяўляецца перш за ўсё ў мове, яе структуры. Сінтактыка нацыянальнага дыскурсу з’яўляецца адным з самых паказальных спосабаў рэалізацыі моўнай мадэлі свету. Класікі нашай паэзіі, абапіраючыся на вопыт фальклорнай паэтыкі, у поўнай меры выкарыстоўвалі дадзеныя механізмы спараджэння Тэксту. У паэзіі Купалы гэтая асаблівасць выявілася найбольш яскрава.

Звернемся зараз да той жа “Балады пра спаленую вёску і жывога пеўня” Вярцінскага і паглядзім, наколькі блізкая яна сваёй паэтыкай да купалаўскай традыцыі:

Ён вёску будзіў,
крычаў да хрыпу.

Будзіў у каторы ўжо раз.
А вёска маўчала – ні рыпу, ні скрыпу,
ні груку, ні гуку ў адказ.
Ён вёску будзіў, галасіў адчайна,
пакуль не здзічэў зусім, не знямеў.
А вёска маўчала, вёска маўчала.
Яна ўжо не чула той ранішні спеў...[2]

У мёртвай вёсцы цішыню абуджае толькі цудам ацалелы певень. Яго здзічэлы, ашаломлены голас гучыць, здаецца, на ўвесь свет. Аўтар знаходзіць адэкватныя сродкі мастацкага выражэння, каб перадаць усю неймаверную, бяздонную глыбіню гэтага маўчання і гэтага гучання. Гукавыя, сінтаксічныя паўторы даюць магчымасць найбольш востра і непасрэдна адчуць трагічную невычэрпнасць дадзенага быццёвага моманту, які быццам выпаў са звыклага поступу гістарычнага часу. Безумоўна, вопыт купалаўскай паэтыкі, у якой канцэптуальнае значэнне надаецца якраз падобным структурным элементам, тут Вярцінскім улічваецца. Іншая справа, што ён творча пераасэнсоўваецца, у выніку чаго судакрананне аўтаномных мастацкіх сістэм адбываецца на ўзроўні агульнай парадыгматыкі нацыянальнай паэтычнай мовы.

Паэтычны прыём, які ўвогуле можна аднесці да агульнага фонду сродкаў мастацкага выражэння, у паэтыцы кожнага аўтара набывае індывідуальныя ўласцівасці, уваходзіць у склад аўтарскай мастацкай сістэмы. Мабыць, таму параўнальны аналіз у галіне паэтыкі заўсёды патрабуе пэўных агаворак. Супастаўляючы стылі, творчыя манеры розных паэтаў, патрэбна памятаць аб тым, што параўнанне, пошук аналогій і паралеляў, з'яўляецца не самамэтай, а ўсяго толькі спосабам дадатковага высвятлення індывідуальнай адметнасці творчай асобы. У адносінах да яркай творчай індывідуальнасці Вярцінскага такі падыход тым больш неабходны. Яго непадобнасць да іншых, адметнасць становішча ў беларускай паэзіі відавочныя. Суаднясенне з іншымі мастацкімі з'явамі ў дадзеным выпадку можа толькі садзейнічаць больш выразнаму акрэсліванню абрысаў яго арыгінальнай мастацкай сістэмы.

Празаізацыя codeшаванай мовы натуральна прывяла паэта да верлібра. І гэта форма верша ў Вярцінскага, падпарадкоўваючыся пэўным агульным структурным правілам, таксама пазначана пячаткай індывідуальнай адметнасці. Гэта менавіта **верлібр Вярцінскага**, які наўрад ці зблытаеш з верлібрам іншага паэта, хоць аўтарская ідэнтыфікацыя ў дадзеным выпадку як быццам ускладняецца адсутнасцю ў гэтай вершаванай формы выразна заяўленых і ўстойлівых параметраў. Паколькі некаторыя канструктыўныя элементы ў верлібры ўсё ж такі прысутнічаюць, то

2. Анатоль Вярцінскі, *Тры цішыні: Вершы*, Мінск 1966, с. 41—42.

можна, вядома, супаставіць верлібры Вярцінскага з верлібрамі Максіма Танка, які зрабіў у гэтай сферы найбольш і па сутнасці стварыў тыпалогію беларускага верлібра. Вярцінскі таксама выкарыстоўвае пэўныя канструкты, якія структурна арганізуюць семантычнае поле верлібра. У вершы "Спачуванне" гэта, да прыкладу, анафарычныя пачаткі строф, якія затым разгортваюцца ў выглядзе пэўных тэзісаў з наступным іх пацвярджэннем экзістэнцыйным вопытам аўтара. Выказванне думкі, ідэі і яе суаднясенне з жыццёвай практыкай, вывярэнне яе на адпаведнасць крытэрыям праўды і чалавечнасці – гэты прынцып рэалізуецца ў паэзіі Вярцінскага паслядоўна і да канца. І выяўляецца ён праз мастацкую форму, структуру верша.

Верлібр як адна з форм верша займае ў творчасці Вярцінскага не надта вялікае месца. Дадамо яшчэ, што гэта форма не вельмі вылучаецца з ліку іншых у мастацкай сістэме паэта. Гэта абумоўлена агульнымі асаблівасцямі паэтыкі Вярцінскага. У многіх яго творах выразна выяўляецца структурная суаднесенасць цэласных моўных адзінак, якая набывае сэнсавае значэнне. На гэтай суаднесенасці часта трымаецца вобразнае адзінства верша, з яе дапамогай раскрываецца ідэя твора. *Сінтаксічны паралелізм, ва ўсёй яго разнастайнасці і ва ўсіх разнавіднасцях, стаў адзнакай стылю Вярцінскага*[3], – заўважыў у свой час І. С. Шпакоўскі. Калі і ўжываць выраз **сінтаксічны паралелізм** у адносінах да творчасці такога мадэрнага паэта як Вярцінскі, то, вядома ж, у шырокім сэнсе гэтага паняцця. Гэта не проста прыём, запазычаны, скажам, у класікаў ці ў фальклорнай паэтыкі. Гэта хутчэй спосаб паэтычнага выражэння, пры якім становіцца больш відавочнай, успрыімлівай сама **структурнасць** твора, як быццам прасвечваюцца, перасякаючыся, накладаючыся адна на адну, шматлікія грані адпаліраванага алмаза.

Верш Вярцінскага мае і такую структурную асаблівасць: у ім па сутнасці няма выразна абазначаных, акцэнтаваных анжамбеманаў. Радок звычайна супадае сваёй працягласцю са сказам або яго сэнсава цэласнай часткай. Гэтая адпаведнасць асноўнай меры верша афармленай думцы, паэтычнаму выказванню робіць паэзію Вярцінскага яшчэ больш выразнай, дакладнай, скіраванай на выражэнне **галоўнага**, сутнаснага.

Што ж робіць найбольш выразным, яскравым і ўражлівым верш Вярцінскага, дык гэта, безумоўна, рыфма. Яна, заўсёды паўнагучная, часта выштукаваная, незвычайная, звяртаючы на сябе асаблівую. ўвагу, з'яўляючыся адным з асноўных акцэнтаў верша, быццам спаборнічае з думкай паэта. Ды па сутнасці яна і сама нясе ў сабе значны сэнсавы зарад. Мабыць, нікольki не будзе перабольшаннем сказаць аб тым, што ні ў аднаго іншага беларускага паэта рыфма не адыгрывае такой надзвычай

3. Янка Шпакоўскі, *Узрушанасць: Артыкулы пра сучасную беларускую паэзію*, Мінск 1978, с. 94.

значнай ролі, як у Вярцінскага. У яго рыфма, як стрэл у канцы кожнага радка. Часам паэт наогул паказвае выключную вынаходлівасць у рыфмаванні, як, да прыкладу, у вершы “Фасады”, дзе загалоўнае слова рыфмуецца з фазанамі, дзе прысутнічае і такая складаная рыфма: *бітая – быт яе*. А вось заканчэнне верша “Здарэнне ля шлагбаўма”. Пра цягнік, які *Прагрукатаў і знік*. Пра тое, як пасля гэтага

І з неахвотаю, са скрыпам
стаў узнімацца шлаг-
баум. Шафёр прыспешыў крыкам
і крануўся ў шлях[4]

Чаканная рыфма ў вершах Вярцінскага падмацоўваецца яшчэ і адмысловым гукапісам, які прасякае ўсю тэкставую прастору яго паэзіі. Узяць да прыкладу верш “Бяссрэбранікі” з яго “рокатнай” алітэрацыяй, якая найпрыдатней падыходзіць да ўвасаблення заяўленай у творы тэмы.

Можна было б яшчэ багата прыводзіць прыкладаў удалага супадзення, адпаведнасці паэтыкі выдатнага майстра выказаным у яго творах думкам і перакананням, сцвярджэнням і перасцярогам, увогуле яго аўтарскай грамадзянскай пазіцыі. Але на завяршэнне дастаткова, мабыць, падкрэсліць: **гэтая змястоўна-фармальная еднасць з’яўляецца ўвасабленнем цэласнасці асобы паэта, яго грамадзянскай і мастакоўскай здзейсненасці.**

4. Анатоль Вярцінскі, *Тры цішыні: Вершы*, с. 20.

Юрый Паталкоў
*Брэст*

# МЕТАФІЗІЧНЫ ЗМЕСТ ЧАСОПІСА "ТЭРМАПІЛЫ"

## 1
## Трыадзіная эмпатыя як выратавальная мегаідэя

Няма нічога новага у сцверджанні, што з мастацкай літаратурай чалавек сустракаецца між іншым і дзеля таго, каб ратаваць сваю душу ад драматычнай супярэчлівасці. З гэтай жа мэтаю бярэм мы сёння ў рукі адзін з нумароў (№ 10, 2006 г.) літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы", які выходзіць у Беластоку. Непасрэдным прадметам размовы мы абіраем тую грань зместу паважанага выдання, якую можна акрэсліць так: "метафізічная энергія духу". Сродкам дасягнення пастаўленай мэты ў нас выступае эмпатыя (суперажыванне). Як мы паспрабуем давесці ў артыкуле, і прадмет разгляду, і сродак спасціжэння прадмета абраны намі не выпадкова. А можа, і не намі, а сіламі, вышэйшымі за чалавечую моц...

У літаратуразнаўчых даследаваннях эмпатычныя падыходы да спасціжэння матэрыяла выкарыстоўваюцца, як на сёння, досыць рэдка. Таму падаецца за мэтазгоднае звярнуцца да трактоўкі тэрміна "эмпатыя" ў розных крыніцах.

*Эмпатыя* – суперажыванне як спосаб пазнання свету (1, с. 305).

*Эмпатыя* – (грэч, empatheia – суперажыванне) – спосаб спасціжэння і разумення стану чалавека, твораў мастацтва сродкамі суперажывання, асобых інтэнцыянальных адносін да прадмету разумення (2, с. 324).

*Эмпатыя* – здольнасць уявіць сябе на месцы іншага чалавека і зразумець яго пачуцці, жаданні, ідэі і ўчынкі.Гэты тэрмін быў уведзены на пачатку 20 стагоддзя ў якасці эквівалента нямецкаму Einfuglung і па аналогіі са словам "сімпатыя". Тэрмін "эмпатыя" часта (але не выключна) ужываецца ў дачыненні да эстэтычных перажываняў. Найболей відавочны прыклад –актор ці спявак, які шчыра перажывае ролю, якую выконвае.Пры сутыкненні з іншымі творамі мастацтва глядач можа, шляхам свайго рода інтраекцыі, адчуваць сябе ўцягнутым у тое, што ён бачыць ці ўспрымае. Выкарыстанне эмпатыі з'яўляецца важнай часткаю метадаў псіхалагічнага кансультавання, прапанаваных амерыканскім

псіхолагам Карлам Роджэрсам (3, с. 539).

Ну дык што такое эмпатыя: спосаб пазнання рацыянальнага свету ці псіхічная здольнасць чалавека? На наш погляд, – ні тое, ні другое. Паданыя вышэй слоўнікавыя вызначэнні прадмету не пераконваюць таму, што ў іх, па-першае, ёсць толькі адказ на пытанне "што?", але няма адказу на пытанне "дзеля чаго?". Па-другое, усе прыведзеныя вышэй разуменні эмпатыі маюць на ўвазе **двуадзіны** характар суперажывання (духоўнае ўзаемапранікненне **двух** актантаў: суб'екта творчасці і суб'екта ўспрыняцця творчасці). На наш погляд, такі падыход да разумення эмпатыі разыходзіцца з духоўнай рэальнасцю быцця. Відавочна, што філасофскія ўяўленні эпохі Асветніцтва (пабудаваныя якраз на двуадзіным успрыняцці суадносін крэатыўнага чалавека з асяроддзем) сёння даводзяць сваю абмежаванасць, якая праяўляе сябе, сярод іншага, і ў літаратуры і літаратуразнаўстве.

Знамянальна, што рэдактар часопіса "Тэрмапілы" Ян Чыквін згаданую абмежаванасць рашуча не прымае: *...дэкартаўская незалежнасць чалавечай мыслі не здолела на працягу навейшага гістарычнага часу, бо у прынцыпе і не магла здолець, запоўніць і фундаментальныя, і шматлікія пабочныя пытанні людской экзістэнцыі. Адкрытаю заставалася і надалей застаецца найперш метафізіка чалавечага лёсу, якая найяскравей праяўляе сябе і аб'ектывізуецца ў рэлігійным вопыце" ( 4,с.183).*

Дадзенае выказванне паважанага рэдактара мы ўспрымаем як зыходнае для нашага артыкула, паколькі ў ім вызначаны прадмет мастацкага ўвасаблення ў часопісе "Тэрмапілы": *метафізіка чалавечага лёсу.* Чытач сустракаецца тут з філасофскай праграмай выдання: адмова ад незалежнасці чалавечай мыслі на карысць залежнасці духоўнага жыцця чалавека ад Вышэйшай творчай дзейнасці Госпада. Па сутнасці, у гэтай праграме дэкларуецца змена цывілізацыйных этапаў, сутнасць якой праяўляецца у тым, што на месца абмежаванага ў часе механістычнага картэзіянства прыходзіць адвечнае суперажыванне фізічнага з метафізічным у быцці. Такая светапоглядавая пастава, безумоўна, пераконвае, паколькі супадае з выратавальнымі памкненнямі сучаснага чалавецтва.

Працытаваныя вышэй думкі рэдактара "Тэрмапілаў" даюць магчымасць зразумець, чаму ў сваім артыкуле мы звярнуліся да спасціжэння энергіі духу, увасобленай у матэрыялах *менавіта гэтага* часопіса. Насамрэч, толькі метафізіка чалавечага лёсу ў стане ўтаймаваць агрэсію сённяшняга вульгарнага прагматызму. З такога пункту гледжання можна сцвердзіць наступнае: эмпатыя – гэта мегаідэя ратавання душы праз суперажыванне чалавека з этычным абсалютам, гэта значыць, з Усявышнім. Развіваючы прадстаўленыя вышэй высновы Яна Чыквіна, можна выказацца так: **сёння на змену эпосе Асветніцтва прыходзіць эпоха суперажывання /эмпатыі/. Дакладней кажучы, надыходзіць эпоха трыадзінага суперажывання.** Ірацыянальны змест часопіса "Тэрмапілы" – адна з рэальных праяў гэтага надыходу.

У сваіх разважаннях мы зыходзім з дапушчэння, што літаратурны працэс (як і ўсё існае) прадстаўляе сабою рухомае крэатыўнае *тры-адзінства*, у якім суперажывальна (эмпатычна) саўдзельнічаюць **тры іпастасі:** *Усявышні* – першатворца духоўнай задумы; <u>*пісьменнік* (рэдактар</u> – калі прадметам спасціжэння аказваецца метафізічны змест літаратурна-мастацкага часопіса) – чалавек, які творча ўвасабляе задуму Госпада ў матэрыю мастацкага слова; <u>*чытач*</u> – творчая індывідуальнасць, якая ў пошуках маральнай самаідэнтыфікацыі звяртаецца да Божай задумы, увасобленай у мастацкім слове. Так што эмпатыя ў двуадзіным выглядзе існаваць не можа: яна заўсёды трыадзіная. Вось чаму мы скептычна ставімся да слоўнікавых вызначэнняў паняцця "эмпатыя", прыточаных вышэй.

Трыадзінае суперажыванне прынцыпова трансфармуе і метады літаратуразнаўчага пазнання: пры ім канчатковай формай навуковага спасціжэння мастацкага твора аказваецца не *аналіз*, а *сінтэз,* які ўзбагачае перш за ўсё не рацыянальна-мысліцельны, а суперажывальна-пачуццёвы свет чытача. Чытач (рэцыпіент, даследчык), які імкнецца да сінтэтычнага спасціжэння твора, першаснай сваёй задачай пачынае лічыць не вынясенне прысудаў ды вердыктаў адносна ўспрынятага матэрыялу мастацтва, а шукае ў літаратурным вобразе сродкаў уласнага паратунку ад цынізму паўсядзённасці. Прадметам спасціжэння ў такім выпадку аказваецца самадастаткова прысутная ў матэрыяле звышнатуральная энергія духа, авалоданне якою (хаця б частковае) дапамагло б асобнаму чытачу і ўсяму грамадству падняцца над сваёю духоўнай няўдольнасцю і ўбачыць новыя мажлівасці да гарманізацыі індывідуальнага і сацыяльнага жыцця.

Пойдзем і мы гэтым шляхам: дзеля паратунку свайго (а значыць, і кожнага з патэнцыяльных чытачоў артыкула) паспрабуем наблізіцца да святасці Найвышэйшай задумы, якою самадастаткова прасякнуты старонкі "Тэрмапілаў".

Як наймалейшая драбностка жыцця ў стане выказаць сабою дасканаласць усяго Гасподняга тварэння, так і кожная мастацкая дэталь напоўніцу сведчыць і аб усім творы, і аб часопісе, у якім твор надрукаваны. Трыадзіна эмпатычны падыход да матэрыялу дае даследчыку мажлівасць убачыць у часопісе не столькі акрэсленую сацыяльна-эстэтычную *з'яву,* колькі своеасаблівы *сімвал* сучасных духоўных працэсаў глабальнага характару.

Вызначымся з тым, які змест у нашым артыкуле надаецца паняццям "з'ява" і " сімвал". *З'ява ў*спрымаецца намі як іпастась відавочная, тэматычная, лагічна ўсведамляемая, даступная для агульнага абмеркавання. Карацей кажучы, з'ява – феномен абмежавана чалавечы. *Сімвал* жа прадстае ўмоўным знакам эзатэрычнай ідэі, субстанцыяй, якая прыходзіць у свет нашых пачуццяў не ад чалавечага розуму, паўстае выяваю патаемных і невядома адкуль прыходзячых параўнанняў, фобій, інстынктаў, сноў, модлаў, трызненняў. Перад бязмежнасцю сімвала

механістычны розум складае зброю і ўглядаецца ў сімвалічную метафізічнасць вачамі утрапёнага вучня-першакласніка.

Кожны з твораў літаратурнага мастацтва, безумоўна, шляхетны ў якасці з'явы, але куды больш узнёслы ён сваім сімвалічным зместам. Твор і часопіс, зразуметыя як з'ява, – усяго толькі "ключ" да чароўных "дзвярэй", за якімі жыве сімвалічная рэчаіснасць быцця, спасціжэнне якой нам, чытачам, неабходна дакладна, як паветра. У гэтай рэчаіснасці дзейнічаюць непадуладныя чалавеку законы, анталагічныя праявы і іх сувязі, надрацыянальныя ўзаемазалежнасці і звышнатуральныя своеасаблівасці.

Такім чынам, спасціжэнне метафізічнай філасофіі часопіса "Тэрмапілы" мы прадпрыймаем у імя выяўлення ў гэтай філасофіі таго патаемнага субстанцыйнага пачуцця, суперажываючы з якім , кожны з нас можа атрымаць духоўную моц, неабходную для годнага існавання ў этычнай атмасферы сучаснасці. Згаданае выяўленне мажліва толькі пры выкарыстанні трыадзіна эмпатычных падыходаў да літаратурнага матэрыялу.

## 2
## У крузе Божага болю

Чытач, які вырашыў шукаць духоўнага паратунку праз спасціжэнне метафізічнага зместу часопіса "Тэрмапілы", непазбежна прыходзіць да высновы, што найгалоўнейшы дарунак Бога людзям – гэта боль. Сам Усявышні – увасоблены боль з нагоды згубнай супярэчлівасці свету гэтага. Ну а мы, людзі, – па вобразе і падабенстве Божым... Дзе няма болю, там няма мастацтва, няма праўды, няма шчасця. Без болю няма і народазнаўства... Прасякнуты гэтым шляхетным болем і часопіс, пра які мы вядзем размову.

Боль у " Тэрмапілах" – не тэма, не слоўная пабудова, не слаган, а ўнутраная апостальская адказнасць рэдакцыі часопіса перад Усявышняю задумаю, перад народазнаўчай місіяй беларускай нацыянальнай культуры. Таму невыпадковым прадстаўляецца факт, што на старонках часопіса неаднойчы асэнсоўваецца здабытак, які пакінуў у гісторыі Блез Паскаль (1623–1662) – рэлігійны публіцыст, мараліст, філосаф. Ён пакутаваў не толькі ад фізічных недамаганняў, але і па прычыне недасканаласці чалавечай натуры. Як вядома, у лёсе Паскаля быў круты паварот: напрыканцы жыцця ён пакінуў дакладныя навукі, у якіх зрабіў геніяльныя адкрыцці, і накіраваў свае высілкі на спасціжэнне пытанняў рэлігіі і маралі.

Асэнсаванне згаданага факту тым больш патрэбна для нас, што перад сучасным чалавецтвам ірацыянальна паўстае неабходнасць менавіта такога павароту. Нездарма аўтар артыкула пра Блеза Паскаля Вольга Нікіфарава зазначае пра гэтага мысляра XVII стагоддзя наступнае:

"Некаторыя сучаснікі ўбачылі ў такім пераломе лёсу навукоўца здзяйсненне волі Усявышняга" (6, с. 229). Ці не далучыцца нам, жыхарам XXI стагоддзя, да тых самых "некаторых сучаснікаў"? Трыадзіная эмпатыя заснавана на ўпэўненасці, што кожны чын чалавека – гэта заўсёды ўвасабленне (што праўда, далёка не заўсёды ўдалае) Божай волі.

Абгрунтаванасць падобнай паралелі можна пацвердзіць тэкстам эпіграфа да артыкула В. Нікіфаравай:

*Я ў крузе, дзе слова шукае Слова,*
а чалавек – Чалавека.
Алесь Разанаў, *У крузе (6*, с. 228)

У прыточаных радках паэта гучыць паскалеўскі боль, з прычыны якога недасканаласць вымушана прабіваць шлях да Дасканаласці, а чалавеку невыкрутна трэба набліжацца да Бога. Дарэчы: у " крузе", пра які ідзе гаворка ў двухрадкоўі, эмпатычна аб'яднаны тры іпастасі: *Бог (*Слова, Чалавек); чаловек-*крэатар,* які шукае абсалюту (слова, чалавек); *чытач* (індывідуум, які прыкмячае сваю залежнасць ад Слова і слова і бачыць у гэтай залежнасці адзіна мажлівы шлях да вызвалення ад сваёй балючай душэўнай дысгармоніі). Усе тры творчыя іпастасі ўпэўненыя: калі б не адвечны боль, дык не было б і пошукаў абсалюту.

На нашу думку, працытаваныя словы А. Разанава могуць служыць эпіграфам і да ірацыянальнага зместу часопіса "Тэрмапілы", і да сучасных субстанцыяльных тэндэнцый у беларускім слоўным мастацтве. У артыкуле В. Нікіфаравай слушна сцвярджаецца: "Прадаўжальнікі плённага пачынання Б. Паскаля з'явіліся і ў нашай літаратуры" (6, с.236). Цытуюцца Янка Брыль, Янка Сіпакоў і зноўку Алесь Разанаў... Даследчыца параўноўвае Паскаля з Фаўстам з трагедыі І. Гёте, зазначаючы пры гэтым: "Фаўст таксама расчараваўся ў навуцы, калі зразумеў, што яна не дае адказу на галоўнае пытанне аб сэнсе чалавечага жыцця" (6, с. 230). Падтрымлівае выказаную думку В. Нікіфарава фрагментам з беларускага перакладу "Фаўста", зробленага В. Сёмухай.

Нельга не заўважыць, што выснова аб расчараванасці Фаўста пераклікаецца з працытаваным вышэй выказваннем Яна Чыквіна пра дэкартаўскую незалежнасць чалавечай мыслі. Блізкасць паміж пастамі двух паважаных даследчыкаў – феномен не лакальны. Яна – доказ глабальных зменаў у этычных прыярытэтах чалавецтва, паводле якіх для фізічнага і духоўнага выжывання патрэбна ўкараненне кардынальна новых падыходаў да вызначэння месца чалавека ў быцці. Сутнасць гэтых падыходаў – у прызнанні, што чалавек – адно *тактык* развіцця ўсяго існага. *Стратэгічная* ж роля ва ўсясветным руху належыць Божаму тварэнню, якое працягваецца сёння і не спыніцца ніколі.

Так што, якія б маральна-этычныя канцэпцыі ні прапаноўвала чалавецтва, выжывуць з іх толькі тыя, якія будуць сугучнымі Божаму

закліку "Палюбі бліжняга свайго". Таму расчараванне сучаснага грамадства ў навуцы – зусім не адмова ад яе, не паніжэнне статуса рацыянальнага ў пазнанні рэчаіснасці, а вынік паўстання перад сучасным чалавецтвам новых, невырашальных для эпохі Асветы, Усявышніх заданняў. Усе мы жывем у адным крузе – у крузе Божага болю. За межы гэтага круга чалавецтва не выйдзе ніколі. У сувперажыванні з Усясветнай Задумай гэтага круга – сутнасць метафізічнага зместу часопіса "Тэрмапілы", падмурак яго вялікаснага служэння беларускай нацыі і ўсяму чалавецтву.

3

**Паміж "спартанцамі" і "персамі"**

Падзеі пры Тэрмапілах у 480 годзе да новай эры сваім духоўным сэнсам па-свойму супадаюць з характарам этычных узаемаадносін паміж рацыянальным і ірацыянальным у свядомасці сучаснай цывілізацыі. У гэтай бітве сутыкнуліся эмпірыка фізічнай падзеі (ваенная агрэсія персаў) і метафізіка ўзвышанага стану душы (гераічнае рашэнне спартанцаў загінуць у імя свабоды роднага краю). Кіраўнік спартанцаў Леанід атрымаў маральную перамогу; правадыру персаў Ксерксу ў гэтай бітве дасталіся лаўры перамогі ваеннай. Дык што перамагае ў сённяшнім свеце: практычная падзея ці летуценны стан душы? Хто ён – герой сучаснасці: рацыянальны творца прагматычнай (не заўсёды прыстойнай) падзеі ці палымяны носьбіт духоўнасці, пранітаванай Боскім маральным імператывам? Адказ на гэтае вызначальнае пытанне мы адшукаем на старонках часопіса "Тэрмапілы", калі з пазіцый трыадзінай эмпатыі заглыбімся ў характар лірычнага героя гэтага выдання.

Заглыбляцца ў этычны настрой часопіса "Тэрмапілы" з пазіцый трыадзінай эмпатыі – значыць, прыхінацца да Божага пачатку ў яго духоўнасці, да таго святога пачуцця, якое паўстае ў выданні самадастаткова, субстанцыйна, па-за свядомымі высілкамі аўтараў, апублікаваных у часопісе. Апрыоры паспрабуем гэта пачуццё сфармуляваць: духоўны настрой часопіса "Тэрмапілы" можна акрэсліць, як *стан шляхетнага сораму* чалавека перад Усявышнім за "сур'ёзнае пашкоджанне чалавечай прыроды" (6, с.242).

*Фенаменалогія сораму* – вось што, на наш погляд, аказваецца "рухавіком" таго трыадзінага суперажывання, на якім трымаецца маральная пастава часопіса, размаўляць пра які мы зараз маем гонар. Тая ж фенаменалогія кіравала настроямі спартанцаў у бітве з персамі. Воінам цара Леаніда было *сорамна* пакінуць поле бою. Свае Тэрмапілы сустракаюцца кожнаму з нас. Як трэба паводзіць сябе пры такой сустрэчы, каб пазбегнуць сораму перад Госпадам? Ці здолее чалавек утаймаваць у сабе жаданне цяпла за быле-якую цану? Як прымірыць паміж сабою "персаў" і "спартанцаў" ва ўласнай душы сваёй?

У часопісе сярод іншых чытаем верш Алы Нікіпорчык:

не вяртайся
ні праз тыдзень
ні праз заўтра
ні праз стагоддзе
усё роўна
вернешся
чужым (6, с.5)

Прыхінаешся да гэтага верша і чуеш: "Вяртайся! Чакаю! Я слабая і пакінутая без цябе! Прымаю ўладу тваю, непераможны Ксерксе!.. Але... Што рабіць мне з тым, што безумоўным продкам маім – цар Леанід? Не, не вяртайся, бо мне *сорамна* будзе жыць з табою, чужым". Ідэальная і пры гэтым напоўніцу зямная праўда верша выступае тут як голас жаночай бяды, перад якім сорам ахоплівае кожнага чытача-мужчыну. А можа, так прамаўляе прырода ўсясвету, якая чакала ад унікальнай праявы сваёй – чалавека разумнага – нейкага выратавальнага пераўтварэння, ды ў рэшце рэшт адчула, што чаканні яе не апраўдаліся?

Часам згаладнелая без праўды метафізічная сутнасць быцця адважваецца на імператыўна-прарочы зварот да сутнасці фізічнай:

Нясцерпны сорам існавання
Нашэпча выйсце з мітусні,
Ты толькі раз адчуй, прысні
Нясцерпны сорам існавання.
Быццё прасветліцца дазвання,
Калі ў нязнанай вышыні
Нясцерпны сорам існавання
Нашэпча выйсце з мітусні (6, с. 67).

Перад намі – верш Уладзіміра Мархеля. "Мітусня" ў ім – гэта ўсё тое, што ў Алы Нікіпорчык выступае ў вобразе "чужога". Агрэсіўны захопнік Ксеркс – таксама праява "мітусні", якая сораму не ведае. Прагматычная мітусня – аблічча той самай двуадзінасці ўспрыняцця свету, пра якую мы вялі размову вышэй. Часопіс "Тэрмапілы" паўстаў і існуе відавочна ў імя "выйсця з мітусні" ў бок "нясцерпнага сораму існавання", які ёсць Бог. Гэта значыць – да трыадзіна эмпатычнай гармоніі сусвету.

Адкуль лірычны герой У. Мархеля (відавочна супадаючы з настроем усяго часопіса) чэрпае ўпэўненасць у мажлівасць перамогі над мітуслівай хваробаю двуадзінасці? Ці не ў веры, што прыгажосць выратуе свет толькі пры ўмове яе прасякнутасці тым "нясцерпным сорамам існавання", які калісьці "нашаптаў" цару Леаніду не пакідаць Тэрмапільскага горнага праходу?

*Нясцерпнасць* нашага сораму перад Госпадам пераконвае ў складанасці, драматызме трыадзінага суперажывання ў быцці. Каб не гэтая складанасць, дык чалавецтва даўно пазбылося б таго этычнага супроцьстаяння, адной з праяў якога аказалася бітва пры Тэрмапілах. Між тым прысутнасць метафізічнага пласта ў кожным чалавечым лёсе і ў кожным мастацкім вобразе адчуваецца ў жыцці і ў літаратуры ўсё выразней. Перад намі – пачатковыя і фінальныя радкі аднаго з вершаў Яна Чыквіна:

Мы ехалі ў балотны Беласток
І згасла музыка пейзажаў свойскіх –
Нязведаны шляхі Гасподне-боскія!
..........................................................
Усё на свеце ўпісана ў форму вогненнага кола,
Якое круціць Саваоф, а часам і святы Мікола. (6, с. 182 – 183)

Вось яно – кола Божага болю; вось яна – метафізіка чалавечага лёсу; вось ён – анталагічны змест часопіса "Тэрмапілы". Вершы, працытаваныя вышэй, даюць мажлівасць зрабіць выснову наконт субстанцыйнай інтанацыі выказвання ў паважаным часопісе. Гэта – *інтанацыя* найміласэрнейшага па сваёй этычнай сутнасці *Божага гневу* – палымянага і бескампраміснага. Тут альбо Ксэркс, альбо Леанід. Іншага няма, паколькі "усё на свеце ўпісана ў форму вогненнага кола". Усё і ўсе: і "спартанцы" і "персы". І што з гэтым фактам паробіць *дэкартаўская незалежнасць чалавечай мыслі?*

Канешне: хацелася б, каб паўстала сфера чалавечага розуму (наасфера), якая б супакоіла людзей, гарманізавала міжчалавечыя зносіны. Хацелася б, але... У "Тэрмапілах" Радзім Гарэцкі піша пра гэта: "Надзея на наасферу ўсё змяншаецца. Але туга па ёй жыве... Ці наступіць яна? Для гэтага неабходны максімальныя намаганні ўсіх людзей Зямлі" (6, с. 198). Пытанні пранізлівыя, драматычныя, калі не трагічныя, тым больш, што адказ на іх відавочны: наасфера ніколі не наступіць і не можа наступіць. Прычына адна: розум (як феномен этычна адносны) не ў стане натхніць чалавецтва на максімальныя намаганні. Трэба **рабіць крок за наасферу.**

Людзей узніме да агульнага выратавальнага дзеяння не аналітычная сфера розуму, а сінтэтычная сфера пачуцця любові. Гэта значыць – толькі *нясцерпны сорам існавання,* толькі народжа-нае жаданнем выжыць адчуване таго, што – *у вогненым коле, у крузе, дзе чалавек шукае Чалавека,* – мы усе. Усе, незалежна ад таго, хоча з нас хтосьці таго ці не.

Бітва Леаніда з Ксерксам працягваецца. І дзякуй Богу, што ёсць часопіс "Тэрмапілы", у метафізічным сэнсе якога субстанцыйна, самадастаткова выразна сцвярджае сябе новая, наступаючая за наасферай, эра эмпатыі, эра ўзаемнага для ўсіх людзей Зямлі пачуцця небяспекі з нагоды аддалення чалавека ад Бога. Вось на гэтую эру спадзявацца трэба,

паколькі яна выходзіць за межы розуму і жыве суперажываннем з Госпадам. А этыка Усявышняга закліку "палюбі блізкага свайго" – адзіная і непадважальная надзея наша. Такою этыкаю і жывуць "Тэрмапілы". Таму вывучэнне метафізічнага вопыту гэтага асноватворнага (у сцвер-джанні трыадзінасці быцця) выдання прадстаўляецца надзённым літа-ратуразнаўчым заданнем.

ЛІТАРАТУРА


1. В. Ф. Мартынов, Мировая художественная культура, Минск 1997.
2. Философский словарь студента (под общ. ред..В.Ф.Беркова, Ю.А. Харина), Минск 2003.
3. Философский энциклопедмческий словарь, Москва 1997.
4 Ян Чыквін, "Паскалеўскі і "авакумаўскі" шляхі развіцця беларускай паэзіі, (у:) Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958–2008 гг., пад рэд. Яна Чыквіна, Беласток 2007.
5. Латинско–русский словарь, 1961.
6. "Тэрмапілы", Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс, № 10, Беласток 2006.

Вольга Кавальчук
*Брэст*

# Біблейскі матыў забойства (Каіна і Авеля) ў сюжэтах аповесці Васіля Быкава “Жураўліны крык” і рамана Тадэвуша Новака “А як будзеш каралём, а як катам будзеш”

Адной з найбольш вядомых старазапаветных гісторый з’яўляецца гісторыя пра Каіна і Авеля, двух братоў, што былі сынамі першых створаных Богам людзей, Адама і Евы. Кожны з іх прынёс сваю ахвяру Богу, але толькі ахвяра Авеля, малодшага брата, была прынятая. Старэйшы брат, Каін, не мог дараваць гэтага малодшаму. Зайздрасць апанавала яго, таму Каін забіў Авеля. Так першы раз на зямлі была праліта кроў чалавека.

На працягу гісторыі чалавецтва забойствы не толькі не спыняліся, але і рабіліся больш жорсткімі і бескампраміснымі. Асабліва жахлівай з’явай для людзей з’яўляюцца войны, падчас якіх гінуць сотні, тысячы і нават мільёны. Драматычным выпрабаванем на чалавечнасць стала Другая сусветная вайна, якая пакінула балючы след у гісторыі шматлікіх народаў. Першая са славянскіх краін, якая стала ахвярай, – Польшча, другая – Беларусь. Вопыт ваеннага ліхалецця пераканаўча і шматстайна адлюстраваўся ў літаратурах абодвух народаў – польскага і беларускага.

Нам уявілася цікавым параўнанне паводле творчага пераасэнсавання біблейскага матыву Каіна і Авеля выдатных празаічных твораў двух вядомых пісьменнікаў: беларуса В. Быкава і паляка Т. Новака. Яны былі сучаснікамі і абодва пісалі пра Другую сусветную вайну. В. Быкаў прайшоў фронт і нават аднойчы быў “пахаваны”: яго параненага даставілі ў шпіталь, а салдацкая кніжка ў знойдзеным рэчмяшку дала падставы адправіць дамоў “пахаронку”. Т. Новак таксама ўдзельнічаў у барацьбе супраць фашызму. Нягледзячы на тое, што на час пачатку вайны яму было толькі дзевяць гадоў, хлопец разам з дарослымі ўдзельнічаў у руху антыфашысцкага супраціўлення.

Аповесць “Жураўліны крык” В. Быкава і раман “А як будзеш каралём, а як катам будзеш” Т. Новака – прыклады выдатнай антываеннай прозы, якая ўключае ў сюжэталагічную структуру матывы смерці, гібелі, забойства ў розных увасабленнях.

Звернемся да некаторых асноўных рыс, што характарызуюць біблейскую гісторыю Каіна і Авеля. Канфлікт адбываецца паміж двума

братамі, адзін з якіх (старэйшы) праходзіць выпрабаванне спакусай. Зайздрасць штурхае яго на думкі пра ўласную карысць і выгоду. Не вытрымліваючы напружання, старэйшы брат спыняе жыццё малодшага, але і не застаецца без пакарання: вечнага выгнання. Паўсюль Каін быў чужынцам, але Бог пазбавіў яго магчымасці спаткаць смерць ад рук каго-небудзь іншага. Гэтую сюжэтную схему можна прадставіць так: "братэрства – выпрабаванне – забойства малодшага брата старэйшым – пакаранне старэйшага".

Своеасаблівa разгортваюцца падзеі аповесці "Жураўліны крык" В. Быкава, звязаныя з сюжэтнай лініяй аднаго з герояў, Івана Пшанічнага. Сюжэтная сітуацыя, праз якую праходзяць выпрабаванне быкаўскія героі, вельмі складаная, для кожнага з іх смяротна небяспечная. Шасцёра байцоў застаюцца на чыгуначным пераездзе, атрымаўшы загад бараніць яго суткі. Некаторыя з іх добра ўсведамляюць, што гэта амаль што немагчыма, і пачынаюць панікаваць. Аднак камандзір, старшына Карпенка, спыняе падобныя размовы: "А гэтыя шасцёра што, дзеўкі? <...> Нас вунь у фінскую на востраве трое засталося, два дні адбіваліся, ад кулямётаў снег да моху растаў, і нічога – жывы. А то – шасцёра!" [1, с. 31]. Зразумела, што ў такіх абставінах кожны салдат – вельмі цэнны і важны, таму што ад кожнага з шасці ў вельмі значнай ступені залежыць верагоднасць паспяховага выканання загаду. Вайна яднае людзей, якія ваююць побач, франтавое братэрства не слабейшае за кроўнае. Аднак Іван Пшанічны вырашае непрыкметна пакінуць таварышаў сам-насам з ворагам і ратаваць сваё жыццё – здацца ў палон: "Даўно ўжо Пшанічны прыглядаўся, чакаў зручнага выпадку, вагаўся і баяўся, але цяпер, трапіўшы ў тую мышалоўку, канчаткова рашыўся. Свая рубашка бліжэй да цела, а жыццё для яго даражэй за ўсё, і захаваць яго можна, толькі кінуўшы зброю і здаўшыся немцам" [1, с. 32]. Спакуса апынуцца ў больш выгодных абставінах, у бяспецы – гэта такое ж эгаістычнае жаданне лепшага для сябе, як у Каіна. Выношваючы гэтае жаданне, Пшанічны не задумваўся аб разбурэннях і смерці тысяч незнаёмых людзей, што прынесла вайна з фашыстамі. У жаданні зберагчы сваё жыццё Пшанічнага не стрымлівае думка аб здрадзе, аб гібелі франтавых таварышаў, з якімі ён разам ваяваў: "Калі пачалася вайна і нямецкія войскі хлынулі на нашыя землі, сярод вялізнага мора бяды і слёз быў адзін чалавек, які таемна радаваўся. Гэтым чалавекам быў баец запаснога батальёна Іван Пшанічны, які затым стаў франтавіком і сёння вось займеў канчатковы намер здацца ў палон" [1, с. 38]. Фактычна, падобнае рашэнне героя азначае яго згоду на гібель астатніх байцоў, якія разлічвалі на Пшанічнага, як на брата, давяраючы яму ўласнае жыццё. Нездарма Віцька Свіст, адзін з байцоў, пакінутых на пераездзе, звяртаецца да Івана са словамі "братачка Пшанічны" [1, с. 44]. Нягледзячы на тое, што Віцька насамрэч саркастычна гаворыць з Іванам у гэтым выпадку, падобны зварот узмацняе канатацыю франтавога братэрства, якое сімвалічна выражаецца праз сумесную вячэру байцоў,

згатаваную ў агульным кацялку. Перад тым, як пакінуць пераезд, Пшанічны робіць выгляд, што клапоціцца пра малодшага з байцоў, Васіля Глечыка, якога камандзір хоча адправіць на варту: "Я пайду. Хай адпачне Глечык. Ён капаў многа, так што..." [1, с. 57]. Аднак сапраўдныя адносіны Івана да хлопца зусім іншыя, яны бачныя яшчэ раней, пра што аўтар трапна паведамляе праз няўласна-простую мову Пшанічнага: "Траншэю ён вырашыў не капаць, хай гэта робіць Глечык, а ён ужо адкапаў сваё" [1, с. 32]. Пшанічны – адзін з самых вопытных байцоў з шасці пакінутых на пераездзе, ён разважае пра баявыя здольнасці іншых: Аўсееў – "распешчаны ў дзяцінстве беларучка", Глечык – " не абстраляны, баязлівы, з такім не дужа весела ў баі", Фішар – "з вінтоўкі стрэльнуць не ўмее, заплюшчвае вочы, калі націскае на спуск – вось і ваюй з такімі" [1, с. 32-33]. Акрамя таго, Іван – старэйшы за ўсіх: "<...> ён, Пшанічны, раза ў паўтара старэйшы за кожнага (хіба толькі Карпенка такога ж узросту)" [1, с. 32]. З усяго гэтага вынікае, што Іван мог бы і павінен быў выканаць ролю старэйшага брата, які клапоціцца пра малодшых і дапамагае ім выстаяць у баі. Але замест таго, каб быць абаронцам, ён становіцца здраднікам, па-каінаўску жадаючы смерці "малодшым братам": "Пакідаць тут яму не шкада нікога <...>" [1, с. 32].

Пшанічны здзейсніў свой эгаістычны, здрадніцкі намер і дайшоў да вёскі, дзе начавалі гітлераўцы. Але яго ўяўленні пра салодкае жыццё на баку ворага былі зманлівыя: ніхто не стаў слухаць перабежчыка. Ён загінуў ад рук тых, з боку каго шукаў ласкі. І нават адчуўшы боль ад кулямётнай чаргі, Іван напаўняецца толькі нянавісцю: "<...> Пшанічны <…> " нема замычаў – ад болю, ад усведамлення канца і апошняй лютай нянавісці да немцаў, якія забілі яго, да тых, на пераездзе, што яшчэ заставаліся жыць, да сябе, ашуканага сабою, і да ўсяго белага свету..." [1, с. 79]. Пакараннем для каінаўскага ўчынку Івана Пшанічнага стала смерць, а не біблейскія выгнанне і адзінота. І ўсё ж выгнанне герой абраў сабе сам. В. Быкаў пра гэта піша: "З самой гэтай хвіліны, як ён ступіў у мокрую цемру ночы, ён апынуўся адзін, не звязаны ўжо ні з кім ва ўсім белым свеце" [1, с. 74]. Як бачна, у быкаўскім творы старазапаветны сюжэт мадыфікуецца, утвараецца новая сюжэтная схема: "братэрства – выпрабаванне – сімвалічнае забойства малодшых братоў старэйшым – пакаранне старэйшага брата – абвінавачванне старэйшым братам іншых– рэальная смерць малодшых братоў". У гэтай схеме забойства ажыццяўляецца ўскосна: пазбавіўшы "братоў" уласнага вопыту і падтрымкі, герой фактычна згадзіўся з думкай пра іх смерць, не сумняваючыся ў ёй. Рэальная смерць абаронцаў пераезда адбываецца пазней. Аднак здраднік караецца яшчэ да таго, як фактычна гінуць "браты".

Галоўны герой рамана Т. Новака, Пётр, правёў дзяцінства і гады юнацтва разам са сваім лепшым сябрам Ясекам, які быў для яго як брат. Аднак Ясек гіне, застаючыся ў памяці Пятра. Гэта быў хлопец "з-за вады" – з вёскі, якая знаходзілася па іншы бок ракі. Так здараецца, што праз

нейкі час, калі Пётр ужо займеў статус старога кавалера, ён сустракае яшчэ аднаго хлопца “з-за вады”, Стаха. Сітуацыя барацьбы за сімпатыю адной дзяўчыны, Хелі, змушае Пятра і Стаха бачыць саперніка адзін у адным. Пасля танцаў яны гуляюць з дзвюма дзяўчатамі і ладзяць своеасаблівае спаборніцтва. Спачатку яны дужаюцца на руках, а потым, калі ніхто не змог перамагчы (хоць Пётр быў старэйшы і мацнейшы), пачынаюць страляць у выбраную асіну па чарзе. Вынік зноў той самы: кожны трапляе ў дрэва па сем разоў і невядома, хто ж лепшы, хто з іх пераможца. Але незвычайна тое, што на параненым дрэве выступае выява чалавечага твару. Дзяўчаты нават пужаюцца і ўцякаюць. Гэта сімвалічнае адлюстраванне стрэлаў, што траплялі ў чалавека. Аблічча асінавага твару не пакідае Пятра і Стаха і пазней. Калі абодва героі трапляюць на вайну, яны братаюцца, сімвалічна дзелячы шабляй яблык паміж сабой і яшчэ адным сябрам (Петр, Стах і Маісей). Галоўны герой, Пётр, як старэйшы, падмацоўвае такое збліжэнне прапановай: “Трымаймася разам. Вайна. Трамаймася ўсе” [2, с. 147]. Такім чынам, былыя сапернікі ў новых абставінах сімвалічна сталі братамі. Цяпер яны нават дзеляцца адзін з адным таемнымі думкамі. На пытанне Пятра пра асінавы твар Стах адказвае станоўча: гэты вобраз з’яўляецца яму кожную ноч, хоць і “сорамна прызнацца” [2, с. 149]. Яны спадзяюцца, што за вайну гэта пройдзе, таму што, хутчэй за ўсё, давядзецца страляць у іншыя твары, у ворагаў. Але здараецца так, што Стаха смяротна паранілі. Тады ён прызнаецца Пятру: “Ведаеш, Хеля. Падабалася яна мне. Я хацеў яе адбіць у цябе. Я б забіў цябе за яе. <...> Не ў асіну, Пётр. У цябе я страляў тады” [2, с. 166]. Пасля смерці Стаха Пётр усведамляе, што гэты хлопец быў для яго, як малодшы брат: “І ў гэтым хлопцу з-за вады я ўбачыў Ясека. І раптам я яго палюбіў. <...> І я ўжо не меў бы нічога супраць таго, каб Стах заходзіў да Хелі <...>” [2, с. 169]. Пётр пачынае думаць, што ў смерці Стаха вінаваты ён, таму што ён першы хацеў ударыць хлопца, наўмысна не перамог яго падчас дужання на руках і, калі пасля стрэлаў з’явілася другое “вока” асінавага твара, вырашыў, што гэта Стахаў твар, таму што ён хацеў страляць у гэтае дрэва. А цяпер Пётр быў гатовы расказаць хлопцу ўсё пра іх адносіны з Хеляй, “<...> так, як расказваецца малодшаму брату, што ты з’еў прызначанае яму курынае крыльца” [2, с. 169]. Сімвалічнае асэнсаванне “братэрскасці” адбылося ў гэтым выпадку толькі пасля сімвалічнага забойства “брата”, і яшчэ больш яскравей усвядомілася пасля Стахавай рэальнай смерці. Хеля, якая пасля вяртання Пятра з вайны даведалася ад яго пра смерць Стаха і значэнне стрэлаў у асіну, падсумоўвае: “Вось бачыш, Пётр, бачыш, які ты? Ты ўжо тады яго забіў? Ужо тады. І пашчасціла табе. Так пашчасціла з гэтай вайной. Ты яго адправіў на яе і там на гэтай вайне, каб не было на цябе, каб на цябе пад касцёлам не паказвалі пальцамі, каб табе не гніць у крымінале, забілі яго за цябе” [2, с. 208]. Каінаўскі ўчынак стварылі ўжо самі думкі героя рамана, якія рэалізаваліся так, як ніхто не мог прадбачыць. Адрозненне

апісанай сітуацыі ў творы Т. Новака ад падобнай у быкаўскай аповесці ў тым, што малодшы "брат" таксама хацеў "забіць", аднак вядома, што ён быў слабейшы і больш імпульсіўны. Магчыма, Стахавы жаданні былі ў большай ступені абумоўлены юнацкімі максімалісцкімі пачуццямі, а не рэальнымі магчымасцямі і развагамі. Пётр адчувае такую ж адзіноту і адвержанасць, як і Каін: „Калі я ішоў праз вёску, людзі адыходзілі з маёй дарогі, калі я сустракаў іншых, стаячых на ганку, яны прыкідваліся, што размаўляюць з кімсьці з дамашніх" [2, с. 369]. Хеля прымае яго, але сумленне не дае Пятру спакою. Вымушаны далей забіваць, удзельнічаючы ў партызанскай барацьбе, ён спрабуе знайсці апраўданне забойствам і набыць спакой сваёй душы. Аднак ён пачынае бачыць асінавы твар у самым сабе, і на пытанне маці адказвае, што будзе забіваць далей: "Буду! Пакуль не траплю на таго, хто забіў Стаха і Маісея. І я не хачу, каб ты брала віну на сябе і на свайго Распятага, і на свае нябёсы. Я ні ад кога гэтага не хачу" [2, с. 279]. Прага помсты і жаданне знайсці выйсце з кола забойстваў злучаюцца ў адно, даводзячы Пятра амаль да вар'яцтва. Герой спрабуе знайсці апраўданне ў ідэі неабходнасці ката, які падпарадкоўваецца не ўласным жаданням, а выконвае загады, адказвае на запатрабаванне грамадства. У такім выпадку кат не павінен адчуваць віны за смерць тых, каго катуе. Так узнікае нейкі міфічны "ЁН", у вобразе якога спалучаюцца ўсе загінуўшыя, што быццам бы прагнуць помсты і спакою, і разам з тым жывыя, якія пакутуюць ад ворагаў на сваёй зямлі: "Але я ведаю, што ЁН ёсць. ЁН, Стах і Хеля, і я. Калі б яго не было, не забіваў бы. А ЁН забівае" [2, с. 315]. Адказваючы на пытанне каханай, якая не разумее, пра каго Пётр гаворыць, герой растлумачвае: "Ён, Пётр, ЁН Стах, Ён, Маісей. Ён, Хеля" [2, с. 316]. Аднак у героя не атрымліваецца схавацца ад памяці, у якой працягваюць жыць усе забітыя ім. Асабістае жыццё простага чалавека, які хоча быць шчаслівы, і жыццё забойцы, які бескампрамісна адбірае жыцці ў іншых, Пятру цяжка спалучыць. Пакуль ён не прыняў віны за ўсе забойствы цалкам на сябе, не апраўдваючыся абставінамі, законамі грамадства і неабходнасцю, у яго не атрымлівалася супакоіцца. Але ўсведамленне ўласнай адказнасці і пакорлівае прыняцце яе цяжару далі Пятру магчымасць шукаць новы сэнс у жыцці і адчуць набліжэнне той самай справядлівасці, якую ён не мог дагэтуль знайсці.

Такім чынам, сюжэтная схема ўвасобленага ў творы польскага пісьменніка біблейскага матыву каінаўскага забойства больш ускладненая ў параўнанні з прааналізаванай быкаўскай сюжэтнай схемай: "выпрабаванне – сімвалічнае забойства малодшага брата старэйшым – братэрства – рэальная смерць малодшага брата – пакаранне старэйшага брата – прыняцце адказнасці старэйшым братам". Незвычайным момантам з'яўляецца таксама падобнае да каінаўскага жаданне "малодшага брата" (Стах таксама жадаў забіць Пятра). Т. Новак пакідае чытачам магчымасць разважаць пра тое, што ў кожным авелю можа нарадзіцца зярнятка каінаўскіх думак і жаданняў, а гэта непазбежна вядзе да трагедыі.

Як бачна, сутнасць разгледжаных сюжэтных схем у творах беларускай і польскай літаратур падобная да біблейскага сюжэту пра Каіна і Авеля. Але іх фабульнае ўвасабленне ў кожнага з мастакоў рознае. Тым не менш, варта адзначыць, што асноўныя рысы, якія характарызуюць матыў каінаўскага забойства, прысутнічаюць і ў аповесці “Жураўліны крык” В. Быкава, і ў рамане “А як будзеш каралём, а як катам будзеш” Т. Новака. Кожны з пісьменнікаў па-свойму рэалізуе старазапаветны матыў, пераасэнсоўваючы яго і дадаючы новыя кампаненты (“сімвалічнае забойства” і “абвінавачванне іншых” у В. Быкава, “сімвалічнае забойства” і “прыняцце адказнасці” ў Т. Новака). Падобныя сюжэталагічныя адрозненні прыводзяць да розных фіналаў і розных філасофска-аксіялагічных высноў. Чалавек, які не здольны да асэнсавання ўласных памылак (як Іван Пшанічны), непазбежна гіне. Той, хто здольны да пакаяння (як Пётр), – а яно магчымае толькі пасля прыняцця адказнасці – можа жыць далей і спадзявацца на дараванне людзей і Бога.


1. Васіль Быкаў, Збор твораў у 4 тт., Мастацкая літаратура, Мінск 1980, т. 1: Аповесці.
2. Tadeusz Nowak, A jak królem, a jak katem będziesz, „Czytelnik” , Warszawa 1972.

Ала Петрушкевіч
*Гродна*

# *Выпалю з градак пырнік:* Пра радкі вершаў і радочкі градаў

З ранняга дзяцінства, колькі сябе памятаю, працую на зямлі. І, колькі сябе ўсведамляю, сную радкі з слоў і сказаў, размаўляю з лісточкамі і карэньчыкамі, пупышкамі і кветкамі. А яшчэ з тымі, хто рабіў гэта спрадвеку на нашай зямлі, з маімі мамай, бабулямі, прабабулямі. І з тымі беларускімі паэткамі, што з зямелькай былі зраднёнымі.

Мілая Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) – нашаніўская пчолка-працаўніца, паэтка, празаік, зёлачніца, вялікая аматарка кветкаў, адна з першых у гэтай роднай мне чарадзе. “…Чалавеку цікаваму, знаёмаму з назовамі раслінаў у яго роднай мове і то з назовамі ня штучнымі, а чыста народнымі, кожная расліна, кожнае зелейка раскажа ня толькі дэталі свайго ўласнага жыцця, гісторыі свайго роду, але ж таксама напомніць аб той ролі, якую яно іграе ў жыцці нашых сялян, у іх медыцыне, чарах і варажбе,” [1, с. 3] – гэтак, зусім не ў навуковым стылі пісала Зоська Верас у прадмове да свайго навуковага выдання з вялікай, шматслоўнай назвай: “Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік”, што быў выдадзены ў Вільні ў 1924 годзе. А яшчэ ж была значна менш вядомая кніга “Гісторыя ўжывання зёлак у лячэнні” (Вільня, 1934 г.).

У слоўніку Людвікі Сівіцкай – 424 назвы раслінаў. Адна з мэтаў, якую ставіла перад сабой даследчыца, – паставіць беларускія народныя назвы раслін поруч з назвамі на іншай мове, паказаць, што ў іх адлюстраваны сапраўдны духоўны скарб, паэтычнасць, спрадвечная мудрасць, розум, талент беларускага сялянства.

Гэтая праца была высока ацэнена беларускімі навукоўцамі, пісьменнікамі. Да прыкладу, у навуковым зборніку праз шэсцьдзесят гадоў пасля ягонага выхаду чытаем: “Матэрыял слоўніка – родныя (Сакольшчына) назвы раслін – вынік шматгадовых назіранняў аўтаркі... Слоўнік – сведчанне багацця жывой народнай мовы. З арыгінальнага матэрыялу чытач беспамылкова ўяўляе: багатая наша лексіка, арыгінальная яе батанічная тэрміналогія» [2, с. 111].

Праца Зоські Верас складаецца з чатырох частак: уласна чатырох-

моўнага слоўніка і алфавітных даведнікаў на польскай, рускай і лацінскай мовах.

Доўгі час (звыш сарака гадоў) «Батанічны слоўнік» Зоські Верас быў адзіным айчынным дапаможнікам у працы батанікаў. Але не толькі яны карысталіся гэтым багатым скарбам. Так, Уладзімір Караткевіч прасіў аўтарку даслаць яму слоўнік, бо надта патрэбны быў у ягонай літаратурнай працы.

Чым была гэтая, на першы погляд, невялікая кніжачка для самой Зоські Верас? Адказ – у анкеце, дзе аўтар, пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, з якім ліставалася Людвіка Антонаўна, пытае пра самы памятны дзень у яе жыцці. «Самы памятны дзень?.. Цяжка сказаць... Мо дзень выхаду «Батанічнага слоўніка?..» [3, с. 7].

Зоська Верас, каго даследчыкі называюць руплівай працаўніцай беларускага Адраджэння, зрабіла ў сваім жыцці вельмі шмат. Пражыла ледзьве не стагоддзе. І з усяго немалога даробку на беларускай ніве выдзяліла менавіта гэтую сваю працу, якой прысвяціла каля дванаццаці гадоў.

З таго ж пустазелля, што само прабівае сабе дарогу на свет, жанчыне-Палеі асабліва часта даводзіцца размаўляць з пырнікам. Нельга не здзіўляцца і не захапляцца ягонай жывучасцю. Назве гэтай расліны, канешне ж, знайшлося месца ў слоўніку Зоські Верас: "Пырнік – perz rolnica – пырей – tritilum repens". Чаму па-беларуску гэткая назва – пырнік? У параўнанні з іншымі мовамі хіба найбольш адпаведна: гучанне перадае два кароткія, але трапныя, выразныя ўколы. Кожнаму, хто хоць калі меў справу з гэтым настырным, нахабным пралазам, зразумела – ад "пароць", "прапорваць". Зрэшты, насамрэч пырнікавыя адросткі зусім не вострыя і не цвёрдыя, а вельмі гнуткія, на дотык далікатныя, але і надзвычай моцныя. Іх немажліва разарваць.

*Выпалю з градак пырнік.*
*З ранку і да цямна*
*гэтулькі працы пільнай*
*спорыцца…* [4, с. 86]

Не, гэтая гарэзлівая, такая прыгожая ў сваім светлым, сонечным успрыняцці жыцця гераіня ранняй лірыкі Дануты Бічэль крыху перабольшыла, упэўненая ў сваёй здольнасці выпалаць парнік. Самаўпэўненасць жаночая. Сёння выпалеш, а заўтра – ізноў утравее. І дачцы, і ўнучцы хопіць. Бо знішчыць яго проста немагчыма. Бадай, няма ні аднаго такога ўедлівага, такога магутнага ў сваёй празе выжыць зеллейка, як пырнік. Цягучы, гнуткі, як змяінае цела, ён ужываецца, уразаецца ў самую цвёрдую зямлю, прабівае, быццам іголкай усё, што трапляецца на шляху. Бачылі калі-небудзь бульбіну, наскрозь прапораную вострымі джаламі? Так будзе з усімі, хто на яго шляху ўстане.

Вось жа і расказвае мне пырнік, як цяжка жывецца яму ад самага пачатку, ад самага стварэння свету. Як груба, брутальна (сказалі б маладыя гарадскія беларускі, калі б ведалі, што такое пырнік і як з ім змагацца) выцягваюць яго цела з зямелькі, як рвуць, імкнучыся знішчыць. А ён вырашыў – выжыць. Апрануўся ў надзейную луску-плёнку, якая нават пад спякотным сонцам ахоўвае ягоную жыццёвую моцу. Дожджык пальe, ці нейкая жменька зямліцы прыкрые – і ён ізноў жывы, здаровы, новыя парасткі-галоўкі выпускае.

Самым страшным ворагам пырніку спрадвеку і была жанчына, Палея. Гэта яна цэлае лета шнырыць па агародзе, не дае беднаму спакою. Змаганне з пырнікам няпростае. Чым болей рве яго Палея, тым больш ён з зямлі вылазіць. Мая (мо не зусім непасрэдна мая, па крыві, а ў тым сэнсе, што таксама – Палея) у нейкай вялікай адлегласці прапрабабуля была цудоўнай казачніцай. Каб адпомсціць пырніку, казкі пра яго напрыдумвала. І атрымаўся ён там зусім не героем, а антыгероем, з якім змагаецца адважны вой. Цмок шматгаловы – гэта ж ён, пырнік, і ёсць. І скура ў яго, што панцыр жалезны, не праб'еш, і жывучы. На пякучым сонцы ляжыць, высахне ўшчэнт, прыкінецца, што мёртвы, а толькі кропне што з неба, ураз ажыве, распаўзецца ва ўсе бакі. Вырывай тады, ссякай галовы яму мячом-матыкай, а на гэтым месцы дзве вырасце. Спрадвечны бой! Вось і адпомсціла. Бо як жа інакш, як не словам, кабета адпомсціць?

Моцны супернік, што і казаць. Куды там аднагаловай лебядзе ды заўсёды сплаканай макрыцы! Апошнім часам нейкае новае зелле з'явілася, якога нашы прабабулі і не ведалі. Невыкараняльнае, дзе з'явіцца, не пераможаш. У народзе яго ўжо амерыканскім назвалі. Хто ж яшчэ вінаваты ў нашых бедах, вялікіх і маленькіх, як не Амерыка?

Прыгожай Палеяй была Ларыса Геніюш. З ейных лістоў даведваемся, як шмат часу праводзіла на агародзе, на кветніку. Наогул, гаспадыняй была выключнай. Так міла чытаць у эпісталярнай спадчыне паэткі пра іх жаночыя, гаспадарскія рады з Зоськай Верас, як лепей тыя ж гуркі засольваць. А ў лістох да Юркі Голуба, які ў тым часе сталічным студэнтам быў, чытаем аб просьбах купіць насенне. Бо няпроста было ў той час у Зельве яго набыць. І як жа мне зразумела зусім не какетлівае, а такое шчырае, жаночае бедаванне шляхетнай пані Ларысы, калі з'явіліся нечаканыя госці, а яна з агароду выйшла. Прыгожая кабета – дагледжаная кабета, а з агароду выйшаўшы, асабліва дагледжанай не будзеш.

Відавочна, застаецца ў нас дзесьці, мо на самым дне душы, моцная повязь з зямлёю, з сялянскай працай, якая прарываецца, патрабуе выйсця. Зразумелае і блізкае мне прызнанне літаратуразнаўцы, паэткі з Баранавіч Алены Белай: "Дваццаць год жыву я ў горадзе, і ўсё ж ува мне выжыла беларуская сялянка, пераадолеўшы моду заехаць як мага далей і пасяліцца як мага вышэй ад роднай зямелькі" [5, с. 14].

Міла даведацца, што і сярод яшчэ маладзенькіх нашых паэтак таксама сустракаюцца Палеі. Гараджанкі, але ўзгадаваныя бабулямі-прабабулямі ў

беларускіх вёсках, яны не забываюцца на няпростую, але такую творчую навуку даглядаць зямельку, каб яна нарадзіла і прывабіла вока адначасна новай і спрадвечнай красой. Між іншых Аксана Спрынчан, якая парадавала надзвычай цікавым і незвычайным творам "Беларускі дурань" з гэткім жа незвычайным вызначэннем жанру: "Жаноцкі раман і крыху гною", што змешчаны на старонках часопіса "Дзеяслоў". Не проста тварыць у класічным разуменні гэтага працэсу, але і *вы-твараць* цікавае імкнецца яе прыгожая сучасная гераіня: "Сёння рабіла дымавуху – паліла зялёную траву. А-ля наркаманскі занятак. Днямі была і наркаманская фотасесія: фатаграфавала паступовае раскрыццё маку. У кожным паўтоне раскрыцця бутонаў свая непадуладная разуменню прыцягальнасць, а кветка ў рэшце рэшт мяне не кранула. Галоўнае працэс" [6, с. 98].

І неаднойчы згадваецца мне Купалава яна – Палея з фальклорна-рамантычнай паэмы "Яна і я". У ягоных вачох яна заўсёды, пры кожнай працы была найпрыгажэйшай, бо найлепшым, найдасканалым упрыгожаннем, цудоўным элексірам для кабеты ёсць менавіта каханне. З якой любоўю і пяшчотай, як пра штосьці вялікае і важнае, апавядае герой аб працы ягонай любай Палеі, не апускаючы ніякіх дробных момантаў, любуючыся яе спрытам, дакладнымі рухамі. Быццам не звычайную, па сутнасці даволі брудную і зусім не паэтычную працу робіць, а выконвае нейкае магічнае дзеянне, якое заварожвае і за якім закаханы мужчына сочыць, не адрываючы вачэй:

*…Яна палола грады;*
*Благое зелле вырывала, кідала у пасцілку,*
*Дзе каліў не было, – дасаджывала там расады,*
*Там прарывала, дзе ўзышло загуста праз памылку* [6, с. 116].

Усё ў гэтай працы нагадвае таксама творчы працэс, бо і ўсё навокал спявае, і ў душы гераіні зараджаецца песня:

*Чырыкалі над ёю верабейкі на чарэсні,*
*Нязгледна час ад часу вецер пралятаў крылаты.*
*І адазвалася мая палея сумнай песняй,*
*Такой, якую ў нас пяюць вясеннім днём дзяўчаты* [6, с. 116].

Зрэшты, і імя гэтае, ласкавае, пяшчотнае, мяккае – Палея прыйшло ад Купалы. Як жа хараша прымерваць яго да сябе, шэпчучы свае радкі, полючы радочкі сваіх градаў.

Ці шчаслівым было вашае лета, мілыя сёстры Палеі?..

Літаратура

1. Верас, З. Беларуска-польска-расейска-лацінскі батаніны слоўнік / З.

Верас. – Вільня: Выданьне газэты «Голас беалруса», 1924. 77 с.
2. Нямковіч Н., Паддубская А. Першаму беларускаму — шэсцьдзесят // Пытанні лексікалогіі, фразеалогіі, стылістыкі. Мінск: Нав. і тэхніка, 1985. – С. 111.
3. Ягоўдзік, У. Ластаўка з лясной хаткі / У. Ягоўдзік // Літаратура і мастацтва. – 2001. 11 мая. – С. 7.
4. Бічэль-Загнетава, Д. Даўняе сонца: Лірыка / Д. Бічэль-Загнетава. – Мнск: Маст. літ., 1987. – 398 с.
5. Белая, А. Кніга жонкі паэта / А. Белая. – Баранавічы: Баранавіцкая гарадская арганізацыя ГУ "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны", 2007. – 132 с.
6. Спрынчан, А. Жаноцкі раман і крыху гною / А. Спрынчан // Дзеяслоў. – 2011. – №1. – С. 97–136.
7. Купала, Я. Поўны збор твораў у 9 т. Т. 6. Паэмы, пераклады / Я. Купала. – Мінск: Маст. літ., 1999. – 430 с.

# Рэцэнзіі

## З верай у светлую чалавечнасць

**Жыццё пражыць...: М.І. Мішчанчук – вучоны, настаўнік, творца.** Уклад. Л.В. Скібіцкая, пад рэд. З.П. Мельнікавай, Брэст 2010

“Гуманіст. Асветнік. Моцарт. Садоўнік. Паломнік у краіну Беларусь, яе Слуга. Такімі добрымі, такімі надзвычай адказнымі словамі можна назваць Мікалая Іванавіча. У лепшых традыцыях духоўнай спадчыны чалавецтва, якой ён прысвяціў, прысвячае сваё жыццё, прафесар Мікалай Іванавіч Мішчанчук акрэсліў і вядзе свой зямны, прафесійны, чалавечы шлях” (22), – гэтак узнёсла-метафарычна заканчваецца артыкул Галіны Адамовіч “На хвалі нацыянальнага адраджэння” ў кнізе, што пабачыла свет з нагоды 70-годдзя педагога, навукоўца, пісьменніка М.І. Мішчанчука. Вядомая літаратуразнаўца-кампаратывіст, загадчыца кафедры беларускай літаратуры БДПУ падкрэслівае выключную ролю юбіляра ў нацыянальным адраджэнні канца 1960-х – сярэдзіны 1990-х гадоў. Менавіта М.І. Мішчанчук узначальваў тады гэтую кафедру, склад якой пад той час павялічыўся ўдвая (з сямі да чатырнаццаці асоб!). Навуковая ж і вучэбна-метадычная дзейнасць зладжанага калектыву вызначаліся вядучымі прынцыпамі нацыянальнага адраджэння: “сваё і чужое, мінулае і сучаснае, фальклор і літаратура, літаратура і культура...” (19). У значнай ступені якраз дзякуючы навукова-творчай падтрымцы М.І. Мішчанчука быў створаны факультэт беларускай філалогіі і культуры, які мусіў адыгрываць значную ролю ў нацыянальным адраджэнні, вяртанні сучасніку здаровага пачуцця гонару за слаўную спадчыну беларускага народа. Каму, як не М.І. Мішчанчуку, што здзейсніўся ў сваёй альма-

матар як вучоны (абарона кандыдацкай дысертацыі – 1969, абарона доктарскай – 1994), як прызнаны настаўнік настаўнікаў, была зразумелай неабходнасць дзейснай акту-алізацыі культурна-гістарычнай памяці, гуманізацыі сістэмы адукацыі...

Прыгожы, важкі падарунак зрабілі да 70-годдзя свайго калегі супрацоўнікі філалагічнага факультэта Брэсцкага Дзяржаўнага Універсітэта імя А.С. Пушкіна, дзе юбіляр працуе з 1996 года. Як заўважае ва ўступным слове да кнігі Яўген Адамовіч, многія былі здзіўлены пераездам у Брэст прафесара з БДПУ. Аднак якраз Брэсцкі Дзяржаўны Універсітэт меў патрэбу ў доктары філалагічных навук, каб стварыць свой савет па абароне кандыдацкіх дысертацый. Такім чынам Мікалай Іванавіч непасрэдна спрычыніўся да надзвычай важнай справы дзеля развіцця айчыннага літаратуразнаўства – замацавання ў статусе дэ юрэ здольных наступнікаў. Уласна і сваіх выхаванцаў. Можна ж з поўным правам гаварыць пра школу прафесара Мішчанчука па вывучэнні беларускай літаратуры ў кантэксце з рускай і замежнымі. Ён падрыхтаваў дзевяць кандыдатаў філалагічных навук, якія працуюць у Мінску, Брэсце, Магілёве, Віцебску, Пінску (4,5), быў навуковым кансультантам пры напісанні доктарскай працы, надалей працуе з суіскальнікамі навуковай ступені. Вельмі дарэчы адзін з заключных раздзелаў юбілейнай кнігі так і называецца “Школа М.І. Мішчанчука” і канкрэтна знаёміць з паслядоўнікамі вучонага, яго ўдзячнымі вучнямі.

Адказваючы на пытанне Уладзіміра Сенькаўца аб маладым пакаленні філолагаў, якія прыходзяць у навуку, у інтэрв’ю “Здзяйсненне – гэта пошук сябе”, Мікалай Іванавіч аднак з адчувальнай скрухай канстатаваў: “Сённяшні вучэбны працэс у ВНУ усё ж такі не накіраваны актыўна на выхаванне навуковых здольнасцей студэнтаў. Паменела і колькасць маладых людзей, апантаных навуковым пошукам. Апошнім часам мне чамусьці трапляюцца аспіранты, якія фактычна не выпрацавалі за гады вучобы ў ВНУ ўласны навуковы стыль. І таму я пакутую, трачу вельмі многа часу на другарадную працу. Я пакутую над тым, каб яны маглі правільна рэалізаваць ідэі, якія гняздуюцца ў іх галовах, на якія яны выходзяць, але афарміць якія словам, сказам, абзацам, манаграфіяй яшчэ не могуць. Таму і атрымліваецца, што тры гады я выпрацоўваю ў аспірантаў стыль, каб яны ўрэшце змаглі “ўкласці” ўласныя інтэлектуальна-навуковыя пошукі ў дысертацыйную форму. Я бачу, што сучасная моладзь меней апантана навукай. <А каму гэта трэба? – думаюць некаторыя з іх. – А што гэта мне дасць? Ну, атрымаю я надбаўкі да акладу трыста ці нават меней тысяч. А працуючы ў кіёску ці недзе яшчэ, я магу зарабіць за тыдзень тое, што зараблю за месяц. І навошта мне мазгі столькі гадоў сушыць?! Дый невядома яшчэ, ці абаранюся>”. (14—15). Так, на жаль, паскораныя працэсы дэгуманізацыі, уніфікацыі, згубная нацыянальная палітыка абядняюць сучаснага чалавека, высушваюць духаносныя крыніцы, страта якіх можа стацца непапраўнаю для асобы, для цэлага

этнасу, што, зразумела, асабліва баліць чалавеку, які непарыўна знітаваны з родным словам, культурай. Чалавеку, для якога, па словах прафесара Зоі Мельнікавай, "стала галоўнай і звыклай справай штодзень, з году ў год нястомна і сапраўды самааддана жыць для Беларусі, слугаваць роднаму слову, нацыянальнай філалагічнай і педагагічнай навукам". З прыгожым светланосным дрэвам, "якое не робіць ценю, не засланяе галінамі сонца і не стрымлівае рост падлеску"(17), параўнала Зоя Мельнікава ў сваім шчырым эмацыянальным слове Мікалая Іванавіча.

Сапраўды, жыццё пражыць – не поле перайсці. Удалая назва выбрана для кнігі такога кшталту. Агульнавядомай ісцінай, што, чым болей дадзена чалавеку, тым большая і адказнасць яго. За свой жа нерэалізаваны патэнцыял ён можа быць і пакараны, ды звычайна і караецца, бы той новазапаветны баязлівы слуга, які схаваў, закапаў талант, уручаны яму для памнажэння. Няспраўджаныя магчымасці на пэўным жыццёвым этапе замест перавагі на шляху ўгору, ласкавых зычліўцаў становяцца ворагамі для іх жа ўладальніка, люта помсцяць разбуральнымі для асобы незадаволенасцю, расчараваннем. М.І. Мішчанчук якраз праз усё сваё жыццё памнажае, сумленна пускае ў рост атрыманыя разам з нараджэннем таланты.

Своеасаблівая канкрэтызацыя багатага разнастайнага плёну юбіляра разгортваецца ў раздзеле "Беларускія вучоныя пра навуковую і творчую дзейнасць М.І. Мішчанчука", дзе Г.Я. Адамовіч, І.М. Гоўзіч, А.І. Лугоўскі, С.М. Шчэрба, Т.Ф. Федарцова, Ю.В. Паталкоў, А.М. Макарэвіч, М.І. Сянкевіч вядуць гаворку пра гісторыка і даследчыка сучаснай беларускай літаратуры, пра педагога-творцу, пра паэта. На рахунку М.І. Мішчанчука звыш 400 публікацый, сярод якіх каля 60 падручнікаў, вучэбных і метадычных дапаможнікаў, манаграфій, кніг для настаўнікаў асабістых і ў сааўтарстве, а таксама тры кнігі паэзіі: "Вернасць" (1979), "Трывожуся за белы свет" (1984), "Струна надзеі" (2009). М.І. Сянкевіч у эсэістычным артыкуле "Боль і радасць паэта" пранікліва адзначае, што ў душы М.І. Мішчанчука "заўсёды жыла і жыве паэзія. Яе дыханне нельга не адчуць і ў акадэмічнай манаграфіі ў некалькі соцень старонак, і ў чытанцы для пачатковай школы, дзе ён, захоплены мілагучнасцю роднай мовы, прапануе вучням проста – без усялякіх дадатковых заданняў – адчуць задавальненне ад гучання спрадвечнабеларускіх слоў: знічка, верасы, Мілавіца..." (57). Тры паэтычныя кнігі – шмат гэта ці мала?! Відаць, паэт Мікола Мішчанчук не ставіць перад сабой мэты пісаць вершы штодня. Яго паэтычныя радкі нараджаюцца, выспяваюць як вынік канцэнтраванага эмацыянальнага выяўлення набалелага, перажытага, урэшце, як удзячнасць за актыўную прысутнасць сваю на агульным свяце жыцця. "Філасофія жыцця лірычнага героя Міколы Мішчанчука заключаецца ў тым, каб ісці да людзей "вучыцца, а не вучыць", каб "на апошнім міліметры" дапамагчы ўсім, хто варты радасці"(59). Уласна, можна гаварыць пра тоеснасць у маральна-этычным плане паэта – чалавека

шчодрай душы – і яго лірычнага героя. Упэўніцца ў гэтым чытач мае магчымасць, звярнуўшыся да раздзела кнігі “<Чым душа жывая... > Проза , вершы, пераклады”.

Значную частку кнігі “Жыццё пражыць...” складаюць матэрыялы Рэспубліканскай студэнцкай навуковай канферэнцыі (30 кастрычніка 2009 г., Брэст), прысвечанай асэнсаванню навуковай і творчай дзейнасці М.І. Мішчанчука. У поле зроку маладых даследчыкаў патрапілі разнастайныя аспекты багатага наробку юбіляра. Гэты раздзел распачынаецца выступленнем, у якім звяртаецца ўвага на істотную грань яго творчага здзяйснення. У прыватнасці, Н. Голубева ў артыкуле “Лирика Е. Баратынского в переводах Н.И. Мищенчука “ акцэнтуецца на майстэрстве перастварэння на беларускую мову твораў хіба аднаго з найлюбімых паэтаў М. Мішчанчука, творчасць якога, дарэчы, была ў свой час аб’ектам разгляду шаноўнага прафесара ў кандыдацкай дысертацыі. Чытач юбілейнай кнігі мае таксама магчымасць дзякуючы М. Мішчанчуку пазнаёміцца з вершамі ў беларускамоўнай версіі Уладзіміра Набокава, Яўгена Баратынскага, Арсенія Нясмелава, Канстанціна Бальмонта, Яна Каспровіча, Браніслава Астроўскага, Францішка Навіцкага, Вацлава Вольскага. Непасрэдна паэтычная творчасць М. Мішчанчука аналізуецца ў артыкулах В. Амельянец (“<Боль и радость поэта>: о книге “Струна надзеі” Н.И Мищенчука”), В. Чабурка (“Грани художественного мира поэмы “Сачыненне пра дабро” Н.И. Мищенчука”, А. Радзівонавай (“Паэтычная індывідуальнасць М.І. Мішчанчука”), В. Стаселькі (“Ідэйна-тэматычны аналіз зборніка М.І. Мішчанчука <Струна надзеі>”), А. Рак (“Поэма Н.И. Мищенчука <Лесная школа>”), В. Гудзень (“Тема матери в поэзии Н.И. Мищенчука”).

У гэтым раздзеле таксама грунтоўна прэзентуецца шматстайнасць навуковых інтарэсаў прафесара М.І Мішчанчука, даследчыка беларускай і рускай літаратур. Ю. Скідан у артыкуле “Возвращение поэтов: о книге “Четыре портрета” Н.И. Мищенчука и И.Н. Говзич” засяроджваецца на аналізе агульнай працы бацькі і дачкі, прысвечанай асэнсаванню творчасці рускіх паэтаў Дм. Кедрына, Б. Карнілава, П. Васільева, Ул. Лугаўскога. Варта падкрэсліць, што Ірына Мікалаеўна Гоўзіч – кандыдат філалагічных навук, дацэнт БДПУ – годна працягвае побач з бацькам распачатыя ім даследаванні. Маладым вучоным ўдалося стварыць своеасаблівы творчы партрэт свайго прафесара. Так, Н. Гуль выступае з артыкулам “М.І. Мішчанчук аб творчасці К. Крапівы і яе вывучэнні ў школе”, Т. Краўцова – з артыкулам “Творчасць Т. Кляшторнага ў асэнсаванні М.І. Мішчанчука”, Е. Прыбышчук – з артыкулам “Глубина психологического анализа в сопоставлении поэзии Г. Державина и Янки Купалы (по книге Н.И. Мищенчука <Русская и белорусская литература XX столетия: жанрово-стилевой аспект, проблемы компаративистики>“, Г. Сенькавец – з артыкулам “Мікола Іванавіч Мішчанчук – даследчык творчасці Івана Шамякіна”, Л. Цыфрынец – з артыкулам “Асэнсаванне М.І. Мішчанчуком

творчасці Кузьмы Чорнага”, В. Чэрнік – з артыкулам “Своеобразие трактовки темы коллективизации и раскрытия образов героев в романах “Поднятая целина” М. Шолохова и “Вязьмо” М. Зарецкого” (по книге Н.И. Мищенчука)“, І. Шкамплетаева – з артыкулам “Мікола Мішчанчук як даследчык эмігранцкай літаратуры Беларусі”, Ю. Міхасюк – з артыкулам “Проблемы романтического искусства слова в литературоведческих трудах Н.И. Мищенчука”, К. Макарэвіч – з артыкулам “Лірыка Ніны Мацяш у навуковай ацэнцы М.І. Мішчанчука”, К. Праневіч – з артыкулам “<Нашаніўскі перыяд> беларускай літаратуры ў працах М.І. Мішчанчука”.

Хіба ўпершыню пабачыла свет у кнізе “Жыццё пражыць...” аўтабіяграфічная проза Міколы Мішчанчука. Сапраўды, па лёсе яго можна вывучаць трагічную і слаўную гісторыю вялікай у нядаўнім мінулым дзяржавы. М.І. Мішчанчук нарадзіўся 26 кастрычніка 1939 года ў Амурскай вобласці, дзе “ў часе станаўлення савецкай улады на Беларусі апынуўся яго дзед Брага Апанас Кононавіч, высланы на амурскія прасторы за шчырую, празмерную працавітасць, як быццам у вёсках Жыцін, Крамок, Заняцеч, каля ракі Пціч Старадарожскага раёна Мінскай вобласці (цяпер Асіповіцкі – Магілёўскай), адкуль паходзілі дзяды і прадзеды, яму не хапала жыццёвых прастораў” (3). Пасля смерці Сталіна сям’я вярнулася на Беларусь. Тады і адбылося знаёмства пятнаццацігадовага падлетка з радзімай мамы Ганны. У Суцінскай сярэдняй школе ён дасканала авалодаў беларускаю моваю, закончыў школу з залатым медалём і быў залічаны студэнтам філфака шырокага профілю (беларуская і руская мова і літаратура) МДПІ імя А.М. Горкага (цяпер БДПУ імя Максіма Танка).

Кранальныя жыццёвыя пачаткі – тое, што назаўсёды з чалавекам, не прамінае, а ўзбагачаецца з гадамі новым зместам, няўлоўна, але абавязкова, уплывае на станаўленне этычных, духоўных прыярытэтаў. Жыццёвыя ўражанні па-свойму дакладна сістэматызаваны аўтарам ў пяці рубрыках: “Згадкі дзяцінства і юнацтва”, “Студэнцкія гады”, “Светлай памяці Ф.М. Янкоўскага прысвячаю”, “Час і мы”, “Жыццё згасае без усмешкі”. І кожная з іх адкрытая для працягу, можа стаць самастойным творам, у якім сцярджаюцца найвышэйшыя чалавечыя каштоўнасці. Цяпер, можа, як ніколі, грамадства мае патрэбу ў прыгожым пісьменстве, заклапочаным станам сучаснага свету і кожнага чалавека паасобку. Хочацца, каб да мудрых разваг М. Мішчанчука аб галоўным прыслухалася як мага болей людзей: “...Усё часцей думаю – што будзе далей? Ці змогуць нашы ўнукі перамагчы трагедыю мёртвых дрэў, спрамленых рэк, асушаных балот, знішчаных журавінных і чарнічных плантацый, спустошаных душ? Што рабіць ім і як жыць пасля нас?

І адказваю сам сабе, але каб пачулі ўсе:

– Жывіце, як жыла простая вясковая жанчына Шура Прышчэпчык (маці жонкі – *Г.Т.*). Прыбірайце за сабой кожную галінку і сянінку. Абмінайце мурашнікі. Не наступайце на жывыя палявыя і лясавыя кветкі. Збірайце чарніцы і журавіны рукамі, мяккімі пальчыкамі, а не “камбайнамі”.

Будзьце лёгкія і светлыя на кволай маленькай-маленькай планеце Зямля, якой зараз так цяжка дыхаць, так нялёгка выпраўляць нашы памылкі. Прыбіраць смецце, што пасля нас засталося” (156).

Празаічны раздзел заканчваецца на аптымістычнай ноце, мініяцюрай, у якой пісьменнік канстатуе, што наша жыццё надзвычай складанае, горкае, але і светлае пры тым, што нялёгка зараз усім. Аднак “Людзі застаюцца па -ранейшаму людзьмі. І свецяцца залатымі, зыркімі кропкамі іх сэрцы”(163). Кніга “Жыццё пражыць...”, прысвечаная юбілею прыгожага, таленавітага чалавека, якраз дае падставы для веры ў светлую чалавечнасць.

Галіна Тварановіч
Беласток

# РАПТОЎНАЯ КВЕТКА ДАБРАВЕСЦЯ

## Нататкі пра паэтычны зборнік Галіны Тварановіч "Бурштынавы яблык" (2010 г.), 192 с.

Ляжаць перада мною свежая газета, яшчэ не прагледжаная, і чытанае-перачытанае Евангелле. Скуль мне даведацца пра найноўшыя падзеі жыцця? Адказ відавочны: у Евангелллі, у Дабравесці! Толькі і выключна ў ім! І віны газеты тут няма аніякай: папросту да люднасці сама сабою зараз надыходзіць эпоха, у якой вызначаючай падзеяй жыцця аказваецца не матэрыя газетнага факта, а нематэрыяльнасць духоўнай (у паратунак велікаснасці ў чалавеку!) працы асобы.

У чым жа прызначэнне згаданай вялікаснасці? У Евангеллі, у "Пасланні да Філімона святога Апостала Паўла", чытаем: " ...дабы общение веры твоей оказалось деятельным в познании всякого у вас добра во Христе Иисусе". Пазнанне дабра праз *дзейсныя зносіны веры*... Дык вось яна, найактуальнейшая навіна: папярэднія цывілізацыі зямлян згінулі таму, што не стала ў іх сілаў на дзейсныя зносіны веры. Пагражае заглада і нам, сённяшнім, калі і надалей будзем мы патанаць у камфортным ( бяздзейсным і ілжывым у аснове сваёй) пустаслоўі пра тое, што верыць – неабходна.

А патрэбна нам – праўда! Няўдольная, паўсядзённая, не для подыуму, *праўда суперажывання чалавека з Усявышнім* у тракце іх адвечнага (агульнага і няспыннага) тварэння сусвету. Напрыклад, такая:

Красуе без меры –
Ашуканка-чужына!
Разварушаны грунт

І аддадзены сілы.
Дранцвее гародчык
пад водарам п'янкім.

У нязванай госці,
раптоўнай кветкі –
не шукайма спагады!

Перад намі – верш са зборніка паэткі Галіны Тварановіч "Бурштынавы яблык", які выйшаў з друку ў Беластоку ў 2010 годзе. Ёсць ўсе падставы для таго, каб распавесці чытачу і пра паважаную працаўніцу мастацкага слова, і пра шляхетнасць яе багатага паэтычнага даробку. Але прыточаны вышэй верш не дазваляе нам затрымлівацца на сцішанай хрэстаматыйнай эпічнасці. Ён пульсуе болем, зыходзіць спавядальнасцю, б'ецца ў мурах незразумелай для яго парадаксальнай трагедыйнасці быцця. А з ім разам б'юся і я, адзін з чытачоў, міжволі ператвораны якойсьці (відавочна мацнейшай за намаганні паэткі) сілай ў адзін з радкоў верша, пра які гаворка.

Так, я – радок, крывінка верша, я – знутры энергетычнага поля яго. Ну колькі ўжо мы будзем разглядаць мастацкі тэкст (вынік супера-жывання Госпада з чалавекам-крэатарам) звонку, з утульнай аддаленасці? Я – сціплая, але непаўторная праява Божага і паэтавага тварэння, згодны з тым, што вера – гэта дзейсныя зносіны супярэчлівага ўнутранага сусвета чалавека з Усявышнім ідэалам. Згодны! Але чаму не атрымліваецца ў мяне ўзнесці крылы да гэтых зносін? І грунт мой разварушаны, і гародчык дранцвее, і сілаў не стае, каб адчуць сваю жывую роўнасць з красаваннем Божага свету. Гэтае красаванне для мяне – госць нязваны, раптоўны, нават жорсткі, бо спагады ад яго – не шукай. А як жа выжыць мне, чалавецтву? Адказ адзіны: учытвацца, углядацца, удыхвацца ў прарочую спавядальнасць далікатнай і безабароннай лірычнай гераіні. І душа паэтычнай кнігі прамаўляе:

Пакуль дрыготкае здзіўленне
у чуйнасці сваёй не зможацца
адкрыццём ранішнім, вясновым
душу зямную хваляваць –
прымаць удзячна нам
жыцця вялікаснага плынь,
празрыстай яснасцю кранутую,
бруістую у плёскаце стыхій.

Жыццё ў гэтым вершы прадстаўлена амаль таксама, як і ў Евангеллі: "И показал мне чистую реку воды жизни, светлую как кристалл (...) “Откровение Иоанна Богослова, 22). Але не будзем на падставе відавочнай лексічнай блізкасці прыточаных вобразаў рабіць якіясь паспешлівыя

высновы: Дабравесце прамаўляе да нас моваю сімвалаў, апрацаваных тысячагоддзямі. Звернем увагу на іншае: верш пра "дрыготкае здзіўленне" гучыць як працяг размовы пра "раптоўную кветку". Толькі інтанацыя ў ім іншая: спагадлівая, клапатлівая, літасцівая, мілажальная для "душы зямной". Інтанацыя падказвае: нават і тады, калі спагады не дачакацца, прымаць удзячна нам жыцця вялікаснага плынь. Галоўнае тут слова – нам. Каму – нам? Паэтцы? Мне, які піша гэтыя нататкі? Вам, паважаны чытач? Нам усім, зямлянам? А, можа, не толькі? Мы ж усе – удзельнікі Тварэння Вялікаснага (абавязкова – Вялікаснага!) жыцця. Усе – пачынаючы з Госпада.

Найсвятлейшая існасць быцця ў Галіны Твархановіч – не прадмет мастацкага ўвасаблення, а стан шляхетнейшай з любоўю, самадастаткова прасякаючай сабою кожнае імгненне спаткання чытача з вершамі:

Неўпрыкмет
праз гушчар самоты і абавязкаў
сцежка вывела на паляну,
дзе шмат лагоднага сонца,
пяшчотных колераў кветак,
духмяністых ягад суніц.

Гэтыя радкі перапоўненыя усюдыіснасцю Першатворцы. Усявышні тут прыходзіць да нас тою сцежкаю, якая неўпрыкмет вядзе чалавека на паляну маладога жыццёвага шчасця. Лірычная гераіня не апісвае метафізічную сцежку, а ідзе па ёй, ператвараючыся ў тую самую сцежку для мяне, чытача.

Дык вялікі дзякуй паэтцы за тое, што душа паэтычнай кнігі "Бурштынавы яблык" давярае нам убачыць яе ў дзейсных зносінах веры; яна сваім словам стае ў рад агульнай нашай малітвы да боскай мары аб тым, каб раптоўная кветка Дабравесця была заўсёды госцяй званай ды доўгачаканай. Зборнік Галіны Твархановіч прыйшоў да нас той самай кветкай Дабравесця, якой прагне сэрца, збалелае ад зімовай бяскветкавай рацыянальнасці. Кветка ратуе болем і спагадай. Вылечвае чалавека, а можа, і Бога: хто сказаў, што Усявышні – Існасць, назаўсёды абароненая ад скрухі? А калі вылечвае, дык шлях прыйшоўшай да нас лірычнай кветкі бясконцы...

Юрый Паталкоў
Брэст

# НАШ БЕЛАРУСАЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

“Białorutenistyka Białostocka”, том 2,
Беласток 2010, 296 с.

Пабачыў свет ўжо другі том “Białorutenistyki Białostockiej” – навукова-тэарэтычнага часопіса, прысвечанага даследаванню беларускай літаратуры, мовы, гісторыі і культуры. Ініцыятарам выдання з’яўляецца Кафедра беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. У рэдакцыйны камітэт уваходзяць навукоўцы з Беластока, Брэста, Гомеля, Зялёнай Гуры, Любліна, Мінска, Ольштына: Лілія Цітка, Ян Чыквін, Сяргей Кавалёў, Вольга Ляшчынская, Валенты Пілат, Людміла Сінькова, Ванда Супа, Валянціна Швайко, Базылі Ціханюк. Галоўным рэдактарам часопіса з’яўляецца праф. Галіна Твarchановіч.

У чарговым нумары часопіса прадстаўлены літаратуразнаўства, фалькларыстыка, мовазнаўства, гісторыя, а таксама рэцэнзіі і справаздачы. Разглядаюцца розныя культурна-гістарычныя эпохі, пачынаючы ад сярэднявечча, да сучаснасці. Найбольш прадстаўнічым з’яўляецца літаратуразнаўчая частка. Адкрываюць часопіс артыкулы пра творчасць Янкі Купалы Ігара Жука (Гродна) ““Відзенне” Бацькаўшчыны, або метафізіка шляху ў “нашаніўскай” лірыцы Янкі Купалы” і Алеся Макарэвіча (Магілёў) ““Ляўкоўскі цыкл” Янкі Купалы ў кантэксце гістарычнай рухомасці твораў”. І. Жук адзначае, што *Беларусь для Купалы (...) не геаграфічнае паняцце, Беларусь – гэта свет, гэта ідэя, гэта спадчына нашых бацькоў. “Відзенне”, такім чынам, убірала ў структуру аб’екта і структуру суб’ектыўнага аўтарскага светаразумення. “Свет” у Купалы прадстаўлены агульнай адухоўленасцю роднай прасторы. “Ідэя” ў сваю чаргу ўвасабілася праз ідэал маладой, пачэсна ўганараванай нявесты-Беларусі, “спадчына” ж дала імя аднаму з найбольш паэтычна фундаментальных, этапных літаратурна-мастацкіх кніг у важнейшы перыяд складвання нацыянальных традыцый беларускага мастацкага выказвання (9).* А. Макарэвіч звярнуўся да *прачытання некаторых вершаў Янкі Купалы з яго “ляўкоўскага цыкла” ў кантэксце літаратуразнаўчых ацэнак, зробленых у канцы XX стагоддзя (21).* На пачатку даследчык параўноўвае ацэнкі цыклу, якія зроблены літаратуразнаўцамі ў савецкі і паслясавецкі перыяды. Ён прыводзіць прыклады вершаў, у якіх выяўляецца недарэчнасць вынікаў сацыялістычных пераўтварэнняў. Вершам гэтак званага “Ляўкоўскага цыкла” ўласцівы ідэалізацыя і прыхарошванне савецкай рэчаіснасці.

Літаратуразнаўства прадстаўлена таксама артыкуламі Галіны Адамовіч (Мінск), Людмілы Зарэмба (Мінск), Яўгена Гарадніцкага (Мінск), Алы Петрушкевіч (Гродна), Ірэны Хаваньскай (Ольштын), Ксеніі Кушнаровай (Гомель), Ганны Гладковай (Віцебск), Ірыны Каялы (Гродна) і дзвюх даследчыц беластоцкай беларускай філалогіі – Анны Альштынюк і Іаанны

Васілюк. Даследуецца творчасць пісьменнікаў і літаратурныя з'явы, якія належаць розным эпохам: Публіё Вяргілі Марон (антычнасць), "Слова пра паход Ігараў" (XII ст.), Ігнацы Быкоўскі, Вінцэсь Каратынскі (XIX ст.), Янка Брыль, Іван Пташнікаў, Андрэй Федарэнка (XX–XXI стст.). Вялікую цікавасць выклікае артыкул Алы Петрушкевіч "Два вершы-прысвячэнні Наталлі Арсенневай". Робіцца тут аналіз аднаго з найменш даследаваных бакоў творчасці беларускай эміграцыйнай "паэткі восені", а менавіта інтымнай лірыкі. Даследчыца даказвае, што Н. Арсеннева напісала два вершы пра каханне. Адзін з іх прысвечаны мужу – Францішку Кушалю, а другі – настаўніку, "хроснаму бацьку яе паэзіі" – Максіму Гарэцкаму. А. Петрушкевіч піша, што паэтэса зрабіла тое з манерай, характэрнай толькі ёй – сваё глыбокае пачуццё схавала ў свет прыроднай красы, дзе ніхто і нішто не парушыць яе таямніцу. Чаму вялікая паэтэса не пісала пра каханне? Ці яна ніколі не кахала? На гэтыя пытанні найлепш адказала яна сама ў "Аўтабіяграфічным нарысе". Арсеннева пісала: *Я мела нейкую дзіўную натуру ад самога маленства. Я не ўмела быць шчырай, не ўмела дзяліцца ні з кім сваімі перажываннямі. Я цешылася, я цярпела, я кахала (...) але ўсё гэта ціхацу, у сябе. Ніхто ніколі не ведаў маіх думак* (85). Як бачым, такая яе затоенасць не дазволіла разгарнуцца ёй у прыгожай прасторы інтымнай лірыкі. Ала Петрушкевіч пераканальна даказвае, што ў вершах-прысвячэннях зашыфраваны найглыбокія пачуцці паэтэсы.

Ірэна Хаваньская з Ольштына ў артыкуле на польскай мове, разглядае творчую спадчыну Міхася Стральцова, як крытыка і эсэіста. Як вядома, пяру пісьменніка належыць трыццаць шэсць крытычна-літаратурных артыкулаў і дваццаць шэсць эсэістычных твораў. Яна канцэнтруецца на аналізе выдатнага эсэ М. Стральцова "Загадка Багдановіча" і дзвюх яго эсэістычных працах – "На пачатку ўсіх пачаткаў" і "Ад роднае зямлі".

Фалькларыстыка прадстаўлена артыкулам Іны Швед (Брэст) "Міфасемантыка чырвонага колеру ў традыцыйнай духоўнасці культуры Палесся". Чырвоны колер выконвае ў традыцыйнай культуры магічныя, рытуальныя функцыі. Ён камбінуецца з шэрагам іншых колераў, стварае альтэрнатыву ўсім цёмным барвам, змяняе іх, а нават выяўляе тэндэнцыю да экспансіі. Чырвоны колер на Палессі найчасцей звязваюць з агнём, сонечным бляскам, золатам, багаццем, крывёю. Ён – сімвал здароўя і любові.

У частцы мовазнаўства слова бяруць чатыры даследчыцы: Моніка Фамелец і тры супрацоўніцы кафедры беларускай філалогіі – Аліна Філіновіч, Людміла Сегень і Анна Грэсь. Артыкул М. Фамелец (Быдгашч) напісаны на рускай мове і тычыцца падабенства і адрозненняў у назвах вуліц Брэста і Гродна. А. Філіновіч у артыкуле "Nazwy terenowe wskazujące na pewne fakty historyczne na obszarze Sokólszczyzny" разглядае: *мікратопанімы Сакольскага павета, у аснове якіх стаяць агульныя назоўнікі, што паказваюць на пэўныя гістарычкыя факты, змены гаспадарчай структуры ці гавораць пра адносіны сялянскага насельніцтва з рознага*

*тыпу ўстановамі ў горадзе* (195). Два наступныя артыкулы напісаны на беларускай мове. У цэнтры ўвагі Л. Сегень – "Семантычнае поле "назвы асоб з рознымі фізіялагічнымі недахопамі" ў паўночна-заходніх гаворках Беларусі і яе пагранічча". Аб прадмеце даследавання А. Грэсь сведчыць назва яе артыкула ""Лексіс" Лаўрэнція Зізанія – аналіз графічнай сістэмы і спосабу перакладу слоў". Асноўнае прызначэнне "Лексіса" – аблягчэнне разумення стараславянскай мовы сродкамі "простай мовы", пашырэнне ведаў па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўстве, набліжэнне навучання да жывой размоўнай беларускай мовы. Гэты артыкул напэўна павінны прачытаць усе зацікаўленыя графічнай сістэмай і спосабам перакладу слоў.

Гістарычная тэматыка прадстаўлена ў "Białorutenistyce Białostockiej" чатырма артыкуламі. Тут асабіста мяне зацікавілі працы найперш Валянціны Швайко пра БГКТ і Ірыны Чарнякевіч аб Дзяржаўным музеі ў Гродне, а дакладней – пра пачатак этнаграфічных калекцый у ім. В. Швайко разглядае гісторыю станаўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Яна адзначае, што БГТК на сённяшні дзень з'яўляецца адной з самых дзейных арганізацый беларускай нацыянальнай меншасці ў польскай дзяржаве. Звяртаецца ўвага на арганізацыю, удзел Таварыства ў апошніх праектах – "Беларуская песня", "Музычныя дыялогі над Бугам", "Дні царкоўнай музыкі" і іншыя. Вельмі цікавым артыкулам, звязаным разглядаемым матэрыялам з Беласточчынай, з'яўляецца і даследаванне Ірыны Чарнякевіч. Так, яна канстатуе: *Сённяшні гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей налічвае каля трох тысяч адзінак захавання прадметаў традыцыйнага народнага побыту і мастацтва. ... сярод гэтых прадметаў звыш двухсот адзінак захавання складаюць экспанаты так званай "старой калекцыі" – таго, што ацалела ад этнаграфічных калекцый, сабраных у фондах музея яшчэ ў міжваеннае дваццаціголддзе* (247). Экспанаты музея з'яўляюцца неацэннымі і ўнікальнымі: "царскія вароты" з саломы, кераміка, жалезныя крыжы, тканіны, жаночыя крышкі, велікодныя яйкі і іншыя. Падкрэслім, што многія з іх патрапілі ў Гродзенскі музей якраз з Беласточчыны. Хочацца, каб гэтая гаворка пра Музей была працягнута.

Багата прадстаўлены раздзел рэцэнзій. Тут аналізуюцца кнігі, у якіх даследуюцца розныя эпохі: Зоя Мельнікава рэцэнзуе манаграфію Тамары Тарасавай "Духоўны досвед беларускай прозы XX стагоддзя і еўрапейскі кантэкст", Ала Петрушкевіч – "Literatury wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań", Ванда Бароўка – манаграфію Міхася Мушынскага "Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага", Галіна Тычка – "Беларуская літаратура XI–XX стст. Працы Кафедры беларускай філалогіі", Галіна Тварановіч – манаграфію Сяргея Кавалёва "Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу". Асабіста мяне асабліва прывабіла рэцэнзія Іаанны Васілюк на дапаможнік для студэнтаў – "Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцке-

Віча” Анатоля Брусевіча. Паказана ў ім неацэнная роля А. Міцкевіча ў развіцці польскай і беларускай рамантычнай паэзіі. Даследчыца піша, што *ёсць важкія падставы, каб разглядаць творчасць А. Міцкевіча* не толькі ў польскім, але *і ў беларускім літаратурным кантэксце. Яго паэтычны свет з лірычнымі перажываннямі і духоўнымі рэаліямі звязаны з менталітэтам продкаў і той зямлі, на якой ён нарадзіўся, правёў маладыя гады. Творы А. Міцкевіча адкрылі высокую каштоўнасць фальклорна-паэтычнай культуры мясцовага насельніцтва – беларусаў (289).* Выяўлена тут роля беларускай зямлі, яе звычаяў і абрадаў у фарміраванні светапогляду і ментальнасці вялікага паэта.

Варта згадаць, што “Białorutenistyka Białostocka” выдаецца дзякуючы фінансавай падтрымцы Філалагічнага факультэта Універсітэта ў Беластоку і Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.

Заахвочваю ўсіх да знаёмства з гэтым нашым прадстаўнічым беларусазнаўчым часопісам. Чакаем выхаду трэцяга тому “Białorutenistyki Białostockiej”. І, безумоўна, варта было б нашым беларусістам папоўніць шэрагі аўтараў гэтага выдання.

Віялета Нікіцюк-Пэркоўска
Беласток

# АНАТАЦЫІ

**Уладзімір Гайдук**, ***Полымя роднае***,
**Беласток 2011**, **Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 132 стр.**

Уладзімір Гайдук – адзін з першых вядомых беларускіх паэтаў Польшчы пасляваеннага перыяду, які мастацкім словам заявіў аб арганічнай прысутнасці беларусаў на гэтай зямлі і іх праве на культуровае самавыяўленне. Ва ўсіх ягоных вершах прама або ўскосна гучыць непрамінальны гімн роднаму. І хоць жыве ён ад нараджэння ў сваім, здавалася б, глухім, амаль нерухомым кутку, але яго паэтычныя творы адкрыты ў шырокі свет: прыродна-нізкае, сялянска-побытавае цесна знітавана з культуровымі сімваламі, знакамі, архетыпамі, з высокім душэўным гарэннем.

**Міра Лукша, *Пад знакам Скарпіёна*,**
**Беласток 2011, Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 82 стр.**

Зборнік вершаў Міры Лукшы па-добраму ўражвае не толькі глыбокімі культурнымі рэфлексіямі, шчырай споведдзю пра свае жыццёвыя турботы і радасці, але і вялікім уменнем – у збруталізаваным свеце нізкапробнай, крыклівай культуры ўкормленага тлуму – захаваць сваю творчую індывідуальнасць, знайсці ў пярэстай, ніякаватай і глумлівай штодзёншчыне сябе для сябе, каб урэшце, час ад часу, высакародна адкрыць у сабе ПАЭЗІЮ. І дарыць яе бязмэтна ўсім дзеля душэўнага празрэння. А на тое трэба мець талент. А гэта даецца не кожнаму.

**Лідзія Маліноўская, *Жураўлінaя журба*,**
**Беласток 2011**, **Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 48 стр.**

Лірычныя мініяцюры прозаю і блізкія да іх спразаізаваныя вершы Лідзіі Маліноўскай дружна нясуць у сабе метафарычны змест "жураўлінай журбы". У яе першым зборніку чуецца незвычайна цёплы, сардэчны, аднак прыглушаны голас жанчыны, адарванай ад роднага. На сваім вопыце аўтарка пастэльнымі мазкамі ў невялічкіх абразках па-мастацку арыгінальна паказвае, колькі за невідочнай сця -

ною матэрыяльнага дабрабыту і сытасці ў агульнаеўрапейскім доме тоіцца і множыцца чалавечых драм, хлусні, няпраўды, і колькі траціцца бясцэннага, незваротнага свайго маладога часу і жыцця, каб застацца ў гэтым свеце прыгожых рэчаў самім сабою – і з мараю аб палёце дамоў, у свой вырай.

**Кацярына Сянкевіч, *Дачка ружы*,**
**Беласток 2011, Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, 54 стр.**

Першы зборнічак Кацярыны Сянкевіч, маладой мастачкі, якая толькі што закончыла Супрасльскі жывапісны ліцэй і падалася далей на вучобу ў гэтым напрамку, нясе ў сабе шматлікія, здаецца, прыкметы двух падораных ёй талентаў – свежых, жывых крынічак: выяўленчага і ўяўленчага (літаратурнага). У вольных, эскізных вершах-замалёўках прыгожа б’ецца-трапечацца і першая ластаўка нясмелага кахання, і расцвітаюць першыя ружы здзіўлення ад няўтульнага свету людскога. Гэтакімі магчымасцямі гадоў таму за сорак валодаў у нас Яша Бурш.

**Ян Чыквін, *На беразе Дубіч Царкоўных*,**
**Беласток 2011, Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, 116 стр.**

Гэты зборнік складаецца з трох частак. У першай змешчаны новыя паэтычныя творы, якія разам з лірычнай паэмай “Гусак і гусыня” аб’яднаны тытульнай уявай “на беразе Дубіч Царкоўных”. Другая частка – гэта таксама ўява, але ў прозе. І трэцяя – як кніжная вітрына, у якой для новага часу і, магчыма, чытача, выстаўлены для агляду даўнейшыя вершы. Моцна пастарэла фактура той рэчаіснасці, тыя яе імпульсы, якія калісь тыя вершы нарадзілі, а самі яны застаюцца па-ранейшаму задзірыста-маладыя.

**Дзмітрый Шатыловіч, *У ціхай лагуне*,**
**Беласток 2010, Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, 100 стр. ;**

**Dymitr Szatyłowicz, *Echa wrażeń*,**
**Беласток 2011, Бібліятэка**
**Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, 108 стр.**

Сваіх чытачоў зноў прыгожа парадаваў Дзмітры Шатыловіч. У свет выйшлі два ягоныя чарговыя новыя зборнікі. Адзін з іх з вершамі беларускімі ў “шатыловічавай” стылістыцы, паэтыцы ды шматтэматычнасці з выразнай грамадзянскай і нацыянальнай пазіцыяй аўтара. Другі – гэта аўтарскія пераклады на польскую мову шматлікіх сваіх ранейшых беларускамоўных паэтычных твораў.

**Michał Androsiuk, *Wagon drugiej klasy*, CEOP-B, Białystok 2010, 132 s.**

**Міхась Андрасюк, *Вуліца Добрай Надзеі. Апавяданні*, Кнігарня пісьменніка, Мінск 2010, 304 с.**

Ккніга Міхася Андрасюка па польску – таксама выдатнае, майстэрскае прадаўжэнне ягонай фантасмагарычнай паэтыкі, якую ён прадставіў у сваіх першых трох кнігах на беларускай мове. Пісьменнік на прыкладзе невялікіх самарухлівых сюжэтаў з нашага тутэйшага жыцця паказвае фенаменальна-сутнасныя чалавечыя праблемы, але іх унутраны драматызм выяўляе ў як бы пачуццёвым, як бы далагічным бачанні свету і героя ў ім, ачышчаных ад псеўда культуровага баласту і асацыяцый.

Кніга "Вуліца Добрай Надзеі" – гэта амаль поўнае **перавыданне** трох знакамітых кніг прозы таленавітага "белавежца": "Фірма" (2000 г.), "Мясцовая гравітацыя" (2004 г.) і "Белы конь" (2006 г.), якія пабачылі свет у Бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Значыць, "Вуліца Добрай Надзеі" гэта не "Новая кніга прозы...", як падаецца ў метрыцы выдання. Але ж, добра, што сталічныя мэтры не паскупіліся на ласку і ўпусцілі на свае салоны "правінцыяла". Аднак, калі можна яшчэ сяк-так зразумець "перавёрнутую" кампазіцыю зборніка, каб, відаць, паказаць, хто тут гаспадар, то цалкам не прафесіянальна і не дапушчальна было не пазначыць, што першыя дзевяць апавяданняў разам – адно цэлае, што гэта аповесць "Белы конь". Дзеля чаго "рассыпаны гэты цудоўны твор?! Гэтым жа па сутнасці ўводзіцца ў зман чытач і даследчык! І як не шанаваць волі аўтара і памяці жанра?! Нават калі б і сам Андрасюк паставіўся да таго лёгкадумна ці абыякава... Не апраўдана і лексічна-стылістычная "падчыстка" тэксту. Якая велікадушная самадзейнасць!!!

**Арнольд Макмілін, *Пісьменства ў халодным клімаце. Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён*, Беласток 2011, Wydawnictwo Orthdruk, 910 стр.**

Кнігі А. Макміліна апошнім часам сталіся для нас як бы хлебам надзённым. І мы з радасцю прымаем іх з'яўленне. Апошняя па часе выдання кніга – гэта своеасаблівы даведнік і, можна сказаць, падручнік. Яе прачытанне і ацэнка залежыць ад таго, на якім пункце погляду мы першапачаткова стаім, значыць, хто мы самі, якія ў нас веды пра аб'ект зацікаўленасці гэтага даследчыка. Несумненна, для англійскага студэнта і славіста кніга выразней і яскравей адкрыецца ў нейкіх адных сваіх аспектах, а для беларускага чытача – у іншых. Калі мы захочам убачыць тут літаратуразнаўчую працу – амаль на кожнай старонцы сустрэнемся з досыць суб'ектыўнымі падзеламі, іерархіямі, назовамі і інтэрпрэтацыямі, недахопам імён старэйшых жывых паэтаў. А калі ўспрымаць кнігу як даведнік, студэнцкі брык (brick), то, трэба адзначыць, перад намі – вельмі займальныя, з кур'ёзамі і шматлікімі цытатамі ўводзіны ў гісторыю той літаратуры, якая ўсё яшчэ мае статус тымчасовасці. Адным словам, зроблена вялікая і важная праца.

# ТЭРМАПІЛЫ

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra**
**Spraw Wewnętrznych i Administracji**

## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.

Адрас: 15-420 Białystok, Pl. Uniwersytecki 1

Skład i druk: 


Mariusz Śliwowski, ul. Zwycięstwa 26C lok. 7, 15-703 Białystok
tel. 85 869 14 87, kom. 602 766 304